Яўген Курто



# Шумеў нягневіцкі лес

Яўген
Курто

# ШУМЕЎ НЯГНЕВІЦКІ ЛЕС

АПОВЕСЦІ І
АПАВЯДАННІ

Мінск
«Юнацтва»
1984

# ДАРОГА БЯЖЫЦЬ НАСУСТРАЧ

Аповесць



## ЗЯЛЁНЫ ШНУР

Асцярожны, але настойліва-патрабавальны стук у акно, што выходзіла ў сад, паўтараўся раз за разам:

Тук-тук-тук. Тук.

Тук-тук-тук. Тук.

Перастаў храпці і цяжка зарыпеў сваім ложкам дзед Лук'ян. Прачнуўся і Якімка. На печы, дзе ён спаў, было цёмна. Пахла аўчынай і смаловымі дрэўкамі.

Якімка спусціў ногі на ляжанку і ўжо хацеў злезці, каб паглядзець, хто такі ў глухую поўнач стукаецца да іх. Але дзед апярэдзіў яго. Ён прашорхаў атопкамі валёнак да акна і ціха спытаў:

— Ты, Сухоцкі?

Знадворку данеслася падобна на шалясценне:

— Адчыні, Лявонавіч...

Стрымана бразнула клямка дзвярэй. Бясшумна адсунулася завала ў сенцах. Загрукалі па масніцах кованыя боты. Моцна запахла дзёгцем і мокрым брызентам.

— Цішэй, Язэпка, цішэй. Хлопца разбудзіш...— шэптам папярэдзіў начнога госця дзед Лук'ян.

— Даруй, Лявонавіч. Зусім забыўся...

— Прынёс?

— Прынёс. Метраў пяцьдзесят будзе. Вось. Трымай...

На нейкі момант бліснуў прамень кішэннага ліхтарыка, і Якімка ўбачыў у дзедавых руках ладны скрутак не то зялёнага дроту, не то шнура, на якім пераліваліся маленькія агеньчыкі дажджавых кропель.

— Схавай толькі добра. Усякае можа здарыцца.

— Не бойся. Так захаваю, што ніводзін сабака не данюхаецца.

— Ну дык я патупаў. Хутка змена пастоў. Мыла прынясу паслязаўтра. Пуда паўтара. Хопіць?

— Макарэвіч сказаў — хопіць...

І зноў стрымана бразнула клямка дзвярэй, бясшумна засунулася завала, і да ложка пражорхалі дзедавы валёнкі.

Але класціся спаць дзед не спяшаўся. Ён спачатку падняў вечка склепа, што быў пад падлогай, з крэктам спусціўся туды і мінут пяць корпаўся. Потым вылез і закурыў.

Якімка адкінуўся на падушку і выцер рукавом пот, які буйна выступіў на яго лбе. Нічога з таго, што зараз адбылося, ён не зразумеў. Дзед, які смяртэльна ненавідзіць фашыстаў і ўсю гэту погань — паліцаяў, які гатовы ўласнымі рукамі задушыць кожнага з іх, гэты самы дзед раптам шэпчацца ўначы з Сухоцкім. З паліцаем.

Мала таго. Ён яшчэ нейкі шнур зялёны бярэ. У Сухоцкага. У паліцая.

І пра нейкае мыла дамаўляецца. Макарэвіча ўпамінае.

А хто ён такі — Макарэвіч? Мусіць, зноў-такі з паліцаяў... У іхнім Перавозе такіх прозвішчаў няма. У суседніх вёсках — таксама. Якімка добра ведае гэта, таму што вучыўся ў школе не толькі са сваімі — перавозскімі, але і з дзецьмі, што жывуць у суседніх вёсках. У Перавозе і суседніх вёсках усе прозвішчы знаёмыя. Гэта галоўным чынам Несцяровічы, Міцкевічы, Паплаўскія, Гурыны, Базылёнкі, Кавальчукі, Гарачуны...

І Сухоцкіх у іх, апроч гэтага паліцая, больш няма. Сухоцкі — наезджы. Яго прыслалі гадоў за пяць да

вайны заатэхнікам у калгас. Якімка добра памятае, як новы заатэхнік пасяляўся з жонкай і дачкой Галяй у суседнім доме.

Галя, светлавалосая дзяўчынка з кірпатым носам і вялікімі сінімі вачыма, была равесніцай Якімку. Яны разам пайшлі ў першы клас, разам селі за парту і неўзабаве падружыліся. Моцна, па-сапраўднаму. Бо Галя хоць і дзяўчынка, а баявая, рашучая, нічым не горш за любога хлопчыка.

Пасля, ужо ў трэцім класе, іх прымалі ў піянеры. Гэта было ў дзень нараджэння Уладзіміра Ільіча Леніна. Яны з Галяй стаялі побач у страі і давалі ўрачыстую клятву на вернасць Радзіме. Вялікім шчасцем ззялі сінія Галіны вочы, шчокі паружавелі. Якімка таксама быў шчаслівы як ніколі.

Неўзабаве Галю, як выдатніцу і актывістку, выбралі старшынёй савета атрада. Весела, цікава стала ў іхнім класе. На перапынках яны гулялі ў розныя гульні, пасля заняткаў хадзілі ў лес, на луг і збіралі гербарыі раслін, калекцыі насякомых, мінералаў. А ўзімку бегалі на каньках, на лыжах. Нават летам, калі пачыналіся канікулы, атрад не распадаўся, як гэта было раней, на асобныя групкі. Разам хадзілі ў паходы па роднаму краю, у поле — дапамагаць дарослым, разам чыталі цікавыя кніжкі, палілі піянерскія кастры на лясных палянах...

Слаўна было ў атрадзе. І ўсе за гэта хвалілі Галю:

— Малайчына. Выдумшчыца.

І вось Галя — дачка паліцая. Праўда, яе бацька не адразу стаў паліцаем. Мінула, мусіць, месяцаў з восем, як прыйшлі гітлераўцы, перш чым па мястэчку пранеслася ашаламляльная навіна — Сухоцкі надзеў нямецкую форму!.. Людзі, якія добра ведалі гэтага чалавека, толькі паціскалі ў здзіўленні плячыма. А тыя, хто ведаў прыезджага заатэхніка менш, казалі:

— Ён і тады не без дай прычыны прываloкся да нас. Мусіць, напаскудзіў недзе, дык і выгналі як сабаку. А цяпер і тут пачне паскудзіць...

Дзед Лук'ян пра ўсё гэта нічога пэўнага не сказаў. Адно толькі прамовіў:

— Усякае бывае. Вайна.

З таго дня, як Сухоцкі пайшоў у паліцыю, Галя перастала паказвацца на вуліцы. А калі і выходзіла з дому, то не далей як за брамку.

Неяк раз Якімка ўбачыў яе. Галя стаяла, прытуліўшыся спіной да плота, і, нібы сляпая, глядзела ў адну кропку. Якімка падкраўся да яе ціха-ціха і моцна сціснуў за руку. Ён ужо хацеў кінуць у твар Галі самае страшнае, самае абразлівае: «Прадажная шкура!»

Але паглядзеў дзяўчынцы ў твар, і словы не выгварыліся, заселі ў горле: шчокі ў Галі былі шэрыя, як у хворай, а вялікія сінія вочы, яшчэ нядаўна такія ясныя, зрабіліся цьмянымі і глыбока праваліліся. Ён мімаволі выпусціў яе руку і адступіў назад. Галя ўсхліпнула, плечы яе здрыгануліся, затрэсліся, і яна, намацаўшы рукой брамку, спатыкаючыся, пайшла дадому. Якімкава сэрца балюча сціснулася ад нечаканага жалю да яе. Ён крута павярнуўся і паспяшаўся ў свой бок.

А дома раззлаваўся на сябе: «Ну і што, калі яна з выгляду няшчасная такая? Усё адно паліцайка! А я нюні распусціў, слёз яе збаяўся. Піянер, называецца!..» І тут жа вырашыў — у другі раз не быць размазнёй, сказануць Галі такое, каб на ўсё жыццё запомніла.

Выказаў свае думкі дзеду. Дзед насупіў калматыя бровы і сказаў строга, з ноткамі гневу ў голасе:

— Эйш ты, што надумаўся! Гіро-ой! А ці ж вінавата яна, твая Галя, што бацька ў паліцыі? Не — каб памагчы чалавеку, падтрымаць, дык абавязкова трэба даканаць яго... Яна і так ужо змарнела, хоць жывую ў труну кладзі. Вось што, хлопец, запямятай, і добранька запамятай: крыўдзіць Галю я табе не дазволю. І другім скажы, каб не чапалі. Бацька — бацькам, а яна ні пры чым.— Падумаў і дадаў: — А вось каб ты падружыўся з ёю, як бывала, гэта было б добра...

Зноў падружыць з Галяй! Ды нізавошта ў жыцці! Якімка спадылба зіркнуў на дзеда і адмоўна заматаў галавой.

— Ну і дурань,— з прыкрасцю сказаў дзед.— Нават горш — здраднік.

Якімка сумеўся:

— Як... здраднік? Чаму?..

— Таму што кідаеш сябра аднаго ў бядзе. Вось чаму.

Апошнія дзедавы словы зусім збілі Якімку з панталыку і не столькі абразілі, колькі аглушылі яго. Ён ніяк не мог даўмецца, як гэта можна дружыць з дач-

кой паліцая! Яго ж засмяюць таварышы, у вочы пляваць пачнуць. Не. На што на што, а на такое Якімка не згодзен.

Так ён і сказаў дзеду.

— Эт, што з табой гаварыць, з лапавухім,— махнуў рукою дзед Лук'ян.— Пройдзе час, сам усё зразумееш. А пакуль што бяжы да свайго Уладзіка ды ганяй з ім сабак па вуліцы...

Ледзь не сарвалася тады ў Якімкі з языка, што зусім не сабак яны з Уладзікам ганяюць, а робяць зусім іншае. І не толькі з Уладзікам, а і з Васем. Але ён у час стрымаўся. Слова піянерскае, клятву трэба трымаць моцна...

...Думкі, думкі... За шэсцьдзесят табе ці ўсяго толькі трынаццаць, а не даюць яны спакою ў гэты суровы, чорны час...

Крактаў, варочаўся на сваім ложку дзед Лук'ян, раз за разам пыхкаючы цыгаркай.

Ляжаў на печы з шырока расплюшчанымі вачыма Якімка і думаў, думаў. Ён усё спрабаваў разабрацца ў тым, што зараз адбылося, і ніяк не мог.

Дзед Лук'ян і Сухоцкі... Удзельнік грамадзянскай вайны, чапаевец, і здраднік радзімы, паліцай... Сустракаюцца ўначы, шэпчуцца... Нейкі шнур перадаюць адзін аднаму, пра мыла дамаўляюцца... Галю нельга чапаць... Уладзік... Якая ва ўсім гэтым сувязь?.. Што да чаго?..

Думкі кружыліся, роіліся ў хлапчуковай галаве, пакуль не спляліся, не зблыталіся ў адзін суцэльны шэры клубок.

Якімка павярнуўся на бок і заснуў неспакойным сном.

## АСІНАЕ ГНЯЗДО

Мястэчка Перавоз стаяла на крутым правым беразе ракі Бярозы. Сваю назву яно атрымала ў тыя даўнія часы, калі тут цераз раку яшчэ хадзіў паром і на ім перавозілі з берага на бераг і людзей, і фурманкі, і скаціну. У пачатку трыццатых гадоў, калі Якімка быў яшчэ зусім маленькі, праз мястэчка праклалі шырокую

шашу, а над Бярозай узвялі высокі і доўгі драўляны мост. Патрэба ў пароме адпала. Але назва ў мястэчка засталася старая — Перавоз.

Знешне мястэчка адрознівалася ад усіх наваколь-ных вёсак. У цэнтры яго была даволі прасторная плошча, ад якой у розныя бакі разыходзіліся чатыры брукаваныя вуліцы. Наводшыбе за мястэчкам, там, дзе бераг быў асабліва круты і высокі, уздымаліся ў неба светла-шэрыя купалы царквы. Да вайны тут быў калгасны свіран. Уздоўж сцен сталяры зрабілі засекі, і ўвосень у іх ссыпалі жыта, пшаніцу, ячмень, грэчку. Ад свірна заўсёды прыемна павявала пахам сухога зерня.

З другога боку мястэчка, таксама па-над Бярозай, высілася беласценная двухпавярховая школа-дзесяцігодка. Тут у старэйшых класах вучыліся дзеці з усяго наваколля, а ў малодшых — свае, мястэчковыя. Ні такіх вялікіх свірнаў, ні такіх школ у суседніх вёсках не было. Не было там і брукаваных вуліц. І, мусіць, таму кіламетраў на дзесяць у акрузе мястэчка лічылася своеасаблівым цэнтрам.

У першыя ж дні свайго прыходу гітлераўцы загадалі зноў адкрыць царкву. Аднекуль з'явіўся даўгагрывы, з чырвоным носам поп, а з ім — вяртлявы, з лісінымі вочкамі дзяк. Сагналі да царквы людзей. Поп доўга і нудна бубніў нешта такое пра «новы парадак», а потым паказаў на купалы. Яны былі без крыжоў. Крыжы знялі з царквы яшчэ недзе ў трыццатым годзе мясцовыя камсамольцы.

— Святы храм — і без галоўнага свайго сімвалу! — усклікнуў поп.— Праваслаўныя, я заклікаю вас у імя бога Хрыста нашага ўстанавіць іх. Крыжы гатовы. Патрэбен толькі чалавек, які ўздыме іх, і бог пачуе яго малітвы.

Людзі маўчалі, адварочваліся.

Тады поп зноў узмахнуў крыламі сваёй расы:

— Праваслаўныя! Царква абяцае добраахвотніку высокую ўзнагароду.

Нехта з натоўпу кінуў:

— Асінавы кол!

З канца ў канец пракаціўся стрыманы смех.

Твар папа наліўся крывёю, але ён з усіх сіл стрымліваўся і рабіў выгляд, што нічога не чуе. Трэба ж было неяк апраўдваць званне святога айца.

На выручку папу прыйшоў дзяк. Ён узняўся на дыбачкі і крыкнуў:

— Дзве тысячы нямецкіх марак атрымае добраахвотнік.

Людзі па-ранейшаму маўчалі. Маўчанне зацягвалася. Ніхто, відаць, не хацеў ні крыжоў, ні марак, і поп вымушаны быў адпусціць «праваслаўных».

Так і засталася перавозская царква без крыжоў на купалах. Давялося папу самому прыбіць адзін крыж проста над уваходнымі дзвярыма. Астатнія ён зваліў у груд за алтаром.

У першыя ж дні занялі акупанты школу. Зрабілі ў ёй сваю казарму. Абсталяванне вучэбных кабінетаў кудысьці вывезлі, а парты і дошкі пасеклі на дровы. Школу абвялі двума радамі калючага дроту і паставілі вартавых. А калі паблізу пачалі дзейнічаць партызаны, у дадатак да дроту збудавалі з бярвенняў двайную сцяну, між якой насыпалі зямлю. Па вуглах паставілі дзоты. І школа ператварылася ў сапраўдную крэпасць.

Каб не адстаць ад сваіх гаспадароў, паліцэйскія таксама збудавалі сабе крэпасць. Яны занялі пад казарму самы вялікі дом на плошчы — былы сельмаг. Разабраўшы два суседнія дамы, зрабілі з бярвенняў «крапасныя» сцены. Каля ўвахода паставілі і дзот. Яго адзінае вузкае вока злавесна глядзела на плошчу.

Камандаваў гэтай аперацыяй начальнік паліцыі па мянушцы Міністр. Гэта быў мясцовы жыхар, высокі, хударлявы, з абвіслымі, як у маржа, вусамі. Сапраўднае прозвішча яго было Зык. Месяцаў за пяць да вайны ён вярнуўся з чарговага прабывання на «курорце». Курортам Міністр называў турму, адкуль амаль не вылазіў за крадзяжу. Адбудзе тэрмін, вернецца, пажыве на волі нейкі час і зноў пападзецца. Дзед расказваў Якімку, што Міністр пачаў красці амаль з маленства. Пачаў з яблыкаў у чужых садах, а кончыў абрабленнем магазінаў.

— А чаму яго Міністрам завуць? — запытаўся тады Якімка.

— Ён сам сабе гэту мянушку прычапіў. Неяк раз выхваляўся, што ў сваёй зладзейскай справе ён вышэй за любога царскага міністра. Вось і пайшло — міністр.

У паліцаі Міністр пайшоў першы, як толькі дачуўся, што фашыстам патрэбны такія паслугачы. Немцы назначылі яго начальнікам паліцыі. І новаспечаны на-

чальнік пачаў падбіраць сабе «кадры» — канакрадаў, забойцаў, былых кулакоў, дэзерціраў.

Набраў аж дзевятнаццаць чалавек. А потым пачаў дзейнічаць.

Кожную раніцу ў паліцыі чуўся яго сіпаты ад бесперапыннай п'янкі голас:

— Пад'ём! У ружжо!

Паліцэйскія неахвотна адрывалі ад замусоленых падушак налітыя самагонным дурманам галовы, працірàлі нямытымі рукамі тупыя, чырвоныя, як у трусоў, вочы, распраўлялі скамечаныя за ноч шынялі.

— Па ко-онях! — сіпела новая каманда.

Паліцаі запрагалі коней, садзіліся на калёсы, і абоз выязджаў на плошчу.

— Куды, пан начальнік? — пытаўся пярэдні.

Міністр махаў рукой на адну з чатырох вуліц, і абоз, ірвануўшыся з месца, шалёна грукацеў па бруку. З-за занавешаных акон і шчыльна зачыненых брамак на іх глядзелі дзесяткі поўных нянавісці вачэй.

— Песню! — сілячыся перакрычаць грукат колаў, камандаваў Міністр.

Тады з адной падводы чулася:

Салавей, салавей-пташачка...

З другой: Шумеў камыш...

З трэцяй: Гоп са смыкам...

Усё гэта злівалася ў такі гам, што каты́, якія, расцягнуўшыся на ганках, дрымотна грэліся на шчодрым сонейку, хаваліся куды папала, а птушкі з прысад, паспешліва лапочучы крыламі, з крыкамі разляталіся ў розныя бакі.

Ад'ехаўшы кіламетра за паўтара ад мястэчка, паліцаі спыняліся, і пачынаўся «ваенны савет».

— Куды махнём, рабяты? — пытаўся Міністр.

«Рабяты», тручы лбы, пачыналі ўспамінаць, дзе яны ўжо пабывалі. Малліннікі — аграбілі вёску і забілі трох чалавек; Буцькі — спалілі дашчэнту, бо ўсе жыхары ўцяклі перад іх прыездам у лес; Сыманаўка — павесілі васьмідзесяцігадовую маці старшыні калгаса; Матылянка — аграбілі, расстралялі пяцярых...

— У Гуце не былі,— успамінаў нарэшце хто-небудзь, і абоз тарахцеў далей.

У Гуце пачынаўся чарговы дзікі разгул. Праўда, спачатку «для парадку» паліцаі заязджалі да мясцовага старасты, каб даведацца, ці ёсць ў вёсцы сем'і камуністаў і камсамольцаў.

Такіх, як правіла, аказвалася шмат, амаль уся вёска.

І вось сіпіць голас пана начальніка:

— Абшукаць двары!

Як спушчаныя з ланцуга ваўкадавы, кідаюцца паліцаі па хатах. І нядаўна ціхая мірная вёсачка становіцца падобнай на сапраўднае пекла. На розныя галасы лямантуюць збітыя шампаламі жанчыны і дзеці, вішчаць прырэзаныя кінжаламі свінні, кудахчуць перапалоханыя куры... Шум, вэрхал... А ў дадатак яшчэ раз за разам чуюцца стрэлы: гэта паліцаі распраўляюцца з тымі, хто не зняў з ног і не аддаў хромавых ботаў або ў каго рэчы з куфра ці шафы перавандравалі кудысьці ў больш закрытае месца...

Але вось у паветра падымаюцца тры ракеты, пушчаныя самім панам начальнікам, і азвярэлыя «прадстаўнікі новага парадку» неахвотна адрываюцца ад сваіх ахвяр. Абоз, нагружаны па самыя білы нарабаваным дабром, ад'язджае. Ззаду застаецца галашэнне, непапраўнае чалавечае гора, дым пажарышчаў.

А абоз раве на дзевятнаццаць п'яных горлаў:

Салавей, салавей-пташачка-а-а...

Ды нядоўга цягнуўся гэты шалёны разгул Міністравых галаварэзаў. Неяк раз ехалі яны на «аперацыю» ў Нягневічы. Ад Перавоза да Нягневіч недалёка — усяго сем кіламетраў. Але дарога амаль увесь час ідзе праз лес. Лес густы, дрымотны, змрочны. Мусіць, таму і не трапіла гэта вёска ў лік першых ахвяр Міністравай банды. Чорт яго ведае, а раптам партызаны напаткаюцца...

Ды вось прыйшла і яе чарга.

Ехалі паліцаі моўчкі, насцярожана ўглядаліся ў лясны гушчар. Ні п'яных песень, ні хрыплага жывёльнага смеху на падводах не было чутно.

Спачатку дарога была звілістая, але недзе на сярэдзіне шляху раптам выцягнулася як па струнцы. Скрозь вузкі прасвет між дрэвамі, там, дзе канчаўся лес, паказаўся высокі чырвоны комін — Нягневіцкая цагельня.

— Весяле-ей! — азірнуўшыся назад, праспяваў сіпатым голасам Міністр.

— Ёсць весялей! — адгукнуліся ездавыя і сцебанулі па конях.

Сцебанулі ды тут жа і пакідалі лейцы.

Рэзка засакатаў кулямёт, і з прыдарожнай канавы прама на падводы з паліцаямі паляцелі партызанскія гранаты. Завухкаў выбухамі, затрашчаў стрэламі Нягневіцкі лес. Паскочваліся, хто астаўся жывы, з падвод паліцаі. Узвіліся, у розныя бакі рвануліся ашалелыя коні. А стрэлы трашчалі і трашчалі, пакуль апошні паліцай не скурчыўся ў перадсмяротных сутаргах на дарозе...

Падабралі партызаны трафеі, палічылі забітых — семнаццаць чалавек. Ні Міністра, ні яго бліжэйшага памочніка Антаневіча сярод забітых не аказалася.

Уцяклі. Вырваліся...

А ўратаваў Міністра і Антаневіча, уласна, конь, што быў запрэжаны ў іхнюю падводу. Гэта быў лепшы рысак у паліцыі.

Ён ад першага ж выбуху так ірвануўся ўбок, што перавярнуў калёсы, і Міністр з Антаневічам кулём перакаціліся цераз канаву на супрацьлеглы ад партызанскай засады бок. Паўзком падаліся яны ў лес і неўзабаве, перапалоханыя, абадраныя, без зброі, шкандыбалі дакладваць нямецкаму каменданту аб тым, што здарылася.

Скончыліся Міністравы выезды на «аперацыі». Але не скончыліся яго здзекі з людзей. Праз дзень-два пасля разгрому на Нягневіцкай дарозе ён зноў хадзіў па Перавозе і п'яна пагражаў кожнаму сустрэчнаму:

— Я табе пакажу, дзе ракі зімуюць!.. Я ведаеш хто? Я — пан начальнік паліцыі!..

Людзі стараліся не сустракацца з ім, хаваліся пры яго набліжэнні ў бліжэйшым двары. Баяліся, што ні з таго ні з сяго паласне з аўтамата гэты звер-чалавек, і шукай тады праўды. А паміраць вось так, без барацьбы, без супраціўлення, нікому не хацелася. Бо неразумна гэта. Калі паміраць, хаця б і ў тыле, то толькі ў бітве з ворагам.

Так думалі ў Перавозе ўсе.

Так думаў і Якімка.

На другі дзень пасля той памятнай ночы, што загадала Якімку столькі галаваломных загадак, ён спяшаў-

ся да Уладзіка. Яшчэ ўчора пад вечар яны дамовіліся з ім і Васем схадзіць на Выгары да белай бярозы. Там іх чакала пільная справа.

Красавіцкае сонца свяціла на поўную сілу, і ўздоўж платоў, здавалася, прама на вачах, расла, падымалася зялёная аксамітная травіца. Перасвістваліся на высокіх ліпах шпакі. Нябачныя ў глыбіні нябеснай сіні, рассыпалі звонкае срэбра жаваранкі. Жоўтым дымам пахучых коцікаў ахуталіся вербы, і над імі пазвоньвалі празрыстымі крыльцамі сотні пчол, мушак, жучкоў, бясшумна снавалі белыя і жоўтыя матылькі.

Якімка спыніўся, заглядзеўся на ўсё гэта хараство і на момант нават забыўся, што навокал грыміць вайна, гінуць людзі і вось такія прыгажуні вербы, ліпы, бярозкі...

Воддаль пачуўся няроўны тупат каваных абцасаў па бруку. Хлопчык азірнуўся і ўбачыў Міністра. Ён нядвёрда крочыў пасярод вуліцы, размахваў рукамі і аб нечым сам з сабою размаўляў. На плячы яго целяпаўся аўтамат.

Якімка яшчаркай шмыгнуў ва Уладзікаву брамку. За сабой накінуў тоўсты крук.

— Стой, шчанюк, страляць буду! — пачуўся сіплы голас.— Ка мне! Загадваю!..

Хлопчык затаіўся за дубовым шулам, замёр, нават стараўся не дыхаць.

Начальнік паліцыі, не сыходзячы з бруку, пастаяў насупраць брамкі, хістануўся раз-другі, потым брудна вылаяўся і паваloкся далей. У брамку ён не стаў стукаць. Мусіць, нешта больш важнае, чым гэты смаркач Якімка, чакала яго наперадзе.

Асцярожна высунуўшы галаву з-за брамкі, хлопчык пачаў назіраць, куды пойдзе Міністр. У патыліцу яму нехта горача дыхнуў. Уладзік! Цяпер яны разам сачылі за Міністрам.

А той ішоў і ішоў, пакуль не заўважыў хату Несцяровічаў. Насупраць хаты спыніўся, зрабіў няўпэўнены паварот і пакрочыў прама ў вароты.

Іван Несцяровіч працаваў да вайны брыгадзірам у калгасе. Ён меў камандзірскае званне і адразу, як толькі аб'явілі мабілізацыю, пайшоў разам з Якімкавым бацькам у дзеючую армію. Дома ў Івана засталася жонка Арына і двое маленькіх дзяцей-блізнят.

«Што яму ў Несцяровічаў трэба? — спалоханай птушкай забілася ў галаве хлопчыка трывожная думка.— Што ён надумаўся зрабіць?»

Якімка зірнуў на Уладзіка, і той без слоў зразумеў яго:

— Пабеглі!

Хлопчыкі беглі агародамі, каб не звяртаць на сябе ўвагі. Па дарозе да іх далучыўся Вася.

— Куды? — чамусьці шэптам спытаў ён.

— Міністр пабрыў да Іваніхі,— гэтак жа шэптам растлумачыў яму Уладзік.

Пераскочыўшы цераз некалькі платоў, што раздзялялі агароды местачкоўцаў, сябры апынуліся ля хлява Несцяровічаў. Як ні дзіўна, але на двары Міністра не было. Ціха было і ў хаце. Толькі па прыадчыненых дзвярах можна было здагадацца, што ў хаце ўсё-такі нехта ёсць.

— Можа, ты памыліўся, можа, ён не сюды зайшоў? — пацягнуў Вася за рукаў Якімку.

— Што я — маленькі, не разбіраюся?! — адмахнуўся ад яго Якімка.

— Ціха вы, пеўні,— цыкнуў на іх Уладзік.— Вунь, глядзіце...

Дзверы з хаты расчыніліся насцеж, і на парозе паказаліся спачатку Арына з дзецьмі, якія трымаліся абапал за падол яе спадніцы, а за імі — Міністр. Паліцай левай рукой сціскаў Арыну за шыю, а правай моцна штурхаў у плечы. Ні Арына, ні дзеці не плакалі. Твар жанчыны быў белы як папера.

Паліцай спіхнуў Арыну з дзецьмі з ганка, падштурхнуў іх да сцяны і паставіў. Сам адышоўся крокі на тры назад і зняў з пляча аўтамат.

— Дык скажаш, бальшавічка праклятая, дзе швейную машыну дзела, ці не скажаш? — прасіпеў ён нядобрым голасам.

Жанчына маўчала і няміготнымі вачыма глядзела на паліцая. А ён ляснуў затворам і нацэліў на яе аўтамат:

— Лічу да трох. Калі не скажаш, дзе машына, будзе капут і табе, і тваім неданоскам. Ну!

Уладзік схапіў камень. Паднялі па добраму каменю Якімка з Васем. Няхай толькі паліцай скажа: «Раз», яны адразу ж накінуцца на яго і пачнуць біць каменнем па чым папала.

Аднак пусціць сваю няхітрую зброю ў ход хлопцам не давялося. На двары з'явіўся, нібы з-пад зямлі вынырнуў, другі паліцай — Сухоцкі. Ён спакойна адвёў ад Арыны дула нацэленага аўтамата і, нахіліўшыся да вуха Міністра, пачаў нешта шаптаць. Міністр у знак згоды целяпнуў п'янай галавой, і яны, узяўшыся падручкі, папляліся да варот.

— Шчасце тваё, што мяне тэрмінова выклікаюць. Але нічога. Я яшчэ да цябе дабяруся, бальшавічка паганая! — ужо з вуліцы прыгразіў Міністр.

Арына, як стаяла каля сцяны, так і абсунулася на зямлю. Усхліпнулі і на ўвесь голас заплакалі дзеці. Мусіць, адчулі нарэшце сваімі маленькімі сэрцамі, якая страшэнная бяда толькі што над імі вісела, і далі волю слязам.

Хлопцы падбеглі да іх. Якімка хацеў дапамагчы ўстаць жанчыне, але ўся яна была нібы размяклая. Ён ведаў, што гэта такое — страта прытомнасці. Вось так не раз было і з яго, Якімкавай, маці. Яна ў апошнія дні жыцця часта траціла прытомнасць. Сэрца слабае было. Ад сэрца, як сказалі потым дактары, і памерла.

Ведаў Якімка і што трэба рабіць, калі чалавек у непрытомнасці.

— Вады,— скамандаваў ён Уладзіку.— Толькі жывей. А ты, Вася, прынясі што-небудзь пад ногі цётцы падкласці, каб кроў да галавы прыліла. Ну. Хуценька.

Хлопцы лілі ваду на галаву Арыне, расціралі ёй грудзі, рукі, і праз якую мінуту яна расплюшчыла вочы.

— Цётка Арына, яны пайшлі, не бойцеся,— нахіліўся да самага яе вуха Якімка.

— А дзеткі мае дзе? — слабым голасам спытала жанчына.

— Ды тут яны. Вось. Усё добра,— паспешліва прамовіў Якімка.

Хлопцы памаглі жанчыне ўстаць і завялі ў хату. Арына села на лаву і папрасіла піць. Шчокі яе пачалі паступова ружавець, вочы праясніліся. Толькі пот усё ліўся і ліўся з яе сапраўдным ручаём.

— Ну, вось мне ўжо і добра,— ледзь прыкметная ўсмешка прабегла па яе змучаным твары.— Дзякуй вам, родненькія. Каб не вы, дык і канец мне... Ідзіце сабе, гуляйце...

## ТАЯМНІЦА БЕЛАЙ БЯРОЗЫ

Развітаўшыся з цёткай Арынай, хлопцы зноў выйшлі на агарод і цераз лужок накіраваліся да Выгараў. Дарога была недалёкая, з кіламетр, не болей.

Выгары — гэта звычайны ўзгорак, адразу за якім пачынаецца Нягневіцкі лес. Калісьці — даўно гэта было — на ўзгорку шумелі высокія дрэвы. Але здарыўся пажар, і ўсе яны выгарэлі. Адсюль, уласна, і пайшла назва ўзгорка.

Цудам уцалела на самым яго версе адна-адзіная белая бяроза. Гордая прыгажуня, яна была відаць здалёк, бо ўзвышалася над усім суседнім лесам. А вакол, там, дзе некалі раслі і загінулі яе стройныя сёстры, узняўся такі непралазны хмызняк, праз які ні прайсці было, ні праехаць. Толькі хлопцы яшчэ ў пачатку вайны зрабілі збоку Нягневіцкага лесу непрыкметны праход праз гэты хмызняк. Пятляючы сярод кустоў, праход гэты вёў да белай бярозы. Той самай, што хавала ад чужога вока вялікую таямніцу трох неразлучных сяброў — Якімкі, Уладзіка і Васі. А па-простаму — іхні склад зброі.

Гісторыя яго такая.

У ліпені сорак першага года, калі непадалёк ад Перавоза адгрымелі баі за пераправу цераз Бярозу, у акопах і проста на полі, у жыце засталося шмат зброі. І тут і там валяліся вінтоўкі, кулямёты, гранаты, нават аўтаматы. Ніхто іх спачатку не падбіраў, бо гітлераўцы на ўсіх слупах развесілі загад — за трыманне зброі — расстрэл. Яны наогул за ўсё пагражалі расстрэлам. Выйдзеш позна на вуліцу — расстрэл, не здасі радыёпрыёмніка — расстрэл, схаваеш савецкага салдата — расстрэл. Нават калі не аддасі немцу апошняе яйка або курыцу, таксама — расстрэл.

З цягам часу людзі прыцярпеліся да гэтых пагроз і сталі рабіць па-свойму. Пакуль не выйшлі на месцы былых баёў так званыя трафейныя каманды немцаў, мясцовыя жыхары пачалі ўпотай збіраць і хаваць зброю.

Яе на палях і ў пакінутых акопах станавілася ўсё менш і менш.

Тады і прыйшла да Якімкі Галя Сухоцкая. Яна паклікала яго на двор і, з асцярогай азіраючыся па баках, горача зашаптала:

— Слухай, Якімка, давай зброю збіраць. Як возьмемся дружна, ведаеш, колькі збяром...

— А навошта яна нам? — спытаў Якімка.

Спытаў, каб даведацца, што думае аб гэтым Галя. Ён-то ўжо даўно схаваў на Выгарах дзве вінтоўкі, новенькі аўтамат і аж дваццаць дзве гранаты-лімонкі. Што-кольвечы мелі і Уладзік з Васем. Хлопцы меркавалі забрацца калі-небудзь у лес і ўволю настраляцца. А потым... потым, можа, і на фашыста пайсці. Але то ж хлопцы. А Галя — дзяўчынка. І якая б храбрая яна ні была, а ўсё роўна — дзяўчынка. Дык хіба можна адкрываць ёй хлапечыя сакрэты!..

— Навошта, кажаш, зброя? — перапытала Галя.— А ты хіба не чуў пра партызан? Вунь каля Багушэвіч яны аж дзве машыны з немцамі ўзарвалі і мост цераз Кляву спалілі. Хіба ім не трэба зброя? І нам спатрэбіцца... Збяром, зробім тайнік і да часу будзем захоўваць.

«І нам спатрэбіцца». Гэтыя словы вельмі ўразілі Якімку.

— Ты што, таксама думаеш з немцамі ваяваць? — змераў ён дзяўчынку насмешлівым поглядам.

— А чаму не? — пакрыўдзілася Галя.— Анка-кулямётчыца магла, Валя Бруззжак магла, а я, думаеш, не здолею?..

Убачыўшы, што Галіны вочы напаўняюцца слязьмі, якія вось-вось хлынуць ручаём, Якімка паспяшыў яе супакоіць:

— Ты не крыўдуй... Гэта я так сказаў... Мне трэба з хлопцамі спачатку параіцца. Добра? Тут, разумееш, не такая простая справа.

— Добра,— праз слёзы ўсміхнулася Галя.— Толькі не цягніце доўга, а то ніводнай вінтоўкі не застанецца. Немцы падчыстую падмятуць.

«Глядзі ты, ужо ўсё прадумала,— сам сабе ўсміхнуўся Якімка.— Руплівая».

Аб сваёй размове з Галяй Якімка паведаміў сябрам. І ва Уладзіка і ў Васі адказ быў катэгарычны: ніякія дзяўчынкі, няхай гэта будзе хоць дзесяць разоў Галя, пра іх хлапечыя ваенныя справы ведаць не павінны!

У душы Якімка быў не зусім згодны з сябрамі. Усё ж Галя не якая-небудзь там сарока-балбатуха. Вунь як яна піянерскім атрадам кіравала — самым лепшым быў на ўсю дружыну. Можна б было і яе прыняць да сябе, іх было б чацвёра. Тым больш, калі што якое, на дзяў-

чынку ніхто б не звярнуў увагі. Але так ён толькі думаў. А зрабіў, як настойвалі хлопцы: пайшоў і сказаў Галі, што ніякай зброі яны шукаць не будуць. І наогул вайна — не іх справа.

— Баязліўцы! — гнеўна крыкнула Галя.— Мусіць, і гальштукі ўжо спалілі...— Яна павярнулася і пайшла.

— Ты лягчэй! — глуха прагаварыў услед ёй Якімка.— Мы яшчэ пабачым, хто баязлівец...

Але Галя не азіралася. А Якімка доўга стаяў на месцы. Яго да глыбіні душы абразіў Галін папрок. Як толькі яна магла сказаць, як толькі падумаць магла, што ён спаліў свой піянерскі гальштук? Ды ён такога ніколі, нізавошта ў жыцці не зробіць. Хай сабе катуюць, хай страляюць! Ведала б Галя, як ён, Якімка, старанна загортваў гэтую дарагую часцінку чырвонага сцяга ў цырату, як цёмнай ноччу хаваў пад сваёй любімай яблынькай, ніколі не сказала б такога. Якімка цвёрда верыў, што рана ці позна зноў надзене свой гальштук і, свабодны, будзе горда насіць яго на грудзях.

Выказаць бы ўсё гэта Галі. Але нічога не зробіш. Вайна. Трэба, як кажа дзед Лук'ян, трымаць язык за зубамі. А настане час, і Галя сама ўпэўніцца, баязлівец Якімка ці не.

Крыху заспакоены гэтымі думкамі, хлопчык вярнуўся да сяброў.

— Перагаворы закончаны,— нявесела ўсміхнуўся ён.— Мы — баязліўцы.

— Гэта яна так сказала? — падхапіўся Уладзік.

— Яна. І праўду сказала,— ужо без усмешкі сказаў Якімка.

— Чаму праўду? — падскочыў, нібы яго хто ўджаліў, Вася.

— А таму,— панура паглядзеў на сяброў Якімка.— На палях валяецца яшчэ даволі шмат зброі — трафейнікі ж толькі збольшага яе падабралі,— а мы хапнулі кожны для сябе па вінтовачцы і сядзім, склаўшы рукі. А заўтра ці паслязаўтра немцы пойдуць і збяруць астатнюю. Можа, нават не самі пойдуць, а нас прымусяць. Ну, мы і панясём ім вінтоўкі, кулямёты, аддадзім з паклонам і скажам: «Калі ласка, панове, забівайце нас...» Нам напляваць, што навакол партызаны ўжо дзейнічаюць, машыны нямецкія ўзрываюць, паліцаяў калашмацяць, масты паляць... Не,— горка ўсміхнуўся ён,— партызанам зброя не патрэбна, каб за нас заступіцца...

— Ты пачакай,— падняўся Уладзік.— Што ты нам лекцыю чытаеш? З'явіўся ад сваёй Галі, нібы ўтрапёны. і панёс, панёс... Ты лепш скажы, што мы павінны рабіць?

— Не сядзець,— коратка адказаў Якімка.

— Дык давай будзем бегаць,— неўпапад пажартаваў Вася.

— Табе абы зубы скаліць,— раззлаваўся Уладзік.— Трэба сур'ёзна пра ўсё падумаць.

— Доўга думаць няма калі. Пакуль будзем думаць, немцы збяруць усю зброю, падчыстую падмятуць,— мімаволі паўтарыў Якімка Галіны словы.— Трэба зараз жа брацца за справу. Будзем збіраць усё, што трапіцца, і хаваць у надзейнае месца. А пасля перададзім партызанам. Ды і нам можа спатрэбіцца. Ці мала што здарыцца.

— Збіраць то збіраць, а калі хто пападзецца? — разважліва спытаў Вася.

— Ты што, спалохаўся? — накінуўся на яго Уладзік.

Якімка жэстам спыніў яго:

— Не гарачыся. Ён праўду кажа. Нам трэба даць адзін аднаму клятву: калі хто раптам трапіць у лапы немцам або паліцыі і яго будуць дапытваць, нават катаваць, каб нікога не выдаваў. Кожны адказвае сам за сябе: я адзін і нікога больш не ведаю. А зброю збіраў, каб здаць у паліцыю. Згодны?

— Згодны! — адказалі Уладзік і Вася.

— Прысягаем?

— Прысягаем!

— А хаваць дзе зброю будзем? — дзелавітым тонам запытаўся Вася.

— Пад белай бярозай,— амаль у адзін голас сказалі Якімка і Уладзік.

— А ты адкуль ведаеш? — Якімка здзіўлена паглядзеў на Уладзіка.

— Адкуль і ты,— усміхнуўся Уладзік.— Па-першае, там лісіныя норы ёсць, а па-другое, блізка і ад хмястэчка і ад лесу. І, галоўнае, туды ніхто ніколі не ходзіць. Людзі лічаць, што хмызняк — непралазны.

— Правільна.— Толькі цяпер Якімка ўспомніў, як аднойчы ўлетку яны з Уладзікам з вялікай цяжкасцю прадраліся праз выгарскі хмызняк да белай бярозы і знайшлі каля яе лісіныя норы. Да самага вечара выкур-

валі тады хлопцы з нор лісу. Але рыжая так і не паказалася. Можа, абхітрыла іх і вышмыгнула праз які-небудзь непрыкметны запасны ход, а можа, проста не жыла ў сваіх норах.

Збіраць зброю было нялёгка. Больш таго — небяспечна. У любую мінуту на хлопцаў мог наскочыць фрыц або паліцай, і тады б не паздаровілася, хаця яны, па сутнасці, былі зусім яшчэ дзеці. Толькі ні фрыцы, ні паліцаі на ўзрост ніякай увагі не звярталі. Яны стрыглі ўсіх, хто не з імі, пад адзін грэбень. У кожным бачылі затоенага ворага.

Хлопцы добра ўсведамлялі, якая небяспека ім пагражае, і тым не менш не было амаль ніводнага дня, каб яны не выходзілі на «паляванне». Спачатку асабліва не аддаляліся ад мястэчка. Рачкавалі па здратаванаму вайной калгасным жыце, лазілі па акопах і ўсё шукалі, прыглядаліся. Пошукі даволі часта былі ўдалымі. У іншы дзень, калі шанцавала, знаходзілі па дзве, а то тры вінтоўкі і да дзесятка гранат. А неяк раз нават ручны кулямёт знайшлі. Ён ляжаў у акопе, прысыпаны зямлёй пасля выбуху снарада. Адна толькі ножка тырчала.

Калі паблізу мястэчка не засталося ніводнага кавалачка зямлі, якую б не перамацалі хлопцы, яны вырашылі перайсці шукаць зброю ў Нягневіцкі лес.

Першы дзень, праведзены ў лесе, не прынёс поспеху. У лепшым выпадку валялася ў верасе абойма вінтовачных патронаў, кулямётная стужка ці ручка ад гранаты. А каб што-небудзь добрае, дык а ні звання. Але хлопцы не адступалі і працягвалі пошукі. І ўжо недзе на трэці ці чацвёрты дзень былі ўзнагароджаны за сваю настойлівасць.

Памагла простая выпадковасць. Якімка, паволі ідучы лесам і шнарачы па баках вачыма, раптам спатыкнуўся і грымнуўся вобземлю. На зусім роўным месцы.

Ён падняўся, пацёр пабіты локаць і азірнуўся назад: мох, звычайны лясны мох, з невысокімі купінкамі, з неглыбокімі ямкамі, болей нічога. Што за ліха?! За што ж ён у такім разе зачапіўся? Корч там, ці што?

Якімка вярнуўся на тое месца, дзе спатыкнуўся, і капнуў мох нагой. Пад мохам цьмяна бліснула цынкавая бляшанка. Паважкаў — цяжкая. Значыць, з патронамі. Капануў у другім месцы — зноў бляшанка. І яшчэ.

— Сюды,— ціха паклікаў Якімка сяброў.

Уладзік з Васем прыбеглі, паглядзелі на Якімкаву знаходку і аж у скокі пусціліся. Усяго ў іх ужо было нямала — чатырнаццаць спраўных вінтовак, тры кулямёты, два аўтаматы, рэвальвер, гранат скрынкі дзве,— а вось патронаў бракавала. А тут цэлых адзінаццаць скрынак — новенькіх, некранутых!

— Вось гэта дык знаходка! — радаваліся хлопцы.

Патроны, як і да гэтага зброю, пераносілі ў тайнік поцемкам, каб часам хто не заўважыў. Ой і цяжка ж было! Возьме Якімка бляшанку, падымае на плячо. Спачатку нічога, не так ужо і страшна. Несці можна. А зробіць некалькі крокаў, і бляшанка прыгінае яго да зямлі. Аж з сіл выб'ецца хлопец, пакуль давалачэ яе да тайніка. Нямала папацелі і Уладзік з Васем на пераноскі.

Мучыліся так, пакуль не дадумаліся зрабіць спецыяльныя лямкі і пераносіць адну скрынку ўдвух...

Шукалі хлопцы зброю, аж пакуль не выпаў снег. А калі ён укрыў белай коўдрай і поле, і луг, і акопы, парашылі зрабіць да вясны перадышку.

Лісіныя норы, у якіх цяпер было паўнютка зброі, хлопцы не сталі закопваць. Пакінулі так, як і былі. Толькі зверху трохі прысыпалі розным ламаччам, каб не вельмі кідаліся ў вочы. Меркавалі яны так: можа, яшчэ хто, акрамя іх трох, ведае, пра гэтыя норы. Набрыдзе калі-небудзь такі чалавек сюды, не ўбачыць іх і здзівіцца — дзе ж яны маглі падзецца? Расказваць пачне іншым. І знойдзецца аматар, які абавязкова захоча дазнацца, у чым тут справа, можа, нават капаць пачне. А тады тайніку, правільней, сабранай зброі, капец.

Каб гэтага не здарылася, хлопцы і не засыпалі нор. Тым больш, што зброі нічога не пагражала. Ліса так хітра робіць сваё жытло, што ў яго ні дождж ні снег не трапляюць.

Адсвісталі зімовыя вятры, растапіла сонца снег, і вось зноў ужо зелянее вясна.

Ідуць хлопцы лесам, азіраюцца, ці няма каго паблізу, ці не бачыць хто іх. Яны наўмысна пайшлі на Выгары не полем, хаця там дарога ўдвая бліжэйшая: на полі кожная кропка здалёк відаць. А лес — гэта ўсё-такі лес. Нездарма партызаны ў лясах пасяляюцца.

На ўзлессі, ад якога да белай бярозы рукой падаць, Якімка жэстам спыняе сяброў. Яны некаторы час стаяць, слухаюць, потым шмыгаюць у вядомы толькі ім адным лаз, што вядзе на вяршыню ўзгорка.

Вось і яна, іх маўклівая сяброўка — белая бяроза. Стаіць, не апранутая яшчэ ў празрыстую зелень маладой лістоты, і прыветліва пагойдвае галінкамі.

Каля бярозы спыняюцца.

— Ты будзеш за вартавога,— гаворыць Якімка Васю.— У выпадку чаго — ціхенька свісні, а мы з Уладзікам — за работу.

Уладзік дастае з-за пазухі важкі пакунак, кладзе яго пад дрэва, і яны з Якімкам пачынаюць даставаць з лісіных нор зброю. Дасталі адну вінтоўку, другую. Не заржавелі. Леташняя змазка толькі закарэла, зрабілася цвёрдай, але вільгаці не прапусціла.

— Можа, не будзем чапаць? Хай сабе так ляжаць,— прапанаваў Уладзік.

— Не, лепш яшчэ раз змажам, не пашкодзіць,— запярэчыў Якімка.— Сам бачыш, трэшчынкі з'явіліся.

Уладзік разгарнуў пакунак. У ім быў салідол. Узяў яго Уладзік з запасаў бацькі, які да вайны быў трактарыстам і прыносіў дамоў усякую ўсячыну.

Адарвалі хлопцы па кавалку анучыны, макнулі ў густы салідол і пачалі нанава змазваць вінтоўку за вінтоўкай. Асабліва шмат валэнды, было з кулямётамі. Ствол і кожухам, дыскі, замок, ножкі — усё гэта не так проста было змазаць.

Скончылі работу толькі апаўдні. Аж узмакрэлі.

Адпачылі трохі і пайшлі назад. Па дарозе Вася завёў старую размову:

— Ты от, Якімка, кажаш, Галя. А як добра, што мы яе не ўзялі тады з сабой. Не бачыць бы нам цяпер тайніка, як сваіх вушэй.

— Ат,— злосна махнуў рукой Якімка.— Я і сам не настойваў... А калі па праўдзе разабрацца, дык яна ні кропелькі не вінавата, што бацька падаўся да здраднікаў. Ты бачыў, якая яна зрабілася за гэты час?

— Падумаеш,— зняважліва хмыкнуў Уладзік.— зрабілася!.. Сорамна людзей, вось і зрабілася. Нічога. Пройдзе час, і пачне задавацца, што яе бацька — паліцай.

Якімка прамаўчаў. Хто яго ведае, чыя тут праўда, чыя няпраўда. Вунь і дзед Лук'ян, яго родны дзед, уна-

чы з паліцаем шаптаўся. Мусіць жа, нешта нейкае змянілася ў ім. Гэтак вось можа нешта змяніцца і ў Галі.

## ДЗЯДЗЬКА ХВЕДАР

Самае горшае, калі чалавеку няма чаго рабіць. Вядома, калі ён сапраўдны чалавек, а не гультаюга які-небудзь. Гультаю гэта толькі на руку. А сапраўдны чалавек тады мучыцца, месца сабе не знаходзіць. Здаецца, за любую справу ўзяўся б, нават за самую нелюбімую, толькі б не сядзець склаўшы рукі.

Пасадзілі дзед з Якімам бульбу, ускапалі грады, яблынькі збольшага агледзелі. А далей што? Пайсці на рэчку рыбу лавіць? Дык адно, што вясенняя паводка не зусім яшчэ спала, а другое — гітлераўцы ўсю раку бомбамі выглушылі.

Дарэмна толькі час патраціш.

Думаў Якімка, гадаў, чым заняцца, ды так нічога добрага і не прыдумаў. Пайшоў да сяброў параіцца.

Уладзік адразу прапанаваў:

— У лес трэба забрацца, у Нягневіцкі. Зноў шукаць зброю. Помніш, увосень дамаўляліся? Знойдзем што-небудзь, быць не можа.— У голасе яго была бадзёрасць, упэўненасць.

Вася быў настроены больш скептычна.

— Так ужо і знойдзем,— абыякавым тонам прамовіў ён.— Там ужо трафейнікі без нас кожны кусцік перапаролі. З мінашукальнікамі хадзілі. А калі што і знойдзем, то адразу і выкінем. Восень, зіма, вясна — гэта вам не жартачкі. За такі час іржа любую жалязяку параесць. Як ты думаеш, Якімка?

— Я думаю, што не зусім так. Зброя ж звычайна змазваецца. Няўжо за якога паўгода яна ўжо так і заржавее? Словам, я за тое, каб пайсці. Бо і летась вунь, пасля трафейнікаў ужо, мы колькі патронаў знайшлі.

— Што ж, вас большасць, хай будзе па-вашаму,— неахвотна згадзіўся Вася.

Збіраліся нядоўга. Шапку — на галаву, акраец хлеба — за пазуху і — у дарогу.

Лес сустрэў хлопцаў прыглушана-журботнай песняй. Аб чым спяваў ён? Можа, аб тым вялікім чалавечым горы, што набрыла на нашу зямлю? Ці, можа, аб

тых, якія не пашкадавалі жыцця, каб пазбавіць людзей ад гэтага гора, і цяпер маўкліва ляжаць у сырой зямлі? А можа, спяваў лес аб сабе самім,— што і яго пакрамсалі, пакалечылі чужынцы ў мышастых шынялях? І працягваюць калечыць, высякаючы цэлыя дзялянкі на адпраўку ў сваю Германію...

Хто яго ведае, аб чым спяваў лес...

На хлопцаў лясная песня падзейнічала, нібы халодная вада. Адразу скончыліся ажыўленыя размовы. Сябры прыціхлі, неяк унутрана сціснуліся. Ішлі, стараючыся не хруснуць сухой галінкай, і слухалі, прыслухоўваліся.

Якімку трапіўся абрывак кулямётнай істужкі. Ён падняў яго, пакруціў у руках і адкінуў убок. Вася наткнуўся на кучку стрэляных вінтовачных гільз і са злосцю падфутболіў іх. Гільзы са слабым звонам разляцеліся.

— Чакай,— падбег да яго Уладзік,— ёсць гільзы — можа быць дзе-небудзь і вінтоўка або кулямёт.

Гэта была слушная заўвага, і хлопцы разбрыліся, пачалі расхінаць кусты падлеску, узрываць мох.

Але знайсці нічога не ўдалося.

Ланцужком, так, каб бачыць адзін аднаго, рушылі далей.

Лес рабіўся ўсё гусцейшы. Усё часцей сталі трапляцца панурыя гіганты-елкі. Запахла сырасцю, прэлай ігліцай.

Натрапілі на буралом. Ён пайшоў па лесе шырокай паласой, і паваленыя ім елкі, яшчэ жывыя, ляжалі, падтрымліваючы адна адну і сутаргава чапляючыся часткай карэнняў за зямлю. Гэта зямля падтрымлівала ў іх жыццё.

Хлопцы пачалі заглядваць пад вываратні. Дамовіліся, калі хто што знойдзе, гукнуць іншых.

Неўзабаве з таго боку, куды пайшоў Якімка, пачуўся ціхі посвіст.

Уладзік і Вася паспяшаліся на яго.

Калі яны падбеглі, то ўбачылі Якімку з вінтоўкай у руках. Ён стаяў і ляскаў затворам.

Вася выхапіў у Якімкі вінтоўку і пачаў уважліва аглядаць яе. Прыклад у вінтоўкі пацямнеў, на металічных частках няправільнымі ўзорамі расплылася ржа, але канал ствала і патроннік іржа амаль не кранула. Затвор хадзіў выдатна.

— Пастраляем? — загарэўся Уладзік.

— Давайце! — адразу згадзіўся Вася.

Але Якімка астудзіў іх пыл:

— Патронаў няма. Бачыце, магазін зусім пусты.

Хлопцы апусцілі насы.

— Эх, каб ведаў, з сабой захапіў бы,— цяжка ўздыхнуў Уладзік.— У мяне пад ганкам аж дзве абоймы ляжаць. Цэленькія...

— А можа, тут яшчэ знойдзем? Ты з-пад якога вываратня яе вывалак? — паказаў Вася на вінтоўку.

— Ды во з-пад гэтага.

Выварацень быў агромністы, і яма пад ім даволі глыбокая. Вася скочыў туды і пачаў шнарыць пад карэннямі.

Нарэшце з ямы данеслася яго радаснае:

— Ёсць!

Вася вылез з салдацкім падсумкам у руцэ. У падсумку былі тры поўныя абоймы. Патроны, праўда, акісліліся, пазелянелі ад вільгаці, але калі іх добранька пацерці пяском ці нават суконкай, страляць можна як новенькімі.

— А дзе страляць будзем? — звярнуўся да сяброў Якімка.

— А вось тут і будзем,— нецярпліва затупаў Уладзік.— Чаго далёка хадзіць?

— Не, трэба ўсё-такі адысціся. Мястэчка блізка. Яшчэ пачуюць фрыцы ды аблаву наладзяць. Тады паскачам.

Гэтыя Васевы словы нельга было не ўзяць пад увагу. І хлопцы, зірнуўшы на сонца і прыкінуўшы, што да вечара яшчэ далёка, рушылі цераз паласу буралому ў глыб Нягневіцкага лесу.

Ішлі цяпер усе трое разам: Якімка з вінтоўкай на плячы, Вася з падсумкам у руцэ, а Уладзік проста так. Пра першапачатковую мэту свайго прыходу ў лес сябры забыліся і больш не заглядвалі пад кусты і мох. Куды там, калі наперадзе другая, намнога цікавейшая мэта!..

— Давай, Якімка, я пранясу трохі,— Уладзік працягнуў руку да вінтоўкі.

— Нічога. Яна лёгкая. Не змарыўся,— не сцішаючы кроку, адказаў Якімка.

— Ну, як сабе хочаш.

Далёка ззаду застаўся буралом, елкі зноў змянілі-

ся стромкімі баравымі соснамі, а хлопцы ўсё ішлі ды ішлі. Нарэшце Вася спыніўся:

— Хопіць. Адсюль на дзесяць кіламетраў ніводнай вёскі. Давайце пачнём. Ніхто не пачуе,— і зморана апусціўся на мох.

У Якімкі з Уладзікам ад доўгай хады таксама ўжо балелі ногі, і яны з задавальненнем расцягнуліся на мохавым дыване побач з сябрам.

— А ў што страляць будзем? — запытаў Вася. Выняўшы з абоймаў патроны, ён старанна перацірaў іх верхам сваёй суконнай шапкі.

— Ды ў любую сасну,— адазваўся Уладзік.— Толькі каб не надта тоўстая была. У тоўстую і дурань пацэліць.

— У дрэвы страляць не будзем,— запярэчыў Якімка.— Хопіць, што іх немцы скрамсалі. Мішэнь, зробім. А лепш за ўсё знайсці стары пень. Яму ўсё роўна...

Першым падняўся Уладзік:

— Хопіць разлежвацца. Давайце пень шукаць.

Злева ад хлопцаў прасвечвалася паляна. Накіраваліся туды. На паляне было шмат пнёў, акуратна абкораных, з застылымі на баках буйнымі падцёкамі смалы. Стаяла тут і некалькі сосен. На іх ствалах былі зроблены нечым вострым надрэзы кары ў выглядзе рымскіх пяцёрак. Ад надрэзаў вёў уніз тонкі жалабок, які заканчваўся цынкавай лейкай. У лейках была смала. Зразумела. Тут да вайны займаліся падсочкай — смалу здабывалі. А калі дрэвы пераставалі даваць смалу, іх спілоўвалі і адпраўлялі на будаўніцтва дамоў.

— Ёсць падсочка, значыць недзе паблізу ёсць і дарога — пачаў уголас разважаць Якімка.— Па дарозе могуць ісці ці ехаць людзі. Пачуюць нашы стрэлы, і мы папаліся. Не, хлопцы, трэба шукаць другое месца.

— Зноў цягнуцца чорт ведае куды,— нездаволена прабубніў Вася.

— І праўда,— падтрымаў яго Уладзік.— Можа, тут зусім не дарога, а толькі тралёўка, па якой вывозілі бярвенні. Ды і тая, можа, даўно не езджаная і не ходжаная. А тут такія пянёчкі...

— Усё адно паглядзець трэба,— настойваў на сваім Якімка.— Давайце разыдземся, паглядзім.

Якімкаў напрамак быў на поўдзень. Ён ішоў, пакуль сапраўды не натрапіў на дарогу. Дарога была за-

сыпана леташняй ігліцай. Ні адбіткаў конскіх капытоў, ні слядоў калёс на ёй не было відаць. І чалавек таксама тут як быццам даўно не ступаў. Значыць, дарога гэта зусім не дарога, а звычайная тралёўка.

Можна было клікаць сяброў. Якімка залажыў два пальцы ў рот, павярнуўся і... не свіснуў. Крокаў за пяць ад яго стаяў здаравенны рыжабароды дзядзька. На ім былі кірзавыя салдацкія боты і шэры бушлат. За шырокім рамянём паблісквавў варанёнай сталлю маўзер.

— Ну, здароў! — працягнуў дзядзька шырокую далонь.

— Драстуйця,— пралепятаў Якімка і пракаўтнуў сліну. У горле ў яго раптам перасохла.

Хлопчык зусім разгубіўся і не ведаў, як трымацца, што рабіць. Кідаць вінтоўку і ўцякаць было позна, страляць — таксама. У дзядзькі зброя бліжэй, пад рукой. Пускацца з незнаёмым у размовы — небяспечна, бо невядома, хто ён такі, гэты барадач, свой ці не свой. І Якімка вырашыў маніць.

— Скуль будзеш, арол?

— Недалёкі. З Нягневіч.

— А цацку нашто носіш? — дзядзька паказаў на вінтоўку.

— Ды так. Знайшоў пад вываратнем.

— А пад выварацень чаго лазіў?

— Ды так. Дзед паслаў моху надраць.

— Зразумела,— у дзядзькавых вачах прабегла смяшынка.— Мох, ён толькі пад вываратнямі і расце. Ну, а дзеда твайго як зваць?

— Лук... Лук... Лукашом майго дзеда завуць. Дзед Лукаш.

— На Лук... можа быць і другое імя, напрыклад, Лук'ян,— цяпер ужо смяяліся не толькі дзядзькавы вочы, але і ўвесь твар.

Хлопчык стаяў, пераміпаючыся з нагі на нагу, збянтэжана лыпаў вачыма і маўчаў. А дзядзька працягваў:

— Ёсць яшчэ такое імя — Якімка і такое мястэчка — Перавоз...

Гэта ўжо было занадта: гэты незнаёмы нават дзеда і яго ведае!

— Ну, чаго глядзіш? Я ж цябе, аніка-воін, у спіскі

нованароджаных у сельсавеце запісваў, на хрэсьбінах тваіх гуляў.

— Дзядзька Хведар! — усклікнуў Якімка.— А я вас не пазнаў спачатку. Вы так барадой зараслі!..— Цяпер ён ведаў, хто перад ім,— старшыня Перавозскага сельсавета Хведар Астапавіч Базылёнак.

— Ну расказвай, Якімка, што там у вас новага. Ды прысядзем давай. У нагах праўды няма.

— Хвілінку, я толькі хлопцаў гукну.

— Хлопцаў? — дзядзька Хведар насцярожана азірнуўся.— А што за яны, твае хлопцы?

— Ды свае. Уладзік Несцяровіч і Вася Гурын. Яны — надзейныя. Мы ўвесь час разам.

— Несцяровіч — гэта што трактарыстам быў?

— Ага. А Гурын Вася — сын загадчыка фермы Антона Гурына.

Тлумачэнні Якімкі, відаць, задаволілі дзядзьку Хведара, і ён, зноў павесялеўшы, сказаў:

— Кліч сваіх сяброў. Разам талкаваць будзем.

Уладзік з Васем падышлі нясмела, доўга прыглядаліся да дзядзькі Хведара, а ён у сваю чаргу дапытліва разглядаў іх.

— Сядайце, хлопцы,— сказаў нарэшце дзядзька.— Хваліцеся, як жывецца пры «новым парадку».

— Які там парадак...— махнуў рукой Уладзік.— Якую толькі аб'яву ні вывесяць, то ўсё расстрэл...

— А людзі што гавораць?

— Што? Маўчаць і ўсё. Учарнелі, затаіліся. Усяго толькі і радасці, калі пачуюць, што партызаны машыну нямецкую ўзарвалі ці паліцая дзе забілі...

— Пра партызан што гавораць?

Пра партызан у мястэчку гаварылі многа і па-рознаму. Стараста, паліцэйскія і іх сем'і называлі партызан не інакш як бандытамі і сцвярджалі, што не сёння дык заўтра з імі будзе пакончана. У фашыстаў, маўляў, сіла, тэхніка, яны вунь як далёка зайшлі, ледзь не пад самай Масквой стаяць. А партызан, што? — жменька, ды і тыя без сапраўднай зброі. Ні танкаў у іх, ні самалётаў. Адны вінтоўкі-пукалкі.

Але такіх, што баяліся і таму ненавідзелі партызан, жадалі ім пагібелі, было нямнога. Лічаныя адзінкі. Асноўная ж маса людзей чакала, не магла дачакацца, каб партызаны хутчэй прыйшлі ў Перавоз і разграмілі гарнізон, як было гэта ў Багушэвічах. Тады б

усе пайшлі ў атрады. Бо цяпер нельга. На кожным слупе вісіць аб'ява, што калі хто пойдзе ў партызаны, усе члены яго сям'і будуць павешаны. Людзі і баяцца. Ведаюць, што такія свае абяцанні фашысты стрымліваюць абавязкова.

— Та-ак,— забарабаніў пальцамі па калене дзядзька Хведар.— Невясёлая, канечне, штука — падвесці пад шыбеніцу ўсю сям'ю.— Памаўчаўшы, спытаў: — Ну, а ў паліцыю ідуць?

— Не-е,— адказаў Уладзік.— Як пабілі іх той восенню пад Нягневічамі, дык да гэтага часу больш трынаццаці чалавек набраць не могуць...

— Хто гэта супраць сваіх хоча ісці? — паважна зазначыў Вася.— Лепей адразу застрэліцца, чым такую ганьбу несці...

— А вось Сухоцкі не застрэліўся...— нахмурыў бровы Якімка.— А быў жа актывістам, на ўсіх сходах выступаў...

— Кажаш, Сухоцкі, заатэхнік? — Дзядзька Хведар не спяшаючыся расчасаў пальцамі бараду, папраravіў маўзер за поясам.— Што ж зробіш,— нарэшце прамовіў ён.— Пайшоў дык пайшоў. Усякае бывае. Вайна.

Якімку здзівіла, што дзядзька Хведар, як і дзед, чамусьці гаворыць пра Сухоцкага без асуджэння, ды ў дадатак аднымі і тымі ж словамі: «Усякае бывае. Вайна». У чым справа? Ён ужо хацеў так прама і спытаць аб гэтым дзядзьку Хведара. Але той апярэдзіў яго.

— Ну, а дачка яго, Сухоцкага, Галяй, здаецца, завуць, таксама за бацьку? — І пільна паглядзеў Якімку ў вочы.

— Пакуль што як быццам не,— няўпэўнена адказаў Якімка.

— Пакуль, пакуль...— перадражніў яго Уладзік.— Знаем мы такіх. І нашым і вашым. Табе адно пяе, а бацечку свайму, напэўна, зусім другое...

— Я б на яе месцы да партызан пайшоў,— уставіў Вася і гучна зарагатаў.— Вось была б пацеха. Дачка — партызанка, а бацька — паліцэйскі. Цікава, ці павесілі б яго немцы?

— Думаеш, такога не бывае, што адзін брат у партызанах, а другі немцам служыць? — сур'ёзна спытаў дзядзька Хведар.— Трапляецца і такое. Хаця, праўда, вельмі рэдка. Вайна, мілы мой Васілёк,— гэта вялікае

выпрабаванне народа. Яна людзей да самага нутра агаляе. Хочаш не хочаш, а рана ці позна выявіцца, у які бок ты цягнеш.

— Я? — Вася аж падхапіўся.— Ды я хоць зараз у партызаны!

— Не пра цябе асабіста я сказаў, а наогул,— усміхнуўся дзядзька Хведар.

— А я ўсур'ёз,— упарта нагнуў галаву Вася.— Толькі ці прымуць?

— Не, не прымуць.— Дзядзька Хведар узяў Васю за падбародак і прымусіў яго падняць галаву.— Малады ты яшчэ вельмі, Васілёк. І сябры — занадта маладыя. Вось падрасцеце трохі, тады і возьмем. А так — толькі ў крайнім выпадку.

Панурыўшы галовы, хлопцы маўчалі. А дзядзька Хведар гаварыў і гаварыў. Ён пачаў расказваць пра становішча на франтах, пра тое, які гераізм праявілі савецкія людзі, адстойваючы сваю родную Маскву...

— Дык гэта ўсё-такі праўда, што немцы былі блізка ад Масквы? — перапыніў дзядзьку Хвадара Якімка.— А мы ўсё ж не хацелі верыць, думалі, ну як гэта?.. прапаганда...

— Былі, браток, блізка былі. Але, як той кажа, блізак локаць ды не ўкусіш,— адказаў дзядзька Хведар.— Немчуру ад Масквы так турнулі, што яна да гэтага часу апамятацца не можа.

— А ці праўда, што Ленінград узяты?

З Ленінградам, як даведаліся хлопцы, у гітлераўцаў таксама нічога не выйшла. Яны толькі і здолелі, што акружыць яго. А каб узяць, нават не можа быць гаворкі. Бо сіла там у нашых вялікая, і б'юцца яны не на жыццё, а на смерць. Толькі на паўднёвым фронце гітлераўцам удалося крыху прасунуцца наперад. Але і там іх чакае немінучая пагібель. Бо ўся краіна, увесь савецкі народ працуе на абарону. Усё больш танкаў, самалётаў, гармат, аўтаматаў паступае на фронт. А танкі такія, што ніводзін нямецкі снарад іх не бярэ, а самалёты такія, што ніводзін нямецкі іх не дагоніць. Акрамя таго, ёсць і новая зброя. Напрыклад, гвардзейскія мінамёты «кацюшы». Як дасць такая «кацюша» адзін залп, дык адразу на некалькіх гектарах усё жывое знішчае... І тыл тут не спіць. З кожным днём усё больш становіцца партызанскіх атрадаў, усё буйнейшымі і мацнейшымі яны робяцца.

Малавата, праўда, зброі. Але партызанскія спецыялісты самі яе робяць, нават аўтаматы майструюць у звычайных калгасных кузнях. Ну, а хто па якой-небудзь прычыне не можа пайсці ў партызаны, той дапамагае ім, так сказаць, дома...

— Вы таксама маглі б, каб захацелі, аказваць нам добрую дапамогу,— закончыў свой расказ дзядзька Хведар.

— Якую? — бліжэй падсунуліся да яго хлопцы.

— Ну хаця б лістоўкі расклеілі для пачатку. Толькі не ведаю вось, ці справіцеся. Пападзецеся і адразу раскіснеце.

— Мы клятву давалі,— цвёрда сказаў Якімка.— Не бойцеся, не раскіснем.

— Што ж, хлопцы вы, бачу, свае.— Дзядзька Хведар засунуў сваю шырокую далонь за халяву і выцягнуў невялікі стосік лісткоў. На іх злева было надрукавана: «Смерць нямецкім акупантам!», справа — «Прачытай і перадай таварышу». Далей ішоў заклік змагацца з фрыцамі, зводка аб становішчы на франтах, а ўнізе подпіс: «Падпольны райком КП(б)Б».— Толькі асцярожна, хлопчыкі, дамоў адразу не нясіце і наогул не нясіце, а схавайце дзе-небудзь на загароддзі. А потым, упоцемках, раскідаеце па дварах. У рукі нікому не давайце — пачнуць распытваць, што ды адкуль. Дзейнічайце ўтрох: удвух вартуюць, адзін — раскідвае. У выпадку чаго — лістоўкі выкідайце за любы плот, а самі гаварыце, што пагуляць выйшлі. Зразумелі? Ну, то і добра,— і дзядзька Хведар, як дарослым, моцна паціснуў хлопцам рукі.— Жадаю вам удачы. А мне пара ўжо. Даўно пара. Загуляўся я тут з вамі.

Усе ўсталі. Якімка не ведаў, што цяпер рабіць з вінтоўкай.

— Давай сюды сваю цацку,— узяў яе дзядзька Хведар.— Нам яна ой як спатрэбіцца. Паболей бы.

Хлопцы хітра пераглянуліся, кіўнулі адзін аднаму — згода.

— Дзядзька Хведар,— перадаючы вінтоўку, сказаў Якімка.— А ў нас яшчэ ёсць...

— Што ёсць?

— Ну, вінтоўкі,— адказаў Якімка.

— І кулямёты,— дадаў Уладзік.

— І патроны,— уставіў Вася.

— Ды ну? Родныя вы мае! — Дзядзька Хведар мі-

нуту стаяў нібы аслупянелы, потым шырока расставіў рукі, згроб усіх трох у ахапак, падняў, прыціснуў да сябе і пачаў кружыць. Кружыў хлопцаў, аж пакуль не засопся.— Вось гэта вы падарунак зрабілі! Вось за гэта — малайцы!.. Сапраўдныя, харошыя вы хлопцы!..

На Выгары шыбавалі поплеч — дзядзька Хведар, Якімка, Уладзік, Вася. Над іх галовамі спяваў сваю песню Нягневіцкі лес — песню звонкую, поўную радасных надзей.

Сапраўдны чараўнік — гэты лес. Дрэнна чалавеку — пяе самотныя песні, добра — радасныя...

## МЫЛА НЕ МЫЛІЦЦА

Наказ дзядзькі Хведара Якімка не выканаў. Ён не схаваў лістоўкі на загароддзі, а прынёс іх дамоў. У мястэчку якраз было ціха, на іхняй вуліцы — таксама. Вось Якімка, не спыняючыся, і юркнуў у сваю брамку. З хлопцамі дамовіўся сустрэцца вечарам, калі змеркнецца, у Васевым двары, і адтуль пайсці з лістоўкамі па мястэчку.

План распрацавалі дэталёва. На плошчу яны не пойдуць. Там паліцаі ўсё роўна парвуць лістоўкі. Карысці з гэтага ніякай. Лепш з боку агародаў будуць заходзіць у двары і пакідаць там па лістоўцы. Вядома, на ўсе двары не дастанецца. Але хопіць і адной на тры. Сусед сам потым перадасць суседу.

Дзеда дома не было. Якімка ўзяў дзверы на завалу і, падышоўшы да дзедавага ложка, адкінуў вечка склепа. У склепе было цёмна і сыра. Пакуль асвойталіся вочы, Якімка слепа тыкаўся з кута ў кут. Паступова ён пачаў адрозніваць дошкі, слупкі, перагародкі, што раздзялялі бульбу, моркву, буракі.

Трэба было знайсці зручную мясціну, каб схаваць да часу лістоўкі.

Зрабіць гэта было не так проста, як здавалася. Паміж дошкамі лістоўкі не запіхнеш — ніводнай шчыліны няма. Пакласці наверх, прама пад падлогу,— таксама небяспечна. Мышы могуць пагрызці. Аставалася адно — схаваць лістоўкі на дне склепа, пад бульбай. Але для гэтага трэба было добра папрацаваць.

Хлопчык узяўся разграбаць бульбу. Разграбаў доўга, пакуль дабраўся да зямлі, капануў зямлю раз, дру-

гі, трэці. Дошка. Гэта было нечакана. Наколькі Якімку вядома, дзед, калі рабіў з Якімкавым бацькам склеп, дно не замошчваў. Наадварот, сцвярджаў, што гэта шкодна для гародніны, бо яна зямлю любіць.

Адкуль жа тут з'явілася дошка? А можа, тут дзедаў тайнік? Можа, іменна сюды і схаваў ён загадкавы зялёны шнур, што прынёс у тую памятную ноч Сухоцкі?

Хлопчык, намацаўшы край дошкі, адной рукой прыпадняў яе, а другую падсунуў пад ніз. Шнура пад дошкай не было. Затое было нешта іншае — цвёрдае, халоднае, нарэзанае роўнымі брускамі.

Мыла! Ну, канечне, тое самае мыла, пра якое шапталіся дзед Лук'ян з Сухоцкім. Калі Сухоцкі яго прынёс, Якімка не бачыў. Можа, дома не было, а можа, спаў як пяньку прадаўшы.

Вельмі ўзрадаваўся хлопчык. Няхай сабе дзед злуецца на яго, няхай крычыць, а два кавалачкі ён усё-такі возьме і занясе Васевай маці, цётцы Анюце. Яна ж і дзедаву бялізну мые, не толькі яго, Якімкаву. А гэта зусім нялёгка мыць бялізну, калі няма мыла. І ў попеле цётка яе варыць і жлукціць, а ўсё адно чыста яна не вымываецца. Цяпер жа будзе мыла, і ўсё пойдзе па-іншаму.

Як і намерыўся, Якімка ўзяў два кавалачкі мыла і засунуў іх у кішэні штаноў. Дошку паклаў на месца, прысыпаў, як і было раней, зямлёй, а зверху загарнуў бульбай.

Дзед усё яшчэ не прыходзіў, і Якімка вырашыў збегаць за гэты час да цёткі Анюты, парадавацць яе. Вось толькі з лістоўкамі не ведаў, як быць.

Кепска ён усё ж зрабіў, што не паслухаў дзядзьку Хведара.

Якімка зірнуў у адзін бок, у другі і спыніўся поглядам на печы: вось дзе трэба хаваць — у падпечку. Там суха і надзейна. Закапаць у кутку ў сухі пясок, і канец.

Так і зрабіў.

Управіўся і — да Васі.

Уся сям'я Гурынаў была ў зборы. Седзячы на нізенькім услончыку, дзядзька Антон рамантаваў старыя боты, цётка Анюта, нагнуўшыся над начоўкамі, нешта мыла, а Вася шчапаў лучыну. Газы ў мястэчку даўно ўжо і ў паміне не было, і ўсе асвятляліся лучы-

най. Толькі ў дамах, дзе жылі сем'і паліцаяў, па вечарах ярка гарэлі сапраўдныя лямпы.

Якімка павітаўся, і, з урачыстым выглядам падышоўшы да цёткі Анюты, паклаў на край начовак два кавалкі мыла:

— Гэта вам.

— Дзе ж ты яго ўзяў? — здзівілася цётка.

— Няважна. Мыйце, ды ўсё тут.

Цётка пацерла мылам адзін лахман, другі і чамусьці нездаволена хмыкнула:

— Нешта не мыліцца, хлопча, тваё мыла. Нібы камень той.

— Пакажы-тка,— працягнуў руку дзядзька Антон.

Ён трымаў мыла ў руцэ адзін толькі момант. Потым хуценька ўзняўся з услончыка, схапіў другі кавалак і выйшаў у сенцы.

Праз мінуту вярнуўся, страсаючы з рук зямлю. Дзядзька Антон быў вельмі ўзрушаны.

— Дзе ўзяў? — звярнуўся ён да Якімкі.

— А што? — падняў той вочы.

— А тое, што не мыла гэта, а тол. Разумееш?.. Тол. Узрыўчатка, якой начыняюць гранаты, міны. Убачаць цябе немцы або паліцаі з такім мылам, і пішы прапала.

— Не ведаў я, дзядзька Антон, чэснае слова. Каб ведаў, дык не падняў бы нават. А так, іду паўз рэчку, бачу — мыла ляжыць, аж цэлыя два кавалкі. Думаю, вось паліцаіха нейкая бялізну мыла і забылася. Ну, я і схапіў. І да вас. Вось, думаю, парадую цётку Анюту...

Маніў Якімка і сам не ведаў, чаму маніў. Гурыны — людзі свае, савецкія, ім бы праўду расказаць, дзе ўзяў тол.

Але сэрцам, усёй істотай адчуваў, што сказаць праўду, значыць выдаць нейкую незразумелую дзедаву таямніцу.

— Парадаваць, кажаш, хацеў — супакойваючыся, спытаў дзядзька Антон.— Не дай бог такой радасці, мой хлопчык.

Вяртаўся Якімка ад Васі ў няважным настроі. Няёмка было і перад людзьмі і перад самім сабой, што даў такога маху. Вунь які вырас, хутка чатырнаццаць стукне, а тол ад мыла не ўмее адрозніць. А там жа, у брусках, і адтуліны прасвідраваны, спецыяльна, каб запалы ўстаўляць. Не мог зразумець, не мог здагадац-

ца... Эх! Сапраўды ты, Якімка, аніка-воін, як сказаў дзядзька Хведар.

Дзед Лук'ян ужо быў дома. Ён павярнуўся да Якімкі, уважліва паглядзеў на яго:

— Зноў, унучак, не абедаў? Вунь як зблажэў.

— Ды не, я есці не хачу,— адказаў Якімка, а ў самога ад аднаго напамінку аб ядзе ў жываце паднялася такая бура, што, бадай, водгулле яе чуў нават дзед Лук'ян.

— Вось, еш, бульбу тушаную з морквай,— дзед дастаў з печы чыгунок і паставіў на стол.

Бульба была ўжо халодная, але еў яе Якімка з адменным апетытам. Уплятаў, што называецца, за абедзве шчакі.

— Гурка вазьмі, слізчэй пойдзе.

— Нічога, і так добра,— мармытнуў Якімка.

Яшчэ не пачало цямнець, як у хату ўбег запыханы Уладзік і паклікаў Якімку на двор.

— Доўга ж не баўся,— сказаў дзед,— на вячэру прыходзь.

— Ды не, я скора,— кінуў з парога Якімка.

На двары сябры спыніліся, прыпёрліся да сцяны.

— Чуў? — таямніча прыжмурыў вочы Уладзік.

— Што — чуў

— Эх ты! Усё мястэчка ўжо ведае. Поплаўскі гарнізон партызаны разбілі. Сорак два немцы, дваццаць шэсць бобікаў, стараста, пісар,— усім гамон. Зброю забралі, дзве машыны. На тых машынах і ўкацілі. Лаві цяпер ветра ў полі!..— Вочы Уладзіка blішчалі, ён так і танцаваў на месцы.

Узрадаваўся і Якімка. Гэта ж не жартачкі — такі моцны гарнізон разбіць ды яшчэ пад самым носам у раённага цэнтра, дзе стаяла ледзь не цэлая нямецкая дывізія.

Вось гэта здорава!

— А тут яшчэ і мы страху нагонім. Лістоўкамі,— ажывіўся Якімка.

— З лістоўкамі сёння нічога не выйдзе. Немцы і паліцаі ўсё мястэчка акружылі. Мінамёты і кулямёты паставілі. Нават акопы выкапалі. Па вуліцах ходзяць узмоцненыя патрулі — аж па тры чалавекі разам...

— Та-ак, з лістоўкамі сёння і сапраўды нічога не выйдзе,— спахмурнеў Якімка.— Зацапаюць. Але нічо-

га, пачакаем дзень-два. А там супакояцца бобікі і зноў возьмуцца за гарэлку. Тады і пакажам ім...

— Ну, дык я пабег, а то цямнець пачне...

Якімка вяртаўся ў хату і радасны і сумны адначасова. Радасны, бо пачуў такую захапляючую навіну пра разгром Поплаўскага гарнізона, сумны, бо не мог ужо сёння, адразу ж выканаць баявое заданне дзядзькі Хведара.

«Што ж, не выходзіць — не трэба. Дзядзька сам казаў, каб былі асцярожнымі і на ражон не лезлі,— супакойваў сябе хлопчык.— На дзень раней ці на дзень пазней раскідаем лістоўкі — нічога ад гэтага не зменіцца...»

І ўсё ж вячэраў Якімка без усякага апетыту.

## ПЕРШАМАЙСКІ ПАДАРУНАК

Сады ў тую вясну зацвілі напярэдадні мая. Зацвілі буйна, на ўсю сваю неадольную сілу. Нібы хто з агромністага каўша абліў яблыні, грушы, вішні ружавата-белай пенай, і яны ўхуталіся ў яе ад вершалін аж да самай зямлі.

Дзіўна было глядзець на ўсё гэта. Дзіўна і радасна. Вайна, смерць, а сады цвітуць, жывуць, не хочуць здавацца.

І людзі жывуць, цягнуцца да жыцця, нягледзячы ні на што. Здавалася б, што цяпер дзеду Лук'яну да саду. Яблыкі з яго ўсё роўна немцы забяруць. Плюнуў бы, хай сабе цвіце, расце як хоча. Дык не. Паклікаў Якімку і павёў у сад.

— Ты, унучак, абірай вусеняў, а я агонь раскладу.

Вусеняў было многа. Шаравата-зялёныя, з касматымі спінамі, яны капашыліся агіднымі клубкамі амаль у кожным разгалінаванні. Якімка анучкай адрываў вусеняў ад кары і перадаваў дзеду. Дзед кідаў іх у агонь. Ад вусеняў ішоў смярдзючы зялёны дым.

— Дзед, а дзед, калі раптам замаразак, будзем куродым рабіць? — запытаўся Якімка.

— А як жа? Абавязкова.

Але замаразак гэты раз не прыйшоў, хаця раней амаль заўсёды прыходзіў у пару цвіцення. Здарылася горшае. У другой палове дня пайшоў снег. Ён не падаў,

як звычайна, асобнымі сняжынкамі, а валіў з нізка навіслага неба густым, ледзь не суцэльным месівам. Гэта мокрае месіва асядала на галінкі, напластоўвалася вялікімі шапкамі, і галінкі пад яго цяжарам згіналіся да самага долу.

Снег падаў у гразь і раставаў. У гразі аставаліся шаўкавістыя ружавата-белыя пялёсткі.

Якімку было вельмі шкада саду. А дзед глядзеў на гібель квецені зусім спакойна. Толькі шэрыя дзедавы вочы амаль зусім схаваліся пад калматымі брывамі. Ён абняў Якімку за плечы, прытуліў да сябе:

— Нічога, унучак. Яно і ў нашым жыцці так. Вось жылі, цвілі, як гэты сад, а прыйшла фашысцкая навала і загубіла наша мірнае цвіценне. Ды толькі не сагнуліся мы, не сталі перад немчурой на калені. Змагаемся, б'ём гадаў. І будзем біць. І выжывем. І сад выжыве. Няхай сабе сёлета не дасць пладоў. Затое налета збяром іх удвая больш. Так што не бядуй, унучак.

«Немчура, фашысцкая навала, змагаемся — усё гэта, вядома, правільныя словы, дзед. А дзе твае справы? І што ў цябе за дружба з бобікам?» — хацеў спытаць і не спытаў Якімка. Нешта перашкаджала хлопчыку. Хутчэй за ўсё ўсведамленне таго, што дзед усё роўна нічога пэўнага не скажа, будзе круціць туды-сюды або зусім прамаўчыць. Ён наогул не любіць гаварыць на «небяспечныя» тэмы. А пачне Якімка — злуецца: «Малы яшчэ ў такія справы лезці!»

А Якімку карцела, ой як карцела расказаць і пра збор зброі, і пра сустрэчу з дзядзькам Хведарам, і пра лістоўкі. Але маўчаў, сцяўшы зубы. Калі дзед нічога не гаворыць, за смаркача яго лічыць, то і ён нічога не скажа. На злосць дзеду.

Так і гулялі яны, дзед і ўнук, у маўчанку.

Адно толькі, на што рашыўся Якімка,— падкінуў дзеду лістоўку, калі той быў на двары. Дзед падняў лістоўку, далёка адставіўшы перад сабой, прачытаў яе і схаваў за пазуху. Якімку пра лістоўку так нічога і не сказаў. Відаць, баяўся, што ўнук прагаворыцца каму-небудзь.

«Ну і хавай сабе, дзядуля, а я ўжо даўно прачытаў яе, нават сам прынёс, а ты і не ведаеш»,— без злосці падумаў Якімка.

Лістоўкі, лістоўкі. Думка аб іх не выходзіла з Якімкавай галавы. Мінула ўжо чатыры дні, як хлопцы ат-

рымалі заданне распаўсюдзіць гэтыя маленькія, незайздросныя з выгляду, але такія важныя лісткі паперы, і ўсё ніяк не маглі яго выканаць. Немцы не здымалі ў мястэчку ўзмоцненай аховы. Аб тым, што здымуць цяпер, у пярэдадзень Першамая, не магло быць і гаворкі.

А рабіць нешта трэба было. І якраз сёння, перад вялікім усенародным святам. Далей цягнуць нельга.

Якімка накіраваўся да сяброў. Неўзабаве яны ўсе трое сядзелі на бервяне за Уладзікавым хлевам і падрабязна распрацоўвалі план дзеянняў.

А позна ўвечары з Якімкавага двара вышмыгнулі ў агарод і расталі ўпоцемках тры цені. Гэта тры сябры выйшлі на заданне.

Ішлі хлопцы асцярожна, на пэўнай адлегласці адзін ад аднаго. Трымаліся бліжэй да платоў, каб у выпадку небяспекі было за чым схавацца.

Час ад часу ў мястэчку ляскаў адзіночны стрэл. Тады хлопцы спыняліся і прыслухоўваліся. Потым ішлі далей. Пад нагамі слаба цвякала ліпкая гразь. Нечаканы снегапад зрабіў сваё — прасохлая за апошнія дні красавіка зямля зноў раскісла і ператварылася ў коўзкую кашу. Гразь намнога ўскладніла хлопцам работу. Да гэтай ночы ўсё было проста: заходзь у двор, кладзі на відным месцы лістоўку і шыбуй далей. А цяпер... У гразь лістоўку не кінеш. Размякне і прападзе. Так няможна. Ніхто не даведаецца, што ў наваколлі дзейнічаюць не толькі партызанскія атрады, але нават сапраўдны, хаця і падпольны, райком партыі. Ого, як важна людзям знаць такое. Хлопцы па сабе ведалі. Варта было ім сустрэцца з дзядзькам Хведарам, пагаварыць, і адразу стала весялей жыць.

З лістоўкамі хлопцы вырашылі зрабіць так. Кожную з іх, прабраўшыся ў чужы двор, яны будуць засоўваць у дзвярную шчыліну або ў паштовую скрынку, калі яна ў каго яшчэ захавалася.

Якімка, які ішоў першым, падняў руку. Гэта азначала: падрыхтавацца.

Паслухалі. Навокал было ціха, спакойна. Толькі сыры вецер шумеў у дрэвах. Якімка, а за ім Уладзік рушылі ў бок вуліцы. Вася астаўся вартаваць тыл.

Вось і двор. Тут жывуць Паплаўскія, свае, савецкія людзі. Каму-каму, а ім будзе вельмі радасна даведацца пра апошнія навіны з фронту.

— Стой тут,— шапнуў Якімка сябру,— назірай, а я — мігам.

Некалькі асцярожных крокаў уздоўж сцяны, і вось яны, дзверы. Якімка намацаў рукою шчыліну, хуценька сунуў у яе зараней складзеную ўчэцвера лістоўку і на насках адышоў назад.

Вася ўжо з нецярплівасцю чакаў сяброў.

— Доўга ж вы нешта,— папракнуў ён іх.

— Пабачым, як ты ўправішся,— сказаў Якімка.

Цяпер была Уладзікава чарга. Ён, а за ім, для страхоўкі, Вася пайшлі ў двор Міцкевічаў. Якімка астаўся вартавым.

Мінуты дзве пастаяўшы, ён зразумеў, чаму нерваваўся Вася. Цёмна, сыра. Трывожна шуміць у дрэвах вецер, палыхаюць за аколіцай мёртвым святлом ракеты. А ты адзін, сябры недзе там, у двары. Так і глядзі, што падыдзе зараз нехта ззаду, возьме цябе за каўнер і павядзе. Нават піснуць не паспееш...

Халодныя мурашкі прабеглі па спіне хлопчыка. Ён рэзка павярнуўся ў адзін бок, у другі.

Не, нікога...

А вось і хлопцы ідуць: хлюп, хлюп, хлюп... Далёка ўсё-такі чуваць, хоць і вецер. «Трэба будзе яшчэ асцярожней быць»,— вырашыў Якімка.

— Ну як? — запытаўся ён, калі Уладзік з Васем наблізіліся.

— Во! — паказаў Вася вялікі палец.— Цяпер — я іду.

Васю выпаў двор Кавальчукоў. Хата стаяла не пры вуліцы, як большасць у мястэчку, а ў глыбіні двара. Дабірацца да яе было проста. І Вася ішоў смела, без аглядкі. Але на паўдарозе раптам спыніўся як укопаны.

— Чаго стаў? — шкуматнуў сябра Якімка, які ішоў для падстрахоўкі.

— Чаго, чаго! У іх жа такі страшыдла Палкан...

— Яшчэ што выдумай,— ледзь не зарагатаў Якімка.— Ці ты забыўся, што немцы ўсіх сабак у мястэчку перавялі? У першы ж дзень...

— Цьфу ты,— збянтэжана плюнуў Вася.— І праўда, зусім з галавы выскачыла...

Двор за дваром наведвалі хлопцы і ва ўсіх пакідалі партызанскія лістоўкі.

Усе чатыры вуліцы абышлі.

І ніякіх прыгод з імі не адбылося, ніякай асаблівай небяспекі яны не сустрэлі.

Ужо можна было б і дамоў вяртацца. Але Якімка чамусьці марудзіў, не спяшаўся.

Уладзік з Васем пачалі падганяць яго:

— Пайшлі хутчэй. Там, дома, мусіць, зачакаліся ўжо. Можа, нават у пошукі кінуліся...

— А вы сказалі, што да мяне начаваць пойдзеце?

— Сказалі.

— Ну дык і няма чаго баяцца. Уначы ніхто з вашых бацькоў не адважыцца выходзіць на вуліцу. А калі часам і зойдзе хто да дзеда, не бяда. Я сказаў, што мы ўсе пайшлі спаць на сена. А на чыё, сказаць забыўся. Наўмысна. Так што ніякай панікі не будзе,— супакоіў сяброў Якімка.

— Усё роўна пара ўжо ісці. Справа зроблена.— Уладзік зрабіў крок у напрамку дома.— Хопіць тут тырчаць.

— Чакай,— спыніў яго Якімка.— Адгэтуль жа рукой падаць да паліцыі.

Уладзік і Вася ў недаўменні пераглянуліся.

— Адным словам, хлопцы, у мяне ёсць ідэя,— працягваў Якімка.

— І, вядома, бліскучая,— падкалупнуў яго Уладзік.

Не ведаю, мяркуйце самі,— мірна адказаў Якімка.— Справа ў тым, што ў мяне засталіся дзве лістоўкі, не выкідаць жа іх. Давайце прабяромся на плошчу і адну з іх прыклеім на агароджу паліцыі, а другую — на любы слуп. Вось раз'юшацца бобікі!..

— Не на слуп, а на дошку, дзе немцы свае «расстрэлы» вывешваюць,— унёс папраўку Уладзік.

— А клеіць будзем хлебам. У мяне цэлая луста ў кішэні,— сказаў Вася.

— І ў мяне ёсць. Мякіш. Я спецыяльна ўзяў з сабой.— Якімка быў рады, што сябры так хутка з ім згадзіліся. Інакш давялося б ісці на плошчу аднаму, а гэта вельмі небяспечна. Без падстрахоўкі там у любую мінуту могуць злавіць.

Да паліцыі прабіраліся з усімі перасцярогамі. Рабілі некалькі крокаў, прыціскаліся да сцяны дома або да плота і некаторы час, стрымліваючы дыханне, слухалі. Потым ішлі далей. Апошнія метры паўзлі на жываце. Добра яшчэ, што плошча знаходзіцца на самым высо-

кім месцы ў мястэчку, і снег тут гразі асабліва не нарабіў. А то прамоклі б наскрозь.

Нарэшце — «крапасная» сцяна паліцыі, а па-прастаму — агароджа. Вартавога перад ёй не відаць. Якімка падняўся на ўвесь рост і прыляпіў да бервяна першую лістоўку.

Папаўзлі назад. Ззаду усё было ціха. Перабеглі, сагнуўшыся і трымаючыся каля самых дамоў, на другі бок плошчы. Дошка для аб'яў была відаць здалёк. Наклееная на яе папера шматлікіх загадаў выразна бялела, нібы свяцілася ў цемені.

Прыляпіць лістоўку да дошкі — справа моманту. Але вось бяда — каля паліцыі з'явіўся вартавы. Нешта насвістваючы сам сабе, ён пачаў размерана праходжвацца ўзад-уперад.

Прыйшлося прыціснуцца да зямлі і чакаць. Чакаць доўга, можа, з паўгадзіны, а можа, і цэлую гадзіну, пакуль вартавы зноў не зойдзе ў двор.

Было халаднавата. І ці то ад холаду, ці то ад вялікага нервовага напружання хлопцаў пачалі праймаць дрыжыкі. У Якімкі дык ужо зуб на зуб не трапляў. Трэба было нешта рабіць. Не ляжаць жа вось так пластом усю ноч.

Калі вартавы нарэшце адвярнуўся і пачаў углядацца ў зацемненыя вокны паліцыі, Якімка пажаваў мякіш, намазаў ім лістоўку і знізу, прама з зямлі дацягнуўшыся да дошкі, моцна прыціснуў яе. Зашамацела папера.

Хаця вартавому да дошкі было далекавата, ён усё ж. відаць, пачуў шамаценне. Бо зрабіў некалькі крокаў наперад і крыкнуў:

— Стой! Хто там?

Хлопцы ляжалі ні жывыя ні мёртвыя.

— Хто там? Страляць буду!..

Ляжаць бы хлопцам, прытуліўшыся да зямлі, і не варушыцца. Вартавы пастаяў бы, паслухаў і, нічога больш не пачуўшы, падумаў бы, што яму здалося. А тады хлопцы паціхеньку запаўзлі б у першую брамку і — дай бог ногі.

Але ўсю музыку сапсаваў Уладзік. Заўсёды гарачы, ён і тут пагарачыўся. Нервы не вытрымалі. Падхапіўся і што было сілы кінуўся падалей ад дошкі. Якімку і Васю цяпер ужо нічога не аставалася, як таксама прыпусціць за ім.

А ззаду неслася:

— Стой, бандыты!.. Сто-ой!..

Адзін за адным прагрымелі тры стрэлы.

Трывога!

Хлопцы беглі, пераганяючы вецер. Беглі проста па вуліцы, хаця і стараліся прытрымлівацца ўзбочыны. Другой дарогі не было. Абапал цягнуліся высокія штыкетнікі і вароты, канечне, наглуха запёртыя ў гэтую начную пару.

А насустрач ім, прама па бруку, беглі з вінтоўкамі наперавес трое паліцэйскіх. Яны пачулі трывогу і спяшаліся на плошчу.

Кінуліся хлопцы ўлева — вароты ні з месца, кінуліся ўправа — тое ж самае. Адступілі крыху назад. І толькі тут Якімка адчуў, што брамка пад яго рукой лёгка паддаецца.

— За мной...— здушаным шэптам паклікаў ён сяброў.

Двор, у якім яны апынуліся, быў вялікі, але, як на тое ліха, пусты. Толькі ў заднім куце яго высілася дрывотня. Раздумваць не было калі. Хлопцы кінуліся за дрывотню.

Якімка лез апошнім. Перад тым як схавацца, ён яшчэ раз агледзеў двор і хату. З ганка спускалася дзяўчынка ў белай сукенцы. Дзяўчынка хуценька пабегла да брамкі, зачыніла яе на завалу і вярнулася на ганак. «Бачыла ці не? Бачыла ці не? Канечне, бачыла, не магла не бачыць. А што, як выдасць?!» — свідравала мазгі страшная думка.

У брамку моцна загрукаталі прыкладамі.

— Хто там? — спыталася дзяўчынка.

— Адчыняй! Паліцыя! — прагучаў з-за брамкі густы бас.

— А таты няма дома,— спакойна адказала дзяўчынка.— Ён, як і вы, на дзяжурстве.

— Ды гэта ж хата Сухоцкага,— сказаў за брамкай другі голас, маладзейшы.

— А-а,— прагудзеў бас.— Слухай, дочка, а да вас у двор не забягалі зараз якія чужыя?

— Не, што вы, брамка ж на завале...

— Ды хопіць табе, пайшлі хутчэй на плошчу,— нецярпліва сказаў маладзейшы,— трэба ж даведацца, што там...

— Хм, сваімі ж вачыма бачыў траіх,— зноў прагудзеў бас.

— Прытрызнілася з перапою, вось і ўбачыў,— умяшаўся трэці.—У мяне зрок дай бог кожнаму, і то я нікога не бачыў... Пайшлі.

Галасы паліцаяў паступова аддаляліся і аддаляліся, пакуль не заціхлі зусім.

Галя — а дзяўчынка ў светлай сукенцы была ніхто іншая, як Галя Сухоцкая — яшчэ крыху пастаяла на ганку, потым два разы кашлянула і пайшла ў дом.

Ох, гэты кашаль. Якімка добра ведаў, што ён азначае. Гэта быў стары ўмоўны сігнал: «Усё спакойна, можна ісці». Выдумала яго сама Галя. Выдумала яшчэ да вайны, калі яны ў атрадзе арганізавалі цімураўскую каманду, каб памагаць па гаспадарцы бабцы Грыпіне. Адзіны бабчын сын Андрэй загінуў у баі на возеры Хасан. Бабцы адной цяжка было ўпраўляцца па дому. Піянеры і вырашылі прыйсці ёй на дапамогу. Але ўпотайку, каб ніхто не бачыў. Словам, па-цімураўску. Так было цікавей.

Галя, як правіла, заходзіла ў бабчын двор першая. Дома бабка — адзін раз кашляне, не суньцеся, маўляў. Няма дома — два разы: можна ісці.

З-за дрывотні хлопцы выбраліся прама ў агарод. Агародамі і накіраваліся да Якімкі. Спацьляглі ў пуні на старым сене. Сена было збітае і трухлявае. Яно пахла мышамі. Але пасля перажытых трывог здалося лепшым за самую мяккую пярыну.

Заваліліся хлопцы і адразу заснулі як забітыя.

Толькі Якімка некаторы час яшчэ варочаўся. Ён думаў пра Галю.

— Вось табе і паліцайка, вось табе і прадажная шкура! — шаптаў хлопчык засынаючы.

Па твары Якімкі блукала светлая ўсмешка.

А скрозь шчыліны ў сценах сачыўся світанак. Світанак вясенні, Першамайскі.

## ПАЯДЫНАК

Разгортваўся ў раёне партызанскі рух, і ўсё горш станавілася гітлераўцам. Цяпер па шашы яны не ездзілі па адным. Адразу ішла цэлая калона. Спераду бранявік або лёгкі танк, за ім — аўтамашыны, а ў хвасце —

яшчэ адзін бранявік. Для аховы. На гаспадарчыя аперацыі — а іншымі словамі, гвалтоўна адбіраць у насельніцтва хлеб і жывёлу —акупанты таксама адпраўляліся толькі калонай.

Нельга сказаць, што такія перасцярогі вельмі ўжо стрымлівалі партызан. Яны мініравалі шашу, наладжвалі засады і абстрэльвалі калоны, і гітлераўцы ў глыбокім тыле адчувалі сябе не лепш, чым на фронце.

Больш за ўсё баяліся акупанты нападу на гарнізоны. Практыка паказала, што партызаны ўмеюць гэта рабіць. Дваццаць — трыццаць мінут шквальнага агню, некалькі гранат у нямецкія і паліцэйскія казармы, і гарнізон — нібы карова языком злізала. Так было з Багушэвічамі, так было з Поплавам, так было з Камен-Боркам, Загаллем, Пагостам.

Каб хоць як-небудзь зберагчы свае гарнізоны, асабліва тыя, што размяшчаліся ўздоўж шашы, фашысты ўзбройвалі іх да зубоў. Мала што ва ўсіх былі вінтоўкі, кулямёты, мінамёты. Кожнаму прыдалі па гармаце.

Атрымаў для падмацавання гармату і камендант перавозскага гарнізона стары гаўптман Кальтвасэр. Атрымаў, доўга хадзіў навокал, мацаў ствол, колы, смачна цмокаў языком і ўрэшце аб'явіў, што хоча асабіста выпрабаваць яе.

Пачуўшы пра гэта, салдаты забегалі, замітусіліся, пачалі запрагаць коней, падганяць збрую. Неўзабаве пара вялізных гнядых цяжкавозаў цягнула гармату за мястэчка на адкрытае месца. Другая пара была запрэжана ў артылерыйскую фурманку са снарадамі. Сам Кальтвасэр ехаў асобна, у сядле, на гэткім жа цяжкавозе, як і тыя, што цягнулі гармату. Выглядаў ён даволі нікчэмна — ну, чыстая малпа на слане.

Спыніліся на невялікім узвышэнні. Кальтвасэр уважліва агледзеў наваколле і паказаў пальцам, на якім быў тоўсты сярэбраны пярсцёнак са свастыкай, у бок Выгараў. Што яго прываблівала? Хутчэй за ўсё адзінокая прыгажуня — белая бяроза. Для артылерыста, які збіраецца біць прамой наводкай, гэта была выдатная мішэнь.

Салдаты знялі гармату з перадка і замацавалі станіны. Жэрла гаўбіцы глядзела цяпер прама на бярозу.

Кальтвасэр прагаўкаў каманду зараджаць. Потым, гледзячы ў акуляр прыцэла, доўга круціў ручкі гарызантальнай і вертыкальнай наводкі. Застыўшы ў напру-

жаным чаканні, саладаты не мігаючы глядзелі на магічныя дзеянні свайго гаўптмана. Яны хваляваліся. Пападзе ці не пападзе іх гаўптман у белую бярозу? Але больш за салдат хваляваўся сам гаўптман. Нават фіялетавым зрабіўся ад вялікіх перажыванняў. І не дзіва. Ён, стары артылерыст, абавязаны быў паказаць гэтым бязвусым смаркачам клас — вось так, маўляў, трэба біць. З першага стрэлу!

Нарэшце гаўптман узяўся за шнур і ўласнаручна тузануў яго. Грымнуў стрэл. Ірвануліся і прыселі на заднія ногі коні. Здрыгануўся і адкаціўся назад ствол гаўбіцы. Свідруючы паветра, паляцеў на Выгары снарад.

— Дакладна ці не? — сціснуў шчарбатыя зубы гаўптман.

Снарад, не патрывожыўшы нават першых кволых лісцікаў, праляцеў міма бярозы і разарваўся ў полі, далёка за Выгарамі.

— Яшчэ адзін! — стараючыся быць спакойным, скамандаваў Кальтвасэр.

Доўгае прыцэльванне, доўгае чаканне і зноў той жа вынік — снарад разарваўся далёка ў полі, толькі трохі правей за першы.

— Бог любіць тройцу,— цераз сілу ўсміхнуўся Кальтвасэр.— Зараджайце яшчэ.

Гэта ўжо была не каманда, а нешта падобнае на просьбу. І салдаты зразумелі свайго гаўптмана. Яны ўжо не чакалі ад яго нечага незвычайнага. Глядзелі на Кальтвасэра з маўклівым спачуваннем.

Трэці снарад лёг крыху бліжэй, чым першыя, але зноў-такі зусім не там, дзе хацеў стары артылерыст гаўптман Кальтвасэр. І гэта яго канчаткова вывела з раўнавагі. Ён загадаў біць па бярозе беглым агнём. Снарады, уздымаючы чорныя фантаны зямлі, ірваліся ў полі, на Выгарах, вываротвалі кусты...

А бяроза стаяла і стаяла, гордая, адзінокая прыгажуня — белая бяроза.

Нарэшце Кальтвасэру нясмела далажылі, што снарады, прывезеныя для прыстрэлкі гаўбіцы, скончыліся.

— Запрагай! — на ўсю глотку раўнуў гаўптман і ні за што ні пра што так ударыў бізуном свайго цяжкавоза, што той ледзь не выкінуў яго з сядла.

Вярталіся гітлераўцы з артылерыйскай стральбы, нібы з пахавання.

Асабліва незайздросны выгляд быў у пана каменданта. І без таго нягеглы, ён зусім згорбіўся, сагнуўся, быццам пастарэў яшчэ год на дзесяць.

Якімка, Уладзік і Вася, забраўшыся на страху калгаснага гумна, ад пачатку і да канца назіралі за практыкаваннямі няўдачлівых нямецкіх артылерыстаў. Яны бачылі, як ні з чым яны вярталіся ў гарнізон. Хлопцы шчасліва смяяліся. Так, яны былі па-сапраўднаму шчаслівымі. Бо над Выгарамі па-ранейшаму горда панавала іх змоўніца — белая бяроза.

— Малайчына, выстаяла! — хацелася гукнуць ёй.

Хлопцы вырашылі пасля абеду наведаць сваю любіміцу, пагладзіць яе шурпатую кару, паслухаць нясмелы шэпт першых зялёных лісцікаў, якія яшчэ не развiнуліся на поўную сілу. Заадно паглядзець, ці забралі партызаны з лісіных нор зброю. Бо тады, пры сустрэчы, дзядзька Хведар дакладна не сказаў, калі забяруць яе. І наогул нічога пра гэта не сказаў. Толькі падзякаваў і пашыбаваў у свой бок.

Бяроза, як і меркавалі хлопцы, стаяла некранутая. Толькі ў адным месцы, крыху вышэй Якімкавага росту, асколак пакінуў на кары неглыбокі след. А так ніводная галінка, нават нiводзін лісцік не ўпаў.

— Давайце лісіныя харомы глядзець,— першым кінуўся да бліжэйшай нары Якімка.

Ён да самага пляча засунуў у нару руку і нічога там не намацаў. Зброі не было. Значыць, партызаны забралі яе.

Агледзелі другія норы. І там было пуста. Ну і добра. Цяпер не будуць ляжаць вінтоўкі ды кулямёты мёртвым грузам. Партызаны ведаюць, дзе і як іх прымяніць.

З адной нары Вася выцягнуў шматок паперы. Разгарнуў яго і стрымана крыкнуў:

— Ура!

— Што такое?

— Запіска,— хутчэй выдыхнуў, чым сказаў, Вася.— Нам.

Запіска была кароценькая, напісаная простым карандашом: «Дзякую, што выканалі заданне. Чакаю на старым месцы. Д. Х.»

— Глядзі ты,— здзівіўся Уладзік,— ведае ўжо, што і заданне выканалі. Адкуль?..

— Партызаны, яны ўсё ведаюць,— глыбакадумна зазначыў Вася.— На тое яны і партызаны...

— Ладна, філосаф,— перапыніў яго Якімка.— Знішчай запіску ды пойдзем. Дзядзька Хведар мабыць зачакаўся ўжо.

І зноў, як і дзён дзесяць таму назад, ідуць хлопцы ў глыб Нягневіцкага лесу. Шуршыць пад нагамі мох, патрэскваюць сухія галінкі. А над галовамі шумяць, спяваюць сваю адвечную песню меднастволыя стромкія сосны.

Вось-вось пакажацца паласа буралому, а за ёй, кіламетры праз два, і знаёмая паляна, ля якой чакае хлопцаў дзядзька Хведар. Хутчэй бы ўбачыць яго, пагаварыць, даведацца, што новага на франтах. Даюць, мусіць, нашы немцам дыхту, калашмацяць па ўсіх правілах. Самі-то яны, праўда, пішуць, што наступаюць усюды — ад Ленінграда аж да Каўказа. Ды хлопцы ўжо ведаюць цану гэтай пісаніне. Паўгода трубілі, што ўжо Маскву ўзялі, а на паверку выйшла, што Масквы яны і ў вочы не бачылі...

Дзядзька Хведар сустрэў хлопцаў на паўдарозе. Яны яшчэ не наблізіліся да буралому, як ён выйшаў з-за тоўстай сасны і з усмешкай пашыбаваў сваім размашыстым крокам насустрач.

— Добры дзень, дзядзька Хведар! — здалёк прывіталіся хлопцы.

— Здаровы, здаровы, арлы! — працягваючы для поціску руку і шырока ўсміхаючыся, гаварыў дзядзька Хведар.— Малайцы, хвалю, заданне маё слаўна выканалі. Пастараліся, адным словам. За адно не магу пахваліць — за дошку аб'яў. На чорта яна вам была? Першы ж паліцай убачыў і парваў лістоўку. Хай бы лепш свой чалавек прачытаў...

Хлопцы пераглянуліся: усе падрабязнасці ведае!

— Гэта мы на злосць ім, дзядзька Хведар. Няхай ведаюць, гады, што савецкая ўлада не загінула і людзі не скарыліся,— насупіўшыся, сказаў Якімка.

— Яны, братка ты мой, і так усё гэта выдатна ведаюць, на ўласнай шкуры адчуваюць нашу, савецкую ўладу.— Дзядзька Хведар раптам весела, ад душы зарагатаў.— Ну і напалохалі ж вы іх! Суткі не маглі супакоіцца, усё чакалі, што пасля лістовак будзе нападзенне на гарнізон... І хто гэта з вас дадумаўся, на самую паліцыю лістоўку прыляпіць? Яна ж для іх страшней

за бомбу! Малайцы, героі! Толькі занадта рызыкаваць не раю.

Слухалі хлопцы дзядзьку Хведара і добра не разумелі, хваліць ён іх ці лае. Мусіць, і тое і другое адначасова. Хваліць, што заданне яны выканалі ўсё-такі вельмі добра, а лае, што, нягледзячы на яго папярэджанне не лезці на ражон, зрабілі па-свойму. Значыць, парушылі дысцыпліну.

— Вы іх, дзядзька Хведар, не лайце,— Якімка паказаў вачыма на Уладзіка і Васю.— Гэта я іх падбухторыў. Мяне аднаго і лайце...

— Ды я і не лаю вас. Хіба гэта лаянка? — паціснуў плячыма дзядзька Хведар.— Вось каб я за кій узяўся, тады ўжо другое. А так заўвагу толькі вам зрабіў, як у школе. Каб не распускаліся асабліва. А то ведаю я вас, жэўжыкаў,— і тут жа перамяніў тон.— Вось што, арлы мае, пагаварылі аб адным, цяпер давайце аб другім пагаворым. Скажыце, ці ведаеце вы, што гэта за штука такая — магнітная міна? Не ведаеце? І не бачылі ніколі? Ну дык глядзіце.— Дзядзька Хведар дастаў з кішэні прадаўгаватую металічную каробку.— Гэта і ёсць магнітная міна. Яе перавага перад звычайнай у тым, што тут усё на месцы: і тол, і дэтанатар, і баявая спружына з байком,— а самае галоўнае — заводнае прыстасаванне. Міну гэту можна прышлёпнуць да любога металічнага прадмета, металічнага збудавання, машыны, і яна не адарвецца. Магнітная. А ўзарваць яе можна — хочаш праз пяць мінут, хочаш — праз пятнаццаць, хочаш — праз паўгадзіны. Варта толькі перасунуць вось гэту штуку на адну лічбаў і выняць чаку — вось яна... Міна ў мяне вучэбная, ні толу, ні дэтанатара ў ёй няма. Так што небяспекай яна не пагражае. Можаце браць у рукі і рабіць з ёю ўсё што трэба. Ну, вось гэта — варожы танк,— паказаў на пень дзядзька Хведар.— Табе, Якімка, трэба ўзарваць яго праз пяць мінут. Што ты зробіш?

Якімка ўзяў у рукі міну, паставіў «штуку», што паказваў дзядзька, на дзяленне «5» і выняў чаку.

— Правільна,— адобрыў дзядзька Хведар.— Спачатку ўстанаўліваецца патрэбны час, потым ставіцца міна, і толькі пасля ўсяго гэтага вымаецца чака.

Услед за Якімкам «ставілі» міну Уладзік і Вася.

Вася зрабіў усё правільна, а вось Уладзік пагара-

чыўся і перш за ўсё выняў чаку. Дзядзька Хведар прымусіў яго некалькі разоў прарабіць усё спачатку.

— Ну, думаю, курсы вы прайшлі нядрэнна,— заключыў урэшце дзядзька Хведар.— А цяпер слухайце мяне. Даю вам чарговае баявое заданне, арлы мае...

Пад вечар сябры вярталіся дадому. Ішлі напрамкі полем, не спяшаючыся. У калашыне Якімкавых штаноў целяпалася прывязаная да шнурочка магнітная міна. Не тая, вучэбная, што паказваў дзядзька Хведар, а тая, што даў з сабой, сапраўдная. З толам і дэтанатарам. Свабодны канец шнурка Якімка трымаў у руцэ. Сустрэнецца небяспека, у любую мінуту шнурок можна выпусціць з рукі, і міна застанецца ляжаць да пары ў траве...

## ВЫБУХ НА ПЛОШЧЫ

Была нядзеля. Выхадны дзень.

Да вайны ў такія дні ў Перавоз з'язджаліся людзі з усіх навакольных вёсак. Падводы запруджвалі ўсю плошчу. А стракаты гаманлівы натоўп расцякаўся па вуліцах. Людзі заходзілі ў магазіны, выбіралі посуд, тканіны, прымяралі абутак, касцюмы, шапкі. На рынку ішоў бойкі гандаль. Прадавалі ўсё, чым толькі багатая была калгасная вёска. На шматлікіх падводах можна было ўбачыць і ладнага парсюка, які, уткнуўшыся ружовым пятачком у духмянае сена, самазадаволена рохкаў, і самаробныя ліпавыя лыжкі з прыгожымі ўзорамі на ручках, і капусную расаду, і гірлянды вэнджаных каўбас, якія апетытна пахлії часнаком, і звязкі пругкіх бярозавых венікаў, і падсушаныя трохкутнікі сыроў... Выбірай, што душа жадае.

Па даўняй традыцыі кірмашы па нядзелях адбываліся і пры немцах. Толькі не было ўжо таго вясёлага тлуму, як раней, не ламаліся вазы ад няхітрых сялянскіх тавараў. На плошчу збіралася шэсць-сем падвод, і амаль усе з адным і тым жа таварам — самаробныя гліняныя міскі, яловыя цабэркі ды бярозавыя венікі. Ні парасят, ні каўбас, ні сыроў нават у паміне не было. Ды і адкуль ім быць, калі немцы амаль усю жывёлу перавялі. Былі толькі яйкі. Куры дзе-нідзе яшчэ захаваліся.

Яйкі прывезці на рынак было вялікай праблемай. На ўсіх чатырох дарогах, што вялі ў мястэчка, стаялі нямецкія і паліцэйскія пасты. Вартавыя, калі хто праходзіў, абмацвалі яго з галавы да пят, а на падводах ператрушвалі ледзь не кожную саломінку. Які знаходзілі яйкі або кавалак жоўтага ёлкага сала, тут жа забіралі.

І ўсё ж людзям удавалася перахітрыць пранырлівых вартавых. Яны клалі яйкі пад двайны насціл у калёсах або падвязвалі кошыкі з імі пад ніз і так правозілі.

Яйкі былі адзіным таварам, на які можна было выменяць соль. А соль мелі толькі фрыцы. Яны добра ведалі пра гэта і таму рабілі, што хацелі. За гранёную шклянку солі бралі тры дзесяткі яек. Не хочаш — не трэба. Нізавошта аддасі. Выхапіць з рук і пайшоў. І людзям, якія ў мірны час за гэтыя самыя тры дзесяткі яек маглі купіць сама мала сотню шклянак солі, прыходзілася трываць.

Яны, тоячы гнеў, аддавалі яйкі і бралі шэрую, напалам з пацярухай, соль.

А што зробіш? Дзе возьмеш соль? Жыць жа неяк трэба...

Як і ў кожную нядзелю, Якімка, Уладзік і Вася зранку ацірaліся на базары. Яны налічылі ўсяго восем падвод.

Не густа. Пачалі заглядваць у вазы: што прадаюць людзі? Ну, вядома, усё тыя ж самыя міскі, цабэркі, венікі.

— Можа, сала ёсць? — спытаў Уладзік у пажылой жанчыны, захутанай у чорнае радно.

Жанчына горка ўсміхнулася.

— Было, дзеткі, ды сплыло. З вадой,— яна махнула рукой у бок Бярозы-ракі.

— А яйкі? — не адставаў Уладзік.

— А соль у цябе ёсць? — пытаннем на пытанне адказала жанчына.— Калі ёсць, дык я табе за шклянку не тры дзесяткі, а болей дам.— І сама сабе прамармытала: — Чым чорту лысаму аддаваць, хай лепш свае людзечкі з'ядуць...

— Што ты чалавеку галаву тлуміш? — папракнуў сябра Якімка і зірнуў на жанчыну: — Няма ў яго, цётка, солі, гэта ён так, прыцэньваецца...

Хлопцы падышлі да другой падводы, да трэцяй. Га-

ворка ўсюды была адна: дай соль. Дзяды патрабавалі тытунь у абмен на свае тавары. Грошай, асабліва нямецкіх марак, ніхто не хацеў браць. І калі адзін паліцай пачаў настойліва соваць дзеду маркі і гаварыць, што, не прызнаючы нямецкіх грошай, дзед тым самым не прызнае гітлераўскага «новага парадку», стары спакойна адказаў:

— А ў мяне такі парадак: даў грошы, дык дай і купіць за іх, што мне трэба. А так куды я іх дзену, хіба толькі за хлеў схаджу.

— Дык жа мне за службу толькі такімі грашыма і плацяць,— адказаў паліцай.

— Мусіць, служба твая такая,— стараючыся надаць голасу спачувальны тон, зазначыў стары.

Не знайшоўшы, што адказаць, паліцай адышоўся.

З боку моста пачуўся рокат матораў. Рокат нарастаў, набліжаўся. У мястэчка ішла вялікая нямецкая калона. Людзі паспешліва запрэглі коней і, насцёбваючы іх, раз'ехаліся ў розныя бакі. Плошча апусцела. Толькі трое сяброў далёка не пайшлі. Яны захінуліся за высокі паркан і пачалі пільна прыглядацца, што гэта за калона і хто з ёй прыбыў.

Першым на плошчу выскачыў сярэдні танк. Ён крута развярнуўся і спыніўся. За ім выпаўзалі машыны — адна, дзве, тры, восем, адзінаццаць. Яны таксама разварочваліся і ўшчыльную адна да адной станавіліся вакол плошчы. Свабодным заставаўся толькі цэнтр.

Задыміла паходная кухня. У паветры запахла смажанай цыбуляй і перцам.

— На абед спыніліся,— шапнуў сябрам Якімка.— Мусіць, тыя самыя, што дзядзька Хведар казаў. Я пабег дамоў.

— Толькі хуценька,— нецярпліва зірнуў на яго Уладзік.

— Я — мігам. А вы назірайце.

Пакуль Якімка бегаў туды ды назад, гітлераўцы ператварылі плошчу ў сапраўдны стадыён. Яны размецілі прадаўгаваты прамавугольнік і забілі па вуглах колічкі, якія павінны былі азначаць граніцы футбольнага поля. Загнаўшы ў зямлю чатыры вялікія калы, зрабілі футбольныя вароты. Потым распрануліся і пачалі гуляць.

Гулялі немцы няўмела, але з вялікім азартам. Па мячу білі так, што ён ляцеў чорт ведае куды. Адзін з

ігракоў выпадкова трапіў у акно дома, што стаяў на плошчы. Шыбы са звонам пасыпаліся. Немцы весела зарагаталі. Удар ім яўна спадабаўся. І яны па чарзе пачалі біць па астатніх двух вокнах, якія глядзелі на плошчу. «Спаборнічалі», пакуль не разбілі і іх. Тады гульня зноў пайшла на полі.

Прыбег, засопшыся, Якімка.

— Узяў? — павярнуліся да яго Уладзік з Васем.

— Узяў. А тут што?

— Гуляюць.

Якімка зірнуў праз шчыліну ў паркане і рашуча накіраваўся на плошчу.

— Пайшлі. Вунь, бачыце, гледачы ўжо стаяць. Далучымся пакуль што да іх. А там будзе відаць.

На другім баку плошчы стаяла некалькі паліцэйскіх, сярод іх быў і Сухоцкі, і тры незнаёмыя хлапчукі. Ні Якімка, ні Уладзік з Васем іх не ведалі. Відавочна, з нейкай вёскі на рынак прыехалі. На немцаў яны пазіралі спадылба.

Хлопцы выйшлі з-за паркана і не спяшаючыся, скіравалі да «балельшчыкаў». Якімка ішоў у цэнтры. Правая рука яго была ў кішэні. Ён трымаў шнурок, да якога была прывязана важкая магнітная міна.

Незнаёмыя хлапчукі сустрэлі сваіх мястэчковых аднагодкаў насцярожана, нават варожа. Іх калючыя позіркі ў бок Якімкі, Уладзіка і Васі так і гаварылі: «Прыйшлі на сваіх гаспадароў любавацца? Ну-ну, любуйцеся! Захапляецеся іх гульнёй? Захапляйцеся!»

А хлопцы і сапраўды захапляліся. Яны ажыўлена, можа, нават занадта ажыўлена, рэагавалі на кожны ўдалы ўдар па варотах, на кожную больш-менш правільную перадачу мяча.

— Здорава! — скакаў на месцы Уладзік.

— Правільна, штука! — крычаў Вася.

Махаў свабоднай рукой і Якімка.

— Вось так, па варотах! — пранізліва крычаў ён.

Футбалістам гэта вельмі падабалася. Яны пазіралі на Якімку. Уладзіка і Васю з адабрэннем, нават усміхаліся ім. Затое незнаёмыя хлапчукі глядзелі на сваіх мястэчковых аднагодкаў з адкрытай нянавісцю.

— Падлізы! — не вытрымаў адзін з іх, чарнавалосы, вышэйшы за астатніх. У яго быў тонкі, бледны твар.

Хлопцы зрабілі выгляд, што не пачулі яго.

А мяч гухкаў, звінеў. Ён то свечкай узмываў угору,

то ляцеў зусім у другі бок і трапляў пад машыны. Тады з месца зрываліся Уладзік або Вася, даставалі з-пад машыны мяч і неслі яго прама ў рукі ігракам.

— Прыслужнікі нямецкія!..— шыпелі незнаёмыя хлапчукі.

Але іх па-ранейшаму ніхто не хацеў чуць.

Адзін з ігракоў моцным ударам загнаў мяч пад танк. Уладзік штурхнуў Якімку, і той, сарваўшыся з месца, вопрамеццю кінуўся ўслед за мячом. Вось ён лёг на жывот, вось, звіваючыся вужакай, падпоўз пад танк і знік там.

— Раз, два, тры, шэсць,— пачаў адлічваць секунды Уладзік, а Якімка ўсё не вылазіў.

— Шнэль, русіш, шнэль! — закрычаў цыбаты варатар і падыбаў да танка.

Уладзік адчуў, як у яго грудзях непрыемна пахаладзела, Вася каўтаў і не мог пракаўтнуць сліну...

— Дванаццаць, чатырнаццаць...— машынальна шапталі Уладзікавы губы.— Дзе ж ён? Што так доўга?..

Нарэшце! Вось з-пад танка паказаліся Якімкавы ногі, а вось і ён сам...

Якімка вылез увесь вымазаны ў пыл і мазут. У руках ён трымаў мяч. Убачыўшы хлопца ў такім выглядзе, немцы паднялі дзікі рогат. Аж вераб'і з перапуду разляцеліся куды каторы.

Вясковыя хлапчукі таксама адкрыта, з асалодай рагаталі. Так, маўляў, табе і трэба. Не прыслужвай немцам.

Якімка падышоў да сяброў і, размазваючы рукавом брудны пот па твары, стомленым голасам сказаў:

— Пабеглі на рэчку мыцца. А то мяне дамоў не пусцяць.

— Пабеглі! — весела падхапіў Уладзік.

І яны прамчаліся ў бок ракі. Немцы з жалем глядзелі ўслед хлопцам. Ім было шкада астацца без такіх ярых балельшчыкаў, а галоўнае, без памочнікаў. Цяпер самім давядзецца лазіць па мяч пад машыны. Тым больш, што і маўклівыя хлапчукі пакінулі плошчу і пайшлі за тымі, жвавымі.

Якімка, Уладзік і Вася спусціліся да ракі, прайшлі берагам аж да царквы і там ускарабкаліся па абрыву наверх.

Мыцца ў рацэ Якімка не стаў.

— Дома вады хопіць,— сказаў ён.

— На колькі паставіў? — спытаў Уладзік.

— На дваццаць мінут.

— Пара б ужо,— Уладзік паглядзеў у бок плошчы.

— Пара,— рэхам адклікнуўся Вася.

Хлопцы падышлі да царкоўных могілак і спыніліся. Насустрач ім у зласнай маўклівасці павольна рухаліся вясковыя хлапчукі. Тыя самыя, што былі на плошчы. У руках яны трымалі тоўстыя палкі. Сумнення быць не магло — наспявае бойка.

— Прыслужнікі нямецкія! — грозна сказаў чарнавалосы. Тонкія яго ноздры нервова ўздрыгвалі.

— Шкуры! — падкрэсліў другі.

— Мы як зараз дадзім вам! — ваяўніча замахнуўся палкай трэці, самы меншы.

Гэта было зусім нечакана. Хлопцы разгубіліся. Яны не ведалі, як ім быць. Уступаць у бойку — недарэчна: свае ж, савецкія. Уцякаць — баязліўцамі палічаць. Расказаць аб усім папраўдзе — ніяк няможна, тайна.

А незнаёмыя хлапчукі падыходзілі, размахваючы палкамі, усё бліжэй і бліжэй.

— Ну што, баіцеся? Адступаеце? — крычалі яны.— Там, каля немцаў, храбрымі былі, а тут — у кусты?!.

— Дурні вы,— спакойна сказаў Вася.— Калі біцца, дык мы вас так адкамечым, што мамы не пазнаюць,— і паказаў свой вялікі кулак.

— А ты падыдзі, падыдзі!..

— І падыду, толькі навошта нам біцца? — усё гэтак жа спакойна сказаў Вася.

— А на тое, што ты здраднік!

— Я?

— Ты!

— Я?!.

Адказу ні Вася, ні хто другі не пачуў. У цэнтры мястэчка, там, дзе была плошча, высока ўгору ўзняўся слуп агню і чорнага дыму. Усё навакол страсянуў неаглушальны выбух. Потым ірванула яшчэ і яшчэ, нешта загарэлася. Бесталкова заляскалі стрэлы.

Якімка паглядзеў на спалоханых «ворагаў» і крыкнуў:

— Чаго стаіце, разявы?! Уцякайце, пакуль не позна!..

Доўга ўгаворваць незнаёмых хлапчукоў не прыйшлося. Яны, як па камандзе, кінуліся за могілкі і праз якую мінуту былі ўжо далёка ў полі.

Якімка, Уладзік і Вася забраліся ў густы прыбярэжны лазняк і прасядзелі там аж да вечара. Вяртацца за́відна дамоў было боязна — як-ніяк, а іх бачылі перад выбухам на плошчы.

А там яшчэ доўга нешта рвалася, трашчала, гарэла. Хутчэй за ўсё, узрываліся боепрыпасы, што везлі на машынах немцы...

## КАТАПУЛЬТА

Апошнія дні ў мястэчку толькі і гаварылі, што пра выбух на плошчы. Адны прыпісвалі выбух партызанам: маўляў, пакуль немцы гулялі ў футбол, тыя падкраліся і замініравалі танк; другія сцвярджалі, што вінаваты самі гітлераўцы — зрабілі ў танку нешта не так, ён і ўзарваўся; трэція — хаця іх была меншасць — былі за тое, што ні партызаны, ні немцы тут ні пры чым. Нават даводзілі, што ў свой час бачылі, як цэлыя ваенныя склады ўзрываліся самі па сабе. Такую, маўляў, уласцівасць мае ўзрыўчатка — ляжыць, ляжыць ды і вухне.

Але як бы там ні было і што б там ні гаварылі людзі, а на Перавозскай плошчы засталіся стаяць на мёртвым якары танк і восем цяжкіх ваенных грузавікоў. Толькі тры ■ іх, тыя, што стаялі воддаль, уцалелі.

Некаторы час хлопцы пабойваліся хадзіць на плошчу: а раптам хто з паліцаяў, што былі тады там, убачыць іх і ўспомніць, як Якімка залез пад танк і доўга не паказваўся!.. Але з цягам часу ўсе страхі ўляглiся, і хлопцы адважыліся нарэшце схадзіць на плошчу.

Дарогу, як і заўжды ў апошні час, выбралі па гародах. Так спакайней. Хоць не наткнешся на п'янага Міністра.

Калі былі ўжо недалёка ад плошчы, Вася спыніў сяброў:

— Глядзіце сюды.

Пад плятнём, у густым зарасніку крапівы і быльнягу, жаўцеў, нібы гарбуз, футбольны мяч. Той самы мяч, які перад выбухам ганялі на плошчы немцы. Было дзіўна, як ён сюды мог трапіць? Між плошчай і плятнём стаялі густой сцяной высокія ліпы. Ад удару нагой мяч праз такую сцяну нізавошта не прабіўся б. Для гэтага спатрэбіўся б удар нечалавечай сілы. Хутчэй за ўсё мяч занесла ў агарод магутнай выбуховай хваляй.

Вася спрытна расшнураваў скураную пакрышку, выпусціў з камеры паветра і, сплюшчыўшы мяч, засунуў яго за пояс.

— Дабро ёсць дабро,— шырока ўсміхнуўся ён сябрам.— Не прападаць жа яму тут, пад плятнём.

Плошчу цяпер было не пазнаць. Яна неяк павузела, паменшала. Увесь той край, дзе стаяў танк, а абапал яго машыны, быў завален грудамі абгарэлага металу. Ад танка засталася толькі каробка. Вежа з гарматным ствалом ляжала ўбаку, метраў за пяцьдзесят. Ад машын наогул нічога не асталося — адны знявечаныя шкілеты. Відаць, ад міны ўзарваліся снарады ў танку. Яны і вырвалі вежу. А потым заняліся і машыны, што стаялі паблізу.

У цэнтры плошчы ў некалькі радоў выстраіліся свежанасыпаныя пагорачкі з бярозавымі крыжамі і касками ля іх падножжа. Якімка налічыў шаснаццаць крыжоў.

Чаго-чаго, а такога ні ён, ні Уладзік з Васем не чакалі. Дзядзька Хведар, які загадзя ведаў, што калона будзе следаваць цераз Перавоз, сказаў ім, даючы заданне, толькі пра танк. І то строга наказваў: «Цяжка будзе — не лезьце, знойдзем, дзе скарыстаць магнітку». А тут — не толькі танк, але і грузавікі, і жывая сіла!..

Гэта было здорава!

Вярталіся хлопцы з плошчы ў радасным узбуджэнні. Настрой быў такі, што хоць ты ўпрысядкі ідзі.

Неяк апаўдні ў Якімкаву брамку пастукаўся старац. Нямала іх паявілася на нашай зямлі, як прыйшлі гітлераўцы. Жабравалі і старыя, і малыя, і здаровыя, і калекі. Старац, які зайшоў у Якімкаў двор, быў зусім ужо згорблены дзядок. Ростам Якімка быў вышэй за яго амаль на паўгалавы. Барада ў дзядка была зусім белая, твар — увесь у глыбокіх карычневых зморшчынах. Адны толькі дзедавы вочы глядзелі па-маладому ярка і хітра-хітра.

Якімка правёў дзядка ў хату, пасадзіў на лаву, а сам пачаў глядзець, што б яму такое даць у торбу. Дзядок пільным позіркам акінуў хату і нечакана зычным голасам спытаў:

— Акрамя цябе дома ёсць хто?

— Не,— здзіўлена паглядзеў на яго Якімка.— Дзед

яшчэ зранку пайшоў да суседзяў. Дровы памагае пілаваць... А чаму вы пытаеце?

— Хто пытае, той не блудзіць,— адказаў стары і дастаў з лапця невялічкі шматок паперы.— Чытай.

Почырк быў знаёмы, нават каранадаш і папера знаёмыя — запіска ад дзядзькі Хведара: «Дзякую. На чарзе — бензасховішча. Перш за ўсё — асцярожнасць. Д. Х.».

— Прачытаў? Запомніў? Цяпер дай сюды.

Ён узяў запіску і, пстрыкнуўшы зробленай з вінтовачнай гільзы запальнічкай, падпаліў яе. Калі запіска дагарэла, попел расцёр у далонях і здзьмухнуў на прыпечак.

— Усё ўразумеў? — зірнуў на Якімку дзядок.

— Усё, толькі...

— Толькі міны няма? Ёсць,— дзядок развязаў аборыну, на якой трымаліся яго зрэбныя штаны, каўзануў рукой у штаніну і дастаў магнітную міну.— Новенькая. Хавай. А я пайшоў.

Не развітаўшыся, ён выйшаў на двор і паклыпаў да брамкі.

Якімка так і не паспеў больш нічога спытаць.

Вечарам, сабраўшыся ў Якімкавай пуньцы, хлопцы абмяркоўвалі план узрыву бензасховішча.

Уладзік прапаноўваў самае простае. На тэрыторыю бензасховішча часта заходзяць запраўляцца ваенныя машыны. Прыляпіць да адной з іх магнітку, машына завязе яе, сама падарвецца, а ад яе пачнуць узрывацца цыстэрны...

— Проста-то яно проста,— сказаў Якімка,— але не зусім надзейна. А што, калі машына будзе запраўляцца не пятнаццаць мінут, на якія разлічана міна, а ўсяго дзве або тры? Гэта адно. Другое: машына можа спыніцца не абавязкова каля цыстэрны з бензінам, а дзе-небудзь воддаль... І ў першым і ў другім выпадку з нашай аперацыі выйдзе пшык...

Вася пагадзіўся з Якімкам і прапанаваў свой план. Ён таксама быў просты і нават зручны. Зайсці да бензасховішча з тылу і зашпурнуць міну прама пад самую большую цыстэрну. А варта толькі ёй узарвацца, як і ўсе астатнія ўзляцяць у паветра.

Але і тут у Якімкі ўзнікла шмат пытанняў. Ці можна блізка падысці да сховішча? Як яно ахоўваецца? На якой адлегласці ад агароджы знаходзіцца цэнтральная,

самая вялікая цыстэрна? Ці здолее хто з іх кінуць міну далей як на пятнаццаць — дваццаць метраў? Міна ж нялёгкая...

Гаварылі, гаварылі хлопцы, ды так ні да чаго і не дагаварыліся

Парашылі сабрацца з гэтага поваду заўтра, а пакуль што думаць і думаць. Можа, у каго народзіцца сапраўды добры план.

Калі сабраліся назаўтра, аказалася, што ніхто нічога талковага так і не прыдумаў. Тады Якімка прапанаваў падысці як мага бліжэй да бензасховішча і паназіраць, што там робіцца. А раптам адкрыецца якая-небудзь магчымасць прабрацца за агароджу.

Нямецкае бензасховішча размяшчалася за мястэчкам, на месцы былой эмтээсаўскай нафтабазы. Тыя ж цыстэрны, тыя ж бакі, тыя ж склепы. І папераджальныя таблічкі тыя ж: «Курыць забараняецца». Толькі бензін цяпер у гэтых цыстэрнах і склепах быў не той і парадкі на базе не тыя. Раней на базу гаспадарамі заязджалі эмтээсаўскія шафёры, трактарысты і адпраўляліся адсюль у дарогу. Цяпер тут гаспадарылі чужакі. Савецкім людзям заходзіць на базу забаранялася. Раней база была абгароджана невысокім парканам. Цяпер на месцы паркана стаялі высокія падвойныя слупы, між якімі зwіваўся ў хітрых перапляценнях калючы дрот. Па-за дротам была выкапана канава — глыбінёй метра на паўтара, а шырынёй больш за два. Раней сюды толькі на ноч прыходзіў вартаўнік, стары глухаваты Пракоп. Цяпер круглыя суткі вакол бензасховішча дыбалі на сваіх жураўліных нагах два аўтаматчыкі. Нават на немцаў яны паглядалі з вялікай падазронасцю. А што ўжо гаварыць пра мясцовых жыхароў!.. Іх і на гарматны стрэл сюды не падпускалі.

Доўга ляжалі хлопцы ў кустах, што раслі метраў за пяцьдзесят ад бензасховішча, доўга назіралі, як пад'язджаюць і ад'язджаюць чужыя плямістыя машыны, але ніякай магчымасці пранікнуць на тэрыторыю сховішча яны не ўбачылі.

Так ні з чым і пабрылі дамоў.

Ішлі моўчкі. Гаварыць не хацелася, ды і не было аб чым. І без лішніх слоў было зразумела, што на гэты раз заданне дзядзькі Хведара ім не выканаць. Не па зубах арэшак.

Але ці канчатковы гэта вывад?

Няўжо так і зміряцца яны са сваім паражэннем? Няўжо так і не здолеюць абхітрыць фрыцаў? Не можа гэтага быць. Павінна ж знайсціся нейкае выйсце з гэтага праклятага тупіка...

Ужо другую ноч не спаў Якімка. Не давала спакою думка, што дні ідуць, дзядзька Хведар чакае ад іх добрай вестачкі, а яны так нічога і не зрабілі...

Не спаў і Уладзік, не спаў Вася. Дзесяткі розных планаў прыдумвалі яны, але ўсе аказваліся нерэальнымі, а часам і недарэчнымі.

Так. Не па зубах, мусіць, усё-такі арэшак.

— Хоць ты катапультай міну запускай, як старажытныя рабілі,— панура пажартаваў Вася, калі яны сустрэліся назаўтра.

Якімка паглядзеў на сябра звар'яцелымі вачыма. Глядзеў доўга, потым падхапіўся:

Паслухай! Дык гэта ж ідэя!

— Угу,—з'едліва зазначыў Уладзік.— Зараз зробім катапульту і прама адсюль запусцім на бензасховішча міну. Во наробім на гары гразі...

— Лапух,— бяскрыўдна адказаў Якімка.— Паслухай спачатку, а тады ўжо будзеш смяяцца...— І звярнуўся да Васі: — Футбольны мяч ты захаваў?

— Захаваў...

Такога немцы не бачылі яшчэ ні разу. На роўным гладкім полі за бензасховішчам тры хлопчыкі гулялі з мячом. Савецкія дзеці, амаль дзікуны, і — еўрапейскі мяч! Гэта ніяк не ўкладвалася ў немцаў у галаве. Там, у Германіі, салдатам фюрэра ўвесь час цвярдзілі, што ў краіне бальшавікоў простыя людзі могуць толькі працаваць. Адпачываць, а тым больш гуляць у спартыўныя гульні, сурова забаранялася. За гэта ледзь не ў Сібір высылалі...

І вось, аказваецца, яны ўсё-такі гуляюць. Прытым зусім нядрэнна. Пасуюцца, прымаюць мяч на галаву, на грудзі, трапна б'юць па варотах, зробленых з двух каменяў. Та-ак, толк у гульні яны ведаюць, нічога не скажаш...

Хлопчыкі пагулялі, і самы высокі з іх, вяснушкаваты бландзінчык, паказаў сябрам на сонца. Другі, чарнявы, узяў мяч у рукі і хацеў несці. Але вяснуш-

каваты выбіў мяч з яго рук і пагнаў перад сабою нагамі.

Іншы раз у яго з-пад ног выхопліваў мяч хто-небудзь з сяброў, і тады завязвалася вясёлая тузаніна.

Завязалася тузаніна і насупраць увахода на бензасховішча. Вяснушкаваты вёў мяч. Па-майстэрску падымаў яго ўгору, прымаў на галаву, потым на насок бацінка і зноў — угору. Раптам наперад выскачыў другі падростак — той самы, чарнявы — і прама з-пад ног у вяснушкаватага забраў мяч. Пачалася барацьба. Кожны стараўся авалодаць мячом. І перамог бы, напэўна, вяснушкаваты. Але тут умяшаўся трэці, худзенькі, парывісты. Ён нечакана ўдарыў па мячу з такой сілай, што той узвіўся высока-высока, а потым, апісаўшы прыгожую дугу, упаў непадалёк ад вялікай цыстэрны.

Хлопчыкі спыніліся. Пастаялі, пагаварылі аб нечым між сабой і нясмела накіраваліся да вартавога. Вартавы знакам загадаў ім стаяць на месцы і, аберуч трымаючыся за аўтамат на грудзях, падышоў сам.

— Панок, аддайце мяч. Мы вам яек прынясём. Аддайце...— заканючылі адразу ўсе трое.

— Яйко — гут, корошо, давай яйко,— немец працягнуў руку.

— З сабой няма,— паляпаў вяснушкаваты па пустых кішэнях.— Дома яйкі,— паказаў ён у бок мястэчка.— Мы вам прынясём. Зараз. Многа прынясём, філе. Толькі мяч аддайце...

— Філе яйко — корошо, гут. Давай філе яйко.— Немец павярнуўся да другога вартавога і штосьці спытаў. Той махнуў рукой у знак згоды.

Тады вартавы падышоў да варот бензасховішча, прыадчыніў іх і, тыцнуўшы пальцам у вяснушкаватага, гаркнуў:

— Бістро!

Вяснушкаваты пабег. Каля вялікай цыстэрны ён незнарок ударыў па мячу, і той пакаціўся аж пад цыстэрну. Але хлопчык адным рухам выхапіў яго і пабег назад. Каля вартавога, запыханы, спыніўся.

— Бістро нах гаўс, домой, бістро яйко! — прыкрыкнуў немец.

— Будуць вам яйкі, панок, скора,— весела бліснуў вачыма вяснушкаваты.

— Скоро,— задаволена паўтарыў немец.

Тройка хлопчыкаў прыпусціла бягом.

— Паспеў? — на хаду спытаў белагаловы.

— Паспеў,— адказаў вяснушкаваты.— Я яшчэ як туды бег, усё падрыхтаваў.

— На пятнаццаць?— павярнуў галаву худзенькі хлопчык.

— Угу.

У пачатку вуліцы, што вяла ў мястэчка, дарогу ім перагарадзіў Сухоцкі.

— Вы што так бяжыце, быццам на пажар? — запытаўся ён.

— Немцы па яйкі паслалі,— раптам асіплым голасам адказаў вяснушкаваты.

— Ну-ну, бяжыце,— паліцэйскі пайшоў да сваёй будкі.

Далей хлопцы ішлі павольна. Трывожна было на сэрцы. І трэба ж было якраз у гэты самы момант натрапіць на гэтага бобіка Сухоцкага. Ён іх усіх як аблупленых ведае...

Роўна праз пятнаццаць мінут пасля таго як тройка хлопцаў— а гэта былі Якімка, Уладзік і Вася — мінула паліцаеўскі пост, дзе стаяў Сухоцкі, ва ўсіх хатах мястэчка бездапаможна дзынкнулі шыбы. З боку, дзе знаходзілася бензасховішча, дакаціўся разложысты грукат, і над аколіцай высока ў неба ўзняўся высачэзны слуп агню.

Здарылася гэта вечарам.

А потым ўсю ноч шугаў над бензасховішчам пажар.

Немцы яго не тушылі.

Усё роўна не затушыш.

А ў Якімкавай пуні на сене ляжалі з шырока расплюшчанымі вачыма трое сяброў.

— Няўжо збылося? Няўжо?— раз за разам паўтараў Уладзік. Яму ўсё яшчэ не верылася, што з бензасховішчам нарэшце пакончана.

## АБЛАВА

Партызанскія лістоўкі на плошчы, а таксама выбух, ад якога загінула столькі жывой сілы і тэхнікі, выклікалі ў немцаў першае падазрэнне, што ў мястэчку дзейнічае падпольная група. Пасля выбуху на бензасховішчы яны ў гэтым ужо ні кропелькі не сумняваліся.

Група падпольшчыкаў, на іх думку, складалася з вельмі вопытных дыверсантаў, якія прайшлі спецыяльную школу падрыхтоўкі. Бо хто, як не вопытны, з вялікім стажам дыверсант, здолее ва ўсіх на вачах замініраваць танк або цыстэрну?..

Камендант гарнізона гаўптман Кальтвасэр аддаў загад правесці ў мястэчку павальныя вобыскі.

У той дзень з Перавоза нікога не выпускалі. А тых, хто ішоў у мястэчка, затрымлівалі і адпраўлялі да асобага разбору ў турму. Турмой немцы зрабілі былы склад сельпо з жалезнымі кратамі на вокнах.

Хадзілі з вобыскамі па чацвярых — тры немцы і адзін паліцай. Немцы шукалі, а паліцаі былі нечым накшталт перакладчыкаў...

У Якімкаву хату таксама ўваліліся чацвёра — тры немцы, а з імі Сухоцкі. Не здароваючыся, не пытаючы дазволу ў гаспадароў, немцы пачалі трэсці сяннік на ложку, заглядвалі ў кухонную шафку, у падпечак, нават за абраз, што для адводу вачэй павесіў дзед Лук'ян, калі прыйшлі акупанты.

Нідзе нічога такога, за што б можна было палічыць дзеда падпольшчыкам, немцы не знайшлі.

— Ком!— сказаў нарэшце старшы групы і ступіў за парог.

Але адзін з салдатаў кінуў позірк на падлогу і, заўважыўшы каля ложка вечка склепа, паклікаў старшага назад.

— Вас іст дас? — паказваючы на вечка, павярнуўся да дзеда старшы.

— Што гэта?— пераклаў Сухоцкі.

— Ну што? Бульба там, буракі,— дзед ярка-ярка паглядзеў на паліцая.

— Адчыняй!— загадаў Сухоцкі і рушыў да склепа.

Але немец апярэдзіў яго і, бесцырымонна адціснуўшы ўбок, сам палез у склеп. Ён уключыў ліхтарык і пачаў метадычна абстукваць сцены. Кожную дошку перастукаў, кожны сучок агледзеў. Дошкі адклікаліся глуха, на сучках была старая некранутая цвіль. Як быццам нічога падазронага. Немец пасвяціў сабе пад ногі. Таксама нічога асаблівага: бульба, буракі, морква, бочка з гуркамі. Для парадку немец пашнарыў праменьчыкам ліхтара пад падлогай. І там, акрамя смецця, што прасыпалася праз шчыліны ў маснічынах, нічога не было відаць.

Дзед стаяў згорблены і, не варушачыся, глядзеў на адкінутае вечка.

Старшы вылез са склепа, абтрос шынель і пайшоў да выхада. За ім выйшлі астатнія.

Дзед Лук'ян пачаў скручваць цыгарку. Але як ні стараўся, нічога ў яго не выходзіла. Папера рвалася, махорка рассыпалася. У дзеда моцна дрыжалі рукі. І Якімка ведаў чаго: дзед вельмі баяўся, каб немец не знайшоў у склепе «мыла» і шнур. Што гэта за «мыла» і што за шнур, ён ужо добра ведаў. Не ведаў толькі аднаго: дзе ўсё гэта дабро мяркуе скарыстаць дзед Лук'ян. «Хоць бы цяпер сказаў»,— думаў Якімка, скручваючы дзеду цыгарку.

Прызнацца, Якімка таксама нямала перажыў, пакуль немец корпаўся ў склепе. Але рукі ў яго не задрыжалі. Толькі па нагах разлілася млявасць.

На двары немцы і Сухоцкі перагаргатнуліся і пайшлі ў хлеў, потым — у сад. У садзе яны праколвалі зямлю шампаламі. Больш за ўсё Якімка баяўся за сваю любімую яблыньку. Там, пад ёй, старанна загорнуты ў цырату, ляжаў яго піянерскі гальштук...

Немцы не звярнулі на Якімкаву яблыньку ніякай увагі. Малая яна яшчэ была, зусім кволая. Хіба можа такое дрэўца захоўваць якую-небудзь таямніцу?..

Грукнула брамка, і Якімка з дзедам з палёгкай уздыхнулі.

— Я да Уладзіка на мінутку збегаю,— узяўся за клямку Якімка. Ён успомніў раптам, што ва Уладзіка недзе пад ганкам ляжаць абоймы з патронамі.

— Сядзі і не рыпайся,— суровым поглядам спыніў яго дзед.— Кончацца вобыскі, тады і пойдзеш.

«Тады ўжо не трэба будзе»,— хацеў сказаць і стрымаўся Якімка.

— І наогул, нам з табой трэба сур'ёзна пагаварыць,— працягваў дзед Лук'ян.— Заўважаю я, што за апошні час ты занадта асмялеў. Па начах недзе ходзіш, на плошчу, калі там немцаў поўна, прэшся, нават на бензасховішча дапінаеш. Ой, глядзі, хлопча, каб не скончылася ўсё гэта за кратамі, а то і ў бярэзніку...

У бярэзніку за вёскай немцы расстрэльвалі ўсіх падазроных. Спачатку забілі некалькі ваеннапалонных. А потым на спецыяльнай чорнай машыне пачалі вывозіць туды і мірных жыхароў. За што іх расстрэльвалі,

ніхто толкам не знаў. Але паліцаі сцвярджалі, што за сувязь з партызанамі.

Аднойчы ў гэтым самым бярэзніку давялося немцам праглынуць даволі горкую пілюлю.

Па даносу нейкага свайго прыхвасня яны забралі ўночы ў Матылянцы былога загадчыка сельпо Паўла Раманоўскага. Абвінавачвалі яго, як і ўсіх, каго забіралі, у сувязі з партызанамі. Павел быў мужчына рослы, здаровы. І, мусіць, таму білі яго не шкадуючы.

Збілі ка́ты Паўла да паўсмерці, але так і не пачулі ад яго ніводнага слова.

— Расстраляць!— загадаў Кальтвасэр.

Непрытомнага Раманоўскага ўкінулі ў чорную машыну і павезлі ў бярэзнік. Спыніліся каля старога акопа, выцягнулі з кузава. І тут раптам адбылося неверагоднае. Непрытомны Раманоўскі падхапіўся нібы спружына і, выхапіўшы з рук немца аўтамат, паласнуў доўгай чаргой і па катах сваіх, і па машыне.

А сам, адным скачком перамахнуўшы церез шашу, знік у лесе. Толькі яго і бачылі.

Пасля таго выпадку немцы везлі людзей на расстрэл толькі звязанымі. У якім бы стане яны ні былі...

Бярэзнік. Колькі там нявіннай крыві праліта!..

Не, трапляць у той бярэзнік Якімка не збіраўся, нават не ўяўляў сабе, што гэта можа калі-небудзь здарыцца. Ён марыў пра другое — як найхутчэй трапіць да партызан. Нават у сне не раз бачыў сябе партызанам, такім, як дзядзька Хведар. З вялікім варанёным маўзерам за поясам.

А дзед вёў сваё:

— Ведаеш жа, мусіць прымаўку — да пары збан ваду носіць...

— Ды нічога такога я не раблю,— Якімка адвёў позірк убок.

— Ну, дапусцім,— мнагазначна адказаў дзед.— Вось і цяпер на ражон лезеш, да Уладзіка сабраўся бегчы. А пра тое не падумаў, што і сябе можаш пагубіць, і Уладзіка свайго пад манастыр падвесці. А калі раптам зловяць, спытаюць, куды ды чаго бег, што адкажаш?

— Гуляць, скажу, ішоў,— асмеліўся нарэшце Якімка паглядзець дзеду ў вочы.

— Так яны табе і павераць.— Дзед дакурыў цыгар-

ку, кінуў акурак на комінак і ўстаў з лавы.— Наабірай, во, бульбы. А я дрэвак насяку.

— Добра. Наабіраю,— паныла згадзіўся Якімка.

— І вось яшчэ што трэба заўсёды помніць.— Дзед Лук'ян спыніўся на парозе.— Немцы — не дурні. Яны братка ты мой, такія разумныя і такія хітрыя, што дай табе божа. Так што не думай, быццам раз-два і абвёў немца вакол пальца. Канечне, не без таго, перахітрыць яго, паганца, можна. Але лезці на яго ў лоб — гэта тое самае, што надзець пятлю на ўласную шыю. Не лічыцца з гэтым, братка ты мой, нельга.

— Дзед,— хітра бліснуў вачыма Якімка,— а завае нас немец? Ён жа вельмі разумны.

— Цьфу. Чаўпеш нейкае глупства. Ды нізавошта такога быць не можа!..— Дзед моцна грукнуў дзвярыма.

Якімка сеў абіраць бульбу.

Да Уладзіка ён выбраўся пад вечар, як толькі ў мястэчку скончыліся вобыскі. Немцы так нічога і не знайшлі, калі не лічыць некалькіх плашч-палатак ды кулямётных дыскаў, якія гаспадыні выкарыстоўвалі ў якасці покрывак на чыгуны.

Падпольшчыкі аставаліся нявыкрытымі і нязлоўленымі. І ніякіх слядоў не было знойдзена. Хоць ты ўсё мястэчка абвінавачвай у дыверсійнай рабоце. Але ж з мястэчка прыйшлі служыць да немцаў і стараста, і начальнік паліцыі, і нават былы заатэхнік Сухоцкі. Значыць, не ўсе тут супраць «новага парадку».

Можа б, немцы на гэтым і супакоіліся. Ну, не знайшлі нікога і — не знайшлі. Толькі спакой не прыходзіў. Немцы добра ведалі: дзе адбылося запар тры дыверсіі, там будуць яны яшчэ. Такі ўжо закон вайны... Справа ідзе аб жыцці і смерці... І таму трэба тэрмінова прымаць нейкія меры. Нейкія? Не. Самыя жорсткія. Усіх, хто прама ці ўскосна не служыць немцам, адправіць у Германію. Там яны не стануць бунтаваць, а будуць працаваць як міленькія. А ў мястэчку пакінуць толькі сваіх, правераных людзей. Гэтыя шкоды не зробяць...

Усіх, усіх у Германію, на фабрыкі і заводы, на палі памешчыкаў! Усіх! А там разбяруцца, прасеюць. Патрэбных прымусяць працаваць, непатрэбных... проста ліквідуюць. Усіх! Тым больш, што ў Кальтвасэра ёсць

сакрэтны дакумент аб правядзенні акцыі «Белая Русь». У ім, гэтым дакуменце, чорным па беламу запісана: з мясцовым насельніцтвам не лічыцца. Вёскі і гарады знішчаць. Людзей, якія могуць быць скарыстаны на фізічных работах, адпраўляць у Германію.

Пара, даўно пара зрабіць усё гэта. Інакш начальства абвінаваціць яго ў мяккацеласці.

Так думаў камендант гарнізона гаўптман Кальтвасэр, размашыста ідучы па былой настаўніцкай, пераабсталяванай у кабінет.

Рашэнне было прынята. І праз гадзіну, атрымаўшы адпаведны загад, немцы ўзмоцнена рыхтаваліся да новай аперацыі.

Была паднята на ногі ўся паліцыя.

...Вуліца сустрэла Якімку незвычайнай цішынёй. Не чутно было скрыпу калодзежных жураўлёў, такога характэрнага для гэтай пары сутак, не ляскалі брамкі, нават шпакі не перасвістваліся на ліпах. З канца ў канец вуліцы — ні жывой душы.

Толькі — цішыня. Цягуча-трывожная, напружаная, як да адказу нацягнутая струна. Крані — і яна адразу лопне. З трэскам і звонам.

Гэта цішыня душыла, прыгнятала Якімку. Самаадчуванне ў яго было такое, быццам над галавой навісла нешта пагражальна-важкае, што ніяк немагчыма прадухіліць. Яно, гэта нешта, вось-вось абрушыцца на яго, і тады ўсё знікне. І гэта блакітнае, без адзінай хмурынкі неба, і застылыя ў нерухомасці велікаты-ліпы, і зялёны, усыпаны жоўтымі кветкамі трыпутніку, прыдарожны мурог...

Якімка перайшоў на другі бок вуліцы і накіраваўся да Васі. Вася ўжо чакаў яго.

— Чаму так доўга?

— Дзед не пускаў. Небяспечна, кажа. Цэлую лекцыю мне прачытаў. Галоўным чынам пра асцярожнасць.

— Можа, ён што дачуўся пра цябе... пра нас?

— Здаецца, не. А зрэшты, яго не зразумець. Гаворыць і не дагаворвае.

— Да Уладзіка пойдзем?

— Ага.— Якімка пацягнуў сябра за рукаў.— Слухай, а чаму гэта так ціха сёння?

— Не разумееш?.. Гэтакператрэслі ўсіх... Міжволі зашыешся, як той крот у нару, калі не хочаш на шыбеніцы боўтацца...

Да Уладзіка хлопцы не дайшлі. Тулячыся да платоў, ён сам спяшаўся ім насустрач. Выгляд у Уладзіка быў не тое, каб няважны, а нават страшны. Валасы ўскудлачаны, твар белы, у расшыраных вачах — спалох.

—Во,— дрыжучы як асінавы ліст, працягнуў ён Якімку паперку.— У брамцы была... Чытайце...

— А ты не калаціся,— дабрадушна параіў Уладзіку Вася.— Толку з гэтага мала. Раскажы лепш, што здарылася.

Уладзік вінавата ўсміхнуўся:

— Не звяртайце ўвагі. Гэта ў мяне з дзяцінства, як сабака пакусаў... Ледзь што і пачынае калаціць... Зараз пройдзе...

— Дзіўна. Танк мініравалі, цябе не калаціла, бензасховішча — таксама,— развёў рукамі Вася.

— Там справа іншая,— адказаў Уладзік.— Там няможна, каб цябе калаціла...

Вася толькі пацісвуў плячыма, ён нічога не зразумеў з Уладзікавага тлумачэння.

А Якімка тым часам другі раз перачытваў запіску. «Ратуйцеся самі і скажыце ўсім. Будзе аблава. Усіх пагоняць у Нямеччыну. Ратуйцеся!» Почырк быў знаёмы да болю. Але чый, ніяк не ўспаміналася. Хоць ты забі — не ўспомніш. Ні подпісу, ні даты ў запісцы не было.

Прачытаў запіску і Вася. Нахмурыўся. Скасавурыўся на Уладзіка:

— Тут і непакусанага затрасе... Якімка, што будзем рабіць?

Ліхаманкава прабягалі думкі ў Якімкавай галаве. Што рабіць? Ну, вядома ж, перш за ўсё папярэдзіць людзей аб небяспецы. А як? Бадай, лепш за ўсё — хай самі перадаюць з хаты ў хату. Так будзе хутчэй. Бо калі адправіцца па хатах ім траім, спатрэбіцца шмат часу. Самім жа — збіраць манаткі і бегчы ў Нягневіцкі лес. Да дзядзькі Хведара. Прыме. Цяпер то ўжо прыме.

Свае думкі Якімка выказаў сябрам.

— Правільна,— згадзіліся Уладзік і Вася.— А збор дзе?

— На Выгарах, пад белай бярозай...

Апошнія словы Якімка сказаў ўжо бегучы.

Ён спяшаўся папярэдзіць дзеда, каб таксама ўцякаў у лес.

Зборы ў дзеда Лук'яна і Якімкі былі нядоўгія. Паклалі ў торбу бохан хлеба, некалькі цыбулін, дасталі захаваны на гары кавалак старога сала, апрануліся і рушылі да выхада. На парозе дзед успомніў, што не ўзяў тытуню, і вярнуўся. І ў гэты самы час на вуліцы загула машына, затрашчалі маторы матацыклаў. У хату ўляцеў Сухоцкі:

— А ну, збірайся!

— Куды пане паліцэйскі?

Сухоцкі азірнуўся і, нікога не ўбачыўшы за сабой, шэптам сказаў:

— У Нямеччыну, Лявонавіч, пагоняць. Кальтвасэр загадаў. Але нічога.— Ён наблізіўся да дзедавага вуха і нешта прашаптаў, потым спытаў: — А падарунак дзе?

— Там,— дзед вачыма паказаў на склеп.— Пад бульбай, у левым куце.

— Варушыся, жывей!— зноў зычна крыкнуў Сухоцкі.

У хату зайшоў Міністр.

— Так што ўсё ў парадку пан начальнік!— выцягнуўся перад ім Сухоцкі.

Міністр паглядзеў цяжкім мутным позіркам на дзеда, на Якімку і, нічога не сказаўшы, пакінуў хату. Сухоцкі пайшоў услед. З ганка крыкнуў:

— Выходзь на вуліцу! Жыва!

Вуліцу цяпер было не пазнаць. Цішыня, якая панавала на ёй усяго яшчэ пяць мінут назад, узарвалася. Узарвалася галашэннем жанчын, плачам дзяцей, выкрыкамі нямецкай каманды, трэскам матацыклаў. Гітлераўцы і паліцаі, размахваючы зброяй, выганялі з хат усё больш і больш людзей. Іх ставілі ў адну калону.

Пакінуўшы дзеда, Якімка пачаў праціскацца наперад. Неўзабаве ён убачыў Васю, потым і Уладзіка. Уладзіка больш не біла ліхаманка. Ён быў спакойны, нават паспрабаваў усміхнуцца, заўважыўшы Якімку:

— Вось мы і папаліся. Цяпер — усё.

— Рана ўсёкаеш,— раззлаваўся Якімка.— Рана рукі ўгору падымаеш.— Ён успомніў, як Сухоцкі нешта шаптаў дзеду Лук'яну. Гаворка, хутчэй за ўсё, ішла аб іх вызваленні.

«Але ж і Сухоцкі добрая цаца,— з захапленнем думаў Якімка.— Такую маску на сябе адзеў! Ну сапраўдны паліцэйскі, дый годзе. А на справе — свой, савецкі...»

Што Сухоцкі быў і астаўся нашым — Якімка больш не сумняваўся. Цяпер яму зразумелым стаў і начны візіт Сухоцкага да дзеда і яго ўмяшанне, калі Міністр ледзь не застрэліў Арыну, і многае іншае. Аднаго толькі не мог ведаць Якімка: для якой мэты Сухоцкі з дзедам нарыхтавалі столькі ўзрыўчаткі. Але хутчэй за ўсё, каб перадаць партызанам. Урэшце, з цягам часу і гэта стане вядома.

Нечакана перад хлопцамі з'явілася, нібы з-пад зямлі вырасла, Галя. На галаве лёгкая касынка, у руках — невялікі клунак.

— І ты?— здзівіўся Якімка.

— І я,— усміхнулася Галя.— Не думайце, цяпер я ад вас нізавошта не адстану, хоць вы і не хочаце прымаць мяне ў сваю кампанію. Куды вы, туды і я.

— А бацька?

— Што мне бацька?— махнула рукою Галя.

Жэст гэты, свабодны, бесклапотны, сказаў Якімку многае. Несумненна, Галя ўжо ведае, што яе бацька ніякі не прадажны і не вораг. А калі дакладна і не ведае, то сэрцам гэта адчувае. Мусіць, ведаючы, што асаблівая небяспека не пагражае ёй, сам жа і адправіў яе, каб ішла з калонай.

Калі ўсіх выгналі з дамоў, уперадзе калоны стаў адзін нямецкі аўтаматчык, ззаду — другі, абапал — паліцэйскія з вінтоўкамі напагатове, і калона з плачамі, галашэннем рушыла к цэнтру мястэчка.

На плошчы ўжо было біткам набіта народу. Немцы паспелі прыгнаць людзей з другіх вуліц.

Плач і галашэнне паступова сціхалі, пакуль не сціхлі зусім. Толькі глухі гул чалавечых галасоў калыхаўся над плошчай.

Немцы рыхтаваліся да ночы. Па чатырох вуглах плошчы яны ўкапалі высокія слупы. Раскаталі агромністы скрутак калючага дроту і нацягнулі яго ў некалькі столак ад слупа да слупа. Па вуглах устанавілі кулямёты, нацэліўшы іх на плошчу.

Якімка, Уладзік і Вася вырашылі трымацца разам. Да іх далучылася і Галя. Не просячыся. Проста падышла і села там, дзе сядзелі хлопцы.

— Есці хочаце? Ну чаго маўчыце? У мяне хлеб, сала. Нож у каго-небудзь ёсць.

Вася дастаў з кішэні вялікі складаны нож, падаў яго Галі. Галя акуратна парэзала хлеб, сала і падала кожнаму па добраму кавалку.

Над мястэчкам ціха спускалася густая цёплая ноч. Далёка на захадзе палалі ў чорнай хмары крывавыя зарніцы.

## НЕЧАКАНЫ ПРЫПЫНАК

На досвітку прагрымела над плошчай некалькі стрэлаў, і чалавечы мурашнік заварушыўся. Немцы пастроілі людзей у калону па чатыры, зрабілі ў калючай агароджы праход і далі каманду ісці. На шашы калону спынілі. Падышоў невялікі бранявік і стаў наперадзе. Ззаду калоны прыстроіўся кулямётны разлік. Па баках, расцягнуўшыся ланцужком, сталі нямецкія аўтаматчыкі ўперамешку з паліцаямі. Камандаваў паліцаямі Міністр.

Людзі стаялі нерухома і ў поўным маўчанні. Ні галашэння жанок, ні плачу дзяцей больш не было чуваць. Маўчалі і мужчыны, раз за разам зацягваючыся моцным самасадам. Акамянелі чалавечыя сэрцы.

І ў гэтай ненатуральнай цішыні нейк зусім недарэчы звінела на розныя лады беструботная песня жаваранка. Ён вольна пырхаў сабе ў паднябессі, трапятаў сваімі крыльцамі і ўсё спяваў, спяваў. Быццам кропелькі празрыстай ранішняй расы, рассыпаліся ў наваколлі яго бясконцыя залівістыя трэлі...

Якімка пашукаў вачыма жаваранка, але так і не ўбачыў яго. Перавёў погляд на сяброў. Яшчэ больш схуднелы за гэту ноч Уладзік глядзеў у адну кропку перад сабой і засяроджана грыз травінку. Вася, як ні ў чым не бывала, старанна чысціў крысом суконнага пінжака свой складанік. Галя, выцягнуўшы шыю, пільна ўглядалася ў твары паліцаяў, што прыйшлі суправаджаць калону. Мусіць, шукала бацьку. Але Сухоцкага сярод паліцаяў не было. Відаць, застаяўся ў гарнізоне.

Перагаварыўшы з нямецкім унтэрам, Міністр прыўзняўся на дыбачкі і сіплым голасам праспяваў:

— Ру-ушылі-і!..

Загудзеў бранявік, шорхнулі дзесяткі падэшваў па асфальце.

Калона кранулася. За яе спіной паднялося з-за туману сонца, і цень ад браневіка працягнуўся тонкай стралой далёка наперад. Ён указваў дарогу на чужы, халодны захад.

Уладзік адкінуў недажаваную травінку і штурхнуў Якімку пад бок.

— Калі ўцякаць будзем?— ледзь чутна зашаптаў ён.— Давайце цяпер. А то адвядуць далёка — позна будзе.

Якімка паказаў вачыма на аўтаматчыкаў:

— Не паспеем і кроку зрабіць, як перастраляюць, нібы тых курапатак. Трэба падабраць зручны момант...

Уладзік нічога больш не сказаў. Ён засяроджана ўтаропіўся ў спіну пярэдняга. Паміж ім і Якімкам уціснуўся Вася.

— Слухайце, хлопцы,— узяў ён сяброў пад ручкі,— перад Поплавам будзе густы пералесак. Ён злучаецца з Нягневіцкім лесам. Папросімся да ветру і... дадзім лататы...

— Усіх разам не пусцяць да ветру,— зазначыў Якімка.— А калі адзін уцячэ, другіх наогул не пусцяць прама на дарозе прымусяць садзіцца... на вачах у людзей...

Галя чула, аб чым шэпчуцца хлопцы. Спярша яна хацела не ўвязвацца ў іх размову. Але не вытрымала і падышла бліжэй.

— Вы вось што, не валяйце дурня.— Голас у Галі, хаця яна і гаварыла шэптам, быў строгі.— Не трэба гарачыцца. На ўсё свой час.

— І ты яшчэ!..—зверху ўніз паглядзеў на яе Уладзік і перадражніў:— Не трэба гарачы-ыцца. Вось так і будзем выбіраць зручны момант, пакуль у вагоны не пасадзяць...

Галя пакруціла ўказальным пальцам каля скроні: маўляў, дурны ты, Уладзік.

Павольна ўздымалася над зямлёю сонца, і ўсё карацей станавіўся цень ад браневіка. Павольна рухалася па шашы маўклівая калона людзей. А ў небе спяваў, заліваўся бесклапотны жаваранак.

— Пі-іць...— раптам тоненька прапішчала дзяўчынка гадоў дзевяці, што ішла, трымаючыся за матчыну руку, наперадзе ў хлопцаў.

— Пі-іць...—адгукнулася ёй другая, недзе ззаду.

І пайшло па калоне гэта цяжкае, патрабавальнае: «Пі-іць...»

Маці даставалі з клункаў бутэлькі з вадой, на хаду працягвалі іх дзецям. Дзеці прагна пілі і прасілі яшчэ. Але вады больш не было. Ды, уласна, колькі ж можна яе ўзяць з сабой! Вядро не панясеш у далёкую дарогу.

— Пане начальнік!— пачуўся мужчынскі голас.— Дзеці просяць вады. Дазвольце набраць у канаве.

— Ніякай вады,— прасіпеў Міністр, не гледзячы на людзей.— Праз гадзіну прывал. Тады.

Гэта гадзіна здалася Якімку годам. Ён таксама вельмі хацеў піць. Але цярпеў. Ён жа ўмеў цярпець. А вось гэтыя малыя, якіх гналі ў рабства, не ўмелі гэтага і не хацелі ўмець.

І так цяжка было чуць, як яны засмяглымі губамі бясконца цягнулі адно і тое ж: «Пі-іць, пі-іць, пі-іць».

А тут яшчэ сонца... Паднялося ў неба і паліла так, што хоць ты распранайся.

Пот заліваў вочы, прыліпала да цела сарочка, а ў роце так перасохла, што здавалася, быццам туды хто жарствы насыпаў.

Дзяўчынка, якая, трымаючыся за матчыну руку, ішла наперадзе ў хлопцаў, шаптала сваё «пі-іць» усё цішэй і цішэй. Тонкія ножкі дзяўчынкі падкасіліся ў каленях, і яна ўпала на шашу. Якімка кінуўся, падняў дзяўчынку і панёс на руках. Твар у дзяўчынкі быў белы, вочы заплюшчаны. З-пад густых веек выкатваліся буйныя слязінкі.

Самлела. Цяпер бы ёй глыток вады, і яна адышла б.

Па калоне, з канца ў канец, нібы парыў ветру, прашалясцела: «Самлела дзяўчынка. Трэба вады...»

І вось ужо, пераходзячы з рук у рукі, набліжаецца да Якімкі бутэлька з вадой. Нехта бярог яе для сябе ці свайго дзіцяці, пакідаў на самы апошні выпадак, але — дзяўчынка самлела. І чалавек, не раздумваючы, перадаў запаветную бутэльку для гэтай дзяўчынкі.

Дзяўчынка зрабіла глыток, другі і расплюшчыла затуманеныя вочы.

— Пі, пі, гэта табе,— паказаў Якімка на бутэльку.

Дзяўчынка слаба ўсміхнулася і прыпала да горлачка. Якімка паставіў яе на ногі. Але дзяўчынку яшчэ моцна вадзіла ў бакі, і яе падхапіў на рукі Вася.

— Дзякуй вам, родныя,— расчулена ўсхліпнула маці дзяўчынкі, худая, з запалымі вачыма жанчына.— Я дык і не здолела б яе несці...

Канваіры аб'явілі першы прывал кіламетрах у васьмі ад мястэчка. Выбралі для яго адкрытую мясціну. Направа і налева ад шашы, як акінуць вокам, цягнуўся шырокі луг. Па лузе працякала невялічкая рэчка.

Хлопцы ведалі гэту рэчку. Называлася яна Палоза і ўпадала ў Бярозу. Разы са два яны прыязджалі сюды на спадарожнай машыне лавіць ракаў. Лавілі самым прымітыўным спосабам — звычайнымі кошыкамі з-пад бульбы. Але заўсёды вярталіся з поўнымі торбамі буйных чорных ракаў. Ракі з сухім шоргатам капашыліся ў торбах і злёгку паколвалі спіну.

Пад наглядам паліцаяў людзі спусціліся да рэчкі і ў першую чаргу прыпалі да вады. Пілі доўга і прагна. Потым пачалі мыцца, змочвалі галовы, насоўкі, сарочкі, напаўнялі бутэлькі. Пакуль не пачулася:

— Станаві-іся-а!

І зноў манатонна гудзе наперадзе бранявік, а па баках брыдуць асавелыя ад гарачыні нямецкія аўтаматчыкі і паліцаі.

І зноў пад нагамі гарачы асфальт, а над галавой распаленае дабяла неба. А ў роце — жарства, і пот залівае вочы...

— Сто-ой!— раптам даносіцца спераду.

Што там такое? Чаму прыпынак? Яшчэ ж і двух кіламетраў пасля прывалу не прайшлі...

З галавы калоны трушком бег унтэр. Левай рукой ён прытрымліваў на поясе цяжкі парабелум, а правай тыцкаў у найбольш здаровых мужчын:

— Ты, ты, ты... Ком! Пашоль!

Шасцёра мужчын неахвотна папляліся за унтэрам у галаву калоны.

Там, перад самым носам у браневіка, ляжала поперак шашы свежаспілаваная тоўстая бяроза. Далей — яшчэ і яшчэ.

І так амаль на паўкіламетра.

Унтэр дастаў з браневіка тры пілы і, адмераўшы крокамі, дзе трэба рэзаць, каб мог прайсці бранявік, перадаў пілы мужчынам. Тыя ўкленчылі, і па лесе пакацілася размеранае:

— Ужык-ужык, ужык-ужык...

— Шнэль, бістро! — бегаў унтэр каля пільшчыкаў. Але яны не спяшаліся, вадзілі пілу размерана, спакваля. Спяшацца мужчынам не было куды. Нічога добрага наперадзе іх не чакала.

— Ужык-ужык, ужык-ужык...— чулася спераду.

І паступова, адзін за адным туды пацягнуліся немцы. Паглядзець, ці сур'ёзная там перашкода і ці доўга давядзецца з ёю важдацца.

Услед за аўтаматчыкамі ляніва пабрылі да браневіка і паліцаі. На месцы астаўся адзін толькі Міністр. Акрамя самагонкі, яго больш нішто на свеце не цікавіла. Міністр перайшоў канаву і прысеў у цяньку пад разложыстай кронай бярозы.

Якімка зірнуў на адзін бок шашы, на другі. І тут і там лес. Густы, пануры. Зірнуў назад — адзін кулямётчык. Кулямёт стаіць на ножках і глядзіць налева, туды, дзе нікога з аховы не засталося. За правы бок немец спакойны. Там — на варце сам начальнік паліцыі.

Пільна сочыць за Міністрам і кулямётчыкам Якімка. Насцярожана паглядваюць па баках і Уладзік з Васем.

«Бяжым?» — пытаецца вачыма Уладзік.

— Бяжым! — аднымі губамі шэпча Вася.

«Бяжым!» — ківае галавой Якімка і, першым сарваўшыся з месца, імкліва кідаецца да Міністра. Аўтамат паліцая прыхілены да бярозы. Якімка хапае яго і імчыцца далей. Ля тоўстай сасны затрымліваецца і глядзіць назад. Дзе ж хлопцы? А Міністр ужо на нагах. Ён вырывае з кабуры рэвальвер, падымае, і ў тую ж секунду над ім бліскае доўгае лязо Васевага складаніка. Суха трэскае стрэл, другі. І тут жа паветра раздзірае сіплы нечалавечы крык. Крык заціхае і пераходзіць у хрып...

Якімка бяжыць далей. Захлёбваючыся, б'е па лесе кулямёт, трашчаць аўтаматы, бухкаюць вінтоўкі.

А хлопчык, моцна сціснуўшы ў руках аўтамат, бяжыць і бяжыць...

Спыняецца толькі тады, калі ногі зусім ужо перастаюць яго слухаць, а сэрца амаль вырываецца з грудзей. Спыняецца і сам сабе не верыць: у тым баку, дзе засталася шаша, зусім-зусім ціха.

Небяспека мінула.

Хлопчык у знямозе апускаецца на лясную траву і, уткнуўшы галаву ў калені, горка, па-дзіцячаму плача. Ён раптам разумее, што, паспяшаўшыся, зрабіў нешта не так.

Ну, вядома, не так. Калі б усё прадумаць як след, то, ратуючы яго, Якімку, не загінуў бы лепшы сябар Вася. А Вася загінуў. Гэта ў яго страляў з рэвальвера Міністр. Было два стрэлы. А можа, і жывы? Чаму ён не пабег разам? Чаму не пабег Уладзік? Ён жа першы сказаў: «Бяжым»...

І Галя там асталася... І ўсе людзі...

Ну, канечне, застрачыў кулямёт, і ўцякаць ужо было немагчыма.

Трэба было бегчы ўсім разам... Вось як трэба было...

Адзін, зусім адзін сядзеў на лясной траве хлопчык і ніяк не мог стрымаць рыданняў, што разрывалі грудзі.

## РАЗВІТАЛЬНЫ САЛЮТ

Зморааны бяссоннай ноччу і ўсім перажытым за доўгую трывожную раніцу, Якімка нечакана для самога сябе заснуў.

Быццам у чорную бездань праваліўся.

Ён не чуў, як шумелі над яго галавой векавыя сосны і шчабяталі птушкі. Не чуў, як, з цікаўнасцю пазіраючы на яго пацеркамі вачэй, цокала на суку вавёрка.

Не чуў Якімка і моцнага выбуху на шашы, недзе за Поплавам. Глухім рэхам пракаціўся ён па лесе. А ўслед за ім даляцеў аддалены перастук кулямётаў, траскатня вінтовак.

Пальба цягнулася нядоўга. Лічаныя мінуты. А потым толькі адзіночныя стрэлы яшчэ некалькі разоў парушылі цішыню.

Прачнуўся Якімка, калі сонца ўжо скацілася зусім нізка. Устаў, соладка пацягнуўся, пераступіў з нагі на нагу. Нага задзела аўтамат, што ляжаў тут жа ў траве, і Якімка адразу ўспомніў, дзе ён і што з ім.

Неспакойна азірнуўся навокал. Не, нікога. Падняў аўтамат і ціха пабрыў туды, дзе ціха каціўся ўніз чырвоны сонечны круг. Там павінна быць шаша. У лесе пахла смалой і чабаром. Ад разагрэтых за дзень сасновых ствалоў патыхала цеплынёй.

«Дзе нашы? — свідравала мазгі неадвязная дума.— Напэўна, дагналі іх ужо да раённага цэнтра. А адтуль на машынах — на станцыю. Са станцыі ўцячы ўжо амаль немагчыма. Зачыняць у вагоны з кратамі і да самай Германіі не адчыняць...»

На шашу хлопчык выйшаў прыцемкам. Ён аказаўся непадалёк ад таго месца, дзе быў вымушаны прыпынак.

На дарозе ляжалі распілаваныя пасярэдзіне бярозы, валяліся бляшанкі з-пад кансерваў, абрыўкі паперы. Відаць, доўга тут прыйшлося «загараць» немцам, пакуль расчысцілі праход для браневіка.

А вось і бяроза, пад якой, клюючы носам, сядзеў у цяньку Міністр. Побач з бярозай свежы пясчаны пагорачак. На пагорачку бярозавы крыж і прылепленая да яго паперка. Чорным напісана: «Зык З. П. 1900—1942». Магіла Міністра.

Нават у мястэчка не завезлі. Тут і пахавалі. Што ж, не так ужо, відаць, высока цэняць немцы сваіх паслугачоў.

Якімка вырваў крыж і з сілай запусціў яго ў лес. Крыж павіс на кусце. Хлопчык падбег, аберуч узяў яго і з размаху ўдарыў аб сасну. Крыж разляцеўся на чатыры кавалкі.

Якімка вярнуўся назад і пачаў на ўсякі выпадак шукаць магілу Васі. Заўважыў у канаве ўтаптаны ботамі невялікі лапік свежай зямлі. Капануў яе раз, другі. Пад невялікім пластом жоўтага пяску была прымятая, але не кранутая рыдлёўкай трава. Дзёран. Значыцца, гэта не магіла.

Перайшоў на другі бок шашы і старанна агледзеў усё ўзлессе, канаву, прыдарожныя кусты. Ніякіх слядоў магілы не было.

Няўжо жывы Васька?! Няўжо вывернуўся з-пад міністравых куль? Ох і малайчына! Сам жывы, а Міністра вось прырэзаў. Звычайным складанікам!..

Толькі дзе ён цяпер, Вася? Мабыць, так, як і ён, Якімка, бадзяецца адзін па лесе і думае, ці жывы ён, Якімка. Бо гэта ж па ім, па Якімку, так ярасна лупіў з кулямёта немец.

Лес напаўняўся густым сінім змрокам. У далёкім небе запальваліся першыя зоркі. Уздоўж шашы пракаціўся, шастаючы ў лісці, начны вятрыска.

Якімка пастаяў, паслухаў ноч і паволі рушыў у бок мястэчка. Ён яшчэ не ведаў, куды зойдзе і што стане

рабіць. Там будзе відаць. А пакуль што другой дарогі ў хлопчыка не было. І ён ад бярозы да бярозы, ад куста да куста крочыў з аўтаматам у руках на Перавоз.

Было ўжо апоўначы, калі ўдалечыні вырысаваліся на фоне неба знаёмыя купалы царквы, а воддаль — чатырохвугольнік школы. Мястэчка. Такое роднае нядаўна і такое чужое зараз! Ніводнага агеньчыка не свеціцца, ніводнага гуку не чуваць. Як быццам усё вымерла. А зрэшты, і вымерла. Хто там застаўся? Сваіх — нікагусенькі. Усіх пад мятлу вычысцілі. Адны чужакі цяпер там — немцы, паліцаі, іх сем'і...

Прайсці ў мястэчка для Якімкі было няцяжка. Ён ведаў размяшчэнне ўсіх гарнізонных пастоў і мог у любы час дня і ночы прайсці міма іх незаўважаным. Прытым, без ніякай рызыкі для сябе.

Прайсці-то Якімка мог. Але дзе дзецца потым? Вось якое пытанне затрымлівала яго ўдалечыні ад мястэчка.

Раптам прыйшло на дзіва простае рашэнне. Ён пойдзе ў сваю хату і забярэ тол са шнурам. А потым — у Нягневіцкі лес, на тое месца, дзе звычайна сустракаліся з дзядзькам Хведарам. Будзе чакаць яго там хоць тыдзень. Толу дзядзька вельмі ўзрадуецца. Ды і Якімку не прагоніць. Як ніяк, а яны з хлопцамі ні разу не падвялі яго. Няхай сабе са спазненнем, але ўсе заданні выканалі.

Агародамі Якімка дабраўся да свайго двара. Падышоў на дыбачках да дзвярэй і злёгку піхнуў іх. Дзверы былі не зачынены. Хутчэй кінуўся да склепа і, разграбшы бульбу, пачаў даставаць з-пад дошкі тол. Ды вось бяда — няма куды яго класці. Выскачыў наверх і ўзяў з запечка мяшок. Цяпер усё пайшло як па маслу. Пералажыў у мяшок увесь тол з ямкі, дастаў і кінуў зверху шнур, дошку паклаў на месца, загарнуў бульбай і вылез.

Раўчукамі ліўся з хлопчыка пот, моцна калацілася сэрца. Але адпачываць не было калі. Не паспееш агледзецца, як пачне днець. А тады выйсці з мястэчка з мяшком толу і аўтаматам будзе не так ужо і проста.

Трэба было ісці зараз жа. На левае плячо ўскінуў Якімка мяшок, на правае — аўтамат і шагнуў да дзвярэй. І тут... Нечыя дужыя рукі моцна сціснулі Якімкавы плечы. Хлопчык паспрабаваў вырвацца, але рукі трымалі яго, нібы ціскі.

— Хто такі будзеш?

— Свой! Я тут жыву. Гэта мая хата,— не сваім голасам адказаў хлопчык.

— Якімка? Ты як дома апынуўся? — рукі адпусцілі хлопчыка, і ён убачыў перад сабой Сухоцкага.

— Уцёк,— коратка растлумачыў Якімка.— А вы, дзядзька Язэп, чаго прыйшлі?

— Справа ёсць,— Сухоцкі зрабіў крок да склепа.

— Не трэба. Я ўжо дастаў,— Якімка падаў Сухоцкаму мяшок з толам.

— І куды ты яго хацеў несці?

— У лес. Да дзядзькі Хведара.

— Вось лайдак. Ледзь усю музыку мне не сапсаваў,— у голасе Сухоцкага не было злосці. Хутчэй — захапленне, што вось гэты вяснушкаваты падлетак ледзь не апярэдзіў яго. Ох і дасталося б тады ад камандзіра атрада Хведара Астапавіча! Па галоўцы не пагладзіў бы...

— Я з вамі, дзядзька Язэп,— рашуча сказаў Якімка, калі Сухоцкі ўзяў тол і намерыўся ісці.— Вазьміце. Не падвяду.

Той з мінуту павагаўся, потым махнуў рукой:

— Давай!

Сухоцкі, а за ім Якімка прайшлі агародамі да абрыву, спусціліся на бераг ракі і крадком рушылі ў бок моста цераз Бярозу. Каля самага моста Сухоцкі знакам загадаў Якімку заставацца на месцы, а сам кружной дарогай пайшоў на шашу. Неўзабаве ён ужо змяняў вартавога з боку мястэчка. Змяніўся вартавы і на другім канцы моста. Сухоцкі сышоўся са сваім напарнікам на сярэдзіне. Яны спыніліся, аб нечым пагаварылі і пачалі закурваць. Якімка хацеў падслухаць, але было далёка.

Раптам ён заўважыў, што ў ваду паляцела незатушаная цыгарэта, а ўслед за ёю плюхнулася нешта цяжкае, няўклюднае.

— Сюды,— ціха паклікалі з моста.

Што было сілы Якімка пакараскаўся на насып. Паўзці было нязручна. Пад нагамі асыпаўся пясок, і хлопчык з'язджаў уніз. Так паўтаралася некалькі разоў. Нарэшце Якімка намацаў адзін кусцік, другі, учапіўся за іх і папоўз зноў. Аўтамат ён закінуў за плечы, а мяшок з толам трымаў у зубах.

Сухоцкі спусціўся ўніз, схапіў яго за руку і адным рыўком выцягнуў на дарогу.

— Давай сюды тол. А сам сачы за мястэчкам. Будзе iсцi хто, дай знаць мне. Сам не страляй...— Сухоцкi дыхаў часта, перарывiста, як пасля доўгага бегу. I Якiмка раптам зразумеў, што тое цяжкае, няўклюднае, што плюхнулася ў ваду, было не чым iншым, як трупам другога вартавога. Дзядзька Язэп проста задушыў яго, каб не перашкаджаў, i кiнуў у раку.

Якiмка напружана, да рэзi ўваччу ўглядаўся ў дарогу, што вяла з мястэчка. На ёй нiкога не было вiдаць.

Унiзе, пад мостам, плюскатала ў па́лях Бяроза, у небе мiгцелi буйныя зоркi. Ледзь-ледзь павяваў ветрык.

— Зачакаўся? — стаў побач з iм Сухоцкi.— Пайшлi.

Яны iшлi шпарка, амаль беглi. Каля палiцыi стаяў грузавiк. Вакол яго прахаджваўся вартавы. Сухоцкi наблiзiўся да вартавога, нешта сказаў яму i рэзка ўдарыў пад грудзi. Потым нагнуўся i ўдарыў палiцая яшчэ раз, кiнжалам.

— У машыну! — крыкнуў ён Якiмку i сеў за руль.

Машына памчала па вулiцы ў бок Нягневiцкага лесу. На выездзе з мястэчка спалохана шарахнуўся з дарогi вартавы.

А машына неслася ўсё хутчэй i хутчэй, пакуль не ўехала ў гушчар. Сухоцкi спынiўся i, не выключаючы матора, вылез з кабiны.

— Няўжо памылiўся? — з трывогай у голасе спытаў ён сам сябе.— Усё ж як быццам зроблена дакладна...

Вылез i Якiмка. Падышоў да Сухоцкага. Яны стаялi ўдвух на лясной дарозе i слухалi ноч.

Над Перавозам, там, дзе быў мост, шуганула барвовае полымя. Палыхнула i адразу пагасла.

Якiмка iнстынктыўна сцiснуў руку Сухоцкага.

Цяжкай хваляй дакацiўся да лесу гул выбуху.

— Вось так, панове акупанты,— спакойна сказаў Сухоцкi.— А цяпер паехалi.

Ён уключыў хуткасць, i машына, плаўна крануўшыся з месца, пакацiлася па лясной дарозе.

— Дзе цяпер нашы...— з горыччу прамовiў Якiмка.

— Ды ўжо, бадай, у партызанскiм лагеры,— усмiхнуўся Сухоцкi.— Так што рыхтуйся да сустрэчы са сваiмi — Уладзiкам i Васем.

— Не будзе там Васі. Ён таксама ўцёк. Толькі ў другі бок. Дзе ён цяпер?..— з сумам прамовіў Якімка.

— Знойдзем,— упэўнена адказаў Сухоцкі і мацней націснуў на газ. Ірванулася і імкліва пабегла пад колы машыны нешырокая лясная дарога. Яна бегла насустрач усё хутчэй і хутчэй, жаданая, хвалюючая дарога ў партызаны...

# ШУМЕЎ НЯГНЕВІЦКІ ЛЕС

## Аповесць



### У ЛАГЕРЫ

Якімка аглядаў партызанскі лагер.

Раней, калі гаворка заходзіла пра жытло партызан, ў яго ўяўленні чамусьці абавязкова паўставалі буданы, накрытыя яловымі лапкамі або, як у калгасным садзе, саломай. А тут ніякіх буданоў не было. У засені векавых елак, тулячыся да цёмна-шэрых ствалоў з падцёкамі смалы, роўным радам цягнуліся зямлянкі. Збоку і з тылу яны зусім не падобны былі на чалавечае жытло. Проста невысокія, прадаўгаватыя пагоркі, пакрытыя, як і ўвесь лес навокал, зялёным мохам. Толькі калі падысці да зямлянкі спераду, так сказаць з фасада, дык можна ўбачыць два невялікія, не больш ліста з вучнёўскага сшытка кожнае, акенцы і вузкія, як прайсці аднаму чалавеку, дзверы, да якіх спускаліся земляныя прыступкі.

Усярэдзіне зямлянак было даволі прасторна і пасвойму ўтульна. Ад дзвярэй аж да задняй сцяны вёў шырокі і глыбокі ход, такі, каб у ім маглі свабодна размінуцца двое і каб чалавек не згінаўся. Недзе на вышыні каленяў з двух бакоў ад гэтага ходу былі зроблены

нары — насціл з тонкіх жэрдачак, а на ім — тоўстыя саламяныя маты. Сцены, вышынёй усяго з паўметра, былі з бярвення. На іх абапіраліся з двух бакоў плашкі. Гэта быў дах, які адначасова служыў і столлю.

Ніводнага кавалачка жалеза, ніводнага цвіка, калі не лічыць завесаў у дзвярах.

Якімка раз-другі прайшоўся па зямлянцы і прыкінуў на вока, колькі ж тут людзей можа жыць адначасова. Па яго падліках выйшла, што не меней як чалавек сорак.

А калі ўлічыць, што такіх вялікіх зямлянак у лагеры чатыры, ды яшчэ чатыры меншыя, то атрымлівалася, што партызан у атрадзе, бадай, больш за дзвесце будзе. Не маленькая сіла!

Выйшаўшы з зямлянкі, Якімка пастаяў, агледзеўся і накіраваўся да невялічкай хаткі. З тонкага бляшанага коміна над страхой хаткі віўся лёгкі, празрысты дымок.

А што тут? Хлопчык ціхенька штурхнуў дзверы, і ў твар яму дыхнула цеплынёй і смачным пахам варанай капусты. На дашчаных паліцах уздоўж левай сцяны ляжалі вялікія бοханы хлеба, стаялі алюмініевыя міскі.

Абодва куты каля дзвярэй былі заняты мяшкамі. У большасці з іх, мяркуючы па тым, як адтапырвалася мешкавіна, была бульба. У некаторых, гладкіх,— мука або крупы.

«Кухня»,— здагадаўся Якімка.

З дальняга кута яго паклікалі:

— Заходзь, заходзь. Есці, мусіць, захацеў...

— Дзень добры,— прывітаўся Якімка з немаладой жанчынай, якая памешвала вялізнай лыжкай у катле, што быў умураваны ў нізкую печ.— Есці я, цётка, не хачу. Зайшоў проста так, паглядзець.

— Ну-ну, глядзі,— адклала яна лыжку.

Жанчына зняла з паліцы пачаты бохан хлеба, спрытным рухам адрэзала ладную скібку, памазала яе тлушчам, пасыпала соллю і сунула Якімку ў рукі.

— Во падмацуйся, пакуль абед.

Якімка падзякаваў і пераступіў парог. Пераступіў і адразу ўпіўся зубамі ў хлеб. Есці яму хацелася так, што ажно ў жываце бурчала. Гэта ж не жартачкі — амаль двое сутак у яго ў роце макавай расінкі не было.

Не агледзеўся, як з'еў усю скібку. Яно б не шко-

дзіла вярнуцца ды яшчэ папрасіць. Але было няёмка. Сам жа, дурань, сказаў, што есці яму не хочацца. Як пасля гэтага пойдзеш прасіць!

Ціха шумелі над галавой стромкія прыгажуні елкі, таямніча шапацелі пад імі маладыя расахатыя дубкі. Рэдкія павевы ветру прыносілі густы пах багуну і балотнага моху. Было сыравата і змрочна. Над самымі вершалінамі лясных веліканаў плылі і плылі бясконцай чарадой нізкія, набрынялыя дажджом хмары.

Якімка стаяў-стаяў і, не ведаючы, чым яшчэ заняцца, вырашыў агледзець лагер да канца. Карцела паглядзець, а што там, у меншых зямлянках, якія яны. Доўга не думаючы, ён пайшоў да бліжэйшай, спусціўся на тры прыступкі і пацягнуў дзверы. У зямлянцы гарэла «кацюша» — свяцільнік, зроблены са снараднай гільзы,— і ля яе сядзеў зусім яшчэ малады кучаравы хлопец у вайсковай форме. Перад хлопцам стаяла чорная бліскучая скрыначка з рознымі ручкамі і кнопкамі, і ён засяроджана круціў гэтыя ручкі. На галаве ў яго былі навушнікі, звычайныя, як у дэтэктарнага прыёмніка. Час ад часу хлопец пераставаў круціць ручкі і пачынаў стукаць тэлеграфным ключом.

Якімка ўжо хацеў павярнуцца і пайсці. Няможна ж перашкаджаць чалавеку. Ён жа нешта перадае па радыё. А што гэта радыёстанцыя, хлопчык не сумняваўся, хаця «жывую» рацыю бачыў упершыню. Тут табе і тэлеграфны ключ, і навушнікі, і батарэі для сілкавання. Толк ва ўсім гэтым Якімка ведаў. Нездарма ж перад вайной сам сабраў дэтэктарны прыёмнік. І прыёмнік той працаваў, пакуль паліцаі не адабралі.

Заўважыўшы, што нечаканы госць збіраецца пакінуць зямлянку, радыст жэстам паказаў на нары: сядай, маўляў. Якімка, стараючыся не шумець, на дыбачках падышоў да нар і сеў.

Нарэшце радыст пстрыкнуў ручкай, зняў навушнікі і, нешта запісаўшы на лістку паперы, устаў з цурбана, які замяняў яму табурэтку.

— Давай знаёміцца,— працягнуў ён руку.— Мяне завуць Косця.

— А я,— падняўся хлопчык,— Якімка.

— Ну, братка, і спаць жа ты мастак! — весела засмяяўся Косця.— Будзілі цябе ўчора, будзілі, ды так і не дабудзіліся. Прыйшлося соннага з кабіны выцягваць.

— Затаміўся я вельмі,— пачырванеў Якімка.— А так я чуйна сплю...

— Дык, значыць, ваяваць будзем?

— Ага,— кіўнуў галавой хлопчык.— Я і страляць умею, і гранаты ведаю як кідаць.

— Ну-у, тады ты зусім герой,— зноў усміхнуўся Косця.

Якімка не ведаў, смяецца з яго радыст ці гаворыць шчыра, і таму вырашыў на ўсякі выпадак асабліва не загаворвацца.

Хлопчык апусціў галаву і ўтаропіўся ў саломінку, што ляжала ў яго пад нагамі.

— Што нос павесіў? — Радыст падсеў да яго.— Сумуеш, што адзін сярод дарослых апынуўся? Не сумуй. Тут тваіх сябрукоў шмат. Праўда, не ў нашым лагеры, а ў цывільным. Гэта недалёка адсюль. Сустрэнешся, пазнаёмішся, вось і будзе табе кампанія. Ды яшчэ якая вялікая. Вось і пазаўчора група прыбыла. Іх у Германію, у рабства хацелі вывезці, а нашы выручылі...

— А дзе ён, гэты лагер? — падхапіўся з месца Якімка.

— Адзін ты не знойдзеш. Праважатага трэба. А праводзіць няма каму. Усе пайшлі на баявую аперацыю. Толькі дзве групы падрыўнікоў адпачываюць у лагеры ды вартавыя стаяць на пастах. Пачакай. Можа, да вечара хто-небудзь вернецца, тады завядзе цябе ў цывільны лагер. А пакуль раскажы, як і чаму ты да нас трапіў. Хаця, як трапіў, я ведаю — Сухоцкі ў кабіне соннага прывёз.— Радыст зноў весела засмяяўся.— А вось — чаму да нас падаўся? У нас тут небяспечна...

— У Перавозе яшчэ горш, яшчэ небяспечней,— сур'ёзна адказаў Якімка. І тут жа задаў пытанне, якое даўно ўжо круцілася на языку: — А дзе дзядзька Язэп? Ну, Сухоцкі?

— Дык я ж табе казаў. Усе на заданне пайшлі. І ён таксама. Не хвалюйся, хутка ўбачыш свайго дзядзьку Язэпа.— І нецярпліва напомніў: — Ты раскажы ўсё-такі, аб чым я прасіў.

Расказ Якімкі быў хаця і крыху блытаны, але даволі падрабязны. І Косця слухаў яго вельмі ўважліва.

З першых жа дзён вайны ў іхнім мястэчку Перавоз размясціўся нямецкі гарнізон. Мабыць, таму, што ў Перавозе вялікі мост цераз Бярозу. Вось і ахоўваюць яго, і вакол мястэчка таксама пасты паставілі.

— А дзе гарнізон іхні размяшчаецца? — спытаў радыст.

— Дзе ж? Самы лепшы будынак занялі — школу. А паліцаі, тыя з сельмага зрабілі сабе казарму. Сельмаг на плошчы, у самым цэнтры.

Косця падняўся з нар, прайшоў па зямлянцы.

— Расказвай, расказвай,— зноў папрасіў ён.

Якімка павёў гаворку далей.

Неўзабаве ў мястэчку з'явіліся першыя партызанскія лістоўкі. Іх знаходзілі і чыталі амаль у кожным двары. Больш таго. Хтосьці наклеіў лістоўкі на будынак паліцыі і на дошку нямецкіх аб'яў, што на плошчы. Немцы і паліцаі забегалі. Але лістоўкі больш не з'яўляліся, і гітлераўцы паступова супакоіліся.

Ды ненадоўга. Прыйшла ў мястэчка нямецкая калона машын на чале з танкам. Танк на плошчы ўзарваўся, ад яго пачалі рвацца снарады і міны на машынах, і ад калоны амаль нічога не засталося. Адны толькі абгарэлыя жалезныя шкілеты машын ды шаснаццаць свежых бярозавых крыжоў над магіламі акупантаў.

Раз'юшаныя фашысты пачалі шукаць вінаватых. Але вобыскі нічога не далі. Тады яны сабралі ўсіх — і старых, і жанчын, і дзяцей — і пагналі ў Германію.

Па дарозе на станцыю, калі калона спынілася, каб расчысціць ад паваленых бяроз шашу для праходу браневіка, Якімка ўцёк. Ён не толькі ўцёк, а паспеў выхапіць у паўсоннага начальніка паліцыі, па мянушцы Міністр, аўтамат. Цяпер будзе з гэтым аўтаматам ваяваць.

Шкада толькі — ні Вася, ні Уладзік, ні Галя не паспелі тады ўцячы. А збіраліся ж разам. Дзе яны цяпер? Што з імі?

На гэтыя пытанні Косця адказаць не мог. Ён толькі параіў набрацца цярплівасці і чакаць, пакуль вернуцца з задання партызаны, хаця б той жа Сухоцкі, і завядуць яго ў цывільны лагер. Можа, яго сябры там...

— Дарэчы, а як ты ў машыне з Сухоцкім апынуўся? — з цікаўнасцю паглядзеў на хлопчыка радыст.— Зноў вярнуўся ў мястэчка?

— Ага. Я ўспомніў, што ў нас у склепе тол ляжыць і бікфордаў шнур. Хацеў забраць яго. А тут у хату зайшоў Сухоцкі, таксама каб тол забраць. Ну мы і сустрэліся. Потым разам на мост пайшлі. І перад тым як се-

сці на машыну і ехаць да вас, міну падлажылі. Чулі, можа, як бабахнула?..

— Чуў. Усе чулі. Дык ты таксама ўдзельнічаў ва ўзрыве моста?

— Не-е,— працягнуў Якімка.— Гэта дзядзька Язэп узарваў. А я на пасту стаяў, каб хто не наткнуўся.

— І лістовак ты не распаўсюджваў, танк і бензасховішча не падрываў? — Вочы Косці глядзелі на Якімку хітра-хітра. У іх так і скакалі вясёлыя чорцікі.

— Хто іх там ведае,— стараючыся быць абыякавым, махнуў рукою хлопчык.

— Канспіратар!..— заліўся вясёлым смехам Косця.— Ды гэта ж ты са сваімі Уладзікам ды Васем усё зрабіў. Я-то ведаю...

— Адкуль? — не вытрымаў Якімка.

— Адтуль. Служба ў мяне такая. Аб усім, што зроблена, я перадаю на Вялікую зямлю. Разумееш? Ну, за лінію фронту. Вось і пра вашы справы перадаў.

— А хто ўсё ж расказаў вам пра нас?

— Сарока настракатала. Ты ж ведаеш, якія яны, сарокі, балбатухі,— жартам адказаў Косця.

— Ну дык я скажу,— крыху пакрыўдзіўся хлопчык.— Дзядзька Хведар вам пра ўсё расказаў... Вось... А то саро-о-окі!..

— Добра, не злуйся,— па-сяброўску таўхануў яго Косця.— Давай, брат, дружыць з табой будзем. Га? І заві мяне на ты. Дамовіліся? Колькі табе гадоў?

— Чатырнаццаць... Без малога...

— Ну а мне васемнаццаць. Розніца невялікая.

— Вы адкуль?

— Не вы, а ты.

— Ты адкуль?

— Паляшук я, браце. З Мазыра. Эвакуіраваліся мы, і я адразу на курсы радыстаў паступіў. А потым, калі скончыў, сюды папрасіўся.

— На парашуце спусціўся?

— Эге ж. На парашуце.

— А дзе ён? Пакажы. Здалёк бачыў, а зблізку ні разочку.

— Хо-о,— махнуў рукой Косця.— Ад парашута адны ўспаміны засталіся. Хлопцам на бялізну пайшоў.— Ён паглядзеў на наручны гадзіннік.— Абедаць пара. Пайшлі.

Якімка хуценька ўсхапіўся.

На парозе зямлянкі яны міжволі ўцягнулі галовы ў плечы. З навіслых над лесам хмар сыпаў дробны, але густы і халодны дождж. Ён пахнуў прэлай хвояй і грыбамі.

Якімка зябка перасмыкнуў плячыма.

Косця пастукаў костачкамі пальцаў у акно кухні. Акно расчынілася, і з яго выглянула павaрыха — тая самая немаладая жанчына, што нядаўна частавала Якімку.

— Цётачка Палагеечка,— прытворна схапіўся за жывот Косця.— Ратуйце. Жывот да хрыбетніка прырос...

— Зараз, зараз, гарэза, пацярпі яшчэ з хвіліну.

Неўзабаве на падаконніку з'явілася дзве лусты хлеба, а потым і дзве міскі, якія курыліся белай духмянай парай.

— Лыжка ў цябе ёсць? — запытаўся Косця.— Няма? Так я і ведаў. Навічкі заўсёды прыходзяць без лыжак. А ты ведаеш, што без лыжкі і зброі партызан — не партызан? Ну, ды так ужо і быць. Дам табе па дружбе сваю запасную. Бяжы ў маю зямлянку і вазьмі ў рэчавым мяшку. На сцяне, справа ад увахода, вісіць.

Стол партызанам замяняла нястуганая шырокая дошка, прыбітая да ўкапаных у зямлю слупкоў. Крэсламі служылі камлюкаватыя цурбаны. Косця з Якімкам уладкаваліся пад густой разлапістай елкай, куды не даставаў дождж, і ўзяліся за яду. Якімка апаражніў сваю міску першым і тайком кідаў позіркі на акно кухні: хай бы яно адчынілася яшчэ.

І акно адчынілася.

Цётка Палагея паклікала Якімку і зноў напоўніла яго міску капустай.

— Эйш, як ты прагаладаўся,— спачувальна прамовіла яна.— Мусіць, суткі не еў.

— Двое,— адказаў Якімка.

Акно павольна зачынілася.

З'еўшы капусту і вычысціўшы хлебнай скарынкай міску, Якімка ледзь паплёўся ад кухні. Яму зноў раптам захацелася спаць, ды так, што аж вочы зліпаліся.

Косця паглядзеў на яго і сумна ўсміхнуўся:

— Ну і давялі ж цябе фрыцы, братка ты мой. Зараз на хаду заснеш. Тупай у зямлянку і адсыпайся яшчэ. А я,— ён зірнуў на гадзіннік,— пайду зводку прымаць. Вечарам раскажу.

— Ага,— прамармытаў Якімка і, нібы сляпы, пасунуўся да зямлянкі.

Глуха шамацеў у вершалінах дождж, паволі плылі над лесам нізкія шэрыя хмары.

## СУСТРЭЧА З СЯБРАМІ

Прачнуўся Якімка раптоўна, як і заснуў. Ва ўсім целе адчувалася бадзёрасць. Ён падхапіўся, ускінуў на плячо аўтамат і выйшаў з зямлянкі.

Вечарэла. Цені пад елкамі сталі гусцейшымі. Над лесам па-ранейшаму павольна плылі і плылі хмары, але дождж перастаў. Толькі вецер асыпаў долу кроплі, што віселі на іглiцы.

Уздыхнуўшы раз-другі на поўныя грудзі, Якімка накіраваўся да Косцевай зямлянкі.

У зямлянцы, як і ў першы Якімкаў прыход, гарэла жоўтым святлом «кацюша», а Косця, седзячы ў навушніках, засяроджана запісваў нешта на лістку паперы. Якімка прыгледзеўся і здзівіўся: ніводнага слова, адны толькі лічбы. Як жа гэта называецца? Хлопчык наморшчыў лоб, стараючыся ўспомніць. Ён жа некалі чытаў кніжку, і там гаварылася пра такую сакрэтную перапіску — лічбамі...

«Ага, шыфр!» — ледзь не крыкнуў ад радасці, што ўспомніў, Якімка.

Хітрая гэта штука, шыфр. Радыё могуць падслухаць і немцы. І напэўна падслухоўваюць. Калі па радыё перадаваць звычайныя словы, вораг будзе ведаць усе сакрэты. А вось лічбы — зусім іншая справа. Разабрацца ў іх здолее толькі той, у каго ёсць спецыяльны ключ для расшыфроўкі. У немцаў, вядома, такога ключа няма, а ў Косці ёсць. І ён зараз з дапамогай гэтага ключа перавядзе мову лічбаў на звычайную чалавечую мову.

— Шыфр? — паказаў Якімка на лісток, калі Косця зняў навушнікі.

— Шыфр,— пацвердзіў Косця.— А ты адкуль ведаеш, як гэта называецца?

— Чытаў, — коратка адказаў Якімка. — Цікавае што?

— Вельмі цікавае, браце. Але гэта не для нас з та-

бой, а для камандавання. Так што не крыўдуй, не маю права расказваць.

— Я і не прашу. Ваенная тайна. Праўда? — пагадзіўся Якімка.

— Эйш ты які! — паляпаў яго па плячы Косця.

Падышоўшы да сцяны, ён зняў аўтамат, разабраў, уважліва паглядзеў у канал ствала і задаволена хмыкнуў:

— Чысценькі. А ты ўмееш разбіраць аўтамат?

— Умею. Спрабаваў.

— А пісталет?

— Пісталет — не. Не даводзілася. Але каб убачыў хоць раз, змог бы, мусіць...

Косця расшпіліў кабуру, дастаў новенькі пісталет.

— Вучыся.

Некалькі спрытных рухаў, і на збітым з дошак стале ляжаць асобныя часткі пісталета: рукаятка, кожух, ствол, абойма. Яшчэ некалькі рухаў, і пісталет сабраны.

— Паспрабуй цяпер ты.

Якімка ўзяў пісталет у рукі і з заміраннем сэрца пачаў уважліва разглядаць. Вось бы яму, Якімку, такі! От бы пазайздросцілі хлопцы!.. Толькі дзе яны, гэтыя яго хлопцы? Можа, зусім і не іх выручылі пазаўчора партызаны... Можа, зусім і не іх прывялі ў цывільны лагер... Ці мала людзей гоняць цяпер у Германію...

— Чаго задумаўся? Разбірай,— сказаў Косця і паказаў, з чаго трэба пачынаць.

Разабраўшы і зноў сабраўшы пісталет, Якімка з затоенай надзеяй падняў вочы на Косцю:

— А ў цябе яшчэ адзін ёсць?

— Што, пісталет?

— Ага.

— Не, браце, чаго няма, таго няма. А што, хочацца мець?

— Ага.

— Ну і будзеш мець! Вось убачыш. У немцаў адбяром. Ты не думай, у нас палавіна хлопцаў з трафейнай зброяй ходзяць. Як толькі бой, так глядзіш, то кулямёт здабудуць, то аўтаматаў некалькі, то пісталеты...

За дзвярыма зямлянкі пачуўся тупат ног, галасы. Косця з Якімкам выскачылі наверх.

У лагер вярталіся з баявога задання партызаны.

Яны ішлі, расцягнуўшыся ў доўгую калону, па двое, па трое, па чацвёра. Кулямёты — нашы і нямецкія, вінтоўкі, аўтаматы розных сістэм, у кожнага на поясе па дзве-тры гранаты. На шапках, пілотках, папахах — чырвоныя стужкі наўскасяк або зорачкі. Твары ўчарнелыя, змораныя, хада цяжкая, але галасы ў партызан бадзёрыя. Яны перакідваліся жартамі, звонка смяяліся...

Якімка ўпершыню ўбачыў так многа партызан адразу. Ён пазіраў на іх на ўсе вочы, стараючыся ўсё прыкмеціць, усё разгледзець.

Недзе ў сярэдзіне калоны Якімка заўважыў Сухоцкага. На грудзях у яго — аўтамат, а на плячы — нямецкі ручны кулямёт з дзвюма каробкамі.

— Дзядзька Язэп! — ірвануўся да яго Якімка.— А я вас чакаю, чакаю...

Сухоцкі сышоў са сцежкі, прыхіліў да дрэва кулямёт і зморана абапёрся спіной аб ствол.

— Што чакаеш — гэта добра. А я, брат, як кажуць, адразу з карабля на баль трапіў. Прыехалі мы з табой, чую, хлопцы на чыгунку збіраюцца. Папрасіўся, каб мяне ўзялі. Адпачні, кажуць, табе і так хапіла сёння. Адпачываць, кажу, будзем, як апошняга гада прыкончым. Ну і ўзялі...

— А далёка да чыгункі? — пацікавіўся Якімка.

— Далёка. Калі туды ды назад, дык больш за сорак кіламетраў будзе. Утаміліся, аж ногі гудуць...

— Як аперацыя прайшла, Язэп Іванавіч? — падышоў Косця.

— Удала. А ўсё таму, што ўдзень. Гітлераўцы, яны ночы баяцца. Ракеты пускаюць, мясцовасць прастрэльваюць. А ўдзень сядзяць ціха, адпачываюць, можа, нават спяць. Хвароба іх ведае...

— Дзядзечка, а вы падрабязна,— зазірнуў яму ў вочы Якімка.

— Ды нічога асаблівага.— Сухоцкі апусціўся прама на сыры мох і пачаў скручваць цыгарку.— Прыйшлі, заляглі каля чыгункі, чакаем. Задача — расстраляць варожы эшалон з жывой сілай, што, як данеслі сувязныя, павінен вось-вось прайсці. Мая задача — ліквідаваць кулямётны разлік на вышцы каля насыпу. Падпоўз як мага бліжэй, выбраў за лаўжом зручную пазіцыю і чакаю. Як толькі пакажацца эшалон, буду біць па вышцы, каб не перашкаджала хлопцам. Ля-

жаў, можа, з гадзіну. Аж усё цела знямела. Ні ўстаць нельга, ні паварушыцца. Блізка. Заўважаць фрыцы, пачнуць пуляць і ўсю музыку сапсуюць.

Нарэшце паказаўся эшалон. Паласнуў я з аўтамата па вышцы. Маўчаць. Паласнуў другі раз. Зноў ціха. Няўжо, думаю, нікога няма? Але ж ствол кулямёта тырчыць... У чым тут справа? І палез я на вышку правeрыць. А хлопцы тым часам лупяць па эшалону. Андросік са свайго пэтээра прабіў кацёл паравоза, і эшалон спыніўся. А кулямёты так і паліваюць, так і паліваюць вагоны з салдатнёй. Крыкі, енкі, стогны...

Узлез я, значыць, на вышку, аж яны, ахоўнічкі, гатовы. Неяк так удала атрымалася, што з першай чаргі скасіў іх. Таму і не агрызаліся.

Забраў я кулямёт, аўтамат, два пісталеты — адзін у кулямётчыка, другі ў унтэра — і ўніз. Тут ужо і хлопцы кінуліся на насып, да эшалона. Ну і я за імі...

А потым адышлі. Бо з двух бакоў паказалася падмацаванне фрыцам...

— А ўсяго колькі іх забілі? — запытаўся Якімка.

— Хто ж яго ведае. Лічыць не было калі. Заўтра даведаемся. Сувязныя паведамяць.— Сухоцкі цяжка падняўся, Якімка ўзяў кулямёт, і яны пайшлі да зямлянкі.

— Дзядзька Язэп,— падняў хлопчык галаву,— а пісталеты абодва ў вас?

— Вось ты аб чым,— усміхнуўся Сухоцкі.— Малайчына, што напомніў.— Ён засунуў руку ў кішэню і дастаў невялікі пісталет.— Вось табе гэты. А парабелум сабе пакіну.

Якімка ад вялікай радасці не ведаў, што рабіць. Нават падзякаваць дзядзьку Язэпу забыўся.

У яго цяпер сапраўдны пісталет! Новенькі, важкі, з патронамі. Толькі вось кабуры няма. Ды нічога, пакуль што можна і ў кішэні панасіць. Эх і пазайздросцяць Уладзік з Васем!..

Уладзік... Вася... Дзе яны цяпер? Можа, вязуць іх у далёкую чужую Германію...

А можа, дзе-небудзь тут яны, побач, у цывільным лагеры...

— Вы ведаеце, дзе знаходзіцца цывільны лагер? — запытаўся Якімка ў Сухоцкага.

— Як жа не ведаць,— адказаў Сухоцкі.— Кіламет-

ры са два адсюль будзе. Адпачнём і, калі нічога не здарыцца, заўтра сходзім туды. Зранку. Добра?

Ён паставіў у зямлянцы кулямёт, аўтамат, зняў рэмень з пісталетам і гранатамі і, прыхапіўшы ручнік, пайшоў мыцца.

Мыліся партызаны ў невялічкай рачулцы, што булькатала ў яловых карэннях каля самага лагера. Вада ў рачулцы была крынічная, сцюдзёная. Глынеш такой, аж зубы заходзяцца.

Сухоцкі распрануўся да пояса і, з задавальненнем фыркаючы, пачаў абліваціца вадой. Мыўся ён доўга, старанна расціраў цела, пакуль яно не зрабілася чырвоным, як пасля добрай лазні. Потым выцерся і надзеў сарочку.

— Ух ты! — глыбока ўздыхнуў ён, расчэсваючы светлую чупрыну.— Быццам нанава на свет нарадзіўся! Ну, пайшлі вячэраць ды спаць.

— Мяне Косця запрашаў начаваць,— сказаў Якімка.— Я да яго пайду.

— У Косці, бадай, лепш будзе,— пагадзіўся Сухоцкі.— Прасторна, ціха...

Вечарам на невялікай палянцы за лагерам успыхнула вогнішча. Уздыхнулі, загаманілі густыя басы баяна. Спачатку ціха, нясмела, а потым усё званчэй і шырэй загучала песня. Якімка спачатку стаяў збоку і слухаў, а потым падышоў да агню, падсеў да спевакоў і, як умеў, пачаў падцягваць.

Прыемна было хлопчыку адчуваць сябе членам гэтай дружнай баявой сям'і.

Сухоцкі разбудзіў Якімку на досвітку. Яны хуценька памыліся ў рачулцы, выпілі партызанскага чаю — хлеб з варам, настоеным на калінавым цвеце,— і рушылі ў дарогу.

Вецер за ноч разагнаў дажджавыя хмары, і неба над лесам ззяла незвычайнай чысцінёй. Як быццам яго хто вымыў. Прачнуліся і звонкім шчэбетам віталі надыход новага дня лясныя птушкі.

Сцяжынка паступова забірала ўгору, і змрочныя елкі ўступалі месца вясёлым меднаствольным соснам. Сыры зялёны мох змяніўся шэрым, сухім. Ён з лёгкім шоргатам слаўся пад ногі.

— Недзе за гэтым пагоркам і лагер. Ужо скора,— сказаў Сухоцкі.

— Дзядзька Язэп, а дзед Лук'ян там? — запытаўся Якімка.

— Павінен быць там. Я ўчора хацеў наведацца. Ды не выпала. Сам знаеш, на чыгунку трэба было ісці.

— І Галя ваша там?

— І Галя.

Сцяжынка пачала спускацца ўніз, і на змену соснам зноў прыйшлі елкі. Высокія, разлапістыя, яны паўсталі неўзабаве суцэльнай сцяной. З-за адной яліны, калматыя лапы якой спускаліся да самай зямлі, нечакана прагучаў глухі вокліч:

— Стой! Хто ідзе?

«І тут варта! — адзначыў Якімка.— Правільна. Хаця лагер і цывільны, а калі б што, вораг не палічыўся б. Усіх бы знішчыў...»

— Свае! — адказаў нябачнаму вартавому Сухоцкі.— Партызаны з «Мсціўца».

На сцяжынку выйшаў стары, крыху згорблены чалавек з вінтоўкай у руках.

Якімка зірнуў на яго і кінуўся наперад.

— Дзядуля! — уткнуўся ён тварам у прапахлую тытунём дзедаву паддзёўку.

Дзед Лук'ян прытуліў хлопчыка да сябе і асцярожна пагладзіў дрыжачай рукой яго плечы.

— А я, унучак, ужо і не думаў,— выцер ён няпрошаную слязу,— не думаў, што ўбачу цябе... Гад той так часануў тады з кулямёта па табе... А нас, вось бачыш, партызаны выручылі. Бранявік, што ішоў спераду, на міне падарвалі. Канваіраў перабілі, ну,— дзед развёў рукамі,— вось мы і на волі...

— Уладзік, Вася таксама тут? — нецярпліва паглядзеў на дзеда Якімка.

— Уладзік то тут. А вось Вася,— дзед уздыхнуў,— Вася невядома дзе. Ён жа тады на паліцая гэтага, Міністра, з нажом кінуўся, цябе выручаў. Паласнуў яму нажом па шыі, той і нагамі задрыгаў. Толькі раз ці два і паспеў стрэльнуць з лявольвера. Вася — у лес. А па ім як сыпанулі... Можа, дзе ляжыць ля дарогі...

— Галя з вамі? Ці...— Сухоцкі нешта хацеў запытаць яшчэ, але дзед перапыніў яго:

— З намі. А то дзе ж ёй быць... Там, у будане,— махнуў ён рукою.— Дык вы ідзіце. Хутка мяне зменяць, тады і я прыйду. Пагаворым.

Лясны лагер, у якім жыло цывільнае насельніцтва,

размяшчаўся, як і партызанскі, на беразе невялікай рэчкі. Большасць сем'яў жыла тут у зямлянках. Зямлянкі былі невялікія і цягнуліся двума роўнымі радамі, як хаты ў вёсцы. Тыя, што прыйшлі ў лес нядаўна, часова жылі ў буданах, накрытых яловымі лапкамі.

Жылі ўсе дружнай камунай. Даілі кароў і малако дзялілі на ўсіх дзяцей пароўну. Яду варылі па чарзе ў адным вялікім катле і таксама дзялілі на ўсіх пароўну. Па чарзе пасвілі кароў, па чарзе пяклі хлеб, па чарзе неслі варту. Уначы дарослыя — дзяды і жанчыны, а ўдзень хлапчукі-падлеткі. Зброі было небагата — усяго некалькі старэнькіх, з самаробнымі ложамі вінтовак ды паляўнічых драбавікоў,— і гэтую зброю, мяняючыся на варце, перадавалі з рук у рукі.

Калі Сухоцкі з Якімкам прыйшлі на тэрыторыю лагера, людзі ўжо не спалі. У спецыяльным загоне дзве маладзіцы даілі кароў. Ад ракі бегла чародка басаногай дзятвы. Дзеці неслі гарлачы і бітончыкі, напоўненыя вадой. У цэнтры лагера жанчына ў пярэстай хустцы завіхалася ля вялікага закуранага катла над вогнішчам. Відаць, варыла снеданне. Маленькі хлопчык старанна падкідваў у агонь сушняк. Нейкая бабуля развешвала на тэлефонным кабелі, нацягнутым між дзвюма елкамі, памытую бялізну.

Сухоцкі з Якімкам адшукалі дзедаў будан і адхінулі радно, што прыкрывала ўваход.

Будан быў пусты.

Дзе ж Галя? Стары сказаў, што яна ў яго будане. Ці, можа, ім здалося, што сказаў?

Сухоцкі разгублена азіраўся па баках.

Галя вынырнула з-за дрэва нечакана. У руках у яе быў гарлач з вадой. Убачыўшы бацьку, яна моцна ашчарэпіла яго за шыю і ўсхліпнула:

— Татка! Родненькі...

Вада з кінутага гарлача пацякла Якімку пад ногі. Хлопчык падняў гарлач, паставіў яго, а сам адвярнуўся і прыкусіў губу.

— Ну хопіць, хопіць табе,— асцярожна адрываючы ад сябе дачку, мармытаў Сухоцкі.— Вось бачыш, і сустрэліся. Я ж казаў.— Ён асцярожна пасадзіў Галю на мох, сам сеў побач.— Ну, расказвай, як вы тут жывяце...

— До-обра,— тоненька працягнула Галя.— Тут не страшна. А на шашы была напужалася, як пачалі

страляць... Думала — памру. Спачатку бранявік, што ішоў наперадзе, як ірванула... Толькі чорны слуп зямлі падняўся ўгору... Ну мы і пападалі ўсе, у канавы папаўзлі... А потым як паднялася страляніна, дык я і разочку галавы не ўзняла. Ляжу, а побач немец. Лупіць і лупіць з кулямёта. Усё ўжо як быццам сціхла, а ён страляе. Гляджу на яго адным вокам і бачу — бутэлька над галавой немца падымаецца. А тады як храсне гэтая бутэлька яму па галаве, ён і кулямёт выпусціў. Гэта дзядзька Антон ударыў, Васеў бацька... Ну, а потым падбеглі партызаны і сказалі хутчэй збочваць у лес. Па лесе аж сюды нас прывялі...— Галя перадыхнула.— Тут до-обра... Усе глядзяць адно аднаго, памагаюць адзін аднаму... Толькі цябе доўга не было. Я ўжо баялася, што здарылася нешта...

— Чаго ж баяцца, дачка? Усё, як бачыш, добра. Ды і не так ужо доўга мы з табой не бачыліся. Як рассталіся з табой у Перавозе, усяго трое сутак мінула... Цяпер часта будзем сустракацца. Тут зусім недалёка.

Галя павярнулася да Якімкі. Доўга разглядала яго з ног да галавы, потым з захапленнем сказала:

— Ого які ты стаў. З аўтама-атам. Толькі не крыўдуй, але мы ўжо думалі, што ўсё табе. Выхапіў ты тады аўтамат у Міністра, а немец потым як часане з кулямёта... Васю ён усё-такі забіў, мусіць. Вася як разануў нажом Міністра, кулямёт адразу ж па ім... Па табе ж не адразу...

— Уладзік дзе?— запытаўся Якімка.

— Зараз паклічу.

Галя лёгка паднялася і знікла за кустамі. Назад вярнулася разам з Уладзікам.

Уладзік падышоў не спяшаючыся, уразвалачку. Падаў руку спачатку Сухоцкаму, потым Якімку і, выбраўшы зручную мясцінку, прысеў.

— Глядзі ты, з аўтаматам,— не без зайздрасці сказаў ён.— Міністраў?

— Быў Міністраў.— Цяпер — мой. І не ўцярпеў Якімка, дастаў з кішэні важкі пісталет.— Паглядзі, які. Дзядзька Язэп падарыў.

Уладзікавы вочы загарэліся. Ён узяў пісталет, доўга круціў яго ў руках, потым уздыхнуў і вярнуў Якімку.

— Прынялі цябе ў партызаны?

Якімка і сам не ведаў, прымуць яго ці не. Гаворкі аб гэтым не было яшчэ. Ён няпэўна матнуў галавой і, каб больш не гаварыць пра гэта, запытаўся:

— Што думаеш рабіць?

— Таксама пайду ў атрад.— Уладзік павярнуўся да Сухоцкага: — Вы, дзядзька Язэп, закінеце за мяне слоўца?

— Абавязкова,— паабяцаў Сухоцкі.— Сёння ж з Базылёнкам пагавару. Ён у нас начальнік разведкі.

— Дзядзька Хведар?! — аж падхапіўся Уладзік.— Дык ён жа нас добра ведае. І Якімку, і мяне, і Васю... Ён прыме.

Вярнуўся з паста дзед Лук'ян. Разуўся, павесіў сушыць анучы. Падсеў да Сухоцкага.

— Што чуваць адтуль? — дзед махнуў рукой на ўсход.

— Навіны, Лявонавіч, добрыя,— зацягнуўся цыгаркай Сухоцкі.— Націскаюць нашы. Праўда, на поўдні пакуль ціха. Але ж не ўсё адразу.

— А ў вас што новага?

Сухоцкі падрабязна расказаў пра знішчэнне варожага эшалона.

Сонца паднялося над лесам, і на брусьнічніку высыхала раса. Пара было вяртацца ў лагер. Сухоцкі ўстаў, падняўся і Якімка.

— Ты, унучак, можа, застаўся б,— прапанаваў дзед Лук'ян.

— Не, дзядуля. Пайду з дзядзькам Язэпам,— рашуча адказаў Якімка.— Я ў разведку хачу.— І няўпэўнена дадаў: — А там, хто яго ведае, можа, яшчэ і вярнуся...

— Пра мяне, дзядзька Язэп, не забудзьце Хведару Астапавічу сказаць. Перадайце, што вельмі хачу ў разведку,— напомніў Уладзік.

Галя ўзяла бацьку за руку.

— Я цябе правяду, татка.

І яны ўтраіх пайшлі па лясной сцяжынцы.

## АПЕРАЦЫЯ «К»

Калі Сухоцкі з Якімкам вярнуліся ў свой лагер, там стаяў вясёлы тлум. Партызаны нядаўна паснедалі, і цяпер кожны займаўся сваёй справай. Адны раман-

тавалі адзенне, другія прыводзілі ў парадак абутак, трэція — і такіх было большасць — чысцілі зброю.

Вось каржакаваты светлавалосы дзяцюк вынес з зямлянкі даўжэзнае ружжо з тармазным прыстасаваннем на канцы ствала, паставіў яго на ножкі і пачаў разбіраць. Якімка спыніўся каля яго. На разасланую анучыну дзяцюк паклаў затвор, магазінную каробку, патроны. Патронаў было пяць. Па форме яны нагадвалі звычайныя вінтовачныя. Але толькі па форме. А па памерах былі, мусіць, разоў у дзесяць большыя. І кулі ў іх — з чырвонымі, чорнымі і жоўтымі абадкамі — былі такія, што, мабыць, ніякая браня іх не вытрымлівала.

«Бранябойнае ружжо»,— здагадаўся Якімка. Успомніў і прозвішча бранябойшчыка — Андросік. Гэта ён і прадзіравіў учора фашысцкі паравоз.

Андросік падняў светлыя вочы на Якімку і гарэзліва падміргнуў:

— Ну як машынка, падабаецца?

— Ага, толькі цяжкая, мусіць...

— Цяжкая? — Андросік узяў ружжо адной рукой, падкінуў у паветры і лёгка падхапіў.— Пушынка! — хаваючы ўсмешку, сказаў ён і прапанаваў: — Сам паспрабуй.

Якімка, пераймаючы Андросіка, таксама ўзяўся за ружжо і... ледзь адарваў яго ад зямлі.

— Ого! — міжволі вырвалася ў яго.— Добранькая пушынка!..

Андросік весела зарагатаў.

— Затое б'е як! Па паравозу як ударыш, дык кацёл адразу з двух бакоў парай свішча. Нават вежу бранявіка наскрозь прашывае.

— А для чаго абадкі на кулях? — паказаў Якімка на патроны.

— Гэта каб ведаць, якая куля. Чырвоны абадок — запальная, добра па цыстэрнах з гаручым страляць, жоўты — разрыўная — гэта ўжо па бранявіках, машынах, а чорны абадок — звычайная бранябойная. Ёсць яшчэ камбінаваныя кулі — бранябойна-разрыўныя, бранябойна-запальныя. Такія, бадай, лепш за ўсё.

— Мусіць, у плячо б'е моцна,— выказаў меркаванне Якімка.

— Трохі ёсць,— згадзіўся Андросік і тут жа паці-

кавіўся: — А ты адкуль гэта ведаеш? Наогул, што ты ёсць за чалавек?

Хлопчык засаромеўся, пераступіў з нагі на нагу.

— Якімка я. З Перавоза.

— Чакай, чакай! — Андросік перастаў чысціць затвор.— Дык гэта ты Міністра кокнуў?

— Не-е. Гэта Вася. Ён яго нажом. А я толькі аўтамат схапіў ды ў лес...

— Усё роўна малайчына. А Вася дзе?

— Не ведаю. І ніхто не ведае...

— Хаця правільна. Якраз яго, Васю, мы і шукалі...

— Шукалі? — страпянуўся хлопчык.— І што?

— Не знайшлі.

Пачуўшы гэтую размову, да іх падышоў вусаты дзядзька, які непадалёк чысціў трафейны кулямёт.

— Значыць, ты і ёсць той самы Якімка? — выціраючы рукі, спытаў ён.— Малайчына, хвалю. Ну давай знаёміцца,— падаў ён шырокую цвёрдую далонь.— Апанас Гаўрылавіч Цыбульскі. Або проста дзядзька Панас. Так мяне ўсе тут завуць. Ваяваць, значыць, будзем?

— Хто яго ведае,— збянтэжана паціснуў плячыма Якімка.— Можа, яшчэ не прымуць...

— Ну-у, не прымуць... Самога Міністра вакол пальца абвёў, на той свет паслаў, і не прымуць!..

Падышло яшчэ некалькі партызан. Яны з цікаўнасцю прыслухоўваліся да размовы, разглядалі хлопчыка. Невялічкі, шчупленькі, сарамлівы, а глядзі ты, начальніка паліцыі абяззброіў, памог Сухоцкаму мост узарваць... Хто б падумаў.

Партызаны засыпалі Якімку пытаннямі, і ён ледзьве паспяваў адказваць.

— Што тут у вас за сход такі? — прагучаў густы, вельмі, вельмі знаёмы бас. Хлопчык падняў вочы і сустрэўся позіркам з Хведарам Астапавічам Базылёнкам — начальнікам атраднай разведкі.

— Якімка! — прытуліў да сябе хлопчыка дзядзька Хведар.

— Трэба ў атрад яго ўзяць, Астапавіч,— сказаў вусаты кулямётчык.— Заслужыў хлопец. Можна сказаць, герой, хоць ростам і не зусім яшчэ...

— Трэба. Абавязкова,— падтрымалі другія партызаны.— Ты да камандзіра схадзі.

— Ды за такога хлопца я куды хочаш пайду прасіць,— шырока ўсміхнуўся дзядзька Хведар.— Хоць да самога наркома. Дык пайшлі, Якімка. Да камандзіра.

Камандзірская зямлянка была, як і ў Косці-радыста, невялікая.

Каля ўвахода, пад вузкім акенцам, збіты з няструганых дошак стол, далей — звычайныя нары. За сталом сядзеў сярэдніх гадоў мужчына ў ваеннай гімнасцёрцы, побач з ім — мужчына ў цывільным.

Дзядзька Хведар прывітаўся па-ваеннаму і падпіхнуў хлопчыка наперад.

— Вось, таварыш Багдановіч, той самы Якімка, пра якога я вам расказваў.

— Помню, помню,— падняўся з месца камандзір і пацiснуў хлопчыку руку.— Здорава ты тады нам зброяй памог. Дзякуй. І сябрам тваім вялікае дзякуй.— Ён акінуў Якімку кароткім учэпістым позіркам і спытаў: — У атрад, значыць, прыйшоў? Ваяваць?

— Ага. У мяне і зброя ёсць,— зняў хлопчык з пляча аўтамат.

— У самога Міністра адабраў! — з гордасцю сказаў дзядзька Хведар.

Багдановіч думаў нядоўга. Прайшоўся ўзад-уперад па цеснай зямлянцы, яшчэ раз уважліва агледзеў худзенькую Якімкаву постаць і звярнуўся да чалавека ў цывільным:

— Як, камісар, возьмем?

Чалавек у цывільным усміхнуўся:

— Такога арла ды не ўзяць!

— Бяром цябе ў атрад, Якімка. Пакуль што пабудзеш у гаспадарчым узводзе.

— Каб у разведку...— панiклым голасам прамовіў хлопчык.

— Будзеш і ў разведцы. З часам. А пакуль што патрыся сярод гаспадарнікаў, асвойтайся.— Камандзір мякка ўзяў яго за падбародак.— Вышэй галаву, партызан. У гаспадарнікаў работа не менш важная і адказная, чым у разведчыкаў. І ў пераплёты яны трапляюць такія, у якія, можа, ні адзін разведчык не трапляў. Так што ты не думай.— І павярнуўся да дзядзькі Хведара: — Вядзі яго, Астапавіч, да старшыны. Няхай дасць яму месца ў зямлянцы, на харчаванне залічыць і ўсё іншае. Дык жадаю баявых поспехаў!

Дзядзька Хведар павярнуўся ісці. А Якімка толькі пераступіў з нагі на нагу і застаўся стаяць на месцы.

— Ну што яшчэ, герой? — падышоў да яго камісар атрада.

— Уладзік, таварыш мой, таксама хоча ў атрад,— нясмела сказаў Якімка.— Мы ўвесь час усё разам ды разам былі, а цяпер, выходзіць, па аднаму...

— Уладзік? — Камісар і камандзір адначасова паглядзелі на дзядзьку Хведара.

— Слаўны хлапчына,— вярнуўся з парога начальнік разведкі.— Яны і праўда адзін без аднаго кроку не маглі зрабіць. Быў яшчэ трэці, Вася. Ды знік невядома куды... Думаю, можна гэтага Уладзіка ўзяць. Не падвядзе.

— Так і быць. Кліч яго сюды.

— Ён там,— махнуў рукою Якімка.— У цывільным лагеры. Але я збегаю. Мігам.

Забыўшыся ад радасці развітацца з атрадным начальствам, хлопчык стрымгалоў выскачыў з зямлянкі і пабег па Уладзіка.

Камандзір глянуў на камісара, потым на дзядзьку Хведара, і ўсе яны ўсміхнуліся.

Гаспадарчым узводам камандаваў былы армейскі старшына Дубоўскі. Ён прыйшоў у атрад з палону, з канцэнтрацыйнага лагера. Прыйшоў не адзін, а з цэлай групай ваеннапалонных. І не з голымі рукамі. У кожнага была або нямецкая вінтоўка, або граната, або пісталет.

Зброю здабылі яны ў сапраўдным баі.

Вось як гэта было.

Кожную раніцу ў канцэнтрацыйным лагеры немцы выстройвалі ваеннапалонных і, разбіўшы на групы, вялі пад канвоем на работу. Адных — рамантаваць дарогу, другіх — будаваць вакол гарнізона дзоты, трэціх — валіць лес. Дубоўскі, які трапіў у палон параўнальна нядаўна і не зусім яшчэ аслабеў, як правіла, трапляў у групу лесарубаў. Дзе-дзе, а на такой рабоце патрэбна немалая фізічная сіла.

Добра пазнаёміўшыся з таварышамі па няшчасцю, старшына прапанаваў арганізаваць уцёкі. І не проста ўцячы, а знішчыць канвой. Усе згадзіліся.

І вось аднойчы ў сярэдзіне дня, калі работа была ў самым разгары, старшына падаў каманду:

— Перакур!

Гэта быў умоўны сігнал.

Ваеннапалонныя, якія ў гэты дзень стараліся трымацца як мага бліжэй да канваіраў, кінуліся на іх з сякерамі, і ўмомант усё было скончана.

А назаўтра былыя ваеннапалонныя былі ў «Мсціўцы».

Старшына Дубоўскі быў вясёлы жартаўлівы чалавек. Якімку з Уладзікам ён сустрэў цырымонным паклонам і адразу павёў паказваць сваю гаспадарку.

— Вось гэта вальера для дзікіх мустангаў,— паказаў ён на паветку, страха якой была зроблена з яловых лапак.— Як бачыце, жывуць тут мустангі з усімі зручнасцямі. Ёсць кармушкі для аўса і сена, ёсць загарадкі, каб не брыкаліся. Умовы — каралеўскія. А гэта,— падвёў Дубоўскі хлопцаў да невялічкай зямлянкі,— цэнтральны арсенал. У ім захоўваецца такая грозная зброя, як капуста, буракі, морква, цыбуля. Ну, а там далей — бачыце? — загон для бізонаў. Але іх, на жаль, няма. Апошняга яшчэ ўчора адправілі ў кацёл да цёткі Палагеі. Так што, хлопцы, наша бліжэйшая задача папоўніць загон новымі экземплярамі рагатых.

Жартаўліва-гарэзлівы выраз твару Дубоўскага неяк адразу змяніўся на сур'ёзны. Камандзір паклаў хлопцам рукі на плечы і, накіроўваючыся ў лагер, пачаў расказваць аб намечанай гаспадарчай аперацыі. У Пагосце, што кіламетраў за дванаццаць — пятнаццаць адсюль, знаходзіцца нямецкі гарнізон. Там жыве каля трыццаці сем'яў паліцэйскіх. У кожнай сям'і адна, а то і дзве каровы. Па дадзеных разведкі, іх пасуць часцей за ўсё на лузе, што працягнуўся ад мястэчка да лесу. Пастухі два — стары і малады. Зброі, здаецца, у іх няма.

Задача перад гаспадарчым узводам стаіць такая: забраць статак кароў паліцэйскіх і прыгнаць яго ў лагер.

— Калі пойдзем? — запытаўся Якімка.

— Зараз і рашым,— адказаў Дубоўскі.— Хлопцы ўжо рыхтуюцца.

Гаспадарчы ўзвод быў невялікі — з Якімкам і Уладзікам усяго чатырнаццаць чалавек. Але ўзброены яны

былі выдатна — ручны кулямёт, сем аўтаматаў і шэсць карабінаў. З такой зброяй можна было смела ваяваць.

Дубоўскі хутка сабраў «гаспадарнікаў», як называлі ў атрадзе партызан яго ўзвода, і падрабязна растлумачыў задачу.

— Пытанні, прапановы ёсць? — звярнуўся да строю Дубоўскі.— Няма? Тады пайшлі.

Дарога на Пагост вяла праз лес. Правільней, не дарога, а партызанская сцяжынка, якую неспрактыкаванае вока магло і не заўважыць. Сцяжынка вілася між кашлатых елак і меднастволых соснаў, разразала лапатлівы асіннік, ныраала ў густы арэхавы падлесак і, папятляўшы ўдосталь між кустоў, зноў выходзіла на баравы прастор, напоены пахам смалы і сонца.

Калі мінулі апошні пост, Дубоўскі паслаў двух аўтаматчыкаў наперад. Яны пайшлі абапал сцяжынкі, аглядаючы кожны куст, кожны вываранень.

Гэта на ўсякі выпадак. Бо паліцэйскія з немцамі не-не ды і рабілі засады. Прытым у самых нечаканых месцах.

Сонца паднялося высока і шчодра залаціла ствалы стромкіх соснаў. У лесе было душнавата, і Якімка расшпіліў каўнер сарочкі. Уладзік таксама расшпіліў каўнер і перакінуў карабін, які яму выдаў Дубоўскі, з правага пляча на левае. Партызаны абмахваліся шапкамі. Але ніхто не збаўляў, не прыцішваў хады. Ішлі шпарка, у адным тэмпе. Трэба было паспець на месца ў самы абед, калі пастухі заганяюць кароў у кусты на дзённы адпачынак.

Якімку захацелася піць, і ён пачаў неспакойна пазіраць па баках: можа, дзе паблізу лагчынка якая трапіцца. Аблізваў сухія губы і Уладзік. Дубоўскі зірнуў на аднаго, на другога і зняў з пояса біклажку.

— Сасмяглі? Гэта з непрывычкі. Глыніце вось. Толькі патрошку. Многа вады піць у паходзе шкодна.

Якімка зрабіў тры глыткі і зажмурыўся ад асалоды. Вада ў біклажцы не паспела яшчэ нагрэцца і прыемна асвяжыла яго. Кульнуць бы ўсю біклажку! Ды няможна, камандзір кажа — шкодна ў паходзе.

Але і ад трох глыткоў смага прапала, ногі пайшлі шпарчэй. Якімка перадаў біклажку Уладзіку, і дагнаўшы Дубоўскага, пайшоў побач з ім.

Звонкі сасновы бор зноў змяніўся змешаным лесам з густым непралазным падлескам. На адным з паваро-

таў сцяжынкі ўзвод чакаў аўтаматчык. Ён наблізіўся да камандзіра і шэптам далажыў:

— Праз дзвесце метраў узлессе. Далей — луг. Каровы ляжаць не ў кустах, а на лузе, на адкрытым месцы. Хвашчэўскі вядзе назіранне.

Партызаны акружылі Дубоўскага, пачалі раіцца.

— Да гарнізона ад узлесся далёка? — спытаў камандзір у аўтаматчыка.

— Метраў прыкладна шэсцьсот, калі напрамкі, па лузе. За лугам — рэчка, а Пагост на тым беразе.

— Дзотаў не відаць?

— Каб добра відаць, дык не. Але два падазроныя пагоркі ёсць. Адзін каля млына, другі ў канцы вуліцы, што спускаецца да рэчкі. Хутчэй за ўсё — дзоты.

— Ідзі вядзі назіранне, а Хвашчэўскага прышлі сюды.

Якімка слухаў гэтую размову, і па спіне яго прабягаў непрыемны халадок. Што гэта — страх? Хто яго ведае. Як быццам бы і не страх. Але штосьці трымціць унутры, неяк неспакойна на сэрцы.

Уладзік таксама адчуваў сябе не вельмі ўпэўнена. Ён да болю ў пальцах сціскаў свой карабін і, не міргаючы вачыма, углядаўся то ў аднаго партызана, то ў другога.

Прыйшоў Хвашчэўскі. Ён паведаміў, што заўважаныя каля млына і ў канцы прырэчнай вуліцы падазроныя пагорачкі не што іншае, як самыя сапраўдныя агнявыя пункты — дзоты. Але каб хто-небудзь у іх быў — непрыкметна. Хутчэй за ўсё, удзень яны пустуюць. Відаць, толькі на ноч прыходзяць туды кулямётныя разлікі.

Як бы там ні было, ёсць у дзотах фашысты ці няма, а дзейнічаць трэба вельмі і вельмі асцярожна. Гэта разумеў кожны. І таму да ўзлесся дабіраліся бясшумна, пад нагамі ніводзін сучок не трэснуў. На ўзлессі, маскіруючыся ў густым хмызняку, заляглі.

Якімка з Уладзікам прымасціліся непадалёк ад Дубоўскага. Камандзір глядзеў уперад і грыз сцяблінку мятліку, абдумваў, як лепш правесці аперацыю.

Выйсці на луг і пагнаць кароў у лес — няможна. Могуць загаварыць дзоты, і тады ўсё сарвецца. Загадаць пастухам, каб самі гналі кароў у лес,— таксама нельга. Па-першае, яны вунь як далёка і, вядома, не пачуюць голасу. А страляць — увесь гарнізон узнімец-

ца. Чакаць, пакуль каровы падымуцца з лёжкі і наблізяцца да лесу?..

Гэта, бадай, адзінае выйсце. Наблізяцца каровы да лесу, за імі прыйдуць пастухі, вось тут і можна будзе загадаць ім гнаць статак у лес.

Так. Давядзецца чакаць.

Марудна цягнецца час. Мінуты здаюцца гадзінамі, гадзіны вечнасцю, а каровы з лёжкі толькі-толькі пачынаюць падымацца. Яны лена памахваюць мяцёлкамі хвастоў, не спяшаючыся скубуць траву і ў бок лесу нават не глядзяць. Наадварот, паступова паварочваюць да рэчкі. Пастухам няма ніякай патрэбы ісці сюды, на ўзлессе.

— Таварыш камандзір! — Да Дубоўскага ўшчыльную падпоўз Якімка.— А што, калі мы зробім так...

Дубоўскі некаторы час у задуменні моршчыць лоб і нарэшце згаджаецца:

— Добра. Толькі пойдзеце не адсюль, з лесу, а вунь адтуль, з дарогі. Яны нічога і не западозраць.

Якімка аддае свой аўтамат Дубоўскаму, дастае з кішэні пісталет і засоўвае пад сарочку, за паясны рэмень. Дубоўскі расшпільвае кабуру і дае Уладзіку свой рэвальвер.

Карабін загадвае перадаць партызану, які ляжыць паблізу.

Хлопцы адпаўзаюць з узлесся, потым падымаюцца на ўвесь рост і, павярнуўшы налева, бягуць на гравейку, што вядзе з Любушан у Пагост.

Партызаны ляжаць і назіраюць.

Мірна скубуць мурог каровы. Мірна пакурваюць самасад пастухі — стары і малады. Загаварыўшыся, яны не заўважаюць, што з боку гравейкі, бесклапотна падскакваючы, да іх набліжаюцца два падлеткі, успацелыя, расхрыстаныя, без шапак. Заўважаюць, калі хлапчукі ўжо побач.

— Чые ж гэта вы будзеце? — пазірае на іх стары пастух і адразу насцярожваецца: — Здарылася штонебудзь?

— Здарылася,— адказвае Якімка.— Вам загадана гнаць кароў у лес.

— Хто гэта загадчык такі знайшоўся? — супіць калматыя бровы стары.

— Партызаны,— коратка гаворыць хлопчык.

— Ах ты смаркач! — падымае пугаўё стары, але, заўважыўшы нацэленае яму ў жывот чорнае дула пісталета, адразу апускае руку.

Глядзіць на маладога. Таму ў жывот нацэлена дула Уладзікавага рэвальвера.

Але малады пастух ані не палохаецца. Ён чамусьці радасна ўсміхаецца і, прыклаўшы руку да абшарпанай шапкі, дурасліва рапартуе Уладзіку:

— Ёсць, таварыш начальнік, гнаць паліцаеўскіх кароў у лес. Дазвольце выконваць?

Малады пастух з Уладзікам з аднаго боку, стары з Якімкам — з другога завярнулі кароў і пагналі на ўзлессе. Стары пачаў быў спяшацца, біць пугай кароў, але Якімка строга папярэдзіў яго:

— Спакойна.

Стары скоса зірнуў на пісталет і, са злосцю адкінуўшы пугу, паволі пабрыў услед за каровамі.

Статак паступова паглыбіўся ў густы хмызняк.

Калі адышліся даволі далёка ад узлесся, Дубоўскі загадаў спыніць статак і паклікаў да сябе пастухоў.

— Якія каровы належаць паліцэйскім?

Стары пастух моўчкі глядзеў сабе пад ногі. А малады ахвотна пачаў паказваць. Як аказалася, большая палавіна іх належала паліцэйскім. І не дзіва. Нарабавалі ў бліжэйшых вёсках. Адзінаццаць кароў, якія не належалі паліцэйскім, камандзір загадаў пасвіць да вечара ў лесе, а потым выгнаць на луг. Астатніх — гнаць у лагер. Толькі не напрасткі, а кружной дарогай, каб заблытаць сляды.

— Ты, дзед,— звярнуўся камандзір да старога пастуха,— застанешся тут і будзеш пасвіць кароў, якіх мы пакінем. Вечарам загоніш іх у мястэчка. З табой застануцца нашы хлопцы. На ўсякі выпадак. Каб не пабег раней часу ў гарнізон. А ты,— паглядзеў Дубоўскі на маладога пастуха,— пойдзеш з намі.

Дарога назад здалася Якімку намнога лягчэйшай і карацейшай, чым тады, калі ішлі яны да Пагоста, хоць часу заняла яна ўдвая больш. Выламаўшы добрыя дубцы, яны з Уладзікам ішлі з бакоў статка, і каб каровы не разбрыдаліся, час ад часу падганялі іх.

Вярнуліся ў лагер прыцемкам. Напаілі ў рэчцы кароў і загналі іх за агароджу. Цётка Палагея сказала падкінуць каровам сена. Каб не рыкалі.

Неўзабаве прыйшлі жанчыны з цывільнага лагера,

падаілі кароў і, адабраўшы самых лепшых, павялі да сябе.

А крыху пазней, калі партызаны стаялі ў страі на палянцы, камандзір атрада скамандаваў гаспадарчаму ўзводу зрабіць тры крокі наперад і пры святле вогнішча зачытаў загад: за ўзорна праведзеную гаспадарчую аперацыю аб'явіць узводу падзяку. Асабіста адзначыць Якімку і Уладзіка...

Разыходзіліся гаспадарнікі ў добрым настроі. Камандзір узвода Дубоўскі задаволена паціраў рукі:

— Вось дык мы! Аперацыю «К» правялі ўзорна!

— А што такое «К»? — запытаўся Якімка.

Дубоўскі спачувальна паківаў галавой:

— Не здагадваешся. А яшчэ былы падпольшчык. «К» — гэта каровы. Такім чынам, аперацыя «каровы». Зразумеў, падпольшчык? Ну вось. Пайшлі вячэраць. А то ў жываце кішка кішцы кукіш паказвае. Каб не пабіліся часам.— Нядаўнюю сухасць і дзелавітасць з камандзіра ўзвода нібы ветрам здзьмула. Ён зноў, як і ўранку, быў вясёлы і жартаўлівы.

## ЗАСАДА

Жыццё ў партызанскім лагеры ішло па сваіх непаўторных законах. Кожны новы дзень быў не падобны на папярэдні. То, зрабіўшы дзе-небудзь непадалёк ад гарнізона засаду, партызаны пераб'юць фашыстаў, а нарабаванае імі дабро вернуць назад людзям; то група падрыўнікоў, падкраўшыся да чыгункі сярод белага дня пусціць пад адхон варожы эшалон з ваеннай тэхнікай; то хлопцы-мінёры замініруюць шашу, і ў паветра ўзлятаюць машыны гітлераўцаў...

Словам, што ні дзень, то нейкая навіна.

Адна з іх асабліва развесяліла лагер.

Пайшлі неяк раз два маладыя падрыўнікі Несцяровіч і Вішнеўскі на прасёлак, што вядзе ад Забалоцця ў Бярэзань — самы буйны нямецкі гарнізон у раёне. Узялі з сабой хлопцы невялікую міну, каб паставіць на гэтай дарозе. Разведка данесла, што па прасёлку амаль кожны дзень ходзіць у Забалоцце і суседнія з ім вёскі нямецкі грузавік з шасцю-васьмю галаварэзамі. Яны адбіраюць у людзей усё, што толькі пад руку трапіць,

і вязуць у гарнізон. А калі хто не дае, супраціўляецца, расстрэльваюць.

Вось іх і вырашылі хлопцы падпільнаваць. Выйшлі Несцяровіч з Вішнеўскім на дарогу, прыселі, каб падрыхтаваць гняздо для закладкі міны, як раптам з боку Забалоцця — гул матора.

Канечне, машына і, канечне, немцы.

Хлопцы шмыгнулі ў кусты і затаіліся.

Паказалася машына. Кузаў яе быў біткам набіты рашотчатымі скрынкамі. А спераду — на падножках, на крыллях і ў кабіне ехалі немцы. Іх было шасцёра.

— Ударым? — зірнуў Несцяровіч на Вішнеўскага.

— Ударым,— кіўнуў Вішнеўскі.

І яны ўдарылі. Спачатку шпурнулі пад калёсы грузавіка па гранаце, а потым паласнулі з двух аўтаматаў. Немцы нават стрэліць не паспелі, як упалі, скошаныя трапнымі кулямі.

Партызаны адкрылі кузаў і пачалі скідаць скрынкі. У скрынках былі куры, белыя, шэрыя, чорныя, па пяць-шэсць чубатак у кожнай.

Што рабіць з імі? Рашэнне прыйшло адразу: разбіць скрынкі і выпусціць на волю. Няхай жывуць у лесе. Людзі з часам пачуюць пра ўсё і падбяруць.

Толькі дзве скрынкі хлопцы не разбілі. Узвалілі разам з трафейнай зброяй на плечы і падаліся ў лагер.

Ззаду засталася дагараць разбітая машына.

У той дзень на вячэру цётка Палагея зварыла духмяную курыную юшку. А сярод партызан толькі і было размоў, што пра курэй: як яны там пажываюць у лесе, чым кормяцца, што думаюць пра Несцяровіча з Вішнеўскім. Хваляць іх, што вызвалілі ад акупантаў, ці наракаюць, што пакінулі адных, без нагляду, у лесе...

Слухаў Якімка ўсе гэтыя расказы, і яго разбірала зайздрасць. Людзі ходзяць на дыверсіі, б'юць гадаў, падрываюць эшалоны, машыны, а ён сядзіць склаўшы рукі, як быццам так і трэба.

Сумна жыць гэтак.

Невясёлы хадзіў і Уладзік. Яго няўрымслівая натура патрабавала пастаяннага дзеяння.

Перагаварыўшы між сабой, хлопцы пайшлі да Дубоўскага прасіць, каб той даў якое-небудзь адказнае заданне. Узводны выслухаў сяброў і, як звычайна, адказаў жартам:

— Разумею. Маім бледнатварым братам захацелася на волю, у пампасы. З аднаго стрэлу яны кладуць напавал ільва, з другога — пантэру...— І сур'ёзна закончыў: — Няма, хлопцы, зараз пільнай патрэбы пасылаць вас на аперацыю. Але гэта — часова. Не сёння-заўтра работка знойдзецца. І, трэба меркаваць, гарачая. Так што рыхтуйцеся. А пакуль што даю вам такое заданне: запражыце каня і з'ездзіце ў Дубовы Лог па хлеб.

Вёска Дубовы Лог знаходзілася кіламетраў за пяць ад лагера. Стаяла яна на беразе Клявы ў акружэнні лясоў. З аднаго боку да самай вёскі падступаў дубовы гай. Мусіць, адсюль і яе назва пайшла.

У Дубовым Лозе людзі шылі для партызан бялізну, кажухі, боты, рамантавалі ў мясцовай кузні зброю, пяклі хлеб. Па хлеб гаспадарнікі ездзілі туды праз два дні на трэці. На гэты раз чарга ехаць выпала Якімку з Уладзікам. Хлопчыкі ведалі, што ніякіх прыгод гэтая паездка не абяцае, і ўсё ж настрой у іх быў узбуджана-вясёлы.

Як быццам наперадзе іх чакала сапраўдная баявая аперацыя.

Што ні кажы, а прыемна хоць на некалькі гадзін вырвацца з лагера. Вельмі ж ужо надакучыла ім некалькі дзён запар сланяцца без справы ад зямлянкі да зямлянкі.

Дубоўскі вывеў хлопцаў на дарогу і, расказаўшы, да каго звяртацца наконт хлеба, пайшоў назад у лагер.

Якімка з Уладзікам уладкаваліся на сене, і калёсы дробна заляскаталі па шматлікіх карэннях.

Вёска паказалася адразу, як толькі выехалі з лесу. На нешырокай вуліцы грэбаліся куры, ад рэчкі даносілася гагатанне гусей. Усё роўна як у мірны час.

Даўно ўжо Якімка з Уладзікам не бачылі такой карціны. Там, у іхнім Паравозе і ва ўсім наваколлі, днём з агнём курыцы не знойдзеш. Усіх немцы перадушылі. А тут гэтага птаства колькі хочаш. Не дапялі сюды фашысты. Баяцца лясных салдат.

Хлопцы знайшлі каменданта Дубовага Лога — кульгавага дзядзьку Ахрэма — і сказалі, чаго прыехалі. Камендант прайшоўся па вуліцы, пастукаў у шыбы, і жанчыны пачалі выносіць хлеб.

Нагрузілі яго поўныя драбінкі, аж па самыя білы.

Хлопцы накрылі хлеб чыстай посцілкай, каб не пыліўся, і паехалі назад у лагер.

Недзе на паўдарозе Якімка, які ішоў наперадзе, раптам спыніўся і зірнуў на Уладзіка.

— Бачыў?

— Не. А што?

— Чалавек. Дарогу перайшоў. Вунь ён,— паказаў Якімка.

Уладзік прыгледзеўся. І сапраўды, справа ад іх, штохвілінна азіраючыся, шпарка крочыў нейкі мужчына. Узброены ён ці не, разабраць за дрэвамі было цяжка.

— Пастой тут. Я зараз. Калі што — паможаш.— Якімка, хаваючыся за ствaламі дрэў, бягом кінуўся за незнаёмым. Уладзік зняў з пляча карабін і таксама падаўся ўслед. Каня на ўсякі выпадак прывязаў да дрэва.

— Стой! Ні з месца! — пачуўся раптам звонкі Якімкаў вокліч.— Стой, кажу. Страляць буду!..

У адказ суха трэснуў пісталетны стрэл. І адразу ж засакатаў аўтамат.

Уладзік прыпусціў з усіх ног. Падбегшы, ён убачыў на імху здаровага барадача. Правая яго рука сутаргава цягнулася да маўзера, які ляжаў побач. Якімка адным скачком падляцеў да незнаёмца і ўдарам нагі адкінуў пісталет.

— Бяры!..— крыкнуў ён Уладзіку.— І памажы звязаць...

Уладзік зняў рэмень, і яны, наваліўшыся на незнаёмца, моцна скруцілі яму рукі.

— Цяпер паганяй у лагер. Толькі хутчэй. Каб не памёр часам...

Але спяшацца ў лагер Уладзіку не прыйшлося. На лясной дарозе пачуўся тупат конскіх капытоў, і неўзабаве каля хлопцаў былі партызанскія разведчыкі на чале з дзядзькам Хведарам.

— Вы стралялі? — на хаду запытаўся ён у хлопцаў.

Якімка паказаў на параненага:

— Спачатку ён... А я потым ужо... Па нагах цэліў...

Разведчыкі падышлі да незнаёмца, абшукалі. На поясе ў яго віселі дзве гранаты-лімонкі, пад левай пахай у спецыяльна зробленай пятлі — невялічкі шасці-

зарадны пісталет. Пад падкладкай пінжака — надрукаванае на кавалку шоўку і змацаванае пячаткай з арлом пасведчанне паліцэйскага.

Дзядзька Хведар пачаў чытаць:

— «Антаневіч... Ігнацій...» Што-о-о? Антаневіч?

Калматыя дзядзькавы бровы павольна папаўзлі ўверх. Ён нагнуўся над паліцэйскім, доўга ўглядаўся ў яго твар, потым выпрастаўся і зноў зірнуў на пасведчанне.

— Не можа быць. Я ж добра ведаю таго гада.

Раптам аб нечым здагадаўшыся, дзядзька Хведар нагнуўся і рэзка рвануў паліцэйскага за бараду. Барада засталася ў яго руцэ. Разведчыкі зарагаталі.

— Артыст знайшоўся! — Начальнік разведкі з агідай кінуў бараду пад ногі.

Паліцэйскі расплюшчыў вочы і, убачыўшы партызан, з усяе сілы рвануўся, каб устаць. Але рукі былі звязаны, а прастрэленыя ногі не слухаліся, і ён ад бяссільнай лютасці заскрыгатаў зубамі.

Дзядзька Хведар павярнуўся да Якімкі:

— Вязіце, хлопчыкі, хлеб. К абеду каб паспелі. А мы тут пабалакаем з панам паліцэйскім. Папросім расказаць, чаго завітаў да нас у госці...

Хлопцы накіраваліся да падводы. Уладзік ішоў, не вымаючы правай рукі з кішэні, якую адцягваў невялічкі пісталет, знойдзены разведчыкамі ў паліцэйскага. Пісталет аддаў Уладзіку начальнік разведкі.

Не, не зусім звычайнай аказалася сённяшняя паездка хлопцаў у Дубовы Лог па хлеб.

Пасля абеду камандзір гаспадарчага ўзвода Дубоўскі дазволіў Якімку з Уладзікам схадзіць да сваіх у цывільны лагер.

— Заслужылі, жэўжыкі,— весела сказаў ён.— Толькі глядзіце, каб к вячэры былі на месцы. Інакш во,— і паказаў на свой шырокі рэмень.

— Ёсць быць к вячэры! — звонка адрапартавалі хлопцы.

У цывільным лагеры ўжо нейкім чынам паспелі дачуцца пра незайздросны лёс перавозскага паліцая. Не ведалі толькі падрабязнасцей. І таму, як толькі з'явіліся хлопцы, іх адразу абступілі. Распытвалі аб

усім: і як заўважылі Антаневіча, і як падстрэлілі, і што знайшлі.

Хлопцы расказвалі, і вочы людзей свяціліся радасцю. Гэта ж не жартачкі — такога галаварэза ўходаць. Колькі ён нявіннай крыві праліў, колькі дзяцей зрабіў сіротамі...

Бабулька Юзэфа, блізкая суседка дзеда Лук'яна па Перавозе, аж перахрысцілася:

— Ёсць яшчэ, людцы мае, бог на свеце. Такога сатану прыбраў ад нас.

— Дойдзе, бабуля, чарга і да астатніх,— упэўнена прагучаў знаёмы голас.

Якімка азірнуўся. За спіной стаяў Сухоцкі, які прыйшоў у цывільны лагер праведаць дачку.

— Дзе Галінка? — спытаў ён дзеда Лук'яна.

— Бегала на рэчку бялізну паласкаць. Пайшлі да мяне, ужо, мусіць, вярнулася.

Дзед з Сухоцкім наперадзе. Якімка з Уладзікам за імі рушылі да дзедавага будана.

Па дарозе Уладзік збочыў.

— Я да сваіх. Паклічаш, як будзеш ісці.

— Добра.— Якімка дагнаў Сухоцкага.— Дзядзька Язэп, Антаневіч не прызнаўся, чаго прыходзіў?

— Прыходзіў! Аказваецца, ён вакол лагера ўжо трэція суткі швэндаўся, выглядаў, дзе пасты стаяць, дзе зямлянкі, якія дарогі ў атрад вядуць. Нават план намаляваў. Хоць і грубы, але даволі дакладны. І цывільны лагер быў на ім нанесены. Збіраліся выклікаць з Бярэзаня падмацаванне і разграміць атрад.

— Яго расстралялі?

— Сам разумееш. Тылу ж у нас няма, каб трымаць палонных. Асабліва гэтакіх вылюдкаў.

Калі падышлі да будана, Галя развешвала на расцягнутым між дрэў кабелі памытую бялізну. Убачыўшы бацьку, дзяўчынка кінулася насустрач яму, пацалавала ў нябрытую шчаку і адвярнулася. З вачэй яе пырснулі слёзы.

— Ну чаго ты, дурненькая? — глуха прагаварыў Сухоцкі, гладзячы дачку па худзенькай спіне.

— Я ўсё баюся, татка, за цябе,— усхліпваючы, адказала Галя.— Як няма цябе доўга, дык мне здаецца, што здарылася нешта.— Яна падняла на бацьку светлыя вочы, вінавата ўсміхнулася.— Ты часцей прыходзь. Добра?..

— Добра, дачушка,— наўмысна бадзёрым голасам адказаў Сухоцкі.— Я, Галінка, у кашулі нарадзіўся. А такіх ніякая куля не бярэ...

Вярталіся Сухоцкі, Якімка і Уладзік у атрад прыцемкамі. Сонца ўжо схавалася, і пад ляснымі волатамі згушчаўся сіні змрок. Не спявалі дзённыя птушкі, не адбіваў звонкую дроб адвечны працаўнік-дзяцел. Было ціха.

Нават дрэвы не шумелі; толькі зрэдку патрэсквалі пад нагамі сухія сучкі.

Па дарозе Сухоцкі расказаў, што быў мінулай ноччу ў Прыцерпе і сустрэў там чалавека, які з першых дзён вайны хавае два спраўныя ручныя кулямёты. Ён даўно хацеў перадаць зброю партызанам, ды ўсё не выпадала. Побач з Прыцерпай, за які кіламетр, знаходзіцца моцны нямецкі гарнізон, і ў вёску партызаны наведваюцца не так ужо часта. Тым больш, што ледзь не кожную ноч немцы з паліцаямі робяць каля Прыцерпы засады.

— Думаю сёння зайсці да старога,— сказаў пад канец Сухоцкі.— Не прападаць жа зброі.

— Дык жа засады там,— сказаў Уладзік.

— Пакуль дабяруся да месца, пачне днець. Не думаю, каб яны сядзелі аж да раніцы ў сваёй засадзе.

— Дзядзька Язэп, вазьміце мяне з сабой,— папрасіўся Якімка.— Вы ж на падводзе паедзеце? Дык я за фурмана буду.

— А што ты думаеш? Можа, так і лепш будзе. Пакіну цябе з падводай на беразе Бярозы, а сам у вёску пайду. Яна недалёка ад рэчкі. Прынясу кулямёты, і пакоцім назад. Уздоўж рэчкі. Бераг там высокі, з вёскі ніхто нас не ўбачыць.

— Вазьміце і мяне,— нясмела папрасіўся Уладзік.

— Узяў бы, але, шчыра кажучы, траім там няма чаго рабіць.— Сухоцкі паляпаў Уладзіка па плячы.— Не крыўдуй. Наступны раз вазьму на аперацыю і цябе.

— Вось толькі Дубоўскі ці адпусціць? — заклапочана паглядзеў Якімка на Сухоцкага.

— Я сам з ім пагавару,— паабяцаў Сухоцкі.

Збіраліся ў дарогу нядоўга. Праверылі аўтаматы, запрэглі каня і — паехалі. Ноч была цёмная, хмарная. Ледзь чутна шапацеў у вершалінах дрэў рэдкі дожджык.

Мінуўшы апошні партызанскі пост, збочылі і неўза-

баве выехалі на закінутую тралёвачную дарогу. Да вайны лесарубы тралявалі па ёй лес на бераг Бярозы-ракі. А там, спусціўшы бярвенні на ваду, звязвалі ў плыты і сплаўлялі ў Бабруйск, Шацілкі, а то і далей — аж ў Кіеў. Цяпер дарога густа парасла травой, і калёсы каціліся па ёй амаль бясшумна.

Якімка сядзеў у перадку і, напружана ўглядаючыся наперад, паціху паганяў каня. Сухоцкі ці то драмаў, ці то аб нечым думаў. За ўсю дарогу ён не прамовіў ні слова. Толькі зрэдку, калі Якімка пытаўся, ці не трэба дзе паварочваць, круціў галавой і паказваў наперад: так, маўляў, і едзь.

Гадзіны праз паўтары лес раптоўна кончыўся, і наперадзе цьмяна блінула шырокая звілістая стужка.

«Бяроза»,— здагадаўся Якімка.

Ад рэчкі патыхала сырым пахам водарасцей і ціны.

Якімка спыніў каня. Сухоцкі саскочыў з калёс і, пільна ўглядаючыся ў цемень, пакрочыў уніз да рэчкі. Неўзабаве вярнуўся і сказаў Якімку з'язджаць уніз. Хлопчык узяў каня за аброць і звёў на шырокі пясчаны бераг.

— Па беразе і едзь цяпер. Аж да трох дубоў. Тут недалёка. Каля трох дубоў завярніся і чакай мяне. А я пайду напрасткі. Прыцерпа тут за пагоркам адразу і пачынаецца.— Сухоцкі перавесіў аўтамат з пляча на шыю.— Цяпер так. Калі якая трывога, страляніна пачнецца,— мяне не чакай. Па кані, і той жа дарогай у лес. Не выйдзе з канём — кідай. Аднаму лягчэй схавацца. Зразумеў? Ну, усё. Я пайшоў.

Сухоцкі спрытна ўскараскаўся на абрывісты бераг, і адразу ж яго паглынула цемра.

Якімка зноў узяў каня за аброць і павёў па шырокай пясчанай водмелі ў той бок, куды паказаў Сухоцкі.

Да трох дубоў і сапраўды было недалёка. Адзін паварот ракі, другі, і вось ужо на крутым беразе цьмяна вырысоўваюцца сілуэты трох веліканаў. Якімка пад'ехаў, завярнуўся і, падвязаўшы каню торбу з аўсом, пачаў чакаць Сухоцкага.

Дрымотна плюскатала ў бераг Бяроза-рака, на зарэчным лузе скрыпуча крычаў дзяркач, лёгкім пошумам адклікаліся на рэдкія павевы ветрыку дубы-асілкі. Ад вады павявала сырасцю, і хлопчык глыбей засунуў рукі ў кішэні.

Час цягнуўся марудна. Праўду людзі кажуць, што

самае горшае — гэта даганяць і чакаць. Асабліва, калі даводзіцца чакаць вось так, як Якімка,— у поўнай бяздзейнасці.

Хлопчык злез з воза і пачаў хадзіць, лічачы крокі. Кожны крок — секунда, шэсцьдзесят секунд — мінута, а шэсцьдзесят мінут — гадзіна.

Хлопчык хадзіў узад-уперад і ўпарта адлічваў секунды. Але недзе пасля васьмісот збіўся і пачаў лічыць спачатку.

Ледзь прыкметна пасвятлела неба. Перастаў церушыць дожджык, і над рэчкай заклубіліся белыя космы туману. Туман гусцеў, распаўзаўся і пастунова ўкрываў пушыстай белай коўдрай вадзяную роўнядзь.

На грэбені абрыву пад дубамі асыпалася зямля. Якімка рэзка павярнуўся, мацней сціснуў аўтамат.

— Вы, дзядзька Язэп? — спытаў шэптам.

— Цс-с-с...— падбег да калёс Сухоцкі.— Хутчэй. Мяне, здаецца, заўважылі.— Ён хуценька апусціў на калёсы заматаныя ў рагожу кулямёты і тузануў каня.

І ў той жа момант з-за кустоў узнялася белая ракета. Апісаўшы дугу, яна з шыпеннем урэзалася ў ваду.

— Так і ёсць,— спакойна зазначыў Сухоцкі.— Ну што ж, Якімка, гані каня! Гані, не шкадуючы. А я іх затрымаю...

— Давайце разам,— асіплым голасам сказаў хлопчык— Тут павароты. Не дастануць.

— Напярэймы пойдуць. Гані, мой хлопчык. Шчасліва табе!..— Сухоцкі лёг, узвёў аўтамат.

Якімка ўдарыў па кані і памчаўся па водмелі назад да лесу.

Калі мінуў першы паварот, ля трох дубоў затрашчалі стрэлы. Сухоцкі вёў бой з фашыстамі. Адзін. З многімі. Каб выратаваць Якімку. Каб выратаваць гэтак патрэбныя партызанам кулямёты...

Хлопчык сцябаў і сцябаў разгарачанага каня, пакуль не паглыбіўся далёка ў лес. У лесе спыніўся і прыслухаўся. Страляніны ў тым баку, дзе застаўся Сухоцкі, больш не было чутно.

Няўжо?.. Няўжо дзядзька Язэп загінуў?

Якімку чамусьці ўспомніўся ўчарашні вечар і Галіна просьба: «Ты, татка, часцей да мяне прыходзь. Я тады не так за цябе баяцца буду...» — «Я, Галінка, у кашулі нарадзіўся. А такіх ніякая куля не бярэ»,— жартам адказаў тады Сухоцкі.

І вось не чуваць яго аўтамата. Відаць, не мінула дзядзьку Язэпа варожая куля. А можа, і ўратаваўся?.. Можа, нават раней за Якімку ў лагер прыйдзе...

Хлопчык крануў за лейцы і ўжо не спяшаючыся паехаў далей па знаёмай тралёвачнай дарозе.

Начны змрок пастунова радзеў. Прастуджанымі галасамі пачалі пераклікацца азяблыя ад сырасці птушкі.

Нараджаўся новы дзень.

## СКАРБ СТАРОГА АКОПА

Прыехаў Якімка ў лагер, калі ўжо добра развіднела. Распрог каня пад павеццю, зняў з калёс кулямёты і панёс у Косцеву зямлянку.

Кулямёты былі цяжкія, і хлопчык, пакуль данёс іх, вымушаны быў два разы адпачываць.

Косця ўжо не спаў. Ён сядзеў перад рацыяй і прымаў ранішнюю зводку. Побач на століку гарэла «кацюша».

Якімка прыхіліў да сцяны кулямёты, зняў аўтамат, пінжачок і ціха апусціўся на нары.

Скончыўшы прыём, Косця пстрыкнуў чорнай блішчастай ручкай і жвава павярнуўся да хлопчыка.

— Дзе гэта ты прападаў усю ноч? Га? Вось зараз накручу вушы, тады будзеш ведаць, як знікаць, нічога не сказаўшы.— Косця крадучыся пачаў набліжацца да Якімкі, падняў руку, каб узяць яго за вуха, і тут жа апусціў.— Чакай, чакай! Што гэта з табой? Захварэў ці пахаваў каго?

— Можа, і пахаваў... Не ведаю,— не падымаючы галавы, глуха адказаў хлопчык.— Дзядзька Язэп не вярнуўся?

— Не, як быццам... А што такое?

— Забілі яго, мусіць...

— Сухоцкага?! — Косця аж скалануўся ад такой навіны.— Не можа быць. Не, не! Не такі гэта чалавек. Раскажы, браток, як усё было...

Уважліва выслухаўшы Якімку, Косця заспяшаўся да выхада:

— Пагляджу. Можа, ён спіць дзе-небудзь у зямлянцы. А калі не, трэба будзе нешта рабіць.

Праз некалькі хвілін ён вярнуўся і сказаў хлопчыку, каб ішоў да камандзіра атрада.

У камандзірскай зямлянцы Якімку прыйшлося яшчэ раз паўтарыць свой расказ пра выпадак пад трыма дубамі.

Калі скончыў, Багдановіч перапытаў:

— Дык, кажаш, туман слаўся над рэчкай?

— Ага. І густы, нібы малако.

— А бераг ён не ахутваў?

— Не. Пакуль я там быў, на бераг туман не даходзіў.

У зямлянку ўвайшоў дзядзька Хведар, прывітаўся.

— Сядай, Астапавіч,— запрасіў камандзір.— У цябе рэзервныя разведчыкі ёсць?

— Адзін Федарынчык.

— Больш і не трэба. Няхай зараз жа едзе да прыцерпскіх сувязных і даведаецца, што там адбылося на досвітку каля трох дубоў на Бярозе.

— А што такое? — устрывожыўся начальнік разведкі.

— Сухоцкі не вярнуўся. Паехаў вось з ім,— камандзір атрада кіўнуў на Якімку,— паехаў з ім па кулямёты ў Прэцерпу. Кулямёты дастаў. А сам не вярнуўся. Хлапца прыкрываў.

— Сухоцкі, ён і ёсць Сухоцкі,— сумна ўсміхнуўся дзядзька Хведар.— Інакш ён не ўмее...

Багдановіч падняўся з-за стала, глянуў у акенца зямлянкі.

— Можа, яшчэ і вернецца. Але чакаць не будзем. Дзейнічай, Астапавіч.

— Ёсць! — дзядзька Хведар казырнуў, павярнуўся і выйшаў.

Услед за ім выйшаў і Якімка. Лагер ужо прачнуўся, і партызаны спяшаліся на лясную паляну рабіць зарадку. Хлопчык заўважыў Уладзіка, які ішоў ад рэчкі з двума вёдрамі вады, і кінуўся яму насустрач.

— Ты чуў? — не вітаючыся, запытаў Якімка.

— Чуў. Усе ўжо ведаюць,— паставіў Уладзік вёдры.— Што Галі скажам? — паглядзеў убок Уладзік.

— А ты як думаеш? — пытаннем на пытанне адказаў Якімка.

— Думаю, нічога гаварыць пакуль што не трэба...

— Бадай-што, так лепш будзе,— згадзіўся Якімка.

Уладзік падняў вёдры і пайшоў на кухню.

Якімка падаўся да рэчкі. Захацелася памыцца сцюдзёнай вадой, каб прагнаць начную стому.

За рэчкай пад разлапістай елкай гарэў агонь, і каля яго завіхаліся два партызаны. Аднаго з іх Якімка ведаў. Гэта быў Харкевіч, камандзір падрыўной групы.

Доўга не думаючы, хлопчык разагнаўся і пераскочыў на другі бераг. Цікава было паглядзець, што яны там такое робяць. Наблізіўшыся, ён убачыў, што агонь партызаны расклалі не проста на зямлі, а як бы ў спецыяльнай печы. З двух бакоў ад вогнішча былі выкладзены невысокія сценкі, а на іх стаяла жалезная бочка з-пад бензіну.

Якімка заглянуў у бочку. Там булькатала вада.

— Для кухні грэеце? — запытаў хлопчык.

— Для кухні, браце, для кухні,— хітра бліснуў вачыма Харкевіч.— Толькі не для гэтай, а ву-у-унь для той.— Ён паказаў рукой некуды ўбок.

— Для якой? — не зразумеў Якімка.

— Ды для такой. Для нямецкай. Вось паварыцца тут вадзіца, збяром са дна гушчу і паднясём фашыстам: частуйцеся, панове акупанты,— тлумачыў Харкевіч.

Яго напарнік весела смяяўся. А Якімка паглядаў то на іх, то на бочку і, нічога не разумеючы, лыпаў вачыма. Аб чым гэта Харкевіч гаворыць? І што яны ўсё-такі тут робяць?..

— Не, праўда, дзядзька Харкевіч, для чаго вы ваду грэеце?..— зноў запытаўся хлопчык.

— Бач, цікаўны які! — паказаў роўныя белыя зубы падрыўнік.— Шмат будзеш ведаць, скора старым станеш...

Якімка пакрыўджана адвярнуўся і паволі паплёўся назад да рэчкі.

— Чакай,— паклікаў яго Харкевіч.— Не крыўдуй... Калі ты ўсур'ёз цікавішся нашай справай, то так і быць, раскажу.

Якімка вярнуўся, і падрыўнік падвёў яго да бочкі:

— Зірні, што там на дне...

Хлопчык доўга ўглядаўся, але, акрамя бурбалак на паверхні вады, нічога не мог разгледзець. Ён так і сказаў Харкевічу.

— Хаця правільна,— спахапіўся Харкевіч.— Вось перакіпіць вада, тады ўсё і ўбачыш. А пакуль слухай. І на вус матай... Толькі давай спачатку прысядзем. У нагах праўды няма...

Якімка прысеў на цурбан. Харкевіч — насупраць яго — на замшэлы камень.

— Каб пусціць пад адхон эшалон, што трэба? Правільна. Міна. А каб зрабіць міну, што трэба? Зноў правільна. Тол. А дзе яго ўзяць, тол? Вось тут, братка ты мой, і ўся загваздка для партызана-падрыўніка...

Аказваецца, на першым часе партызанскай вайны падрыўнікі карысталіся гатовымі мінамі — супрацьтанкавымі, супрацьпяхотнымі, якіх тады валялася нямала на франтавых дарогах. Ды і толавых шашак хапала — іх знаходзілі ў пакінутых акопах цэлымі скрынкамі. Прасцей за ўсё было карыстацца супрацьтанкавымі мінамі. Падкладвай пад чыгуначную рэйку і чакай, пакуль паравоз наляціць. Не было асаблівых клопатаў і з супрацьпяхотнымі мінамі або са звычайнымі шашкамі. Некалькі такіх мін ці шашак, злучаныя ў адно, маглі скінуць з рэек любы састаў, падняць у паветра любую машыну.

Але ўсяму бывае канец. Кончыліся ў партызан і запасы мін, і толавых шашак. А ваяваць трэба. Не сядзець жа падрыўнікам склаўшы рукі, калі навокал столькі «работы».

І пачалі тады хлопцы падбіраць снарады. Галоўкі з узрывальнікам адкручвалі, а тол выдзёўбвалі долатам або, кінуўшы ў агонь, выплаўлялі.

Рабілі ўсё гэта з вялікай асцярожнасцю. Аднак не-не ды і грымелі ў партызанскіх лагерах нечаканыя выбухі, гінулі лепшыя майстры падрыўной справы.

Камандаванне сурова забараніла выдзёўбваць і выплаўляць у агні тол. І вось пранеслася чутка, што здабываць тол са снарадаў можна, зусім не баючыся, што раптам грымне выбух.

Як? Ды вельмі проста. Наліць у жалезную бочку вады, пакласці туды абясшкоджаныя снарады і на звычайным агні кіпяціць ваду. Тол выплавіцца і застанецца на дне. Вылівай ваду, бяры тол і рабі з яго любую міну. Пры такім спосабе выплаўкі выбуху не будзе...

— Цяпер разумееш, што мы тут робім? — закончыў свой расказ Харкевіч.

— Ага. А снарады дзе вы бераце? — запытаўся Якімка.

— Ты лепш запытай, дзе бралі,— сумна адказаў падрыўнік.— Няма цяпер ужо і снарадаў. Што мы не

паспелі сабраць, фрыцы падмялі. Праўда, ёсць у зямлі дзе-нідзе авіяцыйныя бомбы, якія па нейкіх прычынах не ўзараваліся. Ды кратаць іх усё адно, што смяротны прыгавор самому сабе падпісваць...

— Мы з Уладзікам ведаем, дзе ёсць снарады. Некалькі скрынак,— як аб нечым звычайным паведаміў Якімка.

— Дзе?

— У акопе каля нашага мястэчка. Там батарэя стаяла... Мы скрынкі пяском прысыпалі. Але забраць іх наўрад ці можна будзе. Гэта ж пад самым носам у немцаў...

— Ты нас раней часу не палохай немцамі,— усміхнуўся Харкевіч.— Скажы во лепш, колькі скрынак са снарадамі?

— Шэсць ці сем, ужо добра не помню,— адказаў Якімка.— Мы іх яшчэ тады, у першыя дні вайны, схавалі...

— Ясна. А цяпер скажы, колькі прыкладна метраў ад гарнізона да таго акопа?

— Хто яго ведае. Ніхто ж не мераў... Словам, метраў трыста, а можа, і больш будзе...

— Тэ-эк, задужа блізкавата,— пачухаў патыліцу Харкевіч.— Як, Васіль, думаеш?

— А што тут думаць? — Васіль адышоўся ад агню.— Тол нам патрэбен? Патрэбен. А дзе яго ўзяць, як не там?

— І я так думаю, застаецца пагаварыць з камандзірам і... па снарады. Пакажаш, дзе яны? — звярнуўся Харкевіч да Якімкі.

— Абавязкова,— узрадаваўся хлопчык.— І Уладзіка з сабой вазьміце. Удвух мы хутчэй знойдзем. Вы ж уначы паедзеце?

— Вядома, толькі ўначы.

— Сёння?

— Не. На сёння ў нас іншае заданне. Рыхтуй свайго сябра на заўтра.— Харкевіч працягнуў Якімку руку.— Можаш пажадаць нам поспеху. Неўзабаве ідзём з Васілём на шашу. Трэба мост адзін падарваць.

Якімка развітаўся з падрыўнікамі і пабег у лагер шукаць Уладзіка.

Знайшоў ён сябра ў зямлянцы начальніка боезабеспячэння. Зямлянка гэтая служыла ружэйным складам. У ёй на паліцах, зробленых са звычайных жэр-

дак, ляжалі вінтовачныя ствалы, няспраўныя кулямёты, запасныя дыскі для аўтаматаў, магазінныя каробкі, затворы, самаробныя прыклады. У вуглу стаяў ротны мінамёт. Толькі мін да яго не было відаць.

Начальнік боезабеспячэння Тадаровіч, немалады вусаты чалавек, сядзеў на перакуленай дагары дном скрынцы і чысціў наждачнай шкуркай пазелянелыя вінтовачныя патроны. Уладзік, уладкаваўшыся на невысокім кругляку насупраць яго, старанна шліфаваў вычышчаныя патроны суконкай.

— Канвеер! — убачыўшы Якімку, сказаў, усміхнуўшыся, Тадаровіч.

— Давайце я памагу,— прысеў на парозе Якімка.

— А што? Работы хопіць. Толькі не засці нам.— Тадаровіч кіўнуў галавой у кут.— Вазьмі там скрынку і сядай побач са мной.

Цяпер работа пайшла спарней. Горка вычышчаных да залацістага бляску патронаў расла на вачах.

— Можа, якія навіны ёсць? — дастаючы з торбы чарговую жменю патронаў, запытаўся Тадаровіч.

— Харкевіч з Васілём збіраюцца на шашу ісці мост падрываць... А заўтра...

— Не пра тое я,— перапыніў хлопчыка Тадаровіч.— Пра Сухоцкага ніякіх вестак?

— Не-а. Можа, вы што чулі?

— Каб чуў, не пытаўся б. Сам бы расказаў...

Якімка як наяву ўбачыў усхваляваны твар дзядзькі Язэпа, пачуў яго гарачы шэпт: «Гані каня!.. А я іх затрымаю!..» Што з ім? Дзе ён цяпер?..

Каб адагнаць страшныя думкі, хлопчык страсянуў галавой і загаварыў да Уладзіка:

— Рыхтуйся на аперацыю ехаць.

— Куды? — узрадавана павярнуўся Уладзік.

— Да нас. Ну чаго глядзіш так? Праўду кажу. Паедзем з падрыўнікамі аж пад самы Перавоз.

— Калі?

— Заўтра ўначы.

— Падрываць што-небудзь?

— Снарады забіраць. Памятаеш, мы іх пяском у акопе прысыпалі.

— Памятаю. Там восем поўных скрынак. Толькі гэта вельмі ж блізка ад гарнізона.

— Што, баішся?

Уладзік ад крыўды аж пачырванеў:

— Сам ты баішся. Я іх адзін мог бы перацягаць. Сёння ж. Адно што не здужаю. Сілы не хопіць...

— Слухай, Уладзік,— загарэўся Якімка.— А калі і праўда ўдвух нам пайсці! Га? Вось, будзе фокус! Перацягаем скрынкі ў лес, потым падгонім падводы і — гайда ў атрад!..

— Не выйдзе ў нас нічога,— падумаўшы, адказаў Уладзік.— Хоць і ўдвух будзем, а не здужаем падняць скрынку. Ці ты забыўся, як тады спрабавалі?..

Не, Якімка не забыўся. Знайшоўшы ў акопе скрынкі са снарадамі, яны — Якімка, Уладзік і Вася — вырашылі былі перанесці іх у свой тайнік, што быў на Выгарах пад бярозай. Паднялі з крэктам адну скрынку, патрымалі хвіліну і апусцілі на зямлю. Не па іхніх зубах быў арэшак.

Так што і цяпер яны нічога не здолеюць зрабіць.

— Твая праўда,— сумна згадзіўся Якімка.— Давядзецца чакаць падрыўнікоў...

— Ды і не адпусцілі б вас адных на такую аперацыю,— уставіў сваё слова Тадаровіч.— Па-першае, як вы кажаце, блізка ад гарнізона, а па-другое, снарады. Гэта вам не патроны якія-небудзь. Тым больш, што доўга ўжо ляжаць у зямлі, заржавелі недзе...

— Яны маслам нейкім змазаны,— сказаў Уладзік.— Густа-густа...

— Усё адно,— працягваў Тадаровіч.— Трэба вопытнага сапёра ці артылерыста, каб абясшкодзіў іх.

— Галоўкі каб адкруціў? — запытаўся Якімка.

— Абавязкова. І на месцы. Інакш транспартаваць іх няможна...

— Як гэта... транспартаваць? — паглядзеў на Тадаровіча Уладзік.

— Ну, перавозіць.

Горка вычышчаных патронаў на кавалку брызенту расла і расла, а торба з пазелянелымі пусцела. Нарэшце Тадаровіч устаў са скрынкі і абтрос штаны.

— Баста, хлопцы. Хопіць.— Ён дастаў з нагруднай кішэні вялікі, з чорным вечкам гадзіннік, зірнуў на яго і зноў схаваў.— Якраз да абеду ўправіліся. Ну, вялікі вам дзякуй.

— Няма за што.

Хлопцы выйшлі з зямлянкі і пашыбавалі да кухні.

Пасля абеду Уладзік прапанаваў Якімку схадзіць у арэхі. Нядаўна ён ездзіў з адным гаспадарнікам па дровы і знайшоў цэлыя зараснікі арэшніку.

— Хіба паспелі ўжо? — запытаўся Якімка.

— Паспелі. Ніводнага малочнага не знайшоў. Некаторыя нават асыпаюцца.— Уладзік сціснуў кулак: — Ядры — во! І крамяныя-крамяныя!..

— У Дубоўскага прасіўся?

— Ага. Ён сказаў, каб і яму нарвалі.

— То пайшлі.

Арэшнік рос непадалёк ад лагера на прагалінах між высокіх дубоў і елак. Тонкія галінкі аж згіналіся пад цяжарам шматлікіх гронак.

Спачатку хлопцы рвалі арэхі знізу і тут жа з хрустам раскусвалі шкарлупку. Як і казаў Уладзік, ядры былі поўныя і крамяныя.

Калі сагналі ахвоту, пачалі зрываць гронкі з верхніх галін і складаць іх у кучкі. Гэта было нават цікава. Падскочыш, ухопішся рукамі за арэшыну — і паехаў з ёю ўніз, пакуль ногі не стануць на зямлю. Тады адной рукой трымай гнуткі хлыст, а другой ірві арэхі.

Прайшло нямнога часу, і кучкі арэхаў выраслі ў цэлыя горкі.

— Хопіць,— сказаў Уладзік.— І так налаташылі, хоць на кані прыязджай.

Якімка выпусціў з рук арэшыну, паглядзеў назад.

— І праўда, як мы занясём іх?

— Хэ! Такой бяды.— Уладзік зняў з сябе сарочку і перавязаў лыкам рукавы і каўнер.— Глянь, чым не мех?

— І я так зраблю,— пачаў здымаць сарочку Якімка.

Хлопцы напоўнілі сарочкі, набілі кішэні і пайшлі ў лагер.

Калі падыходзілі да крайняй зямлянкі, ззаду пачуўся конскі тупат.

Азірнуліся. На кані ехаў Федарынчык, той самы разведчык, якога дзядзька Хведар паслаў уранку пад Прыцэрпу. Заданне ў Федарынчыка было адно: давbooведацца пра лёс Сухоцкага.

Якімка падняў руку, і Федарынчык прыцішыў разгарачанага каня.

— Ну што? — нецярпліва паглядзеў на разведчыка хлопчык.

— Нічога, браце, добрага,— махнуў рукой Федарынчык.— Паліцаі хваліліся, што забілі ля трох дубоў бандыта. У доказ шапку-кубанку з чырвонай стужкай паказвалі ў вёсцы. Але, калі ў іх спыталі, дзе труп, спачатку сумеліся і толькі потым сказалі, што кінулі ў Бярозу. Так што справа цёмная. І яшчэ: ніхто з вяскоўцаў не заўважыў, каб у якога паліцая была лішняя зброя. А новы аўтамат Сухоцкага яны ў раку ніізавошта не кінулі б...

— Дык вы лічыце, што дзядзька Язэп жывы? — з надзеяй у голасе запытаў Якімка.

— Мяркуй сам.— Федарынчык прышпорыў каня і памчаўся да камандзірскай зямлянкі.

— Пайшлі да Косці,— прапанаваў Якімка.— Цікава, што ён скажа пра ўсё гэта.

— Добра. Толькі занясу арэхаў узводнаму. Ён жа прасіў. Цётку Палагею таксама пачаставаць трэба.— І Уладзік пакрочыў да кухні.— Я зараз.

Косця арэхам абрадаваўся. Але перш чым брацца за іх, закончыў расшыфроўваць радыёграму і пабег з ёю да камандзіра атрада.

Неўзабаве ён вярнуўся і ўзяўся ласавацца арэхамі.

— А добрыя. Не горшыя за нашы, палескія.— Косця адкінуў з ілба непаслухмяны русы чуб.— Бывала, як забяромся з хлопцамі ў арэшнік, дык цалюткі дзень не вылазім... Далёка дзе рвалі?

— Ды не. Зусім блізка. Уверх па рэчцы. Там іх процьма.

— Трэба будзе і мне схадзіць, як вольная мінутка надарыцца.

Прыйшоў Уладзік, і Якімка пачаў гаворку, якую хацеў пачаць адразу, як толькі пераступіў парог зямлянкі:

— Слухай, Косця, ты Федарынчыка бачыў?

— Бачыў. Ён зараз у камандзіра.

— І чуў, што ён гаварыў?

— Чуў. Хоць і коратка, але ясна.

— Што — ясна?

Косця паклаў руку Якімку на плячо.

— А тое, дружа, ясна, што трасцу яны забілі Сухоцкага. Ніхто ж яго не бачыў — раз,— пачаў ён загінаць

пальцы,— зброі не забралі — два, шапку паказвалі не яго — тры...

— Шапка яго,— панура сказаў Якімка.— Ён у той вечар з дзядзькам Панасам, кулямётчыкам, памяняўся. Сваю салдацкую з зорачкай дзядзьку аддаў, а дзядзькаву кубанку сабе ўзяў. Дзядзьку Панасу вельмі ўжо захацелася чырвонаармейскую з зорачкай панасіць. Пры мне гэта было. Дай, кажа, Язэпе, хоць пад старасць пацешыцца. Ну Сухоцкі і аддаў...

— Та-а-ак.— Косця забарабаніў пальцамі па калене.— Гэта ўжо трошкі горш, што шапка Сухоцкага. І ўсё роўна,— падхапіўся ён з месца,— не загінуў Сухоцкі! Не знаю чаму, але я ўпэўнены ў гэтым. А шапка? Шапку ён мог кінуць, як кідаюць яе зграі раз'юшаных сабак. Ці, можа, проста згубіў, зачапіўшыся за куст. Туман над рэчкай быў? — спыніўся Косця перад Якімкам.

— Быў,— адказаў Якімка.— Густы.

— Ну вось. Плаваць Сухоцкі ўмее?

— Ого, яшчэ як! — умяшаўся ў гаворку Уладзік.— Дзядзька Язэп у нас лепш за ўсіх плаваў. Ён і брасам умее, і кролем, і...як гэта? Ага, дэльфінам. Ён расказваў, як вучыўся ў тэхнікуме, чэмпіёнам па плаванню быў...

— Значыць, Сухоцкі пераплыў на той бераг ракі,— цвёрда сказаў Косця.— Іншая справа — куды ён пасля гэтага падаўся. Відаць, нешта затрымала яго. Інакш ужо быў бы ў лагеры, вярнуўся б...

— Даведаецца Галя — во ўжо плакаць будзе,— уздыхнуў Уладзік.

— Галя — гэта дачка? — запытаўся Косця.

— Дачка. Яна такая нейкая... Ледзь што, і плача...

— А ты ёй не расказвай пакуль нічога,— падсеў Косця да Уладзіка.— І ты, Якімка, маўчы. Ну, а будзе пытацца, гаварыце, што бацька яе спецыяльнае заданне выконвае. Хто ведае, можа, так яно і ёсць...

Марудна цягнецца час, калі няма ў чалавека якоганебудзь пэўнага занятку. Якімка з Уладзікам як усталі раніцай, так да самага абеду і прасла写ліся без справы. Прапанавалі свае паслугі цётцы Палагеі, але яна сказала, што дапамогі на кухні пакуль што не патрабуецца.

Тады хлопцы пайшлі ў зямлянку Косці-радыста і даелі ўсе ўчарашнія арэхі.

Пасля абеду вярнуліся з задання Харкевіч і яго памочнік Васіль. Якімка з Уладзікам навыперадкі кінуліся да іх.

— Падарвалі? — яшчэ здалёк гукнуў Якімка.

— А як жа.— Стомлены твар Харкевіча асвятліла ўсмешка.— Мост толькі ўю-ю-у-у і — пайшоў... Цяпер з тыдзень ездзіць не будуць.

— А мы вас чакаем, чакаем і ніяк дачакацца не можам,— паскардзіўся Уладзік.

— Нічога, хлопцы. Іншы раз і пачакаць трэба. Мы вось зараз паспім якую гадзіну і пачнём збірацца. Вы ж тым часам калёсы падрыхтуйце.

— Як — падрыхтаваць? — не зразумеў Якімка.— Яны ж... гатовыя. Запрагай ды едзь.

— Э не, браце. Так справа не пойдзе,— сур'ёзна адказаў Харкевіч.— Трэба зрабіць так, каб ў іх нічога не бразнула, нічога не рыпнула. Пад самы нос к немцам паедзем. Разумееш.

З калёсамі і сапрады трэба было паваждацца. Якую лёстку ў драбінцы ні крануць хлопцы, яна хістаецца. Значыць, на хаду будзе стукаць. А так нельга. Замацаваць трэба. Наглуха. І Якімка з Уладзікам выстругваюць тонкія клінкі і забіваюць іх у гнёзды, дзе мацуюцца лёсткі.

Пацягнуць хлопцы за білы туды-сюды, чуецца прарэзлівы скрып. Як пазбавіцца ад яго? Тут ужо клінкі не дапамогуць. Хлопцы думаюць, раяцца і раптам знаходзяць на дзіва простае выйсце: абліць скрыпучыя месцы вадой. Дрэва набрыняе, і калёсы перастануць скрыпець.

Ну і, вядома, трэба як мага гусцей змазаць дзёгцем колы. Рыпець не будуць, ды і калёсы лягчэй на хаду стануць.

За гадзіну ці паўтары Якімка і Уладзік падрыхтавалі не адны, а двое калёс. На ўсякі выпадак. І не памыліліся.

Прыйшоў пад павечар Харкевіч і пахваліў:

— Малайцы. Якраз двое калёс нам і трэба. Добра, што здагадаліся. Бо на адных і каня заганіш, і часу ў два разы больш патраціш. Што ні кажы, а снарады, ды яшчэ шэсць, ці колькі там, скрынак — груз немаленькі...

...Выбраліся ў дарогу завідна. На першай падводзе — Харкевіч з Якімкам, на другой — Васіль з Уладзікам.

Па лясной дарозе калёсы каціліся бясшумна, нават на карэннях не ляскаталі. І Харкевіч яшчэ раз пахваліў хлопцаў за добрую работу.

Нягневіцкі лес, праз які ехалі партызаны, канчаўся прыкладна за кіламетр ад Першавоза. Далей ішло чыстае поле, а за ім — мястэчка і Бяроза-рака.

На узлессі партызаны спыніліся, прыслухаліся. З боку мястэчка не было чуваць ні стрэлаў, ні гулу матораў, ні якіх-небудзь іншых гукаў. Толькі зрэдку ў неба ўзвівалася белая асвятляльная ракета і праз колькі секунд даносіўся слабы стрэл.

— Дзе той акоп ваш? — шэптам запытаўся Харкевіч.

— Трэба зварочваць сюды, правей.— Якімка паклікаў Уладзіка, і яны выйшлі наперад.

Падрыўнікі ўзялі коней за аброці і рушылі ўслед за імі.

Метраў праз сто хлопцы спыніліся, і Якімка паказаў Харкевічу на звілісты яр, што цягнуўся ад лесу да мястэчка:

— Ён глыбокі і шырокі, можна з падводамі ехаць...

— О, тады зусім добра,— узрадаваўся падрыўнік і пачаў зводзіць каня ў яр.— Тут мы будзем, як у бога за пазухай... Да акопа далёка яшчэ?

— Не надта. Прабяжы наперад, Уладзік.— Якімка зноў пайшоў наперадзе. Ззаду ў яго шумна саплі коні, шарахцелі па пяску калёсы.

Неўзабаве насустрач яму выйшаў Уладзік.

— Акоп за гэтым паваротам. Скрынкі на месцы,— паведаміў ён.

Спынілі коней, і падышлі падрыўнікі.

— Знайшлі? — шэптам запытаўся Харкевіч.

— Ага.

— Тады вось што. Вы, хлопцы, павярніце падводы ў бок лесу і чакайце нас тут. Коней глядзіце, каб не заржалі. А мы з Васілём зоймемся снарадамі. Бяры, Васіль, інструмент.

— Ён пры мне,— адказаў Васіль.

— То пайшлі. Вядзі, Уладзік.

Хутка Уладзік вярнуўся.

— Хацеў паглядзець, як яны там будуць рабіць, дык прагналі,— збянтэжана прамовіў ён.— Ну і няхай. Самі навучымся. Праўда ж?

Якімка маўчаў. Усю яго маленькую істоту раптам адолела маркота. Успомніліся бесклапотныя перадваенныя гады: рыбалкі на ранішняй зорцы, калі над Бярозай курыцца лёгкі празрысты туман, поўныя вядзерцы чорнагаловых баравікоў, што прыносілі яны з хлопцамі з Нягневіцкага лесу, бясконцыя гульні «ў вайну» за аколіцай. Тады гэтыя гульні ў горшым выпадку заканчваліся не дужа балючымі драпінамі або збітым аб корань пальцам.

А цяпер вайна побач, навокал цябе і на сотні, тысячы кіламетраў адсюль, жорсткая, крывавая, бязлітасная. Яна ў гэтых асвятляльных ракетах, што раз-пораз палыхаюць над апусцелым мястэчкам; яна ў снарадах, якія абясшкоджваюць упоцемку Харкевіч з Васілём, кожнае імгненне рызыкуючы жыццём; яна ў горкіх слязах Галі... Яна ва ўсім, яна ўсюды — вайна!..

— Ты чаго маўчыш? — таўхануў сябра Уладзік.

— Вусцішна неяк,— прызнаўся Якімка.— Гаварыць не хочацца... Хутчэй бы яны там канчалі...

— З іхняй работай надта не разгонішся,— сур'ёзна сказаў Уладзік.— Помніш, што Васіль казаў? Мінёр памыляецца адзін раз у жыцці.

Якімка ў знак згоды кіўнуў галавой, хаця, па праўдзе кажучы, зусім не помніў, калі і дзе гаварыў пра мінёраў Васіль. Хутчэй за ўсё, гэта ён аднаму Уладзіку гаварыў, як ехалі сюды.

Ад рэчкі пацягнула сырым халодным ветрыкам. Зашастаў над галавой сухі быльнёг. Горка запахла палыном.

Якімка адчуў, што ў яго пачалі стынуць калені.

— Халаднавата,— перасмыкнуў ён плячыма.

— Восень,— коратка зазначыў Уладзік.

Хлопцы пачалі тупаць на месцы, каб сагрэцца. Яны ўсё часцей паглядалі ў той бок, адкуль павінны былі паказацца падрыўнікі. Мінула ўжо даволі шмат часу. Можа, і сапраўды, як меркаваў начальнік боезабеспячэння Тадаровіч, снарады паржавелі, і цяпер падрыўнікі ніяк не могуць даць ім рады.

Нарэшце пачулася цяжкае дыханне і тупат ног. Ідуць! Са снарадамі.

Якімка разраўняў на калёсах сена і пабег насустрач:

— Памагчы?

— Не трэба. Коней глядзіце,— хрыпла адказаў Харкевіч.

Скрынак са снарадамі аказалася восем, і іх размеркавалі пароўну.

Па чатыры на кожную падводу.

Коні з натугай зрушылі калёсы з месца. Пакуль дно яра было параўнальна цвёрдым, цягнулі яны добра. Але як толькі трапляўся сыпучы пясок, спыняліся. Тады партызаны ўпіраліся ў калёсы і памагалі коням выбрацца на цвёрдую дарогу.

У лес уехалі ўсе ўзмакрэлыя ад поту — і людзі і коні.

## ПОМСТА

На досвітку пайшоў дождж. Імжысты, золкі, нудны. Ён сыпаў і сыпаў, і здавалася, не будзе яму канца. Мох, і без таго заўсёды сыры і вільготны, набрыняў так, што хацелася ўзяць яго і выкруціць, як выкручваюць мокрую анучку. Панурыя елкі ніжэй апусцілі ацяжэлыя лапкі.

Якімка і Уладзік выскачылі з зямлянкі, каб памыцца, і тут жа шмыгнулі назад.

— Ці не мядзведзя спужаліся? — надзяючы боты, запытаўся Косця.

— Дождж...— збянтэжана адказаў Уладзік.

— Дождж? Дык гэта ж цуд! — Косця пачаў здымаць нацельную сарочку.— Гэта ж, браткі вы мае, гатовы душ. Зараз пойдзем купацца. Ану распранайцеся, героі!

— А што такое душ? — пацікавіўся Якімка.

— Душ? Гэта, як бы табе лепш растлумачыць. Такі штучны дожджык. Сее і сее праз жалезнае сіта. А ты стаіш пад ім і мыешся. Здорава! Можна зрабіць халодны, а можна — такі гарачы, што не ўстаіш. Ва ўсіх гарадскіх лазнях ёсць. Дык пайшлі.— Косця штурхнуў дзверы і першы выбег з зямлянкі.

Дождж пабуйнеў, і Косця з задавальненнем падстаўляў пад яго то грудзі, то спіну, прыгаворваючы:

— Ух ты, як добра! Ну, ну, давай яшчэ! Сып мацней!..

Якімка з Уладзікам таксама паспрабавалі рабіць, як Косця, але, акрамя холаду, нічога не адчувалі. Не вытрымаўшы гэтага хвалёнага душу, яны хуценька пабеглі назад у зямлянку.

— Дэзерціры! — весела крыкнуў услед ім Косця.

Каб хутчэй сагрэцца, хлопцы пачалі старанна расціраццца сухімі ручнікамі. Расціраліся, аж пакуль цела не пачало гарэць агнём.

Вярнуўся Косця. Расчырванелы, весела ўзбуджаны. Падміргнуў хлопцам:

— Ну што? Спадабаўся душ?

— Ды ну яго,— адмахнуўся Якімка.— Адубець можна.

— Гэта без прывычкі. Спачатку ўсе баяцца халоднай вады. А потым прывыкаюць і нават узімку снегам расціраюцца. Загартоўка.

Апрануўшыся, Косця сеў за рацыю.

— Якія ў вас планы на сёння?

— Хто яго ведае...— адказаў Уладзік.— Думалі ў арэхі схадзіць. Ды вось дождж лупіць...

— Давай спытаем у Дубоўскага, можа, якое заданне дасць,— сказаў Якімка.

— Давай.

Хлопцы глыбей нацягнулі шапкі, паднялі каўняры і накіраваліся да выхада.

Косця ўключыў рацыю.

Дубоўскага хлопцы знайшлі на кухні. Ён удакладняў з цёткай Палагеяй, колькі і якіх прадуктаў трэба ёй на абед.

Убачыўшы хлопцаў, узводны ўзрадаваўся:

— Вось добра, што прыйшлі. Трэба памагчы абіраць бульбу. Старшай прызначаю Палагею Андрэеўну. Усё зразумела?

— Зразуме-е-ела,— паныла працягнуў Якімка.

— Жадаю поспеху! — казырнуў Дубоўскі і выйшаў.

Якімка з Уладзікам пераглянуліся і ўзяліся за нажы.

— Што, саколікі, не даспадобы вам работа? — паспачувала ім павaрыха.— Тады не трэба. Ідзіце сабе. Я ўжо як-небудзь адна ўпраўлюся.

Якімка густа пачырванеў:

— Што вы, цётка Палагея, я вельмі люблю гэту работу. Мы калі засталіся з дзедам удвух, толькі я і

абіраў бульбу. Во, самі паглядзіце, як тоненька лушпінне здымаю...

Цётка Палагея падышла, глянула.

— І праўда ўмееш. Малайчына,— пахваліла яна і нахілілася над Уладзікам.— Ну, а ты як? Умееш?

З-пад Уладзікавага нажа сыпалася долу не лушпінне, а цэлыя кавалкі бульбы.

— Не, мой хлопчык,— падсела да яго паварыха,— ты мне так усю бульбу перапсуеш. Бяры як можна танчэй і не спяшайся. Лепш цішэй, ды з толкам...

Уладзік пачаў абіраць павальней, і лушпіны ўжо выходзілі з-пад нажа не такія тоўстыя, як спачатку.

Утульна патрэсквалі ў печы дровы, булькала ў вялікім катле духмянае варыва, бубніў за акном дождж. Усе гэтыя гукі нагадвалі хлопцам родны дом у звычайную даваенную раніцу. Так і здавалася, што вось зараз маці накрые чыстым абрусам стол і пакліча снедаць. А на стале — пульхныя бліны, смятана, лой, мёд...

Якімка цяжка ўздыхнуў.

— Ведаеш, Уладзік, чаго мне захацелася? — шэптам сказаў ён.— Ячменных бліноў з лоем... Гарачых...

— Эйш ты, чаго захацеў? — здзекліва зазначыў сябар.— Можа, яшчэ мёдзіку падаць?..

— Эт, што з дурнем гаварыць,— без злосці сказаў Якімка.

Уладзік усміхнуўся:

— Я, прызнацца, таксама чамусьці пра бліны падумаў. Толькі не з лоем, а са смятанай. Я са смятанай люблю. Але што з таго. Цяпер во бульбу абіраць трэба, а не пра блінчыкі-фінчыкі рассусольваць...

— Памарыць жа можна.

Невядома, чула іх ціхую размову цётка Палагея ці не. Толькі не паспелі хлопцы закончыць работу, як на стале ўжо быў пасланы чысты ручнік, а на ім высіўся стос свежых бліноў.

Побач стаялі два слоікі — адзін з лоем, другі са смятанай.

— Падмацуйцеся саколікі,— падсунула паварыха да стала лаўку.— Даўно ж, мусіць, бліноў не елі...

Зірнуў Якімка на стол, і ў яго засмактала пад лыжачкай. Ды так, што аж сліна пацякла.

— Кончым — тады,— цераз сілу прамармытаў ён.

— Не, дзеткі,— запярэчыла цётка Палагея.— Ся-

дайце зараз, а то бліны прастынуць. Які з іх тады смак! — І ўздыхнула: — Вось толькі мядку няма ў мяне...

— Ды што вы — мёд. І так добра будзе,— махнуў рукой Уладзік.

Хлопцы хуценька палілі адзін аднаму на рукі і селі за стол.

Ні Якімка, ні Уладзік не помнілі, каб ім даводзілася калі есці такія смачныя бліны. Яны з'елі па аднаму бліну, пераглянуліся і ўзялі па другому. Потым яшчэ раз пераглянуліся і ўзялі па трэцяму — па апошняму.

Жанчына глядзела на іх затуманенымі вачыма, і з яе твару не сыходзіла горкая ўсмешка.

Падзякаваўшы цётцы Палагеі за адменнае снеданне, хлопцы зноў ўзяліся за нажы. Але цётка сказала, што больш бульбы не трэба. На крупнік хопіць і той, што абабралі.

— Ідзіце гуляйце,— дазволіла яна.

Размораныя густой кухоннай цеплынёй, а яшчэ больш — смачнаю ядою, хлопцы, не спяшаючыся, вярталіся ў зямлянку.

— Эх, не падумалі мы. Трэба было Косцю хоць адзін блін занесці,— пашкадаваў Якімка.

Уладзік прамаўчаў. Што цяпер гаварыць, калі ўсё кончана.

— Ты толькі яму не расказвай, бо пакрыўдзіцца,— зноў загаварыў Якімка.

— Добра. Толькі не ный... Сам жа ўпісваў, аж нос упрысядкі хадзіў, а як наеўся, Косцю ўспомніў...

— Тады разумееш, неяк не падумалася.

Дождж сціх, і неба пачало праясняцца. У яловых вершалінах зашумеў вецер. З галін і галінак пасыпаліся буйныя кроплі. Ад мокрай зямлі паплыў угору рэдкі дымчаты туман.

— Падсохне, і пойдзем у арэхі,— сказаў Якімка.

Але пайсці ў той дзень у арэхі хлопцам не давялося. Новыя нечаканыя падзеі захапілі іх і закружылі ў сваім віры.

Калі Якімка з Уладзікам ужо збіраліся спусціцца ў зямлянку, пачуўся дробны тупат капытоў, і ў лагер на ўзмыленым кані прымчаўся дзядзька Хведар.

Асадзіўшы каня каля камандзірскай зямлянкі і саскочыўшы на зямлю, дзядзька Хведар асцярожна

зняў з сядла хлопчыка гадоў дзевяці-дзесяці. Хлопчык быў без шапкі, у вялікім, мабыць, бацькавым ватніку. Ватнік абгарэў, і ■ яго нарастамі тырчала бурая апаленая вата. На правай назе хлопчыка быў незашнураваны чаравік. Левая была босая. З яе сачылася кроў.

Стаяць хлопчыку, відаць, было цяжка. Ён пахіснуўся і апусціўся на мох.

З зямлянкі выскачыў камандзір атрада, устрывожана спытаў у дзядзькі Хведара:

— Што здарылася, Астапавіч?

— Ды во,— кіўнуў на хлопчыка разведчык,— з Касцюкоўкі. Па дарозе падабраў...

Хлопчык глядзеў на Багдановіча нерухомымі вачыма, у якіх застыў смяртэльны жах.

— Карнікі... Прыехалі... Запалілі... Пабілі... Усіх-усіх... Нашу Надзьку ў студню ўкінулі, а я ўцёк...

Камандзір атрада паклікаў Якімку з Уладзікам:

— Доктара знайдзіце. Няхай сюды ідзе. Хутчэй.

Дзядзька Хведар падняў хлопчыка на рукі і занёс у камандзірскую зямлянку. Яго пасадзілі на нары і пачалі распытваць. І Сцёпа, так звалі хлопчыка, слова за словам расказаў пра страшэнную трагедыю, якая разыгралася ў яго роднай Касцюкоўцы.

Сёння на досвітку ў іхнюю вёску прыехалі тры грузавікі з немцамі і паліцаямі і адзін бранявік. Гэта былі карнікі. Яны паставілі вакол вёскі кулямёты і пачалі выганяць людзей на вуліцу. Самых старых і хворых забівалі ў хатах, а маленькіх кідалі ў студні. Адзін тоўсты карнік выгнаў Сцёпаву маці на вуліцу, а сам вярнуўся, ухапіў яго малодшую сястрычку за ножкі і ўдарыў яе галавой аб печ. Потым вынес на двор і кінуў у студню. Сцёпа так напужаўся, што сам не помніць, як апынуўся пад перакуленым цэбрам, што стаяў у куце на кухні.

Карнік вярнуўся яшчэ раз, пашукаў яго і, не знайшоўшы, паслаў з аўтамата чаргу пад ложак. Потым выйшаў і больш не вяртаўся.

Сцёпа сядзеў пад цэбрам ні жывы ні мёртвы. Ён баяўся нават дыхаць. Але неўзабаве зрабілася нясцерпна душна і горача, і ён міжволі выскачыў са свайго ўкрыцця. Хата гарэла...

— Як жа ты ўратаваўся? — ходзячы па зямлянцы, запытаўся Багдановіч.

— Не ведаю,— паціснуў плячыма хлопчык.— Я ў лесе прачнуўся... Паляжаў, успомніў пра Надзьку і пабег... Я да мамкі хачу...— нечакана сказаў ён.— Я ж жывы, праўда?

Прыйшла доктар. Зірнула на Сцёпу і хуценька пачала яго распранаць. На руках, нагах, на грудзях і жываце, на ўсім худзенькім целе хлопчыка злавесна бялелі вялікія пухіры.

— Гэта ж так абгарэў! Жыўцом палілі, гады!..— Губы доктара задрыжалі.— Хутчэй нясіце ў шпіталь...

Камандзір атрада надзеў шапку, рэзкім рухам абцягнуў гімнасцёрку і павярнуўся да дзядзькі Хведара:

— Зараз жа падняць атрад па баявой трывозе! На месцы застаюцца толькі паставыя!

— Ёсць падняць атрад,— казырнуў дзядзька Хведар і выбег. За ім заспяшаліся і Якімка з Уладзікам.

Касцюкоўка стаяла на гравейцы паміж двума гарнізонамі — Бярэзанем і Навасёлкамі. І да аднаго і да другога было адсюль кіламетраў па восем. З захаду да вёскі падступаў дрымотны Пячэрскі бор, які злучаўся з Нягневіцкім лесам. Аддзяляла бор ад вёскі імклівая і глыбокая рэчка Крынічанка. З бярэзаньскага боку, непадалёк ад Касцюкоўкі, Крынічанка рабіла круты паварот і перасякала гравейку. На перасячэнні яшчэ задоўга да вайны калгаснікі ўзвялі вялікі, такі, каб маглі праходзіць аўтамабілі і трактары, мост. Цераз яго касцюкоўцы хадзілі на зарэчныя палеткі на працу, цераз яго ездзілі ў Пячэрскі бор па дровы, а ў выхадныя дні — у Бярэзань на базар.

Цераз яго ў гэты страшны дзень прыехалі ў Касцюкоўку і бярэзаньскія карнікі. Прыехалі, і што толькі зрабілі яны з зеленакудрай прыгажуняй Касцюкоўкай!..

Расцягнуўшыся ланцугом на ўзлессі, партызаны глядзелі на вёску і не пазнавалі яе. Там, дзе пад засенню высачэзных ліп і клёнаў чырванелі чарапічнымі дахамі светлавокія дамы, цяпер тырчалі разбураныя коміны ды курэлі галавешкі. Падымаў, кружыў вецер попел і на месцы былых хлявоў, пунь, гумнаў. Над адным, самым вялікім папялішчам яшчэ ўздымаўся ў неба чорна-буры дым, і ад яго патыхала цяжкім пахам. Людзей у вёсцы не было відаць, карнікаў з іх машы-

намі — таксама. Зрабілі сваю чорную справу, і дай бог ногі.

Толькі вось у які бок паехалі? Калі на Бярэзань, тады партызанам тут няма чаго рабіць. А калі ў Навасёлкі — справа іншая. У Навасёлках яны доўга не затрымаюцца. Пап'янствуюць у тамашнім гарнізоне ды завідна паедуць назад у Бярэзань. У Бярэзані надзейней. Там войска шмат. Карнікі там не вельмі баяцца, што нападуць партызаны. А ў Навасёлках што? Жменька паліцаяў. Праўда, хаваюцца яны за падвойнымі сценамі, за калючым дротам і дзотамі. Але ўсё адно гэта зусім не тое, што ў Бярэзані. І, канечне, затрымлівацца на ноч у такім гарнізоне карнікі не будуць.

«Дзе ж яны, гады паўзучыя, падзеліся? — вылаяўся ў думках Багдановіч.— Хутчэй бы разведка вярталася!..»

Дзядзька Хведар, які стаяў побач з камандзірам і камісарам і абмацваў біноклем кожны кусцік, кожны грудок у вёсцы, раптам усклікнуў:

— Чалавек!

— Дай сюды.— Багдановіч узяў бінокль і паднёс да вачэй.— Дзе?

— У цэнтры. З правага боку ад тоўстай ліпы...

— Так, чалавек. Стары зусім,— удакладніў Багдановіч, вяртаючы начальніку разведкі бінокль.— Пашлі каго-небудзь.

Дзядзька Хведар паклікаў Федарынчыка.

— Бачыш чалавека? Дык вось давай на той бок і даведайся, куды паехалі карнікі. Хуценька.

— Адна нага тут, другая там! — казырнуў разведчык і пабег на Крынічанкі. Яе лясны бераг злучалі з вясковым дзве тоўстыя жэрдкі. Федарынчык перайшоў па іх цераз імклівую плынь і неўзабаве быў ужо каля дзеда. Гаварыў ён там нядоўга і хутка павярнуў назад. Услед за ім паклыпаў і дзед.

Дзед быў вельмі стары. Яго блізарукія вочы слязіліся, галава трэслася, пальцы амаль не гнуліся.

— Ось застаўся...— замагільным голасам прагаварыў ён.— Жывы... А маладзенькіх пабілі. Хай бы лепш мяне... Які я жыцель...— Дзед прыхінуўся спіной да сасны і сеў на зямлю.

— Дакладваю! — выцягнуўся ў струнку Федарынчык.— Карнікі паехалі ў бок Навасёлак. Бранявік і

тры грузавікі. На кожным грузавіку прыкладна па дваццаць чалавек.

Багдановіча акружылі камандзіры рот, узводаў. Чакалі загаду.

— Падрыўной групе Харкевіча замініраваць мост на гравейцы і залегчы з боку Бярэзаня,— пачаў Багдановіч.— З групай пойдзе кулямётны разлік Цыбульскага і бранябойны — Андросіка. Першая рота пераходзіць рэчку і маскіруецца ў вёсцы. Другая — забяспечвае заслон з боку Навасёлак на выпадак, калі карнікі паспрабуюць уцякаць назад або калі часам да іх падыдзе падмацаванне. Бой пачынае група Харкевіча. Як толькі бранявік або машына ўз'едзе на мост, падарваць і адкрыць агонь з кулямёта і аўтаматаў. Першая рота таксама адразу пасля выбуху адкрывае агонь... План зразумелы?

— Усё ясна, таварыш камандзір атрада!

— Тады займайце пазіцыі. Сігнал адыходу — чырвоная ракета.

Гаспадарчаму ўзводу было загадана далучыцца да другой роты і замаскіравацца. Большасць партызан залегла ў кустах, што раслі ўздоўж гравейкі, і заўважыць іх з дарогі было амаль немагчыма. Якімка з Уладзікам аблюбавалі сабе месца на ўскрайку вёскі. Тут у нечым садзе з аднаго боку рос агрэст, з другога — бэз, а між імі старая груша-дзічка. За ёю і схаваліся хлопцы.

Цяпер заставалася толькі чакаць.

І гэта было цяжэй за ўсё. Асабліва, калі ўлічыць, што праз некалькі мінут або гадзін трэба ўступіць у першы адкрыты бой з узброеным да зубоў ворагам.

Якімка адчуваў, пад сэрцам непрыемны халадок. Рукі самі мацней сціскалі аўтамат, ды так, што аж нямелі пальцы.

Першы бой. Як ён складзецца для Якімкі, для Уладзіка? Хлопчык паглядзеў на сябра.

Знешне Уладзік здаваўся спакойным. Толькі чырвоныя плямы на твары выдавалі, што і ў яго ўсё ўнутры напята як струна.

Страшна было хлопцам? Калі гаварыць па-шчырасці, страшна. І нават вельмі. У чаканні бою яны не-не ды і ўспаміналі лагер, утульную цеплыню кухні, гасцінную зямлянку Косці-радыста. Цяпер бы туды, у такое спакойнае, надзейнае месца!

Але — не. Там, у лагеры, недзе ў шпітальнай зямлянцы курчыцца ад болю абгарэлы хлопчык Сцёпа. Гэта карнікі хацелі яго спаліць жыўцом. Гэта яны кідалі ў калодзежы малых дзяцей. Гэта яны сагналі людзей у вялікае гумно і запалілі. Яшчэ і цяпер там курыцца густы чорна-буры дым...

За ўсё гэта трэба біць гадаў, калоць, рэзаць, вешаць, а не дрыжаць ад страху перад імі...

З захаду паднялася вялізная шэрая хмара. Яна засланіла сонца і, пастунова разрастаючыся ўшыркі, папаўзла на вёску. Паўзла хмара нізка, ледзь не кранаючы сівымі космамі стромкіх вершалін прыдарожных таполяў.

Зашумелі, залапаталі па абгарэлай лістоце дажджавыя кроплі.

І адразу натужліва загудзелі на гравейцы маторы машын.

Вярталіся з Навасёлак у Бярэзань карнікі.

Першым вынырнуў з-за ўзгорка бранявік. З высокай вежы тупа глядзелі наперад дулы двух кулямётаў — буйнакаліబернага і звычайнага. Бранявік ішоў на сярэдняй хуткасці. За ім, трымаючыся пэўнай дыстанцыі, каціліся тры грузавікі. На кабінах стаялі кулямёты. Карнікі сядзелі ў кузавах шчыльнымі радамі. Ратуючыся ад дажджу, яны нацягнулі на вушы пілоткі і ўкрыліся рабымі плашч-накідкамі.

Як ні дзіўна, але, убачыўшы карнікаў, хлопцы неяк адразу супакоіліся. Ад страху не засталося і следу. Толькі ўсё ўнутры напружылася ў нецярплівым чаканні.

Хутчэй жа! Ну хутчэй!.. Апошняя машына праходзіць міма. Яшчэ мінута, і яе ўжо не дастанеш з аўтамата...

І раптам... Зямля пад хлопцамі здрыганулася, і паветра страсянуў аглушальны выбух.

Нейкую хвіліну пасля гэтага было ціха-ціха. А потым адразу пачалося такое! Забухкалі гранаты, застрачылі кулямёты і аўтаматы, ударылі вінтоўкі. Шалёная стралянiна злілася ў суцэльны гул. А калі крыху прыціхла, над спаленай вёскай пракацілася з канца ў канец грамавое «ўра!». Партызаны кінуліся да машын і пачалі абяззбройваць уцалелых карнікаў.

Да смерці напалоханыя нечаканым ударам, тыя амаль не супраціўляліся.

Чорным дымам курыўся скінуты выбухам з моста пад абрыў бранявік, свечкамі палыхалі грузавікі. Партызаны падбіралі трафеі. Ад'ютант камандзіра атрада Сашка падрыхтаваў ужо ракетніцу, каб даць сігнал адыходу.

Але тут за адной з разбураных печаў коратка пратрашчаў кулямёт. Партызаны заляглі. Сашка-ад'ютант перадаў ракетніцу Багдановічу і ўлукаткі папоўз да печы. Тое, што ён убачыў, было адначасова і драматычным і смешным. Два хлапчукі тузаліся са здаравенным немцам. Яны вырывалі ў яго кулямёт, а ён адбіваўся. Сашка падскочыў да немца ззаду і ўдарам прыклада па патыліцы збіў яго з ног.

— Чаму не стралялі? — запытаў ад'ютант.

— Патроны ў аўтамаце скончыліся,— панура адказаў Якімка.

— У мяне таксама,— клацнуў затворам Уладзік.

— Дык вы б яго з пісталета,— усміхнуўся Сашка.

Якімка і Уладзікам збянтэжана пераглянуліся: у гарачцы бою на пісталеты яны зусім забыліся.

— Як вы яго знайшлі? — пацікавіўся Сашка.

— Гэта з задняй машыны. Ён адразу сюды, за печ, сігануў. Пакуль усе стралялі, і ён страляў. А як сціхла, перастаў. Мы думалі, што ён забіты... Хацелі кулямёт забраць. Толькі падышлі, а ён як падхопіцца, ды з кулямёта. Праўда, не па нас, а міма. Са страху, мусіць. Ну, мы і давай адбіраць...

Партызаны пераходзілі цераз Крынічанку назад у лес, складвалі на падводы трафейную зброю і знікалі ў лесе.

На месцы нядаўняга бою запанавала цішыня.

Апошнімі паказаліся партызаны, што былі ў засадзе за мостам. Яны ішлі павольна і, апусціўшы галовы, некага неслі на самаробных насілках.

Гамонка адразу сціхла. Усе з трывогай угледаліся: каго там нясуць?

Выйшаўшы на сцежку, Харкевіч з Васілём асцярожна апусцілі насілкі на зямлю.

На насілках ляжаў кулямётчык Цыбульскі.

На правай скроні дзядзькі Панаса запяклася маленькая кропелька крыві...

...Павольна рухаліся па лясной дарозе дзве падводы. У глыбокім смутку маўкліва ішлі за імі партызаны. Яны праводзілі ў апошнюю дарогу кулямётчыка

Цыбульскага і маленькага хлопчыка Сцёпку, які сканаў ад страшных апёкаў.

Журботна шумеў Нягневіцкі лес, скідаў долу празрыстыя слёзы-расінкі.

Якімка з Уладзікам ішлі адразу за апошняй падводай. У адкрытай труне ляжаў Сцёпа. Глядзець на яго твар было зусім не страшна. Здавалася, хлопчык не памёр, а проста заснуў і спакойна спіць...

На лясной паляне, дзе стаялі над невялікімі ўзгорачкамі некалькі абеліскаў, партызаны спыніліся. Да свежавыкапаных магіл ціха паплылі на дужых плячах дзве труны.

Камісар атрада Шылаў доўга стаяў, апусціўшы галаву, потым ахрыплым голасам прамовіў:

— Таварышы!..

Якімка не чуў, што гаварыў камісар. Вочы хлопчыка напоўніліся слязьмі, і ён адвярнуўся ўбок.

Прагрукаталі развітальныя залпы. Пасыпаліся на труну камякі сырой зямлі...

Спахмурнеў, панурыўся Нягневіцкі лес.

Аднойчы раніцай, сустрэўшы Якімку, Дубоўскі запытаў:

— Як твой дзед, у шавецкай справе кумекае штонебудзь?

Хлопчык пацізнуў плячыма:

— Як вам сказаць... Ботаў ён, мусіць, не шыў. Але накласці латку ўмее і падмёткі падаб'е.

— Во, во,— падхапіў Дубоўскі,— якраз пра гэта я і пытаюся. Разумееш, абутак на хлопцах як на агні гарыць, а рамантаваць няма каму. Вось і хачу я твайго дзеда завербаваць на гэтую справу. Можа, яшчэ каго ведаеш?

— Хто ж яшчэ... О, успомніў! Там, у цывільным лагеры, Васеў бацька жыве, дзядзька Антон. Гурын Антон. Ён таксама сам рамантуе абутак.

— Тады зусім цудоўна! — узрадаваўся Дубоўскі.— Можна сапраўдную шавецкую майстэрню адкрываць. Ведаеш што, мой бледнатвары брат, схадзітка ты сёння да дзеда і да гэтага, як яго?

— Дзядзькі Антона,— падказаў Якімка.

— Во, во, да яго. Папрасі ад майго імя, каб прыйшлі сюды. Пагаворым, і, калі згодзяцца, я іх усім неаб-

ходным забяспечу. Мы, як поплаўскі гарнізон растрыбушылі, цэлую майстэрню ў лагер прывезлі. Ёсць і капылы, і лапы, і малаткі, і шылы. Нават цвікі і дратва ёсць. Так што працаваць будзе чым.

— Мне аднаму ісці?

— Не разумею,— падняў рыжыя бровы Дубоўскі.

— У лагер цывільны аднаму ісці ці можна разам з Уладзікам? — удакладніў Якімка.

— А-а, ты вось пра што. Бяры з сабой і яго. Няхай маці праведае. Занудзіліся ж, мусіць, абое.

Галя яшчэ здалёк заўважыла хлопцаў і кінулася ім насустрач. Падбегла і радасна ўсміхнулася:

— Ой, як вас доўга не было! Мы ўжо тут думалі, ці не здарылася што дрэннае. Татка таксама прыйдзе?

Уладзік паспешліва прамовіў:

— Вы тут гаварыце, а я да мамкі схаджу.— Ён павярнуў да адной з зямлянак.

— Не ідзі,— спыніла яго Галя.— Няма тваёй мамкі ў лагеры.

— А дзе яна? — з трывогай паглядзеў на яе хлопчык.

— Далё-о-ока,— працягнула Галя.— Адсюль з кіламетр будзе. Каровы пасе. Сёння яе чарга.

— А дзе гэтае тваё далёка? — ужо спакойна запытаўся Уладзік.— У якім баку?

— Ідзі вось так,— паказала дзяўчынка.— Прама і прама. Там будзе рэдкі малады бярэзнік. Травы ў ім многа-многа. Вось там і шукай. А лепш за ўсё ідзі паўз рэчку. Ніколі не заблудзіш.

Якімка з Галяй засталіся адны.

— Дык татка сёння прыйдзе? — зноў запыталася дзяўчынка.

— Сёння — не,— стараючыся не глядзець Галі ў вочы, адказаў Якімка.

— А чаму? Што здарылася? Што вы ад мяне ўсе адварочваецеся?

Якімка нясмела ўзяў яе за руку і, стараючыся гаварыць пераканаўча, сказаў:

— Ты не бядуй. Праўда. Праз колькі дзён вернецца твой татка. Проста яму цяпер не выпадае наведаць цябе, асобае заданне ў яго, вельмі адказнае.

— Не магу я так доўга без таткі,— залілася Галя слязьмі,— не магу, і ўсё. Калі не скажаце, дзе ён, сама пайду шукаць. Усё навокал абыду, а знайду...

У Якімкі запяршыла ў горле. Ён адчуў, што яшчэ хвіліна, і ў яго самога закапаюць слёзы. Што падумае Галя — адразу здагадаецца, што з бацькам яе здарылася нешта нядобрае. І Якімка, каб стрымацца, злосна плюнуў:

— Эт, што з табой, плаксай, гаварыць. Адно слова — баба!.. Пайшлі лепш да дзядулі. Справа ёсць.

Галя моўчкі кіўнула галавой.

Дзед Лук'ян сядзеў на пенчуку і, прыладзіўшы між каленяў бот, паціху гупаў па падэшве малатком.

Якімка перадаў яму просьбу Дубоўскага. Дзед узрадаваўся:

— Вось хоць занятак будзе, хоць хлопцам памагу. А то аж сорамна. І мужчына як быццам, і колішні салдат, а толку ад мяне ніякага. А тут справа — сапраўдная, ваенная.— Дзед ад задавальнення пацёр далоні.— Антона, кажаш, таксама просяць? Згодзіцца, канечне. Шавецкую справу ён ведае, хаця і трактарыст. Зямлянку пад майстэрню, скажы, там самі зробім. Няхай не турбуюцца. І няхай, скажы, хутчэй вязуць нам струмант і ўсё іншае. Рукі ўжо занудзіліся па рабоце.

— Дык мне зараз ісці, дзядуля?

— Чаму ж так адразу? Перакусім трохі, тады і пойдзеш. Сухоцкі не вярнуўся яшчэ?

Зноў Сухоцкі. Лепш бы ўжо дзед не лез з гэтым пытаннем, ды яшчэ пры Галі. Зноў зараз зальецца слязьмі.

— Чуў ў атрадзе, што не сёння-заўтра вернецца,— у роспачы зманіў Якімка.— Ды яшчэ як вернецца. З трафеямі!

Сказаў гэта Якімка, і чамусьці адразу на душы стала лягчэй. Ён першы раз за сённяшні дзень смела паглядзеў Галі ў вочы і нават падміргнуў ёй: вось так, маўляў!

Хлопец нібы ў ваду глядзеў.

Позна ўночы ў лагер вярнуўся Язэп Сухоцкі. І вярнуўся не проста, не пяшком, а на нямецкім «опелі» і з немалымі трафеямі.

Яны сядзяць вакол невялікага агеньчыку ля дзедавага будана ўпяцярых: стары Лук'ян, Якімка, Уладзік, Язэп Сухоцкі і Галя. Галя прытулілася да бацькі і моцна трымаецца за яго руку, нібы баіцца, што вось зараз ён устане, папраўіць рэмень і зноў надоўга знікне ад яе.

Дзядзька Язэп падрабязна і не спяшаючыся расказвае пра канец той ночы, калі яны так нечакана рассталіся з Якімкам на беразе Бярозы каля трох дубоў, і пра ўсё астатняе, што адбылося з ім пазней. І дзед і дзеці слухаюць яго, стараючыся не прапусціць ніводнага слова.

Патрэскваюць у агні сухія галінкі, шуміць у сасновых вершалінах начны ветрык.

— Як толькі ты, Якімка, ударыў па кані,— дзядзька Язэп кінуў позірк на хлопчыка,— я адразу разануў з аўтамата. Кулямёт замоўк, ды ненадоўга. Неўзабаве ён засакатаў зноў. Трасірныя кулі праносіліся недзе за метр ад мяне. «Не,— думаю,— тут жарты кепскія. Трэба хутчэй даваць лататы». А куды? На бераг не папаўзеш — там яны, паліцаі. Бегчы па водмелі ў бок лесу — таксама неразумна. У іх — ракеты. Асветляць, заўважаць, і тады лічы, што прапаў. Расстраляюць як піць даць, а то, яшчэ, чаго добрага, пярэймуць ды жывым возьмуць. Глянуў я на рэчку, а туман над ёй усё гусцее і гусцее. Тут і парашыў я плысці на той бок. Трасцу яны мяне заўважаць, думаю. Ну і паплыў...

— Дзядзька Язэп,— асцярожна перапыніў Сухоцкага Якімка,— а шапка як?..

— Шапка, кажаш? — Сухоцкі ўсміхнуўся.— Я, калі поўз да вады, за кусты зачапіўся, а варочацца не было калі. Вось і застаўся без шапкі. А яны потым, Федарынчык казаў, пахваляліся, што, маўляў, забілі партызана, і як доказ шапку паказвалі. Ага. Дык пераплыў я на той бок...

З поўдня накацілася на лагер водгулле разложыстага выбуху.

— Ого-го! — аж падхапіўся Уладзік.

— Недзе каля Пухавіч,— вызначыў Сухоцкі.

— Няйначай,— згадзіўся дзед Лук'ян,— можа, цягнік хлопцы рванулі, а можа, мост...

На мінуту ўсталявалася маўчанне.

Першым парушыў яго Якімка:

— Далей, дзядзька Язэп. Калі ласка...

А далей было вось што.

Шчасліва пераплыўшы Бярозу, дзядзька Язэп забраўся глыбока ў лес і ўладкаваўся там на днёўку. Меркаваў абсушыцца, выспацца, а на змярканні звязаць сякі-такі плыт і перабрацца дзе-небудзь у зацішным месцы назад на свой бераг.

Ды тут адбылася адна непрадбачаная падзея. Якраз на досвітку таго дня партызаны атрада імя Жалезняка разбілі гарнізон у Вяшэўцы. Аб гэтым дзядзька Язэп даведаўся выпадкова, сустрэўшы ў лесе трох мужчын з Вяшэўкі: двух маладых і аднаго старога. Яны расказалі, што ў жывых не засталося ніводнага гітлераўца. Партызаны ўзялі шмат трафеяў і зніклі ў невядомым напрамку, а ў Вяшэўку наехала шмат карнікаў. Яны шукаюць вінаватых, таму мужчыны і паўцякалі з дому. Мяркуючы па ўсім, карнікі будуць прачэсваць гэты лес, так што сядзець на месцы няма рахубы, а трэба падавацца ў бок Гарэліч.

Пачуўшы ўсё гэта, Сухоцкі рушыў разам з мужчынамі падалей ад Вяшэўкі. Першапачатковы план вяртання ў атрад адпадаў: само сабой разумелася, што карнікі ў першую чаргу адрэжуць Вяшэўскі лес ад ракі, каб не даць магчымасці жалезняскоўцам пераправіцца на той бок і растварыцца ў бяскрайнім Нягневіцкім лесе. Трэба было прыдумаць нейкае іншае выйсце. А пакуль што дзядзька Язэп проста крочыў з вяшэўцамі ў бок Гарэліч, распытваў пра колькасць гітлераўцаў, іх узбраенне. Потым нечакана запытаўся:

— А сабакі ў іх ёсць з сабой?

— Як быццам не. Не відаць было,— здзіўлена паглядзелі на яго спадарожнікі.— А што?

— Ды так,— усміхнуўся Сухоцкі.— Сабакі, ведаеце, след чуюць. І як ад іх ні хавайся, усё роўна знойдуць. А чалавек — не сабака. Ён след толькі бачыць можа, а не чуць носам... Словам, я к таму, дзе б нам панадзейней схавацца. Вы людзі тутэйшыя, лес гэты ведаеце. Вось і думайце, дзе б ён лепш за ўсё ўкрыў нас. Бо прабівацца куды-небудзь, хаця б на тыя ж Гарэлічы, не толькі рызыкоўна, але і сэнсу няма. Можаце не сумнявацца, што на ўсіх дарогах, ды і не толькі на дарогах, ужо стаяць узмоцненыя пасты і карнікаў, і ходзяць дазоры. Зацапаюць нас, як куранят...

Яго словы прымусілі вяшэўцаў спыніцца. Яны акружылі партызана і пачалі раіцца. Адзін прапаноўваў забрацца ў густы ельнік, узлезці на дрэвы і там перачакаць, пакуль пройдуць ланцугі карнікаў. Другі сцвярджаў, што самае лепшае спусціцца ў Доўгі Яр. Хмызнякі там такія, што вужака не прашыецца, не тое, каб чалавек пралез.

Ні першая, ні другая прапанова Сухоцкаму не спадабалася. На дрэве доўга не прасядзіш — гэта табе не на зямлі. А што датычыцца густога непралазнага хмызняку, то які ж ён непралазны, калі ў ім можна ўсё-такі схавацца.

— Трэба нешта іншае прыдумаць, хлопцы.— Сухоцкі павярнуўся да высокага дзябёлага старога, які не ўмешваўся ў размову: — Што б вы, дзядуля, прапанавалі, га?

— Сымонам мяне завуць, дзедам Сымонам,— жвава бліснуў стары вачыма.— Лес ведаю добра, ляснікам служыў да вайны. А вось дзе б укрыцца? Дальбог не магу прыпомніць такога куточка. Адна толькі Чортава выспа ў галаве. Але як на яе забрацца, калі кругом там дрыгва такая, што сапраўды сам чорт нагу зломіць, а не пройдзе.

— Дзе чорт не пройдзе, там, дзядуля, пройдзе партызан. Вядзі нас да Чортавай выспы.

Калі зноў рушылі ў дарогу, Сухоцкі запытаўся ў мужчын, ці ёсць сярод іх паляўнічыя. Аказалася, што ўсе трое.

— Тады зусім добра,— павесялеў дзядзька Язэп.— Паляўнічы, гэта, брат, чалавек, які дзе хочаш пралезе. Адно кепска, ніводнай сякеркі ў нас няма.

— Навошта табе сякерка? — пацікавіўся дзед Сымон.

— Як гэта навошта? А чым жэрдкі высекчы?

— Жэрдкі, кажаш? Дык іх там, каля Чортавай выспы, цэлыя штабялі ляжаць. Перад вайной санітарную высечку рабілі. Так і засталіся нявывезенымі.

— Тады, таварышы, скарэй. Вядзі нас, дзед, самай кароткай дарогай.

Далёка ззаду пратрашчалі першыя кулямётныя чэргі, бухнула некалькі мін. Прыспешваць людзей не трэба было.

Кожны разумеў, што небяспека побач і ад яе трэба як мага хутчэй ратавацца.

Светлы сасновы бор змяніўся змрочным ельнікам, і нарэшце адкрылася шырокая дрыгвяністая ўпадзіна. Амаль ля кожнай купіны, парослай багуном, блішчала так званае «чортава вока». Трапіш у такое і ўжо не выберашся — умомант засмокча з галавой. За ўпадзінай, на пагорку, сінеў сасоннік. Гэта і была Чортава выспа.

Дзед Сымон хутка адшукаў штабель жэрдак, і Сухоцкі загадаў выбраць з яго чатыры — не вельмі каб доўгія, але моцныя.

Спусціўшыся да дрыгвы, Сухоцкі кінуў, цаляючы на купіну, адну жэрдку, побач з ёю другую і сказаў мужчынам, каб яны прыхапілі дзве другія жэрдкі і ішлі наперад. Тыя пайшлі. Дайшоўшы да канца пакладзеных Сухоцкім жэрдак, паклалі свае, ступілі на іх і пачалі чакаць, калі да іх перабярэцца ён сам і дзед. Потым Сухоцкі выцягнуў першыя жэрдкі і перадаў іх мужчынам. Яны дайшлі да канца сваіх і закінулі выцягнутыя далей.

Марудная была гэта пераправа і вельмі цяжкая. Ногі раз за разам саскоўзвалі з жэрдак і правальваліся ў багну, а жэрдкі засмоктвала так, што толькі з вялікай цяжкасцю можна было іх вырваць. І ўсё ж яны памалу набліжаліся да жаданай выспы. Там была сухая цвёрдая зямля, там было выратаванне.

А страляніна была ўжо зусім блізка. Іншы раз над галавой ціўкалі выпадковыя кулі, з трэскам лопаліся метраў за трыста — чатырыста ад уцекачоў міны.

Не паспелі яшчэ Сухоцкі і яго выпадковыя спадарожнікі па-сапраўднаму схавацца ў кустах на выспе, як на тым баку багністай упадзіны паказаліся постаці карнікаў у зялёных і чорных шынялях. Яны патапталіся перад дрыгвой, памацалі яе кіямі і, відаць, зразумеўшы, што пераадолець яе немагчыма, рушылі па сухому ўздоўж упадзіны.

Час ад часу яны пасылалі ў бок недасягальнай выспы кулямётныя і аўтаматныя чэргі, але Сухоцкага і вяшэўцаў гэта ўжо мала непакоіла.

Трое сутак працягвалася блакада Вяшэўскага лесу. На чацвёртыя — страляніна сціхла. А яшчэ праз дзень, аброслыя і схуднелыя, сябры па няшчасцю пакінулі выспу. Зусім не чортавай аказалася яна для іх. На «мацярык» перабіраліся тым жа манерам, што і на выспу.

Першым жаданнем Сухоцкага было хутчэй вярнуцца ў родны атрад. На ўзлессі ён развітаўся з вяшэўцамі, дамовіўшыся падтрымліваць з імі сувязь, і пашыбаваў у бок Бярозы-ракі. Ішоў, а галаву ўсё больш даймалі ўгрызлівыя думкі: вось прасядзеў на гэтай Чортавай выспе чуць не тыдзень, ратаваўся тут, а там жа недзе чакаюць яго, турбуюцца... Трэба хутчэй у атрад вяртацца. І добра б было вярнуцца не з пустымі рукамі. Лепш за ўсё было б захапіць машыну.

Гэта думка прымусіла Сухоцкага павярнуць назад. Ён напраскі пакрочыў да шашы Магілёў — Бярэзань.

Сонца ўжо хілілася к захаду, калі партызан выйшаў на магістраль. Невялікімі калонамі і па адным снавалі па шашы нямецкія машыны. Большасць іх кіравалася на ўсход, у бок Магілёва. Гэта — галоўным чынам калоны з салдатамі і нейкімі грузамі. А на захад, у бок Бярэзаня, ішлі ў асноўным адзіночныя грузавікі, зрэдку — легкавушкі.

Спыніць машыну Сухоцкаму было няцяжка: у яго была павязка паліцэйскага і дакумент-пасведчанне. Захаваць на ўсякі выпадак павязку і пасведчанне загадаў яму камандзір.

Праўда, пасля блуканняў па балоце і лесе ён даволі-такі абшарпаўся, але вечарам, у прыцемку, гэта было не вельмі прыкметна.

Партызан завязаў на левы рукаў паддзёўкі павязку, пераклаў з кішэні за пазуху пісталет, паправіў на галаве падораную адным з вяшэўцаў шапку і, уважліва агледзеўшы сябе, наблізіўся да самага палатна шашы.

Будзе ісці калона — прапусціць, адзіночны грузавік без людзей — спыніць.

Чакаць прыйшлося доўга, нават вельмі доўга. Па шашы рухаліся ў асноўным калоны, а калі адзіночныя машыны, то абавязкова з поўным кузавам узброеных салдат.

Калі ўжо амаль зусім сцямнела і партызан страціў усякую надзею затрымаць патрэбную яму машыну, з-за пагорка паказаўся сілуэт грузавіка. Сухоцкі прыгледзеўся і заўважыў, што салдат у кузаве няма, а толькі нейкі груз, накрыты брызентам. Партызан ступіў на палатно дарогі і, выстаўляючы наперад павязку, узняў руку. Машына асляпляльна бліснула фарамі і, пранізліва заскрыпеўшы тармазамі, спынілася побач з Сухоц-

кім. Ён рыўком адчыніў дзверы кабіны і, не цэлячыся, два разы стрэліў з пісталета...

Далей усё было проста. Труп гітлераўскага шафёра Сухоцкі сцягнуў у канаву, сам сеў за руль і, уключыўшы фары, памчаўся па шашы наперагонкі з ветрам. На мост цераз Бярозу, на якім немцы вельмі прыдзірліва правяралі дакументы, ён не паехаў. Звярнуў на прасёлак і, прытушыўшы фары, паехаў у бок Ядліны. Там, ён ведаў ад партызан, ёсць паром, на якім свабодна перапраўляліся адразу па чатыры падводы ў запрэжцы ды яшчэ чалавек трыццаць — сорак партызан.

— Вось так і дабраўся я на гэты бок,— закончыў дзядзька Язэп.

— А груз які ў машыне прывезлі? — не ўцярпеў Уладзік.

— Груз неблагі. У асноўным патроны і гранаты. Відаць, у нейкі гарнізон пасылалі...

Тулячыся да бацькі, Галя спытала:

— Зараз у лагер пойдзеш, татка?

Сухоцкі пяшчотна пагладзіў яе па галаве:

— Не, дачушка. Сягоння ў вас заначую. Начальства загадала адпачыць некалькі дзён.

У гэтую ноч засталіся ў цывільным лагеры і Якімка з Уладзікам.

## ЯКІМКА ЕДЗЕ НА ЧЫГУНКУ

На першы погляд заданне было простае: пайсці з дзядзькам Хведарам на адзін з участкаў чыгункі Мінск — Бабруйск і разведаць, дзе і якія ёсць агнявыя пункты, і наогул, як ахоўваецца магістраль удзень і ўначы. Сутычак з немцамі або паліцаямі пазбягаць, у вёскі не заходзіць.

Зборы былі нядоўгія. Начальнік разведкі прычапіў да пояса запасны аўтаматны дыск, дзве гранаты, узяў у цёткі Палагеі кайстру з правізіяй і падышоў да зямлянкі, у якой жыў Якімка. Хлопчык не прымусіў сябе доўга чакаць. Ён выскачыў насустрач дзядзьку Хведару апрануты ў рыззё, з торбай цераз плячо і пужкай у руцэ. Так было дамоўлена.

З задавальненнем агледзеўшы свайго юнага памочніка, начальнік разведкі запытаўся:

— Пісталет узяў?

— Во,— пляснуў Якімка па жываце,— за поясам.

— Можа б, не варта было,— пачухаў патыліцу дзядзька Хведар.— Але... няхай. Там відаць будзе. Пайшлі.

Дарога была няблізкая — да чыгункі каля трыццаці кіламетраў. І, падумаўшы, начальнік разведкі выклікаў Федарынчыка.

— Запражы каня, падкінеш нас кіламетраў дзесяць — пятнаццаць.

Неўзабаве яны ўжо ехалі па засыпанай ігліцай дарозе. Федарынчык кіраваў канём, а дзядзька Хведар і Якімка, звесіўшы з сядзення ногі, моўчкі любаваліся лесам.

Лес у гэтую пасляабедзенную пару быў надзвычай прыгожы. Стромкія сосны, асвечаныя няяркім сонцам, адлівалі цьмянай пазалотай. Бясконцы дыван зялёнага моху здаваўся аксамітным. Прыемна казытаў ноздры змешаны пах смалы, чабору і грыбоў.

«Эх, каб не вайна,— думалася Якімку,— узяў бы зараз кошык, клікнуў сяброў і — у лес, па грыбы. Вунь якія прыгажуны стаяць пад соснамі!»

Дзесьці грымнула, і хлопчык міжволі намацаў рукаятку пісталета. Думка пра грыбы адразу знікла. Яе месца заняла другая: як там будзе на чыгунцы, ці ўдасца ім выканаць загад камандзіра.

Буланы, зрэдку фыркаючы, лёгка трусіў па дарозе. Калёсы каціліся мякка і толькі дзе-нідзе, наехаўшы на карэнні, уздрыгвалі. Федарынчык ціхенька, напаўголасу заспяваў:

Ой у лузе, лузе
Чырвона каліна стая-а-ла...

Страпянулася і балюча занылa Якімкава сэрца. Успомнілася хлопчыку, як, жнучы на агародзе ячмень, гэтую самую песню спявала яго маці. Дзе яна цяпер? Ці жывая? Як паслалі яе, лепшую даярку, перад самай вайной на Украіну пераймаць нейкі там вопыт, так яна і не вярнулася. Бацька таксама недзе далёка. А можа, і няма яго ўжо...

Тугі камяк здушыў хлопчыку горла, і ён адвярнуўся ад дзядзькі Хведара, каб той не заўважыў слёз.

Федарынчык нацягнуў лейцы, прыцішваючы бег каня. Наперадзе віднеўся прасвет, лес канчаўся.

На ўзлессі спыніліся, агледзеліся направа, налева. Было ціха, бязлюдна.

— Во што, Васіль,— размінаючы зацёклыя ногі, сказаў начальнік разведкі,— зараз паварочвай назад. Далей на сваіх дваіх рушым. А заўтра прыязджай сюды вечарам і чакай нас.

— Будзе зроблена, Хведар Астапавіч,— падняў руку да шапкі Федарынчык.— Закурым перад дарожкай?

Яны скруцілі тоўстыя цыгаркі і, па некалькі раз зацягнуўшыся, развіталіся. Федарынчык паехаў у атрад, а дзядзька Хведар і Якімка пайшлі цераз поле да пералеску, што сінеў наперадзе.

Азіраючы далягляд, дзядзька Хведар гаварыў:

— Дабяромся да пералеску і зробім прывал. Адпачнём і перакусім заадно. А то пад лыжачкай ужо смокча. Нябось і ты ўжо захацеў есці.

Есці Якімку не хацелася, але ён прамаўчаў. Навошта гаварыць? Дзядзька Хведар яшчэ можа падумаць, што гэта ад страху ў яго, Якімкі, прапала ахвота да яды.

Да чыгункі яны прыйшлі завідна. З двух бакоў ад яе лес быў метраў на дзвесце высечаны, і набліжацца па адкрытым месцы да самага палатна было рызыкоўна. Маглі заўважыць ахоўнікі. А яны вунь, не так ужо і далёка, на спецыяльна збудаванай вышцы.

Дзядзька Хведар і Якімка ўладкаваліся пад разлапістай елкай і пачалі назіраць.

Мінула з паўгадзіны, і на чыгунцы паказаўся патруль — тры ўзброеныя вінтоўкамі немцы. Яны ішлі павольна, уважліва аглядаючы рэйкі. Каля вышкі немцы спыніліся і нешта пракрычалі ахоўнікам, што сядзелі наверсе. Адтуль адказалі. Немцы закурылі і пасунуліся далей. Павеў ветру данёс да разведчыкаў тытунёвы пах. «Далёка ж ён чуваць,— адзначыў сам сабе Якімка.— Трэба дзядзьку сказаць, каб не курыў». Але начальнік разведкі, відаць, і сам добра ведаў здрадлівыя якасці тытуню. Заядлы курэц, ён вось ужо колькі часу не дакранаўся да свайго капшука.

Неўзабаве пасля патруля на чыгунцы паказаліся яшчэ двое — мужчына ў форменнай шапцы чыгуначніка і хлопчык гадоў трынаццаці-чатырнаццаці. Хлопчык каціў перад сабой аднаколавую рамонтную цялежку, а мужчына час ад часу нагінаўся і ўдараў жалязякай па рэйках. Рэйкі адгукаліся кароткім звонам.

— Трахімчык, пуцявы абходчык,— сказаў дзядзька Хведар.

— Вы яго ведаеце?

— Яго-то ведаю. Але што за хлапчанё з ім? Ён жа, Трахімчык, зусім адзін у сваёй будцы жыве. Не так даўно быў у яго.

Мужчына і хлопчык спыніліся. Пуцявы абходчык пачаў нешта падкручваць, а хлопчык апусціў ручку цялежкі і пацягнуўся, распрамляючы плечы. Якімка ледзь не крыкнуў: яму здалося, што гэта Вася. Прыгледзеўся добра і аж прыўзняўся. Ён, Вася!

— Ты чаго заёрзаў? — таўхануў яго локцем дзядзька Хведар.

— Ды здалося,— працёр вочы Якімка.

— Што здалося? Заснуў, можа?

— Не, не заснуў. Здалося, што Вася гэта. Ну, той самы, з Паравоза. Вы яго ведаеце.

— Той, што знік, калі вы Міністра стукнулі?

— Ага.

— Хм...— толькі і адказаў дзядзька Хведар.

— Дзядзечка, а дзе гэта будка? Трахімчыкава.

— Туды зараз нельга, браце. Пост там уначы. А вось заўтра наведаемся. Ты адзін наведаешся. Карову шукаць будзеш нібыта.

Назаўтра, калі сонца паднялося даволі высока, ахоўнікі ўбачылі абарванага хлапчука з торбай цераз плячо і пугай у правай руцэ. Хлапчук ішоў, спатыкаючыся аб шпалы, і брудным кулаком размазваў па твары слёзы.

— Гэй, кіндэр, хадзі тут! — паклікаў яго унтэр.

Хлапчук нясмела падышоў.

— Пачэму плакаль?

— Карова, панок, згубілася. З учарашняга шукаю і не знайду. Баюся дамоў ісці. Даведаецца бацька, заб'е.

— Хо-хо-хо,— зарагатаў немец.— Карова, бацька, біць,— і махнуў у бок будкі пуцявога абходчыка.— Бежаць. Там русіш.

— Дзякуй, панок,— усхліпнуў пастушок і прыпусціў у той бок, куды паказаў немец.

Будка стаяла за паваротам дарогі. Немцаў каля яе не было відаць. Цывільных — таксама. Пастушок пагрукаў у дзверы.

Ніхто не адгукнуўся, і ён пабег далей.

Неўзабаве пастушок заўважыў пад адхонам дзядзьку і хлопчыка, якіх бачыў учора на рэйках. Яны з крэктам усцягвалі на насып шпалу.

— Слухай, хлопец,— не даходзячы да іх крокаў з дзесяць, паклікаў пастушок,— ты каровы тут часам не бачыў? Рабой, з вяроўкай на шыі.

Хлопчык разагнуўся і хуценька глянуў назад. Выпрастаўся і мужчына. Ён даўно чакаў гэтага пастушка. Чакаў таму, што аб гэтым сказаў у апошні свой прыход Хведар Астапавіч, начальнік партызанскай разведкі, якога пуцявы абходчык знаў яшчэ з даваенных часоў.

— Карова прайшла на захад,— паролем адказаў мужчына.

— Тады не прападзе,— зрабіў крок наперад пастушок.

Зрабіў крок наперад і памагаты пуцявога абходчыка. Хлопчыкі глядзелі адзін на аднаго і не верылі сваім вачам.

— Вася! — першым выгукнуў пастушок.

— Якімка! — яшчэ бліжэй падышоў Вася.

— Значыць, я ўчора не памыліўся.

— Сябры, значыць,— усміхнуўся Трахімчык.— Дык чаго ж вы стаіце? Абдымайцеся.

Але абдымацца, па праўдзе кажучы, хлопцы не ўмелі. Яны патупалі адзін каля аднаго і, нарэшце, паціснулі рукі.

— Як ты тут апынуўся? — спытаў Якімка.

— А ты?

— Доўгая гісторыя. Потым раскажу.

— Я таксама потым.

— А зараз,— Якімка звярнуўся да пуцявога абходчыка,— вас, дзядзечка, Хведар Астапавіч чакае. Можаце схадзіць да яго. Ён тут, недалёка.

— Добра, скажы, праз мінут дзесяць буду. І шугай адсюль. Пабочным па палатне хадзіць забаронена.

У той дзень апаўдні на ўчастку пуцявога абходчыка Трахімчыка ўзляцеў у паветра вялікі воінскі эшалон з жывой сілай і тэхнікай. Мала таго, адначасова выйшла са строю каля трох кіламетраў чыгуначнага пуці. Зрабіў усё гэта сам пуцявы абходчык. Па заданню партызан ён загадзя, не спяшаючыся, паставіў у патрэбных месцах міны і чакаў толькі сігналу. Сігнал гэты падаў яму дзядзька Хведар.

А позна ўвечары, калі добра сцямнела, начальнік разведкі, былы пуцявы абходчык і два хлапчукі былі ўжо на ўскрайку Нягневіцкага лесу. Тут іх чакаў Федарынчык з падводай.

Ехалі ў атрад моўчкі. Ці то ад стомы, ці ад перажытага гаварыць не хацелася. Дарослыя толькі папыхквалі цыгаркамі-самакруткамі, а хлапчукі час ад часу паціскалі адзін аднаму рукі.

## НА ВЯЛІКУЮ ЗЯМЛЮ

З захаду плылі хмары. Плылі павольна, не спяшаючыся. Хмары былі чорныя, цяжкія. Яны спускаліся ўсё ніжэй і ніжэй, быццам хацелі прыціснуць, прыглушыць на зямлі ўсё жывое. І лес прыціх, затаіўся. Першымі замоўклі птушкі, а за імі і дрэвы. Нават адвечныя лапатухі асіны, і тыя перасталі шапацець сваім лісцем.

Але глухая суцэльная немата гэтая цягнулася нядоўга. Наляцеў аднекуль моцны парыў ветру, ударыў па вершалінах дрэў, і яны гайдануліся, загаманілі. Зашумеў, ажывіўся Нягневіцкі лес, пакаціў зялёныя хвалі аж да самага краю.

Чарнату неба паласнуў асляпляльны зігзаг, і над лесам аглушальна трэснула.

Якімка, які соладка спаў з сябрамі ў зямлянцы, падхапіўся і кінуўся да выхада. Потым, успомніўшы, што ён не адзін, вярнуўся і раскатурхаў Уладзіка і Васю.

— Ну і спіце вы! — з папрокам у голасе сказаў ён.

— А што такое? — праціраючы вочы, спалохана саскочыў з нар Уладзік.

Непадалёк зноў грымнула.

— Бамбяць?! — пачаў зашпільвацца Вася.

— А хто яго ведае. Самі чуеце, як лупіць. Пайшлі скарэй.

На двары бушавала навальніца. Ліў дождж, разгойдваў дрэвы шквальны вецер, неба паласавалі маланкі.

— Брр-р...— перасмыкнуў плячыма Уладзік і падаўся назад у зямлянку.

— Ты куды? — заступіў яму дарогу Якімка.— Не выспаўся яшчэ?

— Ды не, выспаўся. Але золка неяк...

— Залкаты спужаўся,— насупіўся Якімка,— партызан называецца...

— Ну вось ужо,— пакрыўдзіўся Уладзік.— Я проста так... Чаго без толку мокнуць.

— Як сабе хочаш.— Якімка ўзяў за локаць Васю.— Пайшлі ў зямлянку Косці-радыста. Сапраўдную рацыю ўбачыш.

— Пайшлі,— ахвотна згадзіўся Вася і наставіў каўнер.

Уладзік рушыў услед за імі.

Але да Косцевай зямлянкі хлопцы не дайшлі.

Параўняўшыся з зямлянкай першай роты, яны пачулі зычны голас камандзіра атрада Багдановіча, і вырашылі паслухаць, што ён гаворыць. У зямлянцы было паўнютка партызан. Яны сядзелі на нарах, стаялі ў праходзе, час ад часу пыхкаючы цыгаркамі, ад чаго з дзвярэй і акенца валіў сіні тытунёвы дым.

Відаць, нешта здарылася, што ледзь не ўвесь атрад сабраўся тут, у гэткай цеснаце, відаць, неадкладная, пільная патрэба надышла. Бо звычайна ж агульныя пастраенні або сходы атрада праходзілі на паляне каля лагера. Ды ў такую навальніцу, вядома, на паляне людзей трымаць не будзеш. А канца навальніцы, відаць, чакаць няма калі. Вось і сабраліся ўсе ў адной зямлянцы.

Хлопцы прыселі на кукішкі ля дзвярэй. Камандзір стаяў да іх спіной і, заклаўшы рукі за рэмень, гаварыў:

— Блакаду гэтую фашысты задумалі даўно. Але ажыццявіць яе ў іх неставала сілы. Самі ведаеце, не так ужо страшныя былі яны, калі мы ішлі на штурм гарнізонаў. Цяпер — справа іншая. Цяпер яны вунь якую сілу падцягнулі...

Хлопцы слухалі, і ім усё ясней рабілася, чаму так тэрмінова сабраўся атрад.

Нейкую гадзіну таму назад вярнуўся з разведкі Хведар Астапавіч. Ён сустракаўся з сувязнымі, якія былі ва ўсіх бліжэйшых гарнізонах. Трывожныя навіны перадалі сувязныя. Які гарнізон ні вазьмі, у кожны ўчора прыбыла буйная воінская часць. У фашыстаў на ўзбраенні, як правіла, танкі, браневікі, гарматы, мінамёты, не лічачы ўжо кулямётаў ды аўтаматаў. Па самых сціплых падліках выходзіла, што вакол Нягневіцкага лесу раскватаравалася не менш дывізіі гітле-

раўцаў. Мясцовых жыхароў яны не чапаюць, калі не лічыць, што падчыстую забіраюць усё, што можа пайсці на харч: кароў, свіней, птушку. Увесь час дапытваюцца, дзе партызаны, ці многа іх і якая ў іх зброя. Дапытваюцца і, самазадаволена пасміхаючыся, гергечуць: маўляў, цяпер партызанам капут. Так што мэта іх прыбыцця вядомая — блакада Нягневіцкага лесу, карны паход на партызан.

Значыць, трэба прымаць нейкія захады, каб апярэдзіць немцаў і сарваць іх планы. Перавага ў людзях і зброі, безумоўна, на іх баку. Ды яшчэ якая перавага. Воінская дывізія, гэта табе не маленькі атрад на якія-небудзь дзвесце штыкоў. Там табе і машыны, і боепрыпасаў якіх хочаш, а галоўнае, колькі хочаш. А тут адна-дзве гранаты на чалавека ды літаральна па некалькі дзесяткаў патронаў.

З такой колькасцю людзей ды такім бедным узбраеннем супраць узброенай да зубоў цэлай дывізіі не выступіш. Гэта проста неразумна.

Словам, трэба зараз жа збірацца і адыходзіць у другое месца.

...Так закончыў сваё выступленне Багдановіч.

— А як быць з цывільным лагерам? — прагучала з глыбіні зямлянкі.

Месца камандзіра атрада заступіў камісар Шылаў.

— Мы ў штабе ўжо вырашылі гэтае пытанне. Усе дарослыя з цывільнага лагера пойдуць з намі. Хто можа насіць вінтоўку — узброім, астатніх — у абоз. Коней і падвод хапае.

— Ды і машыны ж дзве ёсць,— падказаў нехта.

— Машыны спалім, каб не аддаць ворагу. А спатрэбяцца — пасля выхаду з блакады здабудзем зноў. Спецыялісты па гэтай часці ёсць,— усміхнуўся камісар у бок дзядзькі Язэпа і працягваў далей: — Што ж датычыцца дзяцей, то ёсць ужо цвёрдая дамоўленасць з Вялікай зямлёй. Масква па радыё абяцала, што прышле па іх двухматорны самалёт. Усе дзеці і хворыя заўтра ноччу будуць эвакуіраваны на Вялікую зямлю.

Апошнія словы камісара атрада проста аглушылі хлопцаў. Няўжо, думалі яны, і іх адправяць з атрада, няўжо і іх лічаць малымі дзецьмі? Але ж гэта не так. У кожнага з іх ужо нешта ёсць на баявым рахунку, сапраўднае, партызанскае. Камандаванне не можа не прыняць гэта пад увагу.

Вярнуўшыся ў сваю зямлянку, хлопцы моўчкі, не гледзячы адзін на аднаго, сабралі небагатыя манаткі, завязалі торбачкі і падаліся да выхада. У дзвярах узнікла постаць дзядзькі Язэпа.

— Гатовы ўжо? Ну і слаўна. Пайшлі НЗ палучаць.

— А што гэта такое за НЗ? — спытаўся Уладзік.

— Недатыкальны запас. Карацей кажучы, вэнджаныя кілбасы і сухары на дарогу. Усім партызанам раздаюць.

— Усім... партызанам,— міжволі паўтарыў Якімка і радасна штурхануў пад бок Уладзіка. Уладзік у сваю чаргу штурхануў Васю.

— Што гэта вы, козлікі, разышліся? Ці мо дождж надта падабаецца? — сумеўся дзядзька Язэп.— Ці блакада?

— Што партызанам дождж? Ён нам лепшы друг,— заліўся радасным смехам Якімка.— А блакада? Нам і блакада нішто!.. Вунь з-пад канвою былі вырваліся, і ніводнай драпіны. Вырвемся, дзядзечка, і з блакады. Вось пабачыце!..

— Ды вы ўжо, лічы, што вырваліся. А вось што ў атрада наперадзе? — задуменна прамовіў дзядзька Язэп.

Хлопцы спыніліся, нібы перад імі раптам вырасла сцяна.

— Як гэта — ужо вырваліся? — паніклым голасам спытаў Якімка.— Нас, што, не бяруць хіба?..

— Чаму ж не бяруць? Бяруць. Мяне суправаджаць прызначылі. І дзеда Лук'яна таксама. На дзвюх падводах паедзем.— Дзядзька Язэп змахнуў з твару дажджавыя кроплі.— Галінку сваю на адну падводу з вамі пасаджу. Возьмеце?

* * *

Да партызанскага аэрадрома дабраліся на другія суткі апоўначы. Дарога была няблізкая і даволі небяспечная. Спачатку ніяк не маглі знайсці паром, каб перабрацца на той бок Бярозы. А калі нарэшце ўсё-такі перабраліся, аказалася, што пасля ліўня шырока разлілося даўно парослае хмызняком старое рэчышча. Каб аб'ехаць яго, прыйшлося даваць вялікага кругу. Потым доўга шукалі ўпоцемку патрэбную лясную дарогу. А далей — амаль на самым шляху — стаяў нямецкі гар-

нізон. Аб'ехаць яго было не прасцей, чым тое рэчышча. Раз-пораз у неба ўзляталі асвятляльныя ракеты, ледзь не над самымі галовамі праносіліся тонкія шыпучыя струмені трасірных куль. Вазьмі варожы кулямётчык трошкі ніжэй, і няшчасця не мінуць.

Ні хлопцы, ні Галя за ўсю дарогу нават не прыселі на падводу. Узяўшыся за білы, каб было не так цяжка ісці, тупалі і тупалі. Прыклад у гэтым падаваў дзядзька Язэп. Толькі дзед Лук'ян, збянтэжана прагаварыўшы: «Старасць — не радасць», іншы раз з крэктам узбіраўся на калёсы і праязджаў [redacted] які кіламетр.

Цяпер усё гэта засталося ззаду. Яны шчасліва дабраліся да партызанскага аэрадрома. Гэта была роўная, як стол, даўжэзная лясная паляна метраў дзвесце ўшыркі. На паляне гарэлі вогнішчы. Яны былі раскладзены ў спецыяльна выкапаных ямках і ўтваралі сабой правільны ромб. Каля вогнішчаў ляжалі дашчаныя пакрыўкі і ладныя кучы сушняку. Наляціць раптам варожы самалёт, і дзяжурныя партызаны тут жа накінуць на ямы з кастрамі покрыўкі: паспрабуй тады заўваж што-небудзь; падасць сігнал свой — і ў агонь паляціць сушняк, яркае полымя як бы скажа лётчыку: давай, браце, сюды, тут цябе чакаюць. А што датычыцца ромба, дык гэта ўмоўны знак. Час ад часу ён мяняецца. Сёння, напрыклад, ромб, праз два дні — трохкутнік, а там — літара «Т» або круг. Інакш нельга. Бо данясе часам які-небудзь варожы лазутчык пра ўмоўны знак, і фашысты могуць заманіць наш самалёт на свой аэрадром. На вайне трэба быць асцярожным. Вораг, ён таксама не дурань.

Пра ўсё гэта спаважна расказваў прыціхлым дзецям пажылы партызан, адзін з тых, што дзяжурылі на аэрадроме.

— А які заўтра знак будзе? — з цікавасцю запытаўся Вася.

Партызан сумна ўсміхнуўся:

— Заўтра, кажаш? Заўтра, сынок, мы, як і ваш атрад, пойдзем на прарыў блакады.

Якімка слухаў гэтую нетаропкую размову, а думкі тым часам былі далёка адсюль. Успамінаўся яму родны Перавоз і белая бяроза на Выгарах. Успаміналася шчымлівая адзінота пасля ўцёкаў з-пад канвою і такая радасная сустрэча са сваімі. Успаміналася ўтульная партызанская зямлянка і ўзрывы на чыгунцы. Усё

ўспаміналася: і добрае, і дрэннае. Бясконцай чарадой плылі, беглі думкі, пакуль іх не перапыніў сваім пытаннем дзед Лук'ян.

— Чаго засумаваў, унучак? — Цяжкаватая дзедава рука лягла хлопчыку на плечы.

Якімка прытуліўся да старога і толькі цяжка ўздыхнуў.

— Ты не трубуйся, унучак, там добра табе будзе. І накормяць цябе, і адзенуць, зноў вучыцца станеш. І самае галоўнае — ніякай небяспекі. А тут на кожным кроку так і чакай смерці.

— Ды я нічога, дзядуля, я так...

Партызан, што расказваў дзецям пра хітрасці аэрадромнай службы, прыўстаў з месца і прыслухаўся.

— Ляціць...

Усе прыціхлі і таксама прыслухаліся. З усходу набліжаўся роўны гул самалёта.

— Наш! — Партызан падняў ракетніцу, і ўгору з ціхім шыпеннем панёсся ярка-зялёны клубок. З самалёта адказалі чырвонай ракеткай.— Хлопцы, агні! — крыкнуў партызан і кінуўся да свайго вогнішча.

Над лясной палянай весела шуганулі ўгору чатыры вялізныя языкі полымя.

— Развітвайцеся! — крыкнуў у бок сваіх нядаўніх слухачоў кастравы.

Усе падхапіліся на ногі. Якімка ўткнуўся носам у адсырэлы халодны дзедаў кажух. Учарэпіўшыся за бацькаву шыю, як асінавы ліст затрэслася Галінка. Уладзік бязгучна пракаўтнуў сліну і адвярнуўся ўбок. Захліпалі другія дзеці. Адзін толькі Вася летуценна ўсміхаўся і не зводзіў вачэй з самалёта.

А самалёт, зрабіўшы круг над лесам, прыглушыў маторы і пайшоў на пасадку. Дарогу сабе ён асвятляў яркім пражэктарам.



## УДЗЕЛУ Ў АПЕРАЦЫІ НЕ ПРЫМАЛІ

Вяртаючыся ў гарнізон, унтэр Ганс Фогель летуценна ўсміхаўся.

Ціха тут, у Заямным, спакойна. Мірна пашумліваюць над стрэхамі хат старыя ліпы і клёны, перасвістваюцца ля сваіх домікаў самавітыя шпакі, рассыпаюць у высокім небе серабро нястомныя жаваранкі.

Ні стрэлаў, ні выбухаў, хаця на зямлі ідзе вайна. Жорсткая, кровапралітная. Ды яна недзе далёка адсюль, там, на ўсходзе. А тут, у Заямным, яны, немцы, адчуваюць сябе нібы на курорце. У бой ісці не трэба, яды хапае, сытнай і рознай. Заходзь у любы двор і выбірай што хочаш: ці то цялушку, ці свінчо, ці з дзесятак курэй, нарэшце. А памідоры якія, гуркі, бульба ў Заямным! Такой смакаты ў сваёй Германіі яны даўно ўжо не спытвалі, бо фюрэр загадаў прадукты кансерваваць, рабіць запас для арміі. Толькі ж і дурню вядома, што нават самая лепшая кансерва не можа замяніць свежы прадукт.

Шкада, праўда, што гэтых свежых прадуктаў становіцца ўсё меней і меней. Можа яны, немцы, занадта

ўжо шчыруюць, а можа, людзі і сёе-тое хаваюць. Але нічога, пакуль вайна скончыцца, а скончыцца яна даволі хутка, бо так сказаў сам фюрэр, невялікаму гарнізону ў трыццаць чалавек, усяго хопіць.

І работа ў іх няцяжкая. Не франтавая работа, а, можна сказаць, курортная — збіраць у наваколлі, на месцах, дзе былі баі, зброю і ваенную тэхніку. Заўсёды на вольным паветры, заўсёды працуеш колькі хочаш, а не колькі загадаюць. Ніхто ў шыю не гоніць. Не ўправіўся праверыць адпаведны ўчастак сёння, праверыш заўтра, а то і паслязаўтра. Прывёз у гарнізон дзве-тры ломаныя вінтоўкі, і дзякуй богу.

Словам, не жыццё ім тут, у Заямным, а маліна. І нават смешна робіцца, калі некаторыя загаворваюць пра нейкіх там лясных бандытаў — партызан. Быццам бы яны і машыны ўзрываюць, і засады робяць, і нават эшалоны пад адхон пускаюць.

Магчыма, дзе-нідзе і было ці ёсць такое, толькі не ў Заямным. Лес адсюль далёка, аж на краявідзе. Калі і ёсць там які ўзброены дзівак, то нізавошта не адважыцца сунуцца ў нямецкі гарнізон. Мясцовасць вакол Заямнага праглядаецца як на далоні, поле чыстае, роўнае, без адзінага кусціка. Толькі з аднаго боку падступае да вёскі яр. Ды і ён не глыбокі, густа парослы хмызам — не прадзярэшся.

А пра тое, што партызаны могуць быць у самой вёсцы, і думаць не варта. Усіх жыхароў мужчынскага полу можна па пальцах пералічыць. Гэта або сівабародыя дзяды, або смаркатыя падлеткі. Што яны могуць зрабіць з узброенай арганізаванай сілай?!

Ціха ў Заямным, спакойна. Раздольна жывецца тут старым нямецкім тылавікам-трафейшчыкам. Не тое, што сівым заямінскім дзядам ці смаркатым падлеткам. Тыя кожную мінуту дрыжаць, каб немцы за што-небудзь, ці проста так, без дай прычыны іх не забілі, бо знаюць: улада ў немцаў неабмежаваная, на акупіраванай зямлі рабі што захочаш — бі, рэж, палі. Начальства за гэта не папракне, наадварот, пахваліць.

Толькі біць нікога тылавікі не збіраюцца. Навошта? Пераб'еш людзей вось гэтых, а ў каго тады возьмеш свінчо ці курыцу, масла ці яйкі? Нявыгадна біць. Няхай жывуць, працуюць, няхай кормяць іх, заваёўнікаў, якія прыйшлі сюды, каб навесці свой «новы парадак».

Так дрэмлючы паціху, думаў стары унтэр Ганс Фо-

гель. Буланы ламавік вёз яго з чарговага выезда на пошук трафеяў. Сёння Фогелю пашанцавала. Знайшлі з памочнікам Ота Браўхічам аж чатыры цынкавыя скрынкі патронаў і ручны кулямёт. А яшчэ везлі яны ротны мінамёт і мяшок толавых шашак.

З яра выскачыў, быццам вынырнуў, і памчаўся наперарэз падлетак у расхрыстанай старэнькай сарочцы і лапленых-пералапленых, некалі сініх портках, з якіх даўно ўжо вырас. Вось тут кожны раз сустракае іх гэты абарванец. Зараз цыгарэту папросіць: курыць малы, а маці баіцца, таму сустракае за вёскай.

Наблізіўшыся, хлопчык ухапіўся рукой за біліну, зазірнуў незнарок у фурманку і, адкінуўшы са лба пасму даўно не стрыжаных саламяных валасоў, умольна глянуў Фогелю ў вочы:

— Дзядуня, гросфатэр, гэбэн зі, бітэ, айн цыгарэтс. Калі ласка, цыгарку.

Фогель паблажліва ўсміхнуўся ў рыжыя вусы і неторапка дастаў партсігар.

— Яйко,— працягнуў ён руку.

Хлопчык хуценька перадаў яму заціснутае ў кулаку яйка.

— О, гут.— Фогель даў яму цыгарэту, потым падумаў і даў яшчэ адну.

Яму, Фогелю, нечым падабаўся гэты беларускі дзіцунок Ваня. Можа, шустрасцю сваёй, а можа, тым, што кожны раз сустракаў яго, старога унтэра, калі той вяртаўся з паездкі, абавязкова з гасцінцам. У яго ў Бавары таксама расце недзе такі жэўжык. Дзякуй богу, хоць яго не кране вайна і яму не давядзецца бегаць вось такім абарванцам, папрашайкай. Фюрэр абяцае пасля перамогі казачнае жыццё, а перамога — вось-вось.

— Данке, пан! — крыкнуў хлопчык і папыліў парэпанымі пяткамі ў бок вёскі.

Фогель махнуў рукой, панукнуў ламавіка і паехаў услед.

Ля першай хаты Ваню ўжо чакалі. З-за брамкі паказаў свой кірпаты вяснушкаваты нос Рыгорка:

— Ну што?

— Ручны кулямёт, мінамёт, патроны і нешта ў мяшку.

— Так і запішам,— пачухаў Рыгорка нагой нагу.— Шмат дабра ўжо назбіралі. Скора запоўняць

увесь склад. А там і вывезці могуць. Пара да дзядзькі Тараса ісці. Ён жа сказаў, як толькі многа збяруць, паведамляйце.

— Давай сёння і пойдзем,— прапанаваў Ваня.

— Давай.

Ноч ціхая, цёплая, і хоць не месячная, але даволі-такі светлая. Ва ўсякім разе крокаў за пятнаццаць-дваццаць усё добра відаць. Таму трэба быць асабліва асцярожнымі. Ахова ў гарнізоне хаця і не вельмі моцная, але два пасты — на адным і на другім канцы вёскі — стаяць кругласутачна. Вартавыя нават час ад часу асвятляльныя ракеты пускаюць.

І хлопцы, Ваня з Рыгоркам, каб не трапіць у зону іх святла, паўзуць, шчыльна прыціскаючыся да зямлі. Пахне жытнішчам і асотам. Калючкі асоту балюча драпаюць локці і твар.

Хлопцам толькі б дабрацца да яра. А там іх сам чорт не знойдзе, бо толькі ім адным вядома сцяжынка, што вядзе цераз непралазны хмызняк.

Хлопцы паўзуць, каб за ярам падняцца ўжо смела, на ўвесь рост, і бегчы ва ўмоўленае месца на ўзлессі.

Там іх будуць чакаць. Правільней, там іх чакаюць ужо каля двух тыдняў. Так было дамоўлена з дзядзькам Тарасам.

Месяц назад яны сустрэліся з дзядзькам Тарасам у яры за вёскай, калі хавалі там знойдзеную вінтоўку. Сустрэліся і спачатку не пазналі. Да вайны Тарас Іванавіч Хвашчэўскі, старшыня заямінскага калгаса, насіў вусы і бародку. Старыя жартавалі з яго: маўляў, цяпер не модна трыццацігадоваму мужчыну разводзіць расліннасць на твары, маўляў, дзяды і тыя ледзь не штодня голяцца. А ён толькі смяяўся ў адказ: «Я ж старшыня і павінен хоць чым-небудзь вылучацца...»

Ён знік з вёскі напярэдадні прыходу немцаў.

А тут, у яры, перад хлопцамі стаяў бязвусы мужчына ў лёгкім гарнітуры і з усмешкай гаварыў:

— Ну вось мы і сустрэліся.

Адкуль ён з'явіўся, хлопцы не заўважылі. Нібы з-пад зямлі вырас.

— Не пазнаяце?

— Не-е...— стараючыся схаваць за спіну вінтоўку, прамармытаў Рыгорка і зрабіў крок назад.

— А ты добра прыгледзься,— ужо звяртаючыся да яго аднаго, сказаў мужчына.

— То ж дзядзька Тарас! — амаль крыкнуў Ваня.

— Ён самы і ёсць. Ну, здаровы былі,— як роўным, пацісnuў рукі.— Што добранькага чуваць, навіны якія?

Дзядзьку Тараса цікавіла ўсё: колькі немцаў у Заямным, дзе яны размешчаны, у якіх месцах выстаўляюць ахову, чым займаюцца, як адносяцца да мясцовага насельніцтва, ці ёсць здраднікі сярод заямінцаў. Словам усё-ўсё хацеў ведаць былы старшыня калгаса, а зараз невядома хто.

Прагаварылі з ім хлопцы ледзь не да цямна. Асабліва ўсхвалявала Тараса Іванавіча вестка аб трафейнай зброі, што збіраюць гітлераўцы.

— Зброя — гэта добра, гэта вельмі добра,— некалькі разоў паўтараў ён.— Гэта якраз тое, што трэба. І кажаце, склад гэтай зброі яны ў маёй хаце зрабілі? Што ж, тым горш для іх. Толькі б вывезці, гады, не паспелі. Вы, хлопцы, вось што — сачыце за імі, немцамі. Сачыце пільна і ўсё бярыце на заметку. Нам вельмі важна, колькі і якой зброі яны сабралі. Хаця б прыблізна. Таму будзем трымаць з вамі сталую сувязь. Месца сустрэчы — на ўзлессі каля Сцяпанавай сажалкі. Ведаеце, дзе Сцяпанаў хутар стаяў? Ну і добра. Можаце прыходзіць туды ў любы час з вечара да ранку. Там вас будуць чакаць. Умоўны сігнал — двайны крык савы.— Тарас Іванавіч склаў далоні і ціха крыкнуў па-савінаму.— Умееце так?

— Умеем, з малых гадоў яшчэ,— цыркнуў скрозь зубы Рыгорка...

І вось сёння гэты сігнал трэба было нарэшце прымяніць. Наблізіўшыся да сажалкі, Рыгорка двойчы крыкнуў. І ў адказ яму даляцеў таксама падвойны крык савы. Потым з-за тоўстай ліпы выйшаў чалавек з аўтаматам на грудзях і строга запытаў, адкуль хлопцы і як іх зваць.

Ваня з Рыгоркам адказалі. Аўтаматчык запрасіў іх прысесці на паваленае дрэва, сам сеў побач і падрабязна распытаў аб усіх вясковых навінах. Калі гаворка была закончана, падняўся і пацісnuў хлопцам рукі, як тады ў яры Тарас Іванавіч, быццам яны былі дарослыя.

— Малайцы. Дзякую. Неўзабаве чакайце нас.

— Каго гэта — нас? — запытаўся Ваня. Ён намерваўся задаць гэта пытанне яшчэ дзядзьку Тарасу тады, як сустрэліся ў яры, але неяк не асмеліўся ці, дакладней кажучы, пасаромеўся. Бо дзядзька ж Тарас не хто-

небудзь, а даваенны старшыня калгаса, вядома ж, свой чалавек. А ў гэтага незнаёмага не сорам і запытацца.

— Хто мы такія, пытаеш? — засмяяўся аўтаматчык.— А з кім ты толькі што гаварыў, каму ваенныя тайны немцаў выдаў?

— Даруйце,— Ваня адчуў, што твар яго залівае густая чырвань.— Але ж дзядзька Тарас нам нічога канкрэтнага не сказаў тады. Папрасіў толькі, каб...

— Тарас Іванавіч і так не сумняваўся, што вы зразумелі, хто ён,— перапыніў яго аўтаматчык.— Тарас Іванавіч — наш партызанскі камандзір. Усё ясна? А цяпер давайце яшчэ раз,— працягнуў ён руку.— Пара. Не паспееш аглянуцца, як пачне днець. Будзьце асцярожныя.

Вярталіся хлопцы, быццам на крылах ляцелі. Каб не папярэджанне партызана быць асцярожнымі ды не рэдкія ўспышкі нямецкіх ракет, мабыць, ускочылі б у вёску з нястрымным галёканнем...

...А на наступную ноч на Заямнае наляцелі партызаны. Немцы не чакалі іх, нават не маглі ўявіць, што нейкія там лясныя бандыты здольны на такую дзёрзкасць — напасці на салдат фюрэра, салдат, якія паставілі на калені ўсю Еўропу. Старому унтэру Гансу Фогелю сніліся ў тую ноч родная Баварыя, уласная ферма і ўнук. Паступова ўнук пачаў мяняцца, перараджацца і прама на вачах ператварыўся ў беларускага абарванца Ваню, які нечым крыху падабаўся унтэру. Вось Ваня дастаў з кішэні яйка, працягнуў яго Фогелю і папрасіў цыгарэту. Фогель узяў яйка і з жахам убачыў, што ніякае гэта не яйка, а руская граната-лімончык. Граната пачала шыпець у руцэ, расці, павялічвацца і раптам ірванула так, што Фогель аж грымнуўся на зямлю...

Так, ён ляжаў на зямлі, правільней, на падлозе казармы. І не ў сне, а на яве. Вакол трашчала, ірвалася, успыхвала. Стагналі, енчылі параненыя, бездапаможна лаяліся ўцалелыя. Стары унтэр памацаў рукой каля ложка, дзе звычайна стаяў яго карабін, і, не знайшоўшы яго, папоўз да выхада. Але тут нешта аглушальна рванула-бліснула, і ён мяшком рухнуў на падлогу...

На досвітку з Заямнага ў бок лесу пацягнуўся ладны абоз. Нямецкія ламавікі везлі зялёныя фуры да верху нагружаныя разнастайнай зброяй і боепрыпаса-

мі. Суправаджалі абоз людзі з чырвонымі стужкамі на шапках. На чале іх быў Тарас Іванавіч.

Ваня з Рыгоркам стаялі ў канцы вуліцы і махалі партызанам услед, пакуль тыя не зніклі ў нізіне.

І ніхто з заямінцаў нават не падазраваў, што гэта дзякуючы ім, Ваню з Рыгоркам, удалося партызанам так добра правесці аперацыю па захопу зброі.

Ды зрэшты заямінцы асабліва на памыляліся — непасрэдна ўдзелу ў аперацыі хлопцы не прымалі.

А было гэта на першым годзе вайны.

## ЗОЯ

Яна ўцалела адна.

Адна-адзіная з усяе Баравіны.

Калі на Баравіну наляцелі карнікі, Зоі не было дома. Якраз за дзень да гэтага маці паслала яе ў Бярозаўку, што была аж за васемнаццаць кіламетраў ад Баравіны. Там жыла Зоіна цётка Палага. Час ад часу яна наведвалася ў нямецкі гарнізон і на сала або яйкі выменьвала соль. У баравінцаў такой магчымасці не было, бо немцы лічылі іх вёску партызанскай, і ўсіх, хто з'яўляўся ў гарнізоне, затрымлівалі, а потым адпраўлялі ў Германію або канцэнтрацыйны лагер. А таму соль баравінцы даставалі праз другіх людзей, тых, што жылі ў гарнізоне або непадалёк ад яго.

Дастаць хоць трошкі солі маці паслала ў Бярозаўку і Зою.

Вярнуўшыся ад цёткі Палагі, Зоя не ўбачыла ні Баравіны, ні людзей. Абапал вуліцы стаялі закураныя коміны, а ля іх чарнелі груды галавешак. Пажоўклі, абвугліліся прыдарожныя клёны, скурчылася ў перадсмяротных сутаргах лістота ў прысядзібных садах. Нідзе не рыпне калодзежны журавель, не зашчабеча вясялуха-птушка.

Пуста.

Мёртва.

Толькі ў адным месцы, там, дзе яшчэ ўчора раніцай стаяла вялізнае калгаснае гумно, курыўся слабы дымок. З цяжкасцю перастаўляючы ватныя ногі, Зоя накіравалася туды. Уся зямля была ўсыпана стрэлянымі гільзамі — большымі, ад кулямётаў, і невялічкімі,

аўтаматнымі. На таку былога гумна ляжалі чалавечыя чарапы і шкілеты.

Зоя застыла ў нерухомасці. Яна зразумела ўсё: спалілі фашысты Баравіну разам з людзьмі. Загналі старых і малых у гумно і запалілі. А калі хто спрабаваў выратавацца, расстрэльвалі з кулямётаў і аўтаматаў. Там, на таку, і косці яе бацькоў, а недзе каля іх, побач, костачкі самага малодшага ў сям'і пяцігадовага Васілька...

На нейкі момант паўсталі перад вачыма натруджаныя, у мазалях і вузлаватых жылах, бацькавы рукі, добрая, заўсёды крышку журботная ўсмешка маці і не па-дзіцячаму сур'ёзны погляд брацікa.

Няўжо іх ужо няма?

І ніколі-ніколі не будзе?

А як жа яна, адна, без іх сярод гэтага страшнага папялішча?

Ад роспачы хацелася нема крычаць, заліцца слязьмі ў нястрымным галашэнні. Але ні крык не ішоў з горла, ні слёзы не ліліся. Унутры ў Зоі ўсё нібы закамянела. Толькі сэрца сціскалася балюча-балюча і не давала ўздыхнуць на поўныя грудзі.

Дзяўчынка нізка пакланілася папялішчу і пайшла. Пайшла не па дарозе, бо дарога прывяла ў іхнюю Баравіну лютую смерць. Можа, і зараз па ёй шныраць звяругі-карнікі. Зоя напрасткі цераз поле ўзяла кірунак на лес.

Яна яшчэ не ведала, ды і не думала пра тое, куды ідзе і дзе спыніцца, але добра ўсведамляла адно — лес цяпер яе самы лепшы, самы надзейны друг.

Лес сустрэў дзяўчынку шматгалосым птушыным шчэбетам, але яна яго не чула. Лясныя палянкі густа чырванелі буйнымі суніцамі, але Зоя іх не заўважала, хаця колькі ўжо часу ў яе ў роце не было і макавай расінкі.

Утаропіўшыся нерухомымі вачыма ў адну кропку, яна ішла і ішла, пакуль не адчула, што ногі ў каленях падгінаюцца. Тады села, абаперлася спіной аб цёплы камель сасны і заплюшчыла вочы. Павольна ў грознай няўмольнай маўклівасці на яе наплыло чорнае гумнішча з грудай чарапоў на таку. Дзяўчынка страпянулася, дзіка ўскрыкнула і адкрыла вочы.

Яна зноў звяла вейкі і зноў страпянулся. Але ўжо не ад жудаснага відовішча, а ад таго, што недзе зусім

недалёка фыркнуў конь. Першай думкай было — схавацца. Зашыцца пад куст які ці ў папаратнік і не варушыцца, нават не дыхаць. Ды вось бяда — ні кустоў, ні густога папаратніку паблізу не расло. Бор быў голы як бубен — адны сосны, а пад імі шэры мох. Лепш было не кратацца з месца, каб не выдаць сябе.

Збоку данеслася:

— Слухай, Хвёдар, а можа, гэта не дзіцячы крык, можа, заяц. Яны ж таксама неяк па-дзіцячаму крычаць...

— Эт, гаворыш... Я ж, можа, вясковы паляўнічы, а не студэнт з горада, як некаторыя... Недзе тут дзіця крычала...

Тупалі, пафырквалі коні, чулася гаворка. «Хоць бы не паліцаі, не карнікі»,— бездапаможна тулячыся да сасны, думала Зоя.

— Ды вось яна, малеча! — радасна гукнуў над галавой густы бас.— Ты чаго крычала? Напалохаў хто?

Спалохана ўзняла вочы і ўбачыла двух коннікаў з аўтаматамі на грудзях — аднаго пажылога, вусатага, другога зусім яшчэ маладога, амаль хлапчука.

— Адкуль будзеш? — зноў запытаў бас.

— З Баравіны,— прашаптала Зоя.

— Тады ўсё ясна,— саскочыўшы на зямлю, павольна прагаварыў вусаты. Ён асцярожна, нібы Зоя магла зламацца, падняў яе на рукі і перадаў маладзейшаму.— Садзі перад сабой у сядло і хутчэй у лагер. Цётцы Дашы адразу ж перадасі. Бач ты, учарнела ўся, нібы той вугалёк... Эх!..— і адвярнуўся, пачаў нервова скручваць цыгарку.

Толькі цяпер дзяўчынка заўважыла на шапках коннікаў самаробныя зорачкі, і на сэрцы ў яе крыху адлягло: свае, партызаны...

У лагеры Зою сустрэлі, як родную. Асабліва клапацілася аб дзяўчынцы доктарка цётка Даша. Яна ледзь не з лыжачкі карміла Зою, клала з сабою спаць і ўсё шаптала, што партызаны абавязкова адпомсцяць, ужо даўно помсцяць ворагу за нявінна пралітую кроў савецкіх людзей, за скалечанае маленства такіх, як Зоя, за спаленыя гарады і вёскі. Словам, за ўсё, за ўсё. Дзяўчынка слухала цётку Дашу і нядаўна перажытае паступова быццам зацямнялася. Толькі па начах яе ўсё яшчэ душылі кашмары, і яна, уся потная ад жаху, з крыкам падхоплівалася і спрабавала ўцякаць...

Нарэшце настаў дзень, калі Зоя ўпершыню ўсміхнулася яснай усмешкай і сарамліва папрасіла доктарку:

— Цётачка Даша, вы мне, калі ласка, піянерскі гальштук пашыйце. Мой там... спалілі праклятыя фашысты... разам з нашымі...— і затрэслася нібы ў ліхаманцы.

Доктарка моцна абняла Зою за плечы, прытуліла да сябе і не адпускала, пакуль тая не супакоілася.

Пашыты з пафарбаванага ў чырвоны колер парашутнага шоўку гальштук дзяўчынцы вельмі спадабаўся. Яна не расставалася з ім ні на мінуту. Нават кладучыся спаць, беражна хавала пад падушку.

Праўда, Зоя і дома амаль не расставалася з піянерскім гальштукам, хоць насіла і не на віду, а за пазухай. Толькі раз, адпраўляючыся ў далёкую Бярозаўку, не ўзяла з сабой, бо ў дарозе магло ўсякае здарыцца...

Цяпер жа кругом свае, савецкія людзі, і яна будзе насіць гальштук адкрыта і горда. Яна — піянерка! А неўзабаве, праз які год, і камсамолкай стане. Пастараецца баявымі справамі заслужыць давер старшых таварышаў. Бо сядзець склаўшы рукі яна не збіраецца. Не маленькая ўжо. Хоць вунь тую кароценькую вінтоўку, ці, як тут называюць, карабін у руках утрымаць здолее. Толькі б паверылі ёй, не пакрыўдзілі паблажлівай ухмылкай: маўляў, дзіця горкае, а ў ваякі лезе...

У яе выспеў за апошнія дні цвёрды намер — прасіцца ў адну з баявых груп, хоць у падрыўную, хоць у разведвальную, куды ўжо возмуць,— абы не сядзець у лагеры, а дзейнічаць, змагацца, рабіць усё, што толькі будзе ёй пад сілу. Інакш жыць яна не можа...

Так думала Зоя, рашуча ідучы да камандзірскай зямлянкі.

Камандзір выслухаў яе вельмі ўважліва і загадаў выклікаць цётку Дашу. Калі доктарка прыйшла, кораткa сказаў:

— Залічыце партызанку Баравінскую Зою Антонаўну ў шпіталь медсястрой. У мяне ўсё. Пытанні ёсць? Няма? Тады вы свабодны.

Вось і ўсё. Думала, марыла ўзяць зброю і стаць у баявыя рады народных мсціўцаў, а тут на табе — шпіталь. Ціха, бяспечна. Перавязаў раненых, пакарміў, паправіў пасцелі і лічы — усё тваё партызанства.

Але няхай. Няхай сабе на першым часе яна пабу-

дзе медсястрой, санітаркай, кім сабе хочаце будзе. Гэтую работу таксама некаму трэба рабіць. І рабіць добрасумленна, з душой, як і любую іншую.

І ўсё ж праз месяц-два — Зоя цвёрда верыла ў гэта — яна ў чым-небудзь сябе праявіць, і тады яе пасапраўднаму ацэняць і давераць ужо не самаробныя бінты, а карабін, а то, калі хочаш, і аўтамат...

Раненых ў шпітальнай зямлянцы ляжала чацвёра. Яны хутка папраўляліся, і работы ў Зоі было нямнога.

І дзяўчынка рашыла прысвяціць вольны час вывучэнню зброі. Па настаўнікаў далёка хадзіць не трэба было. Яны знаходзіліся побач: кулямётчык, падрыўнік, два аўтаматчыкі. І зброю шукаць не трэба было. На складзе ў вясёлага аднавокага Цімошы было ўсё, што трэба. Праўда, складская зброя патрабавала сур'ёзнага рамонту, але пры вывучэнні яе асобныя недахопы значэння не мелі. Бездакорная спраўнасць зброі мае значэнне толькі ў баі.

Заняткі з Зояй пачаў падрыўнік. Па яго просьбе дзяўчынка прынесла ад Цімошы карабін і праз два ці тры дні ўжо ўмела зарадзіць і разрадзіць яго, разабраць і сабраць затвор, навучылася сумяшчаць мушку з прараззю, каб патрапіць дакладна ў цэль. Паказаў падрыўнік і як зроблена самаробная міна. Зоя нават самастойна падрыхтавала вучэбную міну да «выбуху». Лёгка разабралася дзяўчынка і ў будове аўтамата. Там было ўсё на дзіва проста — спружына, стальная балванка-затвор з рукаяткай, спускавы кручок, ствол і дыск з патронамі. Адцягнуў затвор да канца, прыцэліўся і націскай на спускавы кручок. Толькі доўгіх чэргаў не давай, а то палавіна куль паляціць «па малако». Адзін кулямёт «не даваўся» Зоі. Складаная машына. Але з часам трэба будзе і яго вывучыць. На ўсякі выпадак. Можа, у баі параняць кулямётчыка, тады яна зможа замяніць яго.

Цяпер Зоя ўсё часцей і смялей пачала звяртацца да камандзіра атрада з нязменнай просьбай паслаць на любое адказнае заданне: у засаду з хлопцамі, на падрыў эшалона, у разведку...

Доўгі час камандзір не даваў на гэта згоды. Ды, уласна кажучы, і патрэбы пільнай не было пасылаць дзяўчынку туды, дзе можна было свабодна абысціся без яе.

Але на трэцім месяцы партызанскага жыцця Зоя

дачакалася свайго. Неяк надвячоркам Сашка-ад'ютант выклікаў яе ў камандзірскую зямлянку. Зоя зайшла, стала. Камандзір дапытліва паглядзеў ёй у вочы, прыкурыў самакрутку і запрасіў сесці на цурбан. Зоя села.

— Вёску Бярозаўку ведаеш? — запытаў камандзір, сядаючы насупраць.

— Ведаю, чаму ж не,— адказала дзяўчынка.

— Добра ведаеш, ці толькі па назве?

— Я там летам па месяцу і больш жыла ў цёткі Палагі. Гэта мамчына родная сястра, зусім адзінокая... Я і ў той дзень, як татку з мамкай...— Зоя дрыготка ўсхліпнула.

Камандзір падышоў, мякка пагладзіў дзяўчынку па галаве:

— Не трэба, маленькая. Не трэба плакаць. Наша задача — дзейнічаць. Мы, народныя мсціўцы, павінны не плакаць, а помсціць ворагу за ўсё. Няхай ён плача. Разумееш, дачушка?

— Разумею,— ціха, але цвёрда адказала Зоя.— Я гатова, я заўсёды гатова. Даўно прашу вас даць якое заданне.— Яна ўстала з цурбана і выцерла слёзы.— Я — хоць зараз...

— Для таго і выклікаў цябе. Слухай мяне ўважліва. Ды ты сядай, сядай...

Камандзір расказаў, што ў Бярозаўцы спынілася буйнае вайсковае падраздзяленне гітлераўцаў, якія, па чутках, збіраюцца ў бліжэйшыя дні напасці на партызан. Партызанам неабходна ведаць, колькі ў фашыстаў жывой сілы, якое ўзбраенне і як ахоўваецца вёска. Але больш-менш дакладна даведацца пра ўсё гэта можна толькі пабываўшы на месцы, у Бярозаўцы. Партызанскія сувязныя тут бездапаможныя — немцы не выпускаюць з вёскі ні жывой душы.

— Канавай можна выпаўзці,— жыва падхапілася Зоя.

— Якой такой канавай?

— Не ведаеце? Ну, што ад цётчынага агарода ідзе да лесу. А лес там блізенька, рукой падаць. Калі ўначы, дык ніхто і не заўважыць.

— А раптам у канаве засада?

— Не, мусіць. Дарасламу ў ёй ніяк не схавацца. Неглыбокая яна, ды і зарасла хмызняком. Гэта толькі мы, дзеці, калі гулялі ў што-небудзь, маглі прабрацца па ёй да лесу і назад... І я змагу.

— Глядзі ты...— забарабаніў пальцамі па стале камандзір.— Тады, як быццам усё някепска складваецца. Што ж, калі гатова на такое, атрымлівай заданне. Сёння ж адправішся ў Бярозаўку. З наступленнем цемнаты наблізішся да таго месца ляснога ўскрайку, адкуль пачынаецца канава. Не заблудзішся? Веру. Прапаўзеш, даведаешся ў цёткі ўсё, што можна, і адразу ж назад. З табой пойдзе кулямётны разлік Міхалені. Хлопцы будуць чакаць цябе на ўзлессі. У выпадку небяспекі, прыкрыюць. Усё.

Зоя выцягнулася ў струнку, ускінула руку ў піянерскім салюце:

— Таварыш камандзір атрада. Партызанка Зоя гатова выканаць баявое заданне. Дазвольце ісці зараз жа. Да раніцы я паспею...

— Добра, ідзі, дачушка,— зусім не па-ваеннаму адказаў камандзір.— І вяртайся. Чуеш? Абавязкова вяртайся.— Галаву Зоі зноў мякка пагладзіла ласкавая рука...

Зоя бліскуча выканала сваё першае баявое заданне. Раніцай наступнага дня, яна, як і абяцала, была ўжо ў распалажэнні атрада і падрабязна дакладвала камандзіру аб усім, што даведалася. Трэба сказаць, што тут дзяўчынцы вельмі пашанцавала. Справа ў тым, што цётка Палага аказалася не проста адзінокай цёткай Палагай, а партызанскай сувязной, якая ўжо другі год перадавала ў атрад каштоўныя весткі пра ворага. На гэты раз сувязной нейкім чынам удалося даведацца аб дні выступлення немцаў на партызан. Такой вестцы цаны не было. Цяпер камандаванне атрада дакладна ведала, калі чакаць ворага і дзе яму наладзіць «урачыстую» сустрэчу.

Першымі за справу ўзяліся падрыўнікі. Яны замініравалі дарогу, што вяла да партызанскага лагера. Потым выбралі сабе выгадныя пазіцыі бранябойшчыкі і кулямётчыкі, размеркавалі між сабой пазіцыі стралкі.

У дзень, які і называла цётка Палага, на лясной дарозе надрыўна зараўлі маторы. Карнікі рухаліся на лагер пад прыкрыццём двух браневікоў. На грузавіках былі ўстаноўлены буйнакаліберныя кулямёты, барты кузаваў ашчэрыліся чорнымі руламі аўтаматаў. Нічога не скажаш, сіла была не маленькая.

Але... Адзін за другім ускалыхнулі наваколле тры магутныя выбухі. Няўклюдна павярнуўся і лёг на бок

пярэдні бранявік, свечкай успыхнула адна машына, потым другая. Паляцелі ў кузавы з карнікамі гранаты, у суцэльны гул зліўся трэск партызанскіх кулямётаў і аўтаматаў...

Літаральна пяць мінут, і ўсё было скончана...

За гэту аперацыю Зоі, як і іншым, перад строем была аб'яўлена падзяка. У дадатак камандзір асабіста ўручыў ёй трафейны пісталет «вальтэр».

— Бач ты, малая, ад зямлі не адрасла, а такую ўзнагароду адхапіла! — не без зайздрасці гаварылі некаторыя.

А Зоя аж ззяла ад шчасця. Нарэшце яна дамаглася свайго — ёй, паверылі, яе ацанілі!

Пасля гэтага дзяўчынка ўдзельнічала ў шмат якіх баявых аперацыях — разведка, засада, падпал маста, дастаўка ў лагер статка кароў, нарабаваных паліцаямі. І амаль кожны раз справа канчалася тым, што побач з другімі і ёй аб'яўлялі падзяку.

Маленькай гераіняй пачалі называць дзяўчынку ў атрадзе.

І вось атраду дадзена адказнае заданне — выйсці на «рэйкавую вайну». «Рэйкавая вайна» — гэта калі ўсе партызаны — асобныя групы, атрады, брыгады — адначасова выходзяць на чыгунку і знішчаюць там ахову, падрываюць рэйкі, масты, эшалоны. Гэта неабходна, каб спыніць на працяглы час адразу на вялікай тэрыторыі перавозку варожых салдат і тэхнікі, боепрыпасаў і прадуктаў.

Разам з усімі пайшла на чыгунку і Зоя. Яна ўжо добра валодала амаль усімі відамі партызанской зброі. Навучылася нават гранаты кідаць дакладна ў цэль, хаця ляцелі яны не надта далёка.

Група, у якой была дзяўчынка, мела задачу знішчыць ахоўную агнявую кропку праціўніка, што тулілася да насыпу чыгункі. Узяць яе было надзвычай цяжка. Прама не наблізішся — з вузкай амбразуры глядзіць у бок лесу драпежнае вока кулямёта. З бакоў таксама надта не падступішся — і ўправа і ўлева прароблены шчыліны, каб маглі страляць аўтаматчыкі.

Партызанскі мінамётчык выпусціў па агнявой кропцы некалькі мін. Яны разарваліся ля самай амбразуры, але ніякай шкоды ворагу не нанеслі, нават не напалохалі. Наадварот. Кулямёт пачаў біць так шалёна, што ніхто з партызан нават галавы не мог падняць.

Што ж рабіць? Як заткнуць паганае горла фашысцкай гадзіне? Не ператворышся ж ў яшчарку, не падпаўзеш непрыкметна ўшчыльную да кропкі, каб кінуць усярэдзіну гранату...

А яшчарка тым часам паўзла — маленькая партызанка Зоя. Павольна, не спяшаючыся, не падымаючы галавы... Метр, яшчэ адзін, яшчэ...

Ох, якія цяжкія гэтыя метры, якія небяспечныя... Заўважыць фашыст, секане з кулямёта і — усё... Можа, назад вярнуцца, або, лепей за ўсё, затаіцца і ляжаць, пакуль другія не прымусяць замоўкнуць нямецкі кулямёт? Яе ж ніхто не пасылаў. Сама папаўзла. Па ўласнай волі. У групе, мабыць, ніхто і не заўважыў, калі яна адпаўзла ўбок.

Не! Прэч гэтыя агідныя думкі. Яна ж збіраецца ўступаць у камсамол, і раптам — назад? Яна абавязана помсціць за смерць бацькоў, за нявінную кроў Васілька, і — назад? Не, не і не! Толькі ўперад.

Метр, яшчэ метр, яшчэ... І вось яна, халодная сцяна фашысцкага дота, які не дае ўзняцца стралкам, падрыўнікам, пэтээршчыкам!..

Зоя прыўзнялася, вышмаргнула чаку з гранаты і шпурнула яе ў самую амбразуру.

Грымнуў выбух, і кулямёт адразу захліпнуўся — змоўк. З грамавым «ура» падняліся на штурм дарогі партызаны, са звонам паляцелі ўгору ўзарваныя рэйкі, дзесьці злева застракаталі аўтаматы.

Але Зоя нічога гэтага не чула. Адразу пасля выбуху гранаты нешта гарачае апякло ёй левае плячо і пацягнула ўніз, на зямлю. З разарванага рукава на траву закапалі чырвоныя расінкі...

Дзяўчынка ўпала.

Калі ўсё сціхла, партызаны паклалі Зою на плашчпалатку і панеслі. Побач з палаткай ішла доктарка і раз за разам мацала пульс.

— Выжыве? — устрывожана пыталіся хлопцы.

— Крыві шмат страціла...

— Крыві не пашкадуем... У любога бярыце...

Над лясной дарогай, над галовамі партызан, над Зояй шумелі векавыя сосны...

А ззаду на зруйнаваным чыгуначным палатне застаўся дагараць варожы эшалон. На пакатым баку паравоза народныя мсціўцы штыкамі вывелі:

«За нашу Зою».

## МАЦІ

Ужо, мабыць, гадзіну бабка Анфіса завіхаецца каля печы. На двары раніца, і трэба зварыць бульбу для свінні, напарыць курам зерня ды і сабе сёе-тое згатаваць на снеданне. Ціха пастрэльваючы, ярка палаюць у печы сухія кедравыя паленні. Па бабчыным твары прабягаюць вясёлыя блікі. Яны ажыўляюць адцвілыя Анфісіны вочы, здымаюць зацятую суровасць з яе шчыльна сціснутых губ.

Стаміўшыся ад клопатаў з чыгунамі, бабка села на невысокі зэдлік, гаротна падперла сухенькім кулаком падбародак і нерухома ўставілася ў адну кропку. Потым пачала гаварыць. Сама з сабой.

— Не, дачушка, не паеду я болей у твой хвалёны горад. Не з маёй ужо сілачкай лазіць аж на чацвёрты паверх, не з маім здароўем дзетак тваіх няньчыць. Жыві як знаеш. А я і тут, у сваёй хатцы, веку дажыву. Так і адпішу табе, дачушка, хоць і адна ты ў мяне адзіная засталася. Не крыўдуй. Не работніца я ўжо. Патупала во каля печы, і ногі не служаць... А ў цябе там вунь колькі работачкі... Не здолею я... Так і адпішу. От прыйдзе Мар'я паштарка і ўсё табе на паперы скажа.

Шэсць гадоў назад Анфісіна дачка Лушка выйшла замуж за гарадскога. Да гэтага яна працавала ў родным Загор'і аграномам.

І вось неяк паехала ў горад на якіясь там курсы адна, а вярнулася з мужам. Чалавек ён нішто сабе — ціхі, памяркоўны, разумны... І з твару прыемны. Раманам завуць.

Анфіса са слабай надзеяй сказала, каб жылі маладыя ў яе. Хата, дзякуй богу, прасторная, і гаспадарка неблагая, усё ёсць: хлеб, сала, малако, гародніны ўдосталь. Ды і наогул выгоддзе тут, у Загор'і. Лес пад бокам, рэчка — рукой падаць. Жыві сабе, красуйся, дзетак расці.

Дык не ж. Ціхі-ціхі, а і слухаць не захацеў. Усміхнуўся толькі неяк незразумела і сказаў:

— Мы, мамаша, з Люськай ужо ўсё вырашылі. Жыць будзем у горадзе. Там у мяне кватэра двухпакаёвая з усімі выгодамі і пасада добрая — загадчыкам аддзела працую. Прадавайце во ўсё ды разам з намі паедзем. Глядзець вас будзем, шанаваць.

— Не, дзеткі,— крутнула галавой Анфіса.— Вы з Лушкай, як сабе хочаце, а я адсюль нікуды не паеду. Тут я радзілася, і тут маё ўсё. Ды і Пецька можа ж вернецца...

Старая ўсхліпнула, адвярнулася і выйшла з хаты. А Лушка пачала збіраць рэчы ў дарогу.

Спачатку Лушка прысылала пісьмы часта, ледзь не кожны тыдзень. Мар'я-паштарка чытала іх Анфісе, і старая шчаслівa прыгаворвала:

— Ну і дзякуй богу, што ўсё добра. Хай сабе жывуць на здароўе. А што ехаць да іх, дык не. У госці з'езджу, пагляджу, а каб назаўсёды, то ўжо няхай прабачаюць. У сваім куточку цяплей.

Потым пісьмы пайшлі радзей, і нарэшце месяцы два зусім не было. Бабка хвалявалася, смуткавала, ледзь не кожны дзень выбягала на вуліцу сустракаць Мар'ю, ды тая толькі рукамі разводзіла — няма. «Раззлавалася, відаць, дачка, што не еду, вось і не піша,— думала старая.— А можа, здарылася якое ліха?»

Калі Мар'я прынесла чарговую пенсію за Пецю, Анфіса сабралася ехаць у горад. Папрасіла суседку Сцепаніду прыглядзець за хатай, за гаспадаркай, узяла клуначак з ядой і адправілася на станцыю. Па дарозе напаткала паштарку. Мар'я спыніла старую, пакорпалася ў сваёй бяздоннай брызентавай сумцы і працягнула сіні канверт:

— Вам, цётка. Ад дачкі.

— То прачытай, дзетка.

Лушка пісала, што ў яе нарадзіўся сын, і што яны з Раманам вельмі просяць бабулю прыехаць і паглядзець унука.

— Чула маё сэрца,— сказала Анфіса і патупала далей.

На станцыі папрасіла незнаёмага хлопца адбіць тэлеграму, каб сустрэлі, а неўзабаве ўжо сядзела ў перапоўненым вагоне.

Горад Анфісе не спадабаўся адразу. Грукат, мітусня, таўханіна. Усе некуды бягуць, некуды спяшаюцца. На хаду жуюць, на хаду чытаюць. І дух цяжкі, як у калгаснай майстэрні, дзе машыны ды трактары рамантуюць.

Больш за ўсё не спадабалася Анфісе тое, што, каб зайсці ў кватэру, трэба доўга-доўга падымацца ўверх па лесвіцы, аж дух займае і сэрца вось-вось выскачыць.

Пагасцявала тады бабка два дні, праведала дачку, унука паглядзела ды назад у вёску.

Мінула з таго часу пяць гадоў, і вось Лушка зноў просіць яе прыехаць, бо нарадзілася другое дзіця і яго няма каму няньчыць. Сама ж Лушка не хоча кідаць работу, а аддаваць немаўлятка ў яслі пакуль што баіцца.

Таму і сядзіць цяпер Анфіса на сваім зэдліку перад печчу, гаворыць, раіцца сама з сабой.

А з кім ёй яшчэ параіцца? Быў бы жывы яе Пеця, з ім бы пагаварыла, параілася. І, вядома ж, ён бы сказаў, што правільна маці робіць. Не трэба ехаць. Бо Лушка хоць і дачка родная, хоць і кроў свая, а чым далей, тым больш чужэй становіцца. Пісьмы піша тады, калі ёй што-небудзь трэба: то мёду прышлі, то каўбас сялянскіх. Цяпер во надумалася маці ў нянькі наняць. Не, сын бы такога не зрабіў. Не зрабіў бы яе Пеця. Ён жа так любіў, так шкадаваў сваю маці. Анфіса за вёдры, па вадуісці, а ён вырве вёдры з рук і сам бяжыць. Анфіса на дрывотню, каб дроў прынесці, а ён ужо сам нясе. Усю цяжкую работу па дому рабіў. І як у школу, дзе на лётчыкаў вучаць, паехаў, то чуць не кожны дзень пісьмы прысылаў. А тады, ужо ў вайну, і грошы пачаў слаць. І доўга слаў, аж пакуль не прынеслі Анфісе чорную паперку: ваш сын Пётр Іванавіч Сідараў прапаў без вестак.

Прапаў без вестак. Што гэта значыць? Не памёр жа, не загінуў, а толькі прапаў, ну як быццам заблудзіўся, ці што? Як гэта разумець — прапаў без вестак?

Пайшла да дзеда Данілы. Той ваяваў яшчэ ў імперыялістычную, і ў ваенных справах разбіраўся бадай лепш за ўсіх на сяле. Дзед Даніла надзеў свае жалезныя акуляры, перачытаў паперку і забарабаніў парэпанымі пальцамі па стале.

— Тут, маладзіца, такая штука: прапаў без вестак — гэта не значыць, што загінуў. Тут альбо ў палон трапіў, альбо, значыцца, спіціяльнае заданне яму далі, сакрэтнае... Так што паплакаць яшчэ паспееш, пахаваць сына ніколі не позна...

Вярнулася Анфіса дамоў і першае, што зрабіла, дастала з куфра Пецеву картачку і павесіла на покуце. Потым пасядзела, падумала і зняла з шастка клунак з чэсанай воўнай. Воўна была мяккая, пушыстая. Самы раз на світэр.

Лушку, тады яна была яшчэ малая, пасадзіла за адну прасніцу, сама ўзяла ў суседкі другую і пачалі яны ўдзвюх доўгімі зімнімі вечарамі прасці воўну.

— Мама,— пыталася малая,— а навошта мы прадзём?

— Спрадзём — ніткі шарсцяныя будуць. А тады з гэтых нітак звяжам з табой цёплы-цёплы світэр, дачушка.

— І Пецьку пашлём?

— І Пецьку пашлём,— не выпускаючы верацяна, адказвала Анфіса.— Можа, яму холадна там, дык во надзене і сагрэецца. І нас з табой успомніць. Скажа: во якія ў мяне харошыя сястра і маці...

Прайшоў час, і Анфіса з дачкой звязалі світэр, потым рукавіцы, а тады ў дадатак яшчэ дзве пары шарсцяных шкарпэтак. Усё гэта Анфіса завязала ў хусцінку і паклала ў куфар. Няхай ляжыць. Прыйдзе першая вестачка ад сына, і яна адразу ж пашле яму пасылку...

Але ні пісем, ні якіх іншых вестак ад Пеці не было.

Год, два, тры... Вось ужо колькі гадоў прайшло, як вайна скончылася, а маці ўсё чакае сына, верыць, што ён урэшце з'явіцца, абніме па-сыноўняму, прытуліць да сябе. Тады яна дастане з куфра клуначак са світэрам і шкарпэткамі і скажа:

— Для цябе рабіла, сынок, для цябе берагла. Насі на здароўечка.

Мабыць, пра цёплы світэр і шкарпэткі помніла і Лушка. Бо неяк раз напісала, каб маці прыслала іх Раману. Раман па службе часта ездзіць у камандзіроўкі, і яму зімой вельмі неабходна цёплае адзенне. Чаго, маўляў, яно будзе тлець у куфры? Усё роўна ж няма каму насіць...

Горкая, недаравальная крыўда на дачку сціснула тады мацярынскае сэрца. Як гэта — няма? Хто гэта сказаў, што яе Пеці няма ў жывых? Вось і пенсію за яго штомесяц прыносяць, і дзед Даніла тады сказаў, што прапаў без вестак — не абавязкова памёр.

Не, дачка, не насіць твайму Раману Пецевага світэра. Для Пеці вязаўся ён. Пецеў і павінен быць.

І старая, абапіраючыся на кіёк, у пагодныя дні выходзіла за аколіцу і глядзела адцвілымі, але зоркімі вачыма ўдаль, на дарогу, усё чакала сына. Тут яна звычайна сустракала Мар'ю-паштарку, якая, не спя-

шаючыся, ехала на сваім абшарпаным веласіпедзе са станцыі. Параўняўшыся з Анфісай, Мар'я злазіла з веласіпеда і каціла яго да сяла ў руках. Па дарозе расказвала старой, што бачыла, што чула ад людзей, што новага на белым свеце. Анфіса ўважліва слухала, ківала ў знак згоды галавой і, як правіла, задавала адно і тое ж пытанне:

— Можа, Мар'ечка, мне што прывезла?

— Не, цётухна, пакуль нічога няма...

З грудзей старой вырываўся кароткі ўздых, губы пшчыльна сціскаліся, і яна крочыла далей моўчкі, паглыбіўшыся ў свае ўласныя думкі.

Аднойчы, цёплым верасscore адвячоркам Анфіса, стоячы на пагорку за аколіцай, заўважыла, што Мар'я-паштарка едзе не спакваля, як звычайна, а гоніць так, як ганяюць на веласіпедах толькі маладыя, не ёй, Мар'і, раўня. Каля бабкі паштарка спынілася і дастала з-за пазухі канверт.

— Вось, вам,— цяжка дыхаючы, сказала яна.

Рукі старой затрэсліся, сэрца балюча сціснулася. Яна ўзяла канверт, патрымала яго, пакруціла і аддала назад Мар'і:

— Пачытай. Толькі давай прысядзем на траўку, а то нешта млосна мне.

Пісьмо было з Беларусі. Прыслалі яго школьнікі з вёскі Малінаўка, што на Міншчыне. На шасці старонках з вучнёўскага сшытка яны падрабязна расказвалі, як адправіліся летам у паход па месцах баявой славы, як знайшлі магілу яе, Анфісінага, сына Пятра Іванавіча Сідарава.

Было гэта так.

Малінаўскія школьнікі даведаліся, што піянерыя рэспублікі арганізуе атрады чырвоных следапытаў. Іх задача — вывучаць гераічнае мінулае сваіх раёнаў, сабіраць па магчымасці розныя гістарычныя дакументы, экспанаты і адкрываць у школах куткі або музеі гераічнага мінулага. Што казаць — задума цікавая. Хлопчыкі і дзяўчынкі Малінаўкі тут жа падхапілі гэту ідэю і арганізавалі атрад чырвоных следапытаў у сябе ў вёсцы. Пачалі з самага простага — адшукалі ўдзельнікаў Кастрычніцкай рэвалюцыі і грамадзянскай вайны і дэталёва запісалі іх расказы. Потым наладзілі сувязь з ветэранамі Айчыннай вайны. Асабліва багаты плён прынеслі піянерам сустрэчы з былымі пар-

тызанамі. У многіх з іх захаваліся пажоўклыя ад часу лістоўкі і падпольныя газеты, зачытаныя да дзірак часопісы «Раздавім фашысцкую гадзіну», адкаваныя ў партызанскай кузні нажы, запальнічкі, зробленыя са звычайных вінтовачных патронаў. Не павыкідалі былыя лясныя салдаты і вопратку, што насілі ў тыя грозныя гады. Яны перадалі юным краязнаўцам шапкі з чырвонымі стужкамі і самаробнымі зорачкамі, старыя гімнасцёркі, задубянелыя рамяні, брызентавыя кабуры, сумкі, у якіх насілі боепрыпасы. А дзядзька Панас, цяпер ужо дзед Панас, удружыў следапытам сапраўдную «кацюшу». Гэта — медная, сплясканая ўверсе, гільза ад снарада, якая замяняла партызанам лямпу. Знайшоў яе дзед не так даўно, калі абыходзіў свой лесніκоўскі квартал і, як заўсёды, наведаў старую зямлянку. Зямлянка абвалілася, і «кацюша» апынулася наверсе.

Піянеры папрасілі Панаса паказаць ім былы партызанскі лагер і неўзабаве адправіліся туды.

Цяпер, праз столькі гадоў, ад лагера амаль нічога не засталося. Але дзед упэўнена паказваў, дзе быў «пішшаблок», іншымі словамі, кухня, дзе жылі радысты, падрыўнікі, камандаванне, дзе рамантавалі зброю і кавалі партызанскія нажы-кінжалы.

Калі вярталіся дамоў, дзед збочыў у поле і паказаў дзецям даволі глыбокую круглую яму.

— Тут во ўпаў і ўзарваўся наш «ястрабок». Упаў не адзін, а разам з нямецкім самалётам. Кружыў ён тут, «ястрабок», аж з-за лесу выскачылі на яго адразу тры «месеры». Ну ён і кінуўся на іх. Аднаго збіў, другога, а трэці ніяк не даецца. Доўга вазіўся, а тады, відаць, раззлаваўся вельмі ды як трахне гэтаму «месеру» прама ў лоб. «З кулямёта»,— пытаеце? Не, страляць, мусіць, не было ўжо чым. Сваім самалётам трахнуў. Так абодва і рухнулі на зямлю. Мы тут не аром і не сеем. Святое месца. Пытаеце, дзе самалёты? Пасля вайны іх на пераплаўку забралі. А лётчыка нашага — мала чаго ад яго засталося — сабралі ў труну і на нашых могілках пахавалі.

— Гэта дзе белы абеліск стаіць?

— Ага. Толькі ніхто так і не ведае імя героя. Усе яго дакументы згарэлі, ну і... Ат, ды што там гаварыць... Вайна, прападзі яна пропадам...

Піянеры сфатаграфавалі месца гібелі героя-зні-

шчальніка, потым сантыметр за сантыметрам пачалі ўважліва аглядаць яму: можа, што знойдзецца? Расхіналі кожны кусцік травы, разграбалі рукамі пясчаныя лысінкі, але, акрамя ўшчэнт заржавелых вінтоў ды асколкаў дзюраля, нічога не траплялася. Сабраліся ўжо ісці, як Андрэйка Заруба крыкнуў:

— Гадзіннік!

Яго абступілі. Гадзіннік быў ужо, канечне, нікуды не годны. Адно, што засталося ад яго,— гэта пачарнелы сярэбраны корпус. Пачалі абскрабаць чарнату. І тут заўважылі гравіроўку.

Калі ў школе настаўнік хіміі апусціў гадзіннік у кіслату, на вечку выступіў надпіс: «Пятру Іванавічу Сідараву ў дзень нараджэння». Несумненна, гэта быў гадзіннік загінуўшага лётчыка. Паслалі чырвоныя следапыты пісьмо аб знаходцы ў Маскву і неўзабаве атрымалі адказ, толькі не з Масквы, а з Сібіры. З яго і даведаліся малінаўскія следапыты адрас маці героя.

Піянеры ад імя ўсёй вёскі вельмі прасілі Анфісу Міграфанаўну прыехаць да іх у госці і расказаць пра сына, якому яны адвялі ў музеі спецыяльны стэнд.

...Скончыла Мар'я-паштарка чытаць пісьмо, і старая адразу паднялася на ногі:

— Пойдзем, Мар'ечка, паможаш мне сабрацца. Паеду я, к сынку свайму паеду. Сёння ж...

— А хата як? Гаспадарка?

— Зноў, як і той раз, папрашу Сцепаніду. Прыгледзіць. Не чужая яна мне, дзякуй богу.

Збіралася Анфіса нядоўга. Надзела ўсё нядзелькавае, паклала ў карзінку сёе-тое з харчоў, дастала з куфра запаветны клунак і — гатова.

— А навошта вы, цётачка, світэр берацe? Можа б, лепш і сапраўды Раману паслалі,— нясмела прапанавала Мар'я.

— Пецьку свайму павязу. Яго — гэта,— ціха прамовіла Анфіса.

Тым часам старшынёўскі шафёр Мішка падкаціў да ганка на «газіку», каб адвезці старую на станцыю. Папрасіла яго аб гэтым Мар'я, бо Анфіса намервалася ісці пешкі. Праводзіць Анфісу, зноў жа па просьбе Мар'і, сабралася ледзь не ўсё сяло. Ад такой увагі старая праслязілася і не магла нават як след развітацца. Горла душылі слёзы. Адно толькі і здолела сказаць:

— Дзякуй, родныя... За ўсё дзякуй...

Тыдні праз два на імя Мар'і-паштаркі прыйшло з Малінаўкі пісьмо. Было яно ад бабкі Анфісы.

«Дарагая мая Мар'ечка!

Сустрэлі мяне вельмі хараша. З кветкамі, з хлебам-соллю. Як толькі прыехала, адразу на Пецькаву магілу завезлі. Вянкоў на яе шмат усклалі, а я палажыла світэр і шкарпэткі. Іх ніхто не чапае, бо магіла сына майго — святое месца тут. Людзі ў Малінаўцы добрыя, сардэчныя. Усе мяне завуць маці. А Пецьку земляком завуць, бо за іхнюю зямлю ён біўся з ворагам, на іхняй зямлі і смертухну сваю спаткаў. Цяпер і для мяне іхняя зямля — мая зямля. Далі тут мне добрую кватэру. І вада ў хаце, і газ, і ацяпленне. Дзеці тутэйшыя, як Пецька мой некалі, ва ўсім памагаюць мне. Так што ехаць мне назад у Загор'е не выпадае. Буду тут, каля Пецькі. А маё ўсё — і хату і гаспадарку — прадай і грошы пашлі Лушцы. Адпішы ёй, каб наняла няньку дзецям. А пенсію за Пецьку перавядзі мне.

Перадай мой паклон Сцепанідзе і ўсім другім. Аддай Сцепанідзе прасніцу і пасуду маю. Сабе вазьмі кабанчыка. Падкачаеш яго трохі, і на каляды свежына будзе. І прышлі мне воўну, што на печы пад столлю вісіць. Буду тут вязаць рукавічкі і шкарпэткі маім памочнікам-дзеткам, якія знайшлі сына майго любага.

Нізка табе кланяюся.— Анфіса Мітрафанаўна Сідарава».

Мар'я прачытала пісьмо і глыбока-глыбока ўздыхнула. У гэтым уздыху, змяшалася ўсё — і смутак, і журба, і светлая чалавечая радасць: маці — ёсць маці, і любоў яе да сваіх дзяцей — вечная.

## СОЛЬ

Кошыкаў не было. А мне да зарэзу патрэбен быў звычайны беларускі кошык, якія плятуць у вёсках народныя ўмельцы з расшчэпленай лазы і ракіты. Кошык мне трэба быў, каб пакласці ў яго нашых цудоўных духмяных антонавак, слуцкіх бэраў, абвязаць даматканым ручнікам і завезці ў Ленінград. Там, у Ленінградзе, паслязаўтра пяцідзесяцігоддзе майго добрага сябра, былога партызана Івана Колесава, з якім не раз глядзелі смерці ў вочы. Ён, інжынер аднаго з ле-

нінградскіх заводаў, прыслаў мне спецыяльнае запрашэнне.

Мы з жонкай доўга думалі, што падарыць чалавеку, сябру, калі яму споўнілася паўвека. Прыгожую сарочку, транзістар, электрабрытву навейшай мадэлі? Не. Усё гэта не тое. Усё гэта ён можа купіць там у сябе, у Ленінградзе. Трэба нешта сваё падарыць, беларускае. І тут нарадзілася ідэя завезці Івану кошык нашых беларускіх яблыкаў.

Кошыкаў жа на базары не было. Ні малых, ні вялікіх. Можна было купіць плеценую кашолку, кардонную або драўляную скрынку, мяшок, што хочаш, толькі не кошык.

Зрабіўшы па базары пяць ці шэсць кругоў, я ўжо рашыў пайсці дамоў, як раптам убачыў кошык. Ён стаяў на базарным прылаўку і ў ім бурштынам адлівалі буйныя, спелыя,— здаецца, кальні іголкай — сок пырсне,— антонаўкі. З горкай, з каптуром.

Я падняў вочы і ўбачыў уладальніцу гэтага скарба, жанчыну гадоў сарака-сарака пяці, з прыветлівай усмешкай на твары.

Жанчына аказалася някепскім псіхолагам, бо адразу спытала:

— Падабаецца?

— О, гэта якраз тое, што я ўжо гадзіну шукаю,— паспешліва адказаў я і пачаў блытана расказваць, што да чаго.

— Ладна, бярыце ўжо. Хай сабе і кошык вам будзе,— шырока ўсміхнулася яна.

Я схапіў кошык, працягнуў ёй дзесятку і ледзь не бягом кінуўся да выхада.

— Мужчына! — спыніў мяне патрабавальны голас.— Хадзіце назад.— На мяне глядзелі добрыя і разам з тым строгія вочы.— Вы мяне крыўдзіце. Яблыкі каштуюць пяць рублёў, а кошык я вам дару. Разумееце? Так што бярыце бясплатна.

— Але ж...

— Ніякіх але. Я не з-за беднасці прадаю. Проста хочацца прынесці людзям кропельку радасці. Вы хоць трошкі рады?

— Ого! Яшчэ як! Вялікі дзякуй вам.

— Ну вось і добра.— І зноў гэтыя вочы, усмешлівыя і строгія, добрыя і праніклівыя.

Дзе я іх бачыў?

Не, гэтай жанчыны я ніколі не сустракаў, не бачыў. А вочы? Вочы бачыў. І не адзін раз, і не здалёк, а блізка-блізка.

Дзе? Калі? Пры якіх абставінах?

Мроіцца? Здаецца? Супадзенне?

Магчыма.

Хіба мала людзей на свеце, у якіх аднолькавыя вочы, постаці, урэшце, насы, вусны? Хіба так ужо рэдка даганяем мы на вуліцы знаёмага ці знаёмую і, дагнаўшы, зазірнуўшы ў твар, расчаравана сцішваем крок? Памылка.

Можа, і тут памылка?

Не, не можа быць. Вочы, да болю знаёмыя вочы, сінія, з дабратой і строгасцю, з пранікнёнасцю і разуменнем чалавечай душы.

Дзе я іх бачыў? Калі сустракаў? Можа, тады?..

...Тады, у першай палове ліпеня сорак чацвёртага года, калі ішла блакада, нас, чацвярых цяжка параненых партызан, выпадкова знайшлі жыхары Падстрэжжа і перанеслі ў «вёску». «Вёска» я пішу ў двукоссі таму, што само Падстрэжжа было спалена карнікамі і людзі пабудавалі ў лесе зямлянкі. У іх і жылі. Нас змясцілі ў зямлянцы, на дзвярах якой фашыст «распісаўся» аўтаматам. Гаспадары загінулі, зямлянка пуставала, вось яе нам і аддалі. Былі нары, каб спаць, была ў бадзейцы вада, каб не пакутаваць ад смагі, была запальнічка, каб можна было распальваць вогнішча. Не было толькі... солі. Так, так, звычайнай, як яе называюць, паваранай солі. Бо такая-сякая яда — заечая капуста, крапіва, іншы раз бульба,— праўда, усё гэта нішчымнае — бывала. Але ж усё несалёнае. І яда была не ядой.

Вось тады і прынеслі да нас у зямлянку абстрыжаную нагала дзяўчынку год трынаццаці-чатырнаццаці. Яе таксама знайшлі выпадкова, на выспе сярод балота. Яна была настолькі абяскроўленая, схуднелая, што толькі можна было дзіву давацца, як яшчэ цепліцца ў ёй жыццё.

Мы, чатыры хлопцы, не згаворваючыся, уступілі ёй самае лепшае месца, ля акенца, падаслалі ёй свае кажухі, каб было мякка, споўзалі ў лес і нарвалі пад галаву сухога моху.

Першае, што мы пачулі ад дзяўчынкі, гэта:

— Солі... Дайце мне драбок солі...

Мы знալі, што гэта такое. Зналі па сабе. І Мікола Грак выпаўз з зямлянкі і стрэльнуў у неба. Прыбег камендант Падстрэжжа, стары, кульгавы Даніла з неразлучнай трохлінейкай на плячы.

— Што здарылася? — устрывожана запытаўся ён.

— Солі!..— выгукнуў Мікола.— Інакш дзяўчынцы — канец.

— Будзе зроблена! — стукнуў крывымі абцасамі дзед і... не варухнуўся з месца. Нешта шаптаў сам сабе, удараў парэпаным пальцам па лбе, моршчыўся, хмурыўся, потым трушком пабег ўздоўж зямлянак.

Вярнуўся ён праз паўгадзіны, успацелы, задыханы, але задаволены.

— Вось,— працягнуў ён Міколу пакуначак.

Мы разгарнулі яго і ўбачылі... соль. Чорную, буйную соль. Грамаў, можа, пятнаццаць ці ўсе дваццаць.

Мікола ад радасці схапіў сваю аўтаматычную вінтоўку — «сэвэтушку» і пусціў у неба аж пяць куль. А я выхапіў ад яго пакуначак і, кінуўшы ў конаўку, зробленую з гільзы снарада, некалькі драбкоў солі, размяшаў і паднёс дзяўчынцы:

— Выпі.

Дзяўчынка выпіла, зажмурылася, потым шырока расплюшчыла вочы і сказала:

— Дзякуй. І не глядзі на мяне так. Цяпер я буду жыць. Доўга-доўга... Ну? Чаго глядзіш? Думаеш, маленькая? А мне ўжо семнаццаць. Разведчыцай была ў «Штурме». Ленай завуць.

— Лена? — не паверыў я.

— Лена.

Я ведаў Лену-разведчыцу. Добра ведаў. Не раз даводзілася сустракацца з гэтай русавалосай, вясёлай дзяўчынкай на дыверсіях. Ні разу не бачыў, каб яна паддалася паніцы або ўцягнула галаву ў плечы. У яе сініх смяшлівых вачах у час небяспекі з'яўляўся нейкі сталёвы рашучы бляск і ўпарты спакой, і яна магла адстрэльвацца, не адыходзячы, да апошняга патрона.

А цяпер Лена з намі, у адной зямлянцы. Мы, параненыя, «нехадзячыя», і яна... Хвілiначку, а ў яе ж як быццам ногі цэлыя...

— Во... расшпіліла Лена кофтачку.

На яе грудзях былі тры цёмныя кропкі.

— З аўтамата...— Сінія вочы Лены да краёў напоўніліся слязьмі.— Сэрца, канечне, не закрануў, гад, а

лёгкія, відаць, прастрэлены... Дыхаю, дыхаю, а ўсё ніяк паветра не хапае.

— Дык і ў мяне ж такое,— паспяшаўся я супакоіць Лену.— Гэта ад знясілення, ад галадоўкі доўгай. Колькі ты праляжала на выспе, пакуль знайшлі цябе?

— Не ведаю. Тыдні, мусіць, два...

— Ела што-небудзь?

— Дзе там,— Лена слаба махнула рукой.— Бачыш, якая стала? Высахла на костку. Ты ж мяне за падростка палічыў, не пазнаў нават, а мне ў жніўні семнаццаць будзе... Хіба такой мне трэба быць?..

— Нам бы тлушчаў цяпер, хоць бы алею якога, ох і хутка ж усталі б на ногі...

— Летуценнік ты, Пеця,— спагадліва ўсміхнуліся яе вочы.— Як дзіця малое гаворыш, а табе ж ужо васемнаццаць.

— Таму і разумею ўсё. Чуеш, як зямля стогне, не, не стогне, а гудзіць, весела гудзіць? Нашы да Бярозы падышлі, фарсіруюць, хутка тут будуць. Нам толькі пратрымацца. А тады... Эх і жыццё пачнецца, Ленка!

— Жыццё? — Сінія вочы зноў наліліся слязьмі.— Хіба гэта жыццё, калі ляжыш вось так, як палка, і не можаш адпомсціць ні за маму, ні за сястрычак. А я паклялася... сама сабе, бо іх ужо няма... Збіралася да самага Берліна ісці, біць гадаў, біць, біць!

З-за дзвярэй гукнуў хрыпатым голасам Мікола:

— Гэй вы, філасофы, есці гатова!

Я памог злезці Лене, і мы пачалі дабірацца да вогнішча, над якім весела паравала поўнае вядро заечай капусты ▪ бульбай.

Мікола Грак зняў яго і паставіў пад куст ў цянёк.

— Рыхтуйце зброю.

Мы дасталі лыжкі, выцерлі іх, нарыхтавалі кацялкі.

— Першай даю нашай даме,— урачыста аб'явіў Мікола і кульнуў варыва прама з вядра ў кацялок Лены. Потым наліў нам. А сам ашчаперыў вядро нагамі і сказаў: — Апошняму або лепш, або горш. Хай мне будзе горш.

Лена зачарпнула адну лыжку, другую і хваравітымі вачыма паглядзела на Міколу:

— Грак, міленькі, дай хоць драбок солі. Ну прашу цябе...

Мікола паказаў рэдкія жоўтыя зубы і адказаў, быццам адсек:

— Жыва будзеш і так. Еш во, папраўляйся. А то не чалавек, а палка.— І плюнуў.— Солі захацела... А заўтра?..

Лена заплакала. Ціха, без слёз, амаль непрыкметна. Але мы ўсе ўбачылі, а правільней, зразумелі, што Лена плача.

Кінуў лыжку Валодзька Мацук, не данёс да рота Ваня Колесаў, з усяе сілы зацінуў у руцэ лыжку і я. Зацінуў і папоўз да Міколы. Не ведаю, што ён прачытаў на маім твары, але як толькі глянуў, адразу сарваў з галавы шапку, дастаў з яе і шпурнуў мне ў калені пакуначак з соллю і паспешліва пашыбаваў у лес. Соль рассыпалася. І мы ўчацвярых па дробачцы, па крышталіку збіралі і асцярожна складалі яе на анучыну. Калі сабралі ўсё, Лена аблізала пальцы і вінавата паглядзела на нас. Валодзька зліў варыва з кацялкоў назад у вядро, высыпаў туды ўсю соль і пачаў мяшаць.

Мы не дыхалі, чакалі, што [redacted] усяго гэтага атрымаецца.

А потым... Потым акружылі вядро і чэрпалі, чэрпалі, пакуль не пачалі чапляць за дно...

І тут Лена спыніла нас:

— Хопіць. Трэба Міколу пакінуць.

— Міколу? — вырвалася ў Валодзі.

— Так, яму,— вочы Лены зрабіліся строгімі.— Можа, ён сэканоміць хацеў? Для ўсіх нас. Ясна табе?

— Куды ўжо ясней,— неахвотна выцер лыжку Валодзя.

Мы таксама, не спяшаючыся, схавалі сваю «зброю».

...Даўно гэта было, у далёкім сорак чацвёртым. А цяпер сямідзесятыя. Колькі часу прайшло, а ўсё помніцца, да апошняй драбніцы. І вочы помняцца, Ленiны вочы. Вось гэтыя, што глядзяць на мяне цераз прылавак, дапытлівыя і цікаўныя, рашучыя і нясмелыя...

Спытаць ці не спытаць? А раптам — памылка? Ну і што, калі памылка? Папрашу прабачэння і — бывай здарова. Тут сустрэліся, тут і разыдземся. Падумаеш, такой бяды!

— Лена! — ціха сказаў я.

Жанчына хіснулася, потым устала з лаўкі і працягнула да мяне рукі:

— Пе-е-ця! Родненькі! Родненькі мой Пецечка! — Голас яе звінеў, дрыжаў.— А я ўсё гляджу і ўспамінаю, успамінаю, дзе я гэтага чалавека бачыла, дзе сустракала? Ты ж тады з вусікамі хадзіў, хоць і малады, валасы цёмныя, кучаравыя, а вусікі, як агонь, рыжыя-рыжыя...— і залілася шчаслівым смехам.

— Дзе ты, што ты? — узяў я Лену пад руку.

— Ды тут, побач, адразу за горадам. У саўгасе жыву. Жыву і працую. Дом добры, сад цудоўны. Садавіны дык дзяваць няма куды. Вось іншы раз вазьму і прывязу кошык-другі на базар. Не для грошай, і так хапае. Проста прадаю за бясцэнак, каб спекулянтам трохі насаліць. Ды дзе ты іх перасіліш... Ну, вось што, паедзем да мяне... Дам табе яшчэ яблыкаў, бэр насыплю. І не бойся. Дома ў час будзеш. Сама завязу. Машын у нас хапае...

Да вёскі, дзе жыла Лена, і сапраўды было недалёка. Спідометр налічыў усяго толькі восем кіламетраў.

У Лены дом аж на два паверхі. На гарышчы — летнія пакоі, унізе — зімовыя. Тэлевізар, радыёла, газавая пліта, водаправод, цэнтральнае ацяпленне.

— Ого! — вырвалася ў мяне.— Жывеш нібы пані тая.

— А чаму і не? Толькі пані працаваць не любілі, а я люблю,— адказала Лена і падвяла мяне да дывана, на якім зверху побач з партызанскімі ўзнагародамі быў прыколаты ордэн «Знак пашаны».— Гэта за працу ў саўгасе.

— Віншую! — шчыра паціснуў я шурпатую руку Лены.— А муж твой хто?

— Хто? Тут, у саўгасе працуе. Інжынер — залатыя рукі. Толькі,— вочы Лены раптоўна пацямнелі,— толькі цяжка мне з ім, Пеця. Ён жа ўсю вайну працаваў недзе на Урале, па броні, і нашага партызанскага жыцця ні каліўца не разумее. Як зойдзе гаворка пра тыя часы, ён толькі рукамі адмахваецца. «Кінь, маўляў, глупства. Хаваліся во па лясах, чакалі, пакуль нашы прыйдуць, ды тлушч наганялі». Во як ён глядзіць на наша змаганне, на пралітую намі кроў... Ды вунь, дарэчы, ён сам ідзе. Пагавары, сам пераканаешся...

Па-гаспадарску зашчапіўшы брамку, да ганка набліжаўся невысокі шчуплы мужчына ў цёмным гарнітуры. Твар яго быў стомлены, паходка такая, што, здавалася, чалавек адмераў ужо добрых дваццаць кіламет-

раў і ні разу не адпачываў. Пад пахай у яго быў ладны пакунак, загорнуты ў газету.

Нейкім абыякавым позіркам кінуў ён на мяне, абыякава працягнуў руку: «Васіль» — і стомлена апусціўся на табурэтку.

— Збяры што-небудзь перакусіць,— не гледзячы на жонку, сказаў Васіль.

— Сама знаю,— бліснулі на яго Леніны вочы.— Што гэта ты прынёс? — паказала на пакет.

— Ды соль. Бачыш, забываўся, забываўся і нарэшце ўсё-такі прынёс.— Твар мужчыны крыху ажывіўся.— Закладвай цяпер свае памідоры.

— Перасып у сальніцу,— коратка распарадзілася Лена.

Сальніца — драўляная, вялікая, на два аддзяленні. У адным на самым донцы белая дробнапамолатая сталовая соль, у другім кухонная, буйная, цемнаватая.

Васіль распячатаў пачку «Экстры» і сыпануў у аддзяленне, дзе была сталовая соль.

— Да купы,— сказаў ён.

Потым раскрыў пачак кухоннай і пачаў сыпаць у другое аддзяленне. Увесь пачак не змясціўся, і Васіль, скамячыўшы яго, кінуў рэшткі ў вядро са смеццем.

— Ты што? — Лена нібы скамянела. Сінія вочы яе акругліліся, застылі.— Ты што, Вася, здурэў? Гэта ж соль. Разумееш? Соль! — з цяжкасцю выдыхнула яна.

— Хм, соль. Шэсць капеек пачак, і шкада? Садавіну на дзесяткі рублёў бясплатна раздаём і не шкадуем, а тут нейкія няшчасныя капейкі,— аж пачырванеў ад абурэння Васіль.

— Дык то ж садавіна, а гэта — соль,— ціхім галасам прамовіла Лена.— Ты разумееш? Не?.. Я ж табе расказвала. Ці забыўся ўжо?

— Крахаборства гэта, вось што! — ужо раздражнёна рэзнуў Васіль.

— Не, Васіль,— падняўся я з месца.— Не крахаборства гэта. Гэта — боль душы, гэта — водгулле тых чорных дзён, і яно будзе трывожыць нас усё жыццё да самага скону. І гэта трэба паважаць.

Не ведаю, зразумеў мяне Васіль ці не зразумеў, але пачак з рэштай солі ён з вядра выняў і, беражліва абтросшы, паставіў у кухонную шафу.

## ФЕДЗЕВА ГАРА

Непадалёк ад нашай Альшэўкі, прыкладна за кіламетр, ёсць гара. Ну, не зусім гара, не такая, якія ёсць, скажам, на Каўказе ці Урале, але ўзгорак даволі высокі, з крутым пясчаным адхонам у бок вёскі і прыгожым сасновым борам, які паката спускаецца на другі бок. Адсюль пачынаюцца нашы славутыя, вядомыя далёка за межамі раёна, Сыманаўскія лясы.

Зімой гара — самае любімае месца нашых забаў. Тут мы будуем са снежных цаглін трамплін і вучымся «лятаць» на лыжах, тут, расставіўшы па касагоры вешкі, асвойваем майстэрства слалама, тут заліваем ледзяны спуск і са свістам, пераганяючы вецер, раз за разам праносімся ўніз на санках. Словам, зімой тут заўсёды стаіць вясёлы тлум, заўсёды поўна дзетвары. Асабліва ў выхадныя дні. Але і вясной, і летам, і ўвосень гара наша не можа паскардзіцца на бязлюддзе, бо ў любую пару года яна ўмее чым-небудзь прывабіць да сябе: то раннімі кветкамі — пралескамі, то буйнымі салодкімі суніцамі, то крамянымі прыгажунамі — баравікамі.

Да вайны гару нашу называлі Лысай. Так яна і на падрабязных геаграфічных картах абазначана — Лысая. Горы з такой назвай ёсць у шмат якіх месцах Беларусі. Даўней на іх у канцы чэрвеня, а дакладней на Івана Купалу, збіралася моладзь, паліла вогнішчы, вадзіла карагоды і спявала купальскія песні. Так расказваюць старыя людзі.

Цяпер жа гара круглы год, як я ўжо казаў, наша царства, царства вясковай дзетвары. І даўно ўжо, з часоў апошняй вайны, не завуць у акрузе гару Лысай. Далі ёй людзі другую назву — Федзева. Федзева гара.

Чаму Федзева — пра гэта я і хачу расказаць. Першы раз з імем Федзі я сустрэўся, як толькі навучыўся чытаць. Было гэта яшчэ ў першым класе. Я тады спыніўся ў школьным вестыбюлі каля высокай, да самай столі, мармуровай пліты, на якой зверху золатам было высечана: «Нашы вучні, якія загінулі ў час Вялікай Айчыннай вайны», а далей ішлі імёны і прозвішчы. Спыніўся і прачытаў: «Федзя Альшанік. 1930—1942». А пазней, калі я быў ужо ў трэцім класе і нас прынялі ў піянеры, наш атрад, як лепшы па вучобе і дысцыпліне, атрымаў права насіць імя Федзі Альшаніка.

Мы ўсе вельмі ганарыліся гэтым, бо пра подзвігі Федзі ў час вайны сярод людзей хадзілі цэлыя легенды. I самае галоўнае — не было ў гэтых легендах ні кропелькі выдумкі, а была адна чыстая праўда, праўда, якую добра помнілі яго былыя сябры і паплечнікі і якую шанавалі як святыню.

Некаторыя з паданняў пра Федзю расказаў нам па нашай просьбе настаўнік фізікі Іван Дзянісавіч. Тады, у вайну, ён быў старэйшы за Федзю, але моцна дружыў з ім. Разам яны збіралі зброю, разам меркавалі пайсці ў партызаны. Івану Дзянісавічу гэта ўдалося, а Федзю...

Але не буду забягаць наперад.

...У час акупацыі ў нашай вёсцы размяшчаўся нямецкі гарнізон. Ён кантраляваў пэўны ўчастак шашы, што праходзіць на Мінск. У Сыманаўскіх лясах тады ўжо мелі базы некалькі партызанскіх атрадаў. Партызаны рабілі дзёрзкія налёты на варожыя аўтакалоны, палілі масты, мініравалі шашу, грамілі гарнізоны. Акупанты вельмі баяліся партызан і таму перагарадзілі небяспечныя падыходы да Альшэўкі калючым дротам, пабудавалі вакол вёскі доты, паставілі вартавыя вышкі з кулямётамі. Самую высокую, такую высокую, каб з яе была добра відаць і прастрэльвалася Лысая гара, кулямётную вышку фашысты паставілі з боку лесу. Яна тырчала над наваколлем, нібы скула ў баку. Альшэўцы пазіралі на яе з нянавісцю, бо яна наглуха адгарадзіла вёску ад лесу — ні табе ў ягады схадзіць, ні ў грыбы, а час жа галодны, акупанты ўсе засекі ў людзей падчыстую падшкрэблі. Мала таго, дык і па дровы ў лес гэта праклятая вышка не пускала. Прыходзілася людзям пускаць на паліва платы ды непатрэбныя ў той час хлеўчукі. Здавалася, каб не стала той вышкі, намнога лягчэй жыццё б пайшло. Гэта, вядома, наіўна, але менавіта так думаў шмат хто. Так думаў і Федзя. I засвярбелі ў хлопца рукі, пачаў ён прыкідваць і так і гэтак, як лаўчэй зваліць яе, праклятую. Ірвануць бы як след, узняць у паветра ды шлёпнуць так, каб рассыпалася на друзачкі. Але вось бяда — ніяк да вышкі не падступішся, ні табе вечарам, ні днём. Наблізішся, а адтуль ужо крык: «Хальт, цурык! Назад!..» Паспрабуй тут шашку толавую падкласці...

Не, трэба пайсці на нейкую хітрасць. Зрабіць усё так, каб і вышку зваліць, і на вёску бяды не наклікаць.

Словам, правесці аперацыю так, каб сам камар носа не падтачыў.

Неяк раз, правяраючы ў пуньцы, ці на месцы яго «арсенал» — так называў Федзя невялікі тайнік, у якім хаваў знойдзеныя ля шашы тол, бікфордаў шнур і ўзрывацелі,— ён выпадкова намацаў пад сенам куфэрак. Адкрыў вечка і аж прысеў ад здзіўлення: у куфэрку ляжала некалькі кавалкаў старога пажоўклага сала. Канечне ж, гэта маці схавала ад сквапнага вока гітлераўцаў ды паліцаяў. Бо каб стаяла сала ў хаце ці ў кладоўцы, даўно б яго ўжо не было, нават на затаўку не засталося б.

Яшчэ не зусім усведамляючы, для чаго гэта робіць, Федзя дастаў сцізорык і адхапіў ладны кусман. У хаце ўпотай ад маці загарнуў сала ў паперу, сунуў у кішэню і куляй вылецеў за парог. Ён ужо ведаў, што панясе сала немцу, таму самаму вусатаму, які кожны дзень на досвітку забіраецца на высокую вышку. Так трэба. Немцы прагныя да беларускага сала і ад вышкі яго, Федзю, з такім пачастункам, не патураць.

І праўда, варта было яму памахаць у паветры пакуначкам з салам, як на вышцы бліснулі шкельцы бінокля і адразу ж прагучаў лагодны голас: «Ком. Ідзі тут!» Федзя ваўёркай узляцеў па драбінах наверх і перадаў вусатаму таўстуну свой пакунак. Немец хуценька сунуў сала ў ранец, а ўзамен працягнуў хлопчыку тры цыгарэты. Потым дастаў запальнічку і даў прыкурыць. Федзя пацягнуў і адразу закашляўся. Вартавы задаволена зарагатаў: «Карош, рус. Морген заўтра яйкі!» — «Гут, пан!» — паабяцаў хлопчык.

Вечарам, зачыніўшыся ў хляве, ён майстраваў з толавых шашак міну. Як гэта рабіць, ведаў, бо на сваевочы бачыў, калі летась немцы глушылі рыбу ў рацэ. Хлопчык моцна звязаў провадам дзве толавыя шашкі, уставіў у адну з іх запал, а ў запал — ладны кавалак бікфордава шнура. Свабодны канец шнура наўскасяк абрэзаў.

Назаўтра Федзя зноў быў на вышцы. Ён перадаў вусатаму пяць яек, падрыхтаваных употайку ад маці яшчэ вечарам. Той зноў сунуў узамен тры цыгарэты, даў прыкурыць і папрасіў яшчэ прынесці сала. «Будзе табе, пан, сала...» — паабяцаў хлопчык і пакаціўся ўніз па лесвіцы. На хаду падпаліў ад цыгарэты шнур,

падвесіў міну да цэнтральнай апоры і кумільгом памчаўся да бліжэйшага хлява.

Гледзячы, як хутка мільгаюць яго парэпаныя пяткі, немец задаволена рагатаў: «Карош, рус!»

«Будзе табе «карош», душагуб пракляты»,— затаіўшыся за вуглом хлява і з заміраннем сэрца чакаючы выбуху, злосна шаптаў Федзя.

І вось яно! Бліснула, аглушальна грымнула. Нібы саломінкі, разляцеліся ў бакі тоўстыя жэрдзі. Мяшком чмякнуўся на крушню вартавы з кулямётам. І не стала над Альшэўкай самай высокай вышкі. І не стала разам з ёй яе вусатага гаспадара — вялікага аматара чужога сала і яек...

Пагоня на Лысую гару нічога немцам не дала. «Партызан» аказаўся няўлоўным.

Было і другое.

З лёгкай Федзевай рукі аднойчы сярод белага дня раптоўна шуганула полымя над гарнізонным складам. На гэты раз узарвалася новая Федзева «міна» — звычайная бутэлька бензіну і ладны кавалак бікфордава шнура. Немцы спахапіліся толькі тады, калі ўжо нічога нельга было выратаваць — ні прадуктаў, ні боепрыпасаў.

Добра помняць старажылы Альшэўкі і выпадак, як пры выездзе з вёскі легкавушка нейкага важнага начальніка ні з таго, ні з сяго вільнула ў адзін бок, у другі і няўклюдна плюхнулася носам у глыбокую прыдарожную канаву. Аказалася, што на дарозе перад мосцікам ляжала замаскіраваная дошка з мноствам вострых цвікоў. Афіцэр, з цяжкасцю выбраўшыся з канавы на сухое, у шаленстве тупаў нагамі, [illegible] Федзя здаля, [illegible] кустоў, глядзеў на яго і толькі пасміхаўся.

Аперацыя прайшла ўдала.

Бяда насцігла хлопчыка тады, калі ён менш за ўсё чакаў яе. Быў пярэдадзень Першамая. Заўтра вялікае свята. І, канечне ж, яго трэба ўрачыста адзначыць. Але як? Федзю ўспомнілася, як адзначалі ў вёсцы Першае мая перад вайной. Усюды лозунгі, плакаты, зялёныя гірлянды з дзеразы і цэлае мора чырвоных сцягоў... Прымацаваныя да кожнай хаты, да слупоў і брамак, яны запаўнялі ўсё наваколле. Ад іх трапяткой чырвані на душы станавілася так светла і радасна, што хацелася спяваць, падскокваць, смяяцца...

«А чаму б і цяпер, у вайну, не адзначыць свята Першамая чырвоным сцягам?» — падумаў Федзя. Падумаў і адразу зразумеў, што гэта ўжо не проста думка, меркаванне, а канчатковае рашэнне. Так, ён адзначыць свята Першамая чырвоным сцягам. На злосць фашыстам, на радасць савецкім людзям.

Сцяг у яго ёсць, правільней, будзе. Калі да вёскі наблізіліся немцы, ён вынес з піянерскага пакоя і захаваў лозунг, напісаны на чырвоным палотнішчы. З яго і пашые сцяг.

Толькі дзе ўмацаваць яго? Позірк хлопчыка спыніўся на прыгажуні-бярозе, што ўзвышалася над Лысай гарой. Яна была відаць адусюль. Да вайны на гэтай бярозе кожнае лета жылі буслы. Але фашысты іх пастралялі, і цяпер буслянка на вярхушцы пуставала. Вось там, на буслянцы, ён і ўмацуе свой сцяг. Яго ўбачаць усе, і радасць прыйдзе к людзям, абудзяцца ў іх спакутаваных душах светлыя спадзяванні...

Вечарам, калі пачало змяркацца, Федзя выйшаў з дому і прыслухаўся. Было ціха. Толькі ў тым канцы Альшэўкі разы два рыпнуў калодзежны журавель, ды над заквітнелай вішняй з лёгкім гудзеннем праносіліся хрушчы. Пастаяўшы нейкі час і добра агледзеўшыся, хлопчык узяў кірунак на загуменне. Адсюль амаль да самай Лысай гары цягнулася старая мяжа, парослая высокім быльнягом. Калі ісці паўз яе, могуць з вёскі ўбачыць, калі паўзці, ніякі чорт не заўважыць.

І Федзя папоўз, абапіраючыся на локці. Паўзці было нязручна, а галоўнае, вельмі марудна. Падняцца б на ўвесь рост ды прыпусціць бягом. За пяць мінут дасягнуў бы гары. Але няможна. Яшчэ светлавата, і фашысты ў дотах не спяць...

Калі мяжа кончылася, хлопчык дазволіў сабе сесці. Вёскі ў загусцелым змроку ўжо амаль не было відаць, толькі па смутных абрысах на фоне неба можна было ўгадаць, дзе хаты, а дзе дрэвы прысад. Значыць, можна ісці.

Бяроза сустрэла Федзю лёгкім пошумам маладзенькай яшчэ клейкай і кволай лістоты. У ім, гэтым пошуме, хлопчык пачуў нейкую насцярожанасць. І сам насцярожыўся, навастрыўся... Вусцішна ўсё-такі аднаму на ўзлессі, калі вакол зыбучая цемра. Лепей было б, каб узяў з сабой Дзянісавага Івана.

«Эт! — махнуў рукой.— Сам задумаў, сам і даводзь справу да канца, баязлівец няшчасны!..»

Узлезці на бярозу для Федзі бадай нічога не значыла, хаця была яна і тоўстая, і без адзінага ёмкага сука ўнізе. Не на такія дрэвы даводзілася яму лазіць, калі хадзілі з хлопцамі бурыць вароніны гнёзды. Надзеў рэмень на ногі, ямчэй ухапіўся за ствол і — наверх. Вось толькі крыху дрэўка перашкаджае, чапляючыся за галіны.

Буслянкі хлопчык дасягнуў за лічаныя мінуты. Акінуў поглядам ахутанае сінім змрокам наваколле і, не спяшаючыся, прымацаваў да буслянкі дрэўка сцяга. Потым акуратна расправіў палотнішча, пасядзеў, паслухаў, і, нічога не пачуўшы, пачаў спускацца ўніз.

Сэрца Федзі гулка білася ў радасным узбуджэнні. Ён уяўляў сабе, як заўтра раніцай альшэўцы будуць глядзець на Лысую гару і ціха радавацца. І як будуць шалець ад лютасці фашысты і іх прыслужнікі — паліцаі.

Ухапіўшыся за апошні сук, хлопчык злёгку гайдануўся і скокнуў на зямлю. Саскок атрымаўся няўдалы. Левая нага падвярнулася, і ўсё цела Федзі працяў пякучы боль. Сам таго не жадаючы, хлопчык войкнуў.

У той жа час зусім блізка пратрашчала кулямётная чарга. Над Федзевай галавой пранесліся светлячкі трасірных куль.

Засада!

Хлопчык ірвануўся, паспрабаваў падхапіцца, каб кінуцца наўцёкі, але нага нібы праваліласл некуды ў яму. Ля вуха зноў дзынкнулі кулі. Не ведаючы, як быць, Федзя прыціснуўся да шурпатага ствала бярозы. Ад сасонніка пачуўся цяжкі тупат.

— Хальт! Стой!

Хлопчык варухнуўся. І тут нешта вострае балюча апякло грудзі. У вачах ярка ўспыхнулі маланкі, і ён паляцеў у чорную бездань...

Хаваць Федзю на могілках немцы не дазволілі.

— Няхай валяецца, як сабака! — загадаў камендант гарнізона.

Толькі праз некалькі дзён альшэўцы крадком пахавалі Федзю. Пахавалі тут жа на Лысай гары, на маляўнічай паляне, якая падковай удаецца ў векавечны сасновы бор.

Нямой сведкай трагічнай смерці Федзі стаіць белая

бяроза. Яна пастарэла, але не перастае самотна шумець, як быццам расказвае пра былое. Пасля вайны на ёй зноў пасяліліся буслы...

І адразу пасля вайны Лысую гару людзі сталі называць Федзевай.

...Аб падрабязнасцях гэтага апошняга подзвігу Федзі Альшаніка мы і пачулі ад Івана Дзянісавіча, калі прыйшлі аднойчы напярэдадні Першамая ўсім атрадам на Федзеву гару.

З таго часу ў нас стала правілам кожны год за дзень да свята праводзіць тут маёўкі. У першую чаргу мы старанна даглядаем Федзеву магілу, дзе цяпер бялее помнік-абеліск. Сродкі на ўзвядзенне яго збірала ўся вёска. А потым распальваем касцёр і дэкламуем вершы, спяваем песні, танцуем. Гэта ў памяць аб Федзю, аб яго слаўным гераічным жыцці.

Над нашымі галовамі самотна шуміць і шуміць старая белая бяроза.

А на ёй клякочуць буслы.

## СУТЫЧКА

Снегу выпала многа. Ён быў мяккі, пушысты і такі асляпляльна белы, якім бывае ў горадзе толькі свежы снег. А галоўнае — снег добра ляпіўся. У гэтым Валька ўпэўніўся, калі прасунуў руку ў фортачку і набраў яго з птушынай кармушкі цэлую жменю.

Валька апрануў старую шубку, з якой даўно ўжо вырас, насунуў на ногі валёнкі і выйшаў на двор. Паглядзеў туды-сюды, нікога з дзяцей на двары не было.

Сумнавата, канечне, гуляць аднаму. Цяпер бы самы раз паклікаць каго-небудзь. Ды як пазавеш, калі на гэтым двары Валька нікога яшчэ не ведаў. Справа ў тым, што пераехалі яны — Валька, яго старэйшы брат Пецця і бацькі — у гэты раён толькі пазаўчора. Пераехалі часова, пакуль у іхнім доме зробяць капітальны рамонт — гэта значыць, новую падлогу пасцелюць, новыя аконныя рамы ўставяць, занава ўсё пабеляць, пафарбуюць.

Бацькі былі трохі не задаволены сваім часовым прытулкам — цесна, маўляў, няма ніякіх выгод,— але Валька на гэта не зважаў. Яму тут падабалася нават

больш, чым на старой кватэры. Хіба там двор? Не двор, а нейкі мяшок каменны з дзіркамі-пад'ездамі. А тут вунь які прастор! Нават на лыжах катацца можна, не выязджаючы за горад. І відаць адсюль далёка-далёка навокал, не тое што нейкі там кавалачак неба над галавой.

Валька ўздыхнуў на поўныя грудзі, надзеў рукавіцы і пачаў ляпіць снежную бабу. Па праўдзе кажучы, работа гэтая не для аднаго. Але што парадзіш, калі нікога больш няма. Не стаяць жа склаўшы рукі.

Скачаў Валька першы ком і добра такі запыхкаўся. А яшчэ ж трэба скачаць другі, трэці, ды падняць іх, ды паставіць адзін на адзін. Ці справіцца ён, Валька, з такой задачай, калі ніхто не падыдзе? Можа, лепш махнуць на гэту задуму рукой ды стаць на лыжы? Але ж шкада. Заўтра, а мо і сёння к вечару такога ліпучага снегу ўжо не будзе. Ціскане мароз, хоць і невялікі, і ўсё...

Падумаў так Валька і ўзяўся качаць другі ком. Падкаціў да будучай бабы і разагнуўся адсопваючыся. І тут над самым яго вухам пачуўся тоненькі галасок:

— Можа, памагчы?

Валька азірнуўся і ўбачыў перад сабой дзяўчынку. Яна была ўся чырвоная. Чырвоная шапачка, чырвонае паліто, чырвоныя шаравары. Нават кірпаты нос і круглыя шчокі і тыя былі чырвоныя.

— Давай памажы,— памяркоўна згадзіўся Валька.

Яны ўдваіх хаця і з вялікай натугай, усё ж ускацілі другі ком на першы. Чырвоная дзяўчынка абтрэсла паліто і запыталася:

— Як цябе завуць?

— Валька. А цябе? — у сваю чаргу запытаўся Валька.

— Лена.

— Ты таксама тут часовая? — пацікавіўся хлопчык.

Лена не зразумела яго:

— Як гэта часовая?

Валька растлумачыў.

— Не,— засмяялася Лена,— мы тут заўсёды-заўсёды жывём.

— І ты ўсіх тут ведаеш?

— Ну.

— Тады кліч сюды сваіх сяброў,— узрадаваўся Валька.— Весялей будзе.

Але нікога клікаць не трэба было. Дзеці самі высыпалі з дамоў.

Неўзабаве вакол Валькі і Лены стаяў ужо вясёлы смех і гоман. Проста на вачах пачалі расці яшчэ дзве снежныя бабы.

— Хто хутчэй!

— Давай націскай!

— Гэ-гэй, з дарогі, падтапчу!..

— Моркаўку нясі, моркаўку хутчэй!

— Санька, бяжы за дом, там старая мятла валяецца...

Гэтыя воклічы, перагаворы зліваліся ў суцэльны тлум.

Усе тры снежныя бабы атрымаліся амаль аднаго росту, і цяпер дзеці стараліся зрабіць іх як мага прыгажэйшымі. Выдумлялі, хто што мог. На галаву адной бабе надзелі старое вядро, другой завязалі хустку, а Валька прынёс для сваёй бацькаў рыбацкі капялюш з саломы і надзеў яго набакір. Атрымалася здорава. Дзеці аж заскакалі, запляскалі ў далоні.

І раптам па капелюшы ўдарыла снежка. Капялюш зляцеў.

— Жорка! — здушана крыкнула Лена і кінулася да свайго дома.

Як вераб'і, рассыпаліся хто куды і астатнія дзеці.

Валька застаўся адзін. Неяк няўтульна зрабілася яму, нават снег здаўся не такім свежым і чыстым, як хвіліну назад, быццам адразу пацямнеў. Хлопчык стаяў і, нічога не разумеючы, азіраўся.

З-за дома выйшаў і, не спяшаючыся, пачаў набліжацца да Валькі хлапчук. Ён быў бадай-што на цэлую галаву вышэйшы за Вальку. З-пад шапкі звісаў на самыя вочы рыжы чуб, у куточку рота дымілася цыгарка. Незнаёмец падышоў да Валькавай снежнай бабы і капнуў яе нагой.

— Не чапай,— ступіў наперад Валька,— не ты ляпіў.

— Я вось табе зараз як заляплю! — падняў руку хлапчук.

Валька схапіў яго за руку, рэзка крутнуўся, і незнаёмец тарчма паляцеў у снег. На ганку нясмела захіхікалі. Рыжы падхапіўся, сарваў з галавы шапку і,

шпурнуўшы яе ўбок, рынуўся на Вальку. Але не паспеў дакрануцца да яго, як зноў расцягнуўся на снезе. Цяпер на ганку ўжо зарагаталі на ўвесь голас.

— Так яго! — крыкнулі адтуль.

— Ага, нарваўся на свайго, Жорачка!..

Рыжы Жорка палыпаў вачыма, падняўся і спрытна скочыў за снежную бабу. Ён вырваў у яе з-пад пахі старую мятлу, пераламаў аб калена і пайшоў на Вальку. Валька стаяў. Рыжы наблізіўся да яго і замахнуўся палкай. Яшчэ імгненне, і палка апусціцца на Валькаву галаву. І тут, у гэта самае імгненне, Валька, нібы распушчаная спружына, адарваўся ад зямлі і ўдарыў рыжага галавой пад грудзі. Жорка ўпаў, некаторы час паляжаў нерухома, потым схапіўся рукамі за жывот і пачаў качацца па снезе.

— Ы-ы-ы,— глуха енчыў ён.

З дзвярэй дома гурбой высыпалі дзеці. Яны ўсе з захапленнем глядзелі на Вальку.

— Маладзец, Валька! — вішчала ад радасці Лена.— Так яму і трэба, хуліганту гэтаму. Ён заўсёды нас біў. Жыцця ад яго не было. Трэба было яшчэ нападдаць!..

— З яго і гэтага хопіць,— спакойна адказаў Валька.— Хай не лезе. Я ж яго не чапаў. Сам палез.

Жорка сеў і пачаў размазваць па твары слёзы. Валька падняў яго шапку, надзеў на рыжую галаву і ўзяў за руку:

— Падымайся.

— Не буду-у-у,— яшчэ мацней заплакаў рыжы Жорка.— Няхай усе пойдуць.

Калі ўсе адышліся, Жорка ўстаў, старанна абтрос снег і, не гледзячы Вальку ў вочы, сказаў:

— Пойдзем адсюль, пагаварыць трэба.

І яны пайшлі па двары, адзін маленькі, прысадзісты, другі на галаву вышэйшы. Пайшлі, ажыўлена размаўляючы.

Хто яго ведае, пра што яны гаварылі. Можа, пра тое, што старэйшы Валькаў брат Пеця, майстар спорту па вольнай барацьбе, навучыў Вальку многім прыёмам гэтай барацьбы; можа, пра тое, што сам Валька кожны дзень робіць зарадку, абліваецца халоднай вадой, займаецца гімнастыкай, бегае на коньках і лыжах, а летам ездзіць на веласіпедзе; можа, пра тое, што Валька ахвотна навучыць усяму, што ўмее, рыжага Жорку

і яны будуць заўсёды дружыць. Можа, пра гэта яны гаварылі, а можа, пра што-небудзь зусім іншае. Ды гэта ўрэшце не так ужо важна, пра што была гаворка ў Валькі з Жоркам.

Важна другое. З таго дня на двары дома, у які часова пераехаў Валька, рыжы Жорка больш ніколі не крыўдзіў меншых. Больш таго, ён сам, калі трэба было, заступаўся за іх.

А яшчэ, з таго дня рыжы Жорка пачаў акуратна падстрыгаць свой заліхвацкі чуб.

І кінуў курыць.

Назаўсёды.

# ЗМЕСТ

АПОВЕСЦІ

Дарога бяжыць насустрач . . . . . . . . . . 3
Шумеў Нягневіцкі лес . . . . . . . . . . 85

АПАВЯДАННІ

Удзелу ў аперацыі не прымалі . . . . . . . 162
Зоя . . . . . . . . . . . . . . . . . 169
Маці . . . . . . . . . . . . . . . . . 179
Соль . . . . . . . . . . . . . . . . . 186
Федзева гара . . . . . . . . . . . . . 194
Сутычка . . . . . . . . . . . . . . . . 201

**Курто Я.**

**К 93 Шумеў Нягневіцкі лес.: Аповесці і апавяданні. [Для сярэд. і ст. шк. узросту/Маст. Л. М. Марчанка].— Мн.: Юнацтва, 1984.— 206 с., іл.**

**У пер., 70 к.**

**У кнігу Яўгена Курто «Шумеў Нягневіцкі лес» увайшлі творы, прысвечаныя Вялікай Айчыннай вайне. Героі аповесцей і апавяданняў пісьменніка — беларускія хлопчыкі і дзяўчынкі, якія разам з дарослымі змагаліся супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў.**

**К $\frac{4803010200-058}{М\ 307(05)-84}$ 43—84**

**ББК 84 Бел 7**

**Бел 2**

*Евгений Иванович Курто*

ШУМЕЛ НЕГНЕВИЧСКИЙ ЛЕС

Повести и рассказы

Для среднего и старшего школьного возраста

Минск, издательство «Юнацтва»

На белорусском языке

Рэдактар К. А. Цвірка. Мастацкі рэдактар У. М. Жук. Тэхнічны рэдактар А. В. Русецкая. Карэктары А. К. Юшына, Н. В. Філіповіч

ІБ № 400

Здадзена ў набор 6.07.83. Падп. да друку 16.01.84. АТ 05512. Фармат 84×108¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура школьная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 10,92. Ум. фарб.-адб. 10,92. Ул.-выд. арк. 11,25. Тыраж 12 000 экз. Зак. 3856. Цана 70 к.

Выдавецтва «Юнацтва» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.